ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛА АКДЭМІІ НАВУК
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

## У 6 ТАМАХ

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1994

ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛА АКДЭМІІ НАВУК
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ

## БІЯБІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК

## ТОМ 3

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ ПРАФЕСАРА А. В. МАЛЬДЗІСА

## ІВАШЫН—КУЧАР

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1994

ББК 91.9:83.3Бел
Б 43
УДК 0160000000



This edition is a table reference book for all those who have an interest and concern in the Byelorussian culture. The book comprises more than 1100 articles containing full, manysided and systematized information on the Byelorussian literature representatives who created their works in Old Slavonic, Byelorussian, Russian, Latin, Polish and other literary languages of Belarus. The bibliographic references represent more than 600 thousand various publications.

Б $\frac{0160000000-12}{М318(03)-94}$ 30–94

ISBN 5-85700-123-4 (т.3)
ISBN 5-85700-060-2

# ІВАШЫН ВАСІЛЬ



*Івашын Васіль Уладзіміравіч [н. 26.4(9.5).1913, в. Ляхавічы Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл.], літаратуразнавец, педагог. Член СП Беларусі з 1954. Акадэмік АПН СССР (1967). Доктар філалагічных навук (1965), прафесар (1973).*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1933 скончыў Мінскі транспартна-эканамічны тэхнікум, год працаваў тэхнікам эканамістам Белкаапрамсавета. З 1934 студэнт літаратурнага факультэта Мінскага педінстытута. Пасля яго заканчэння (1938) выкладчык мовы і літаратуры ў Віцебскім педвучылішчы. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. У 1946—48 выкладчык Рэспубліканскай партыйнай школы пры ЦК КП/б/Б. У 1949 скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР. Пасля аспірантуры старшы навуковы супрацоўнік (1949—54), загадчык сектара беларускай савецкай літаратуры (1954—67) гэтага інстытута. У 1967—78 дырэктар Навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР. Член Прэзідыума АПН (1970—79). Член калегіі Міністэрства асветы БССР (1969—79). З 1979 вядучы навуковы супрацоўнік-кансультант Інстытута адукацыі. Узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

З літаратурна-крытычнымі артыкуламі В.Івашын выступае ў друку з 1949. Асноўныя яго навуковыя працы прысвечаны пытанням тэорыі і гісторыі беларускай літаратуры, праблемам развіцця крытычнага і сацыялістычнага рэалізму, беларуска-рускіх, беларуска-ўкраінскіх літаратурных узаемасувязей, метадалогіі і методыкі выкладання літаратуры ў школе. Адзін з галоўных кірункаў яго даследаванняў — купалаўская спадчына. У манаграфіі «Янка Купала: Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг.» упершыню грунтоўна прааналізаваны асаблівасці эстэтычных поглядаў, творчага метаду і стылю маладога паэта. Кніга адыграла значную ролю ў раскрыцці рэвалюцыйнага зместу ранняй паэзіі Я.Купалы, у вызваленні купалазнаўства ад вульгарызатарскай метадалогіі. У 1956 выйшла манаграфія В. Івашына «М. Горкі і беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя», у якой на новым архіўным матэрыяле раскрываецца значэнне горкаўскіх традыцый у ідэйна-эстэтычным развіцці Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і інш. Манаграфія «Ля вытокаў сацыялістычнага рэалізму» (1963; доктарская дысертацыя) асвятляла шляхі развіцця рэалізму беларускай літаратуры пачатку 20 ст., яго нацыянальна-гістарычныя і эстэтычныя асаблівасці, суадносіны з рамантызмам і новым творчым метадам. Манаграфія «Да вышынь рэалізму» развівала на новай, больш шырокай аснове галоўныя ідэі папярэдняй кнігі. У ёй абгрунтавана канцэпцыя паскоранага развіцця беларускай літаратуры, асэнсаваны яе творчыя, метадалагічныя, ідэйна-эстэтычныя прынцыпы ў святле вядучых тэндэнцый перадкастрычніцкага і паслякастрычніцкага літаратурнага працэсу. Кніга «Выверанае жыццём» звернута да праблемы творчай індывідуальнасці пісьменніка. В. Івашыну належыць шэраг брашур, дакладаў на міжнародных з'ездах славістаў, даследаванняў, выкананых у сааўтарстве, створаных у сааўтарстве падручнікаў па беларускай літаратуры для 8-га класа. Пад яго рэдакцыяй выйшлі многія літаратуразнаўчыя і метадычныя працы. Ён адзін з навуковых рэдактараў двухтомнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры». У сталыя гады пачаў пісаць лірычныя вершы (ЛіМ. 1992. 8 мая).

Жыве ў Мінску.

*Л.С. Савік.*

## Бібліяграфія


1.2.

Янка Купала — вялікі народны паэт. Мн., 1952.

Янка Купала: Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг. Мн., 1953. Рэц.: Б у р н о с а ў В. Кніга аб творчасці Янкі Купалы // Полымя. 1954. № 7; К а р а б а н С. Кніга аб ранняй творчасці Янкі Купалы // Звязда. 1953. 26 снеж.; П а л і т ы к а Д. Каштоўнае даследаванне // ЛіМ. 1954. 20 сак.; П а п -

коўскі К. Новае даследаванне творчасці Янкі Купалы / / Наст. газ. 1954. 5 жн.

Рэвалюцыя 1905—1907 гг. і развіццё беларускай літаратуры. Мн., 1955.

М. Горький и белорусская литература начала XX века. Мн., 1956. Рэц.: Александровіч Р. Факты і іх вытлумачэнне / / ЛіМ. 1956. 10 ліст.; Александрович С. Книги о горьковских традициях / / Сов. Отчизна. 1956. № 6; Бугаёў Д. Патрэбнае даследаванне / / Звязда. 1957. 6 студз.; Бурносов В. Великое содружество / / Сов. Бел. 1956. 15 дек.; В русле горьковских традиций / / Дружба народов. 1957. № 3; Рудакоўскі В. Вялікая садружнасць / / Полымя. 1956. № 2.

Асноўныя асаблівасці развіцця сучаснай беларускай літаратуры. Мн., 1958. [IV Міжнародны з'езд славістаў. Даклады] / Сааўт. Н.Перкін.

Беларуская літаратура: Падручнік для 8 кл. сярэд. школы. Мн., 1959 / Сааўт. В.Барысенка. Рэц.: Александровіч С. Новыя падручнікі па беларускай літаратуры / / Полымя. 1959. № 10; Каваленка В. Якасці, якіх раней не было / / ЛіМ. 1959. 7 кастр.; Пятровіч М. Два падручнікі / / Нар. асвета. 1960. № 3; 2 выд. Мн., 1960; 3 выд. Мн., 1961; 4 выд. Мн., 1963; 5 выд. Мн., 1964; 6 выд. Мн., 1965; 7 выд. Мн., 1966; 8 выд. Мн., 1967; 9 выд. Мн., 1968; 10 выд. Мн., 1969; 11 выд. Мн., 1970; 12 выд. Мн., 1971; 13 выд. 1972; 14 выд. Мн., 1973; 15 выд. Мн., 1974; 16 выд. Мн., 1975; 17 выд. Мн., 1976; 18 выд. Мн., 1977; 19 выд. Мн., 1978.

Роля рускай класічнай літаратуры ў развіцці рэалізму беларускай літаратуры пачатку XX ст. Мн., 1963. [V Міжнар. з'езд славістаў. Даклады] / Сааўт. В.Барысенка. Рэц.: Мальдзіс А. У сям'і славянскіх літаратур / / Полымя. 1963. № 9.

У истоков социалистического реализма. Мн., 1963. Рэц.: Казека Я. Ля вытокаў сацыялістычнага рэалізму / / Полымя. 1963. № 12; Лазарук М. Глыбока, пераканаўча / / ЛіМ. 1963. 13 вер.; Перкин Н. Об исторических путях белорусской литературы / / Неман. 1963. № 6.

Беларуская літаратура: Падручнік для 8-га кл. сярэд. школы. Мн., 1979 / Сааўт. М.Лазарук. Рэц.: Гніламёдаў У. З веданнем справы / / ЛіМ. 1980. 25 студз.; Шаўлоўская М., Мішчанчук М. Глыбока, доказна, зацікаўлена / / Наст. газ. 1980. 27 лют.; 2 выд. Мн., 1980; 3 выд. Мн., 1981; 4 выд. Мн., 1982; 5 выд. Мн., 1984; 6 выд. Мн., 1986; 7 выд. Мн., 1988; 8 выд. Мн., 1990.

Да вышынь рэалізму: Асноўныя тэндэнцыі развіцця беларускай дакастрычніцкай і савецкай літаратуры. Мн., 1983. Рэц.: Жураўлёў В. Эстэтыка рэалізму / / Звязда. 1984. 20 ліст.; Коваленко В. На пути творческих обобщений / / Вопр. лит. 1983. № 2; Рагуля А. Пазіцыя даследчыка / / Полымя. 1984. № 2

Выверанае жыццём: Творчая індывідуальнасць пісьменніка — народнасць і партыйнасць літаратуры. Мн., 1988.

Изучение русской литературы во взаимосвязи с белорусской. Мн., 1988 / Сааўт. М. Лазарук, Е. Ленсу.

Беларуская літаратура: Падручнік для 9-га кл. сярэд. школы. Мн., 1992 / Сааўт. М.Лазарук.

1.3.

1949. Янка Лучына / / Беларуская літаратура: Падручнік для 8-га класа сярэдняй школы. Мн.; Ачысціць літаратуразнаўства ад касмапалітаў / / Звязда. 8 крас.

1950. Першае літаратурнае выступленне Янкі Купалы / / Беларусь. № 5; Янка Купала і газета «Северо-Западный край» / / Полымя. № 5; Народны паэт / / Сав. селянін. 27 чэрв.

1951. Літаратурна-эстэтычныя погляды маладога Янкі Купалы / / Полымя. № 6; Максім Горкі і беларуская літаратура / / Звязда. 17 чэрв.; Вялікі пясняр беларускага народа / / Там жа. 27 чэрв.; Паэт-дэмакрат / / Там жа. 6 ліп.; Раннія рукапісы Якуба Коласа / / ЛіМ. 29 вер. / Сааўт. А. Семяновіч; Новыя раннія рукапісы Якуба Коласа / / Там жа. 6 кастр / Сааўт. А. Семяновіч; Таленавітая беларуская паэтэса / / Мін. праўда. 15 ліп.; Дапамога школам / / Наст. газ. 19 крас.

1952. Янка Купала / / Купала Я. Выбр. тв. Мн.; Янка Купала и газета «Северо-Западный край» / / Янка Купала: Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР Янкі Купалы. Мн.; Пясняр дружбы народаў / / Беларусь. № 6; Заснавальнік беларускай прозы / / Там жа. № 11; Гродзен. праўда. 15 ліст.; Янка Купала и русская литература / / Изв. АН БССР. № 4; Вялікі народны паэт / / Віцеб. рабочы. 6 ліп.; Гомел. праўда. 6 ліп.; Гродзен. праўда. 6 ліп.; Палес. праўда. 6 ліп.; Выдатны майстар беларускай прозы / / За Радзіму. 14 ліст.; Вялікі мастак слова: (Да 70-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы) / / Бальш. Пал. 6 ліп.; Звязда. 6 ліп.; Жыватворчая дружба / / ЛіМ. 5 ліп.; Нястомны барацьбіт за шчасце народа / / Мін. праўда. 15 ліст.; Палес. праўда. 18 ліст.; Сав. Радзіма. 14 ліст.; Чырв. звязда. 14 ліст.; Поэт, ученый, общественный деятель / / Сов. Киргизия. 5 нояб.; Сов. Латвия. 4 нояб.; Народный поэт Белоруссии / / Сов. Литва. 6 июля; Паэт, вучоны, грамадскі дзеяч / / Сталін. шлях. 31 кастр.

1953. Слаўныя традыцыі / / ЛіМ. 28 сак.

1954. Введение; Янка Купала / / Очерк истории белорусской советской литературы. М.; Людас Гіра пра Янку Купалу / / Беларусь. № 9; Максім Багдановіч аб украінскай літаратуры / / Полымя. № 4; Неўміручая паэзія: Да выхаду ў свет Збору твораў Янкі Купалы / / Звязда. 28 ліст.; Новае аб зборніку Цёткі «Скрыпка беларуская»: З архіўных матэрыялаў / / ЛіМ. 7 жн.

1955. Прадмова / / Бібліяграфія твораў Янкі Купалы: 1905—1917. Мн. Ч. І; Янка Купала і руская літаратура / / Янка Купала. Мн.; Невядомыя пераклады твораў Янкі Купалы / / Беларусь. № 5; Важная падзея ў культурным жыцці рэспублікі: (Да выхаду ў свет Збору твораў Янкі Купалы ў 6-ці тамах) / / Камуніст Бел. № 11; Янка Купала в оценке дооктябрьской критики / / Сов. Отчизна. № 3; Уплыў першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гг. на развіццё беларускай літаратуры: [З даклада] / / Гомел. праўда. 29 ліст.; Паэзія барацьбы / / ЛіМ. 28 мая.

1956. Кандрат Крапіва / / Крапіва К. Зб. тв.: У 3 т. Мн. Т. 1; Літаратура пачатку XX ст.: [Уступ]; Янка Купала; Асноўныя этапы развіцця беларускай савецкай літаратуры: [Уступ] / / Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Мн.; Настаўнік, друг, натхніцель / / ЛіМ. 16 чэрв.; Народны паэт / / Там жа. 15 вер.

1957. Прадмова / / Бібліяграфія твораў Янкі Купалы: 1917—1942. Мн. Ч. 2; Вялікі мастак слова / / Блакнот агітатара. № 17; Народны пясняр / / Камуніст Бел. № 6; Певец белорусского народа / / Славяне. № 7; За творчую распрацоўку тэарэтычных праблем сацыялістычнага рэалізму / / ЛіМ. 30 сак.; Літаратурная спадчына і пытанні рэалізму: [Рэц. на кн.: Барысенка В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957] / / Там жа. 13 крас.; Паэзія вялікай праўды / / Там жа. 6 ліп.

1958. Асноўныя асаблівасці нашай літаратуры / / ЛіМ. 10 вер. / Сааўт. Н.Перкін.

1959. Аб некаторых асаблівасцях рэалізму Янкі Купалы дакастрычніцкага перыяду / / Беларуская літаратура. Мн. Вып. 2; Янка Купала / / Янка Купала: Жыццё і творчасць: Альбом. Мн.; Фальклорна-літаратурныя сувязі: [Рэц. на кн.: Ахрыменка П. Фальклорна-літаратурныя сувязі ўкраінскага і беларускага народаў. Мн., 1959] / / Полымя. № 12.

1960. Асноўныя асаблівасці развіцця сучаснай беларускай літаратуры / / Беларуская літаратура. Мн. Вып. 3 / Сааўт. Н. Перкін.

1961. Аб вытоках і станаўленні сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры / / Полымя. № 2; Неўміручыя традыцыі / / ЛіМ. 16 чэрв.

1962. Наш Янка Купала / / Беларусь. № 7; Сонца ўзяўшы агністае ў рукі... / / ЛіМ. 6 ліп.; Плыні адной ракі / / Там жа. 11 ліст.; Паэзія Янкі Купалы / / Ніва. 10 чэрв.; В его стихах — душа народа: (К 80-летию со дня рождения Я. Купалы) / / Правда Укр. 7 июля.

1963. Пафас крытыка і навуковасць крытыкі / / ЛіМ. 8 сак.

1964. Высокі прыклад / / ЛіМ. 10 сак.; Паводле законаў жанру / / Там жа. 29 вер.
1966. Літаратурна-крытычныя працы Кандрата Крапівы / / Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 1 / Сааўт. В. Барысенка.
1967. Выдающийся художник слова / / Коммунист Бел. № 7.
1968. Горкаўскія традыцыі ў беларускай літаратуры / / Максім Горкі і Беларусь. Мн.; Заснавальнік літаратуры сацыялістычнага рэалізму / / Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 1; Сцяганосец сацыялістычнай літаратуры / / Нар. асвета. № 3; Народжаная Кастрычнікам / / ЛіМ. 31 мая; Педагагічная навука — школе / / Наст. газ. 24 сак.: [Выступленне] / / Там жа. 3 крас.; Великий наставник / / Сов. Бел. 28 марта.
1969. Принцип коммунистической партийности литературы / / Коммунист Бел. № 11.
1970. У.І. Ленін і праблема творчай індывідуальнасці пісьменніка / / У.І. Ленін і літаратура. Мн.; Творчая індывідуальнасць пісьменніка / / Полымя. № 3; Дапаможам школе ў вырашэнні яе ключавых праблем / / Нар. асвета. № 8; На новыя рубяжы / / Наст. газ. 22 жн.
1971. Ленинская теория познания и проблема личности в обучении / / Воспитание учащихся на примере жизни и деятельности В.И.Ленина. Мн.; Ленінскі прынцып партыйнасці мастацтва — метадалагічная аснова выкладання літаратуры / / Нар. асвета. № 9; Анамалія ці заканамерны працэс? / / Полымя. № 11; Прызванне / / ЛіМ. 5 сак.; Педагагічныя чытанні — 72 / / Наст. газ. 10 ліп.
1972. Садружнасць навукі і практыкі / / Нар. асвета. № 6; Веліч народнага песняра / / Там жа. № 7; Сацыялістычны рэалізм і садружнасць савецкіх літаратур / / Полымя. № 12; Чалавеку, чалавецтву / / ЛіМ. 7 ліп.
1973. Дзейсная духоўная сіла / / Беларусь. № 3; Літаратура і школа / / Полымя. № 4; Працяг традыцыі: [Рэц. на кн.: Л о й к а А. Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя. Мн., 1972] / / Там жа. № 11.
1974. Педагогическую науку — в практику школы / / Коммунист Бел. № 12; З пазіцый гістарызму: [Рэц. на кн.: К а з е к а Я. Няходжанай дарогай. Мн., 1973] / / Полымя. № 5; У агульную скарбніцу: (Метад сацыялістычнага рэалізму і нацыянальная літаратура) / / Там жа. № 10; Скарбонка педагагічнай думкі / / Наст. газ. 7 вер.
1975. Павышэнне выхаваўчай ролі літаратуры / / Пытанні выкладання літаратуры ў школе. Мн.; Ленинский принцип партийности литературы / / Коммунист Бел. № 11; Партыйнасць літаратуры і свабода творчасці / / Полымя. № 11; Паэзія — праўда жыцця / / ЛіМ. 27 чэрв.
1976. На пульсе часу / / Наст. газ. 21 лют.
1977. Пясняр народнага жыцця / / Нар. асвета. № 6; Літаратура, народжаная Кастрычнікам / / Полымя. № 11.
1978. Выдатнае дасягненне шаўчэнказнаўства / / ЛіМ. 13 студз.
1979. На пути к совершенству / / Лит. в школе. № 2; Павышаць грамадска-выхаваўчую і эстэтычную накіраванасць літаратурнай адукацыі / / Нар. асвета. № 10; Адкрываць у жыцці новае, камуністычнае / / ЛіМ. 30 ліст.
1980. Метадалагічныя прынцыпы выкладання літаратуры / / Вывучэнне літаратуры: Пытанні методыкі. Мн.; Идейно-воспитательная роль литературы / / Коммунист Бел. № 1; Жыватворная сіла ленінскай эстэтыкі / / Полымя. № 4.
1982. З пазіцый выхаваўчага навучання / / Адзінства навучання і выхавання на ўроках літаратуры. Мн.; Уладар беларускай песні / / Янка Купала і Якуб Колас: Некаторыя аспекты творчасці. Мн.; Гордасць і слава беларускага народа / / Нар. асвета. № 7; І рамантык, і рэаліст / / Полымя. № 6; Пісьменнік-рэаліст, мастак / / Там жа. № 10.
1983. Сучаснае «прачытанне» класікі / / Нар. асвета. № 5; Єднасць з жыццём народа / / Полымя. № 5.
1984. Адзінства навучання і выхавання на ўроках літаратуры / / Ідэйна-маральнае выхаванне на ўроках літаратуры. Мн.
1985. Маніфест рэвалюцыйнага мастацтва / / Звязда. 26 ліст.
1.5.
**На азербайджанскую мову.** Іанка Купаланын поезіјасы: (Анадан олмасынын 80 іллији) / / Азербајчан. 1962. № 7.
**На балгарскую мову.** Янка Купала — любим народен поет: (75 години от рождението му) / / Лит. фронт. 1957. 1 авг.; [Выступленне на 5 Міжнар. кангрэсе славістаў у Балгарыі] / / Славянска филология: Литературознание. София, 1966. Т. 8.
**На казахскую мову.** Акын, галым, когам кайраткері: (Белоруссиянын халык акыны Якуб Коластын туганына 70 жыл) / / Екпінді. 1952. 4 нояб.; Соц. Казакстан. 1952. 4 нояб.
**На латышскую мову.** Dzejnieks, zinatnieks un sabiedrisks darbinieks / / Cina. 1952. 2.Nov.; Sarkanais Karogs. 1952. 2. Nov.; Baltkrevu dzejnieks Janka Kupala / / Lit. un Maksla. 1962. 7. Jul.
**На туркменскую мову.** Шахыр, алым жемгыетчилик ишгари: (Я.Коласын доглан гунунин 70 йыллыгына) / / Совет Туркменистаны. 1952. 2 нояб.; Янка Купаланын поэзиясы: (Шахырын 80 йыллыгына) / / Эдебият ве сунгат. 1962. 8 июль.
**На ўкраінскую мову.** Народний поет Білорусі: (До 70-річчя з дня народження Я.Купалы) / / Літ. в школі. 1952. № 4; Поет, учений, громадський діяч / / Вільна Укр. 1952. 2 лист.; Закарп. правда. 1952. 4 лист.; Наддніпр. правда. 1952. 2 лист.; Півд. правда. 1952. 2 лист.; Прапор перемоги. 1952. 2 лист.; Придунайська правда. 1952. 2 лист.; Прикарп. правда. 1952. 2 лист.; Рад. Донеччина. 1952. 4 лист.; Рад. Житомир. 1952. 2 лист.; Рад. Поділля. 1952. 4 лист.; Рад. слово. 1952. 4 лист.; Соц. Харків. 1952. 4 лист.; Черв. Запоріжжя. 1952. 2 лист.; Черномор. комуна. 1952. 2 лист.; Творчість Шевченка в оцінці Богдановича / / Збірник праць наукових шевченківських конференцій. К., 1955; Шевченко та шляхи розвитку білоруськоі поезіі / / Збірник праць наукових шевченківських конференцій. К., 1965.
**На чувашскую мову.** Поэт, учёный, общесталла деятель / / Коммунизм ялаве. 1952. Ноябрен 4-меше.
1.6.
Б і б л і я г р а ф і я твораў Янкі Купалы: 1905—1917. Мн., 1955. Ч. I / Рэд.
Б і б л і я г р а ф і я твораў Янкі Купалы: 1917—1942. Мн., 1957. Ч. 2 / Рэд.
Б е л а р у с к а я літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1958. Вып. I / Рэд. у сааўт.
Б е л а р у с к а я літаратура: Даследаванні і публікацыі. Мн., 1960. Вып. 3 / Рэд. у сааўт.
К у п а л а Я. Зб. тв.: У 6 т. Мн., 1961. Т. 3 / Рэд.
Г і с т о р ы я беларускай савецкай літаратуры: У 2 т. Т. 1. Мн., 1964. Т. 2. Мн., 1966 / Рэд. у сааўт.
Д з ю б а й л а П., Ж у р а ў л ё ў В., Л у ф е р а ў М. Праблемы сучаснай беларускай прозы. Мн., 1967 / Рэд.
Р а л ь к о І. Беларускі верш: Старонкі гісторыі і тэорыі. Мн., 1969 / Рэд.
К а в а л е н к а В. Голас чалавечнасці. Мн., 1970 / Рэд.
Т ы ч ы н а М. Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення. Мн., 1973 / Рэд.
П ы т а н н і выкладання літаратуры ў школе: Зборнік артыкулаў. Мн., 1975 / Рэд.
А н а л і з мастацкага твора ў школе: Зборнік навуковых прац. Мн., 1976 / Рэд.
П а в ы ш э н н е эфектыўнасці выкладання літаратуры ў школе. Мн., 1978 / Рэд.
В ы в у ч э н н е літаратуры: Пытанні методыкі. Мн., 1980. (Б-ка настаўніка бел. мовы і літ.) / Рэд.
І д э й н а - м а р а л ь н а е выхаванне на ўроках літаратуры: Кніга для настаўніка. Мн., 1984 / Рэд.
2.3.
**На беларускай мове.** А л е к с а н д р о в і ч С. Гады абуджэння / / ЛіМ. 1955. 24 снеж.; А л я х н о в і ч Р. Усё жыццё — любімай справе / / Нар. асвета. 1983.

№ 5; Б а р с т о к М. Грунтоўна, цікава / / ЛіМ. 1963. 17 снеж.; Б а с І. Пераканаўча! / / Там жа. 1964. 25 снеж.; Б о г а н У. Ля самых вытокаў / / Там жа. 1964. 22 снеж.; В а р а н о в і ч С. Новыя кнігі пра творчасць Я. Купалы і Я. Коласа / / Беларусь. 1954. № 2; В а с і л ю Івашыну — 70: [Віншаванне] / / ЛіМ. 1983. 6 мая; В і н ш а в а н н е юбіляра! Да пяцідзесяцігоддзя з дня нараджэння / / Беларусь. 1963. № 4; В і н ш у е м! / / ЛіМ. 1963. 26 крас.; В ы ш э й прафесійны ўзровень крытыкі! / / Там жа. 1951. 10 лют.; Д з ю б а й л а П. Сталасць / / Там жа. 1973. 5 мая; Е р м а л о в і ч М. У святле неўміручых ідэй / / Полымя. 1970. № 11; З у б к о ў с к і Б. Удзячнасць настаўніка / / ЛіМ. 1963. 27 снеж.; К а з б я р у к У. Багаты плён / / Там жа. 1983. 6 мая; К і р п і ч э н к а ў А., Я к у б о в і ч У. Час мудрай сталасці / / Наст. газ. 1983. 7 мая; К у д р а ў ц а ў І. Пра аргументаванасць і шчырасць у крытыцы / / ЛіМ. 1952. 15 сак.; Л а з а р у к М. Ля вытокаў сацыялістычнага рэалізму / / Лазарук М. Часу непадуладнае. Мн., 1981; М а р ч а н к а Л. Літаратар і вучоны / / Беларусь. 1973. № 4; М у ш ы н с к і М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 40-я — першая палавіна 60-х гадоў. Мн., 1985. С. 283—286; Н і к а н о в і ч Б. На перадавых пазіцыях / / Наст. газ. 1973. 25 крас.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; С е р г і е в і ч М. Настаўнік, салдат, акадэмік / / Нар. асвета. 1973. № 5; С і д а р э в і ч А. Партыйнасць, народнасць, класавасць і сучасная беларуская літаратура / / Там жа. 1985. 19 крас.; Ш а р а х о ў с к і Я. Заўвагі аб крытыцы / / ЛіМ. 1951. 21 крас.

*Г.І.Рэут.*

# ІВЕРС АНАТОЛЬ



*Іверс Анатоль [інш.псеўданімы В а с і л ь Д в о е ў, І в а н І в а н а в і ч, А. І в э р с, А н а т о л ь І в э р с; сапр. М і с к о Іван Дарафеевіч; н. 2 (15). 5. 1912, в. Чамяры Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл.], паэт. Член СП Беларусі з 1940.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Маці вяла гаспадарку, бацька часта працаваў на будаўніцтве дарог і мастоў. У 1915 сям'я эвакуіравалася пад Кіеў. Пасля вяртання на радзіму бацька некаторы час быў сакратаром валаснога Савета, за што потым за ім пастаянна сачылі польскія жандары. У 1935 трагічна загінула маці. Пад час Вялікай Айчыннай вайны фашысты замучылі ў лагеры смерці Калдычэва бацьку і жонку А. Іверса. Чытаць па-руску паэта навучыў бацька, потым некалькі месяцаў хлапчук вучыўся ў мясцовай беларускай школе, але яна была закрыта. Летам 1926 паступіў у Віленскую беларускую гімназію, у 1928 выключаны за актыўную падпольную дзейнасць. Працягваў вучыцца ў Клецкай і Навагрудскай гімназіях, але закончыць поўны курс навучання польскія ўлады так і не далі. Паліцыя некалькі разоў арыштоўвала паэта; яго дапытвалі і катавалі на пастарунку і ў дэфензіве, тры разы судзілі за ўдзел у дэманстрацыях і супраціўленне ўладам пры затрыманні. Невялікія тэрміны прыгавораў падпадалі пад амністыю. Псеўданім Анатоль Іверс следчыя так і не раскрылі. З верасня 1939 па чэрвень 1941 А.Іверс літработнік слонімскай раённай газеты «Вольная праца». У час вайны паводле загада штаба партызанскага атрада быў накіраваны ў Слонім для стварэння антыфашысцкай арганізацыі. Знаходзячыся на нелегальным становішчы, працаваў у гарадской управе. У лістападзе 1943, калі пачаліся арышты, уступіў у партызанскую брыгаду імя Ракасоўскага. Быў абраны сакратаром Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта. Пазней прызначаны намеснікам камандзіра атрада імя Дзяржынскага па разведцы, адначасова адказваў за выпуск органа падпольнага райкома партыі «Вольная праца», выдаваў лістоўкі і газету «Барацьба». Пасля вайны працаваў адказным сакратаром раённай газеты, сакратаром Слонімскага гарвыканкома. У 1949—66 займаў пасады майстра смалакурнага завода і тэхнолага лесахімзавода. У 1966 вярнуўся ў рэдакцыю слонімскай газеты «За перамогу камунізму» (былая «Вольная праца»). З 1976 да 1984 — адказны сакратар раённага аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. З мая 1972 на пенсіі.

Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, медалямі.

Вершы пачаў дасылаць у віленскія беларускія газеты і часопісы ў 1933. Першы верш «Вёска» апублікаваны ў часопісе «Літаратурная старонка» ў студзені 1934. Друкаваўся ў часопісах «Беларускі летапіс», «Калоссе», «Асва» і інш. У 1939 творы выйшлі асобным зборнікам «Песні на загонах» (Вільня). Характэрная іх рыса — лірычнасць, пераважаюць матывы свабодалюбства, патрыятычнай вернасці Радзіме. У вершах спалучаецца журботнае ўспрыняцце народнага гора і адчуванне красы беларускай прыроды, свету. У «Паэме пра камсамольца Валодзю Бялько» ўславіў подзвіг юнага падпольшчыка.

Жыве ў г. Слонім Гродзенскай вобл.

*А.М.Ненадавец.*

## Бібліяграфія

1.2.

Песні на загонах: Вершы. Вільня, 1939. Рэц.: «П е с н і на загонах» // Шлях моладзі. 1939. № 15; Ш а р а п а ў А. «Песні на загонах» // ЛіМ. 1940. 3 лют.

З пройдзеных дарог: Вершы. Мн., 1970. Рэц.: Л о й к а А. Чалавек у дарозе // ЛіМ. 1971. 21 мая; П е т к е в и ч А. Из народных глубин // Гродн. правда. 1970. 8 дек.; Я г о ж. Голас роднай зямлі // Звязда. 1971. 13 крас.

Жыву ў бацькоўскім краі: Вершы і паэмы. Мн., 1982. Рэц.: А р о ч к а М. Песня з бацькоўскага краю // Полымя. 1983. № 6; Б і ч э л ь - З а г н е т а в а Д. Учую сіл прыліў... // ЛіМ. 1983. 14 студз.

Я пайшоў бы ўслед за летам..: Вершы. Мн., 1987.

1.3.

1934. Там, дзе вёскі з пахілымі хатамі; За варштатам: [Вершы] // Асва. № 4; Вёска: [Верш] // Літ. старонка. № 1.

1936. Восень: [Верш] // Бел. летапіс. № 1; Летапіс ТБШ. № 4—8; Шлях моладзі. № 10; Касьба: [Верш] // Там жа. № 7—8; Мая песня: [Верш] // Наша воля. 12 крас.; «Сонца даль абвеяна туманом над ніваю...»: [Верш] // Там жа. 16 чэрв.

1937. Веснавыя думы: [Верш] // Бел. летапіс. № 5; У шуме жыта; З чужыны: [Вершы] // Там жа. № 6—7; Загарэліся іскрамі зорнымі: [Верш] // Там жа. № 8; Пасля ночы; Мо заззяюць апоўначы зоры: [Вершы] // Там жа. № 9; Восень; «Каб не злыя шугавеі..»: [Вершы] // Там жа. № 10—11; На далёкіх курганах: [Верш] // Калоссе. № 4; «Ужо нізка сонца коціцца...»: [Верш] // Шлях моладзі. № 1.

1938. Малюнкі:[Верш] // Бел. летапіс. № 1; Зорныя дарогі: [Верш] // Там жа № 2; Спатканне: [Верш] // Там жа. № 3; «Я шукаў яшчэ вясною..»; «Неяк раніцай гарачай..»: [Вершы] // Калоссе. № 1; Ці то песні?: [Верш] // Там жа. № 2; Да жніва: «Ізноў ліюцца песні...»; Над Шчарай: [Вершы] // Там жа. № 3; Залацілася раніца; На бруку: [Вершы] //Там жа. № 4; Касьба: [Верш] // Шлях моладзі. № 7—8 / Пад псеўд. А. Івэрс; З вёскі: [Верш] // Там жа. № 19.

1939. Вясняны парыў: [Верш] // Бел. летапіс. № 1; «Чым прыкавала ты, вёска, мяне...»; Збуджаны верш: [Верш] // Калоссе. № 1; «Часамі сумна быць паэтам...»; Сон; «Апошнім шляхам...»; Пад ранак; Вясёлай раніцай: [Вершы] // Там жа. № 2; З песняй; Хтось расчэсваў зялёныя сосны; Звоняць дні: [Вершы] // Там жа. № 3; Ці то песні?..: [Верш] // Шлях моладзі. № 14; Прывітанне пісьменнікам і паэтам Савецкай Беларусі / Сааўт. С.Хмара; Вітаем музыку волі: [Вершы] // ЛіМ. 3 кастр.; У сінеючым паплавы...; У вольныя палі: [Вершы] // Там жа. 23 кастр.; Кастрычнік; Песні на загонах: [Вершы] // Чырв. змена. 18 ліст.

1940. Леніну: [Верш] // Звязда. 21 студз.; Вясенні парыў: [Верш] // ЛіМ. 3 жн.; Дарога: [Верш] // Сталин. молодежь. 20 авг.; Да юбілею вялікага польскага паэта // Чырв. звязда. 14 ліст. / Пад сваім прозв.

1946. Бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы // ЛіМ. 24 вер.

1947. З партызанскіх напеваў: [Верш] // Сав. селянін. 1 чэрв.

1949. Дарагое кожнаму імя: [Верш] // Полымя. № 12; Абеліскі; «Закаласуе новы дзень...»; «Ты пра сэрца казала...» [Вершы] // Звязда. 29 вер.; Слонім учора і сёння // Чырв. змена. 7 кастр. / Пад сваім прозв.

1950. Новы шлях: [Верш] // Беларусь. № 1; За Сталіна: [Верш] // Полымя. № 3.

1959. У імя праўды; Мая песня; З чужыны; Ліст у Нямеччыну; Наш горад; Валянціну Таўлаю: [Вершы] // За вярт. на Радзіму. № 32; Здабытае ў працы і барацьбе // Там жа. № 57; Валянціну Таўлаю: [Верш] // Полымя. № 4.

1962. Негр у Мінску: [Верш] // Калг. праўда. 21 сак.

1964. Партызанскія прасторы: [Верш] // Сел. газ. 5 июля.

1965. Вёска; За варштатам; На этапнай дарозе; Мая песня; З чужыны; Верасень; Аганёк; Пароль; Прыляцелі снегіры; Сасна; Жураўлі; Паэзія; Спарыш; Слонім — мой родны горад; На світанні; Гляджу на лес; Партызанскія прасторы; «Прыціхшая вёска...»; «Плыве сонца без вясла...»; «Па праўдах...»; Лісткі календара: [Вершы]; Паэма пра камсамольца Валодзю Бялько // Сцягі і паходні. Мн.

1966. Тры сасны: [Верш] // Дзень паэзіі—66. Мн.; Лясная ідылія: [Верш] // Голас Радзімы. № 39; Бібліятэка з аўтографам // ЛіМ. 24 мая; «Вецер прайшоўся па соснах...»; «Ой, лясы сасновыя...»: [Вершы] // Сел. газ. 11 сент.; Там, где жил поэт // Там жа. 24 сент.

1967. Узнялося сонца над запрудай ...: [Верш] // Гродн. правда. 16 июля; Мой родны горад: [Верш] // Там жа. 20 сент.; Скульптура, кераміка, жывапіс // ЛіМ. 25 студз.

1968. Сустрэча з класікай // ЛіМ. 9 жн.

1972. Бібліятэцы — імя песняра // ЛіМ. 12 мая; Партрэт Леніна: [Верш] // Сел. газ. 21 мая.

1973. Родны край кліча // Вытокі песні. Мн.; Гальяш Леўчык у «Нашай ніве» // Беларусь. № 2.

1975. В прозрачной тишине: [Рэц. на кн.: К о п а н е в Н. Грозовое безмолвие. Мн., 1975] // Гродн. правда. 15 февр. / Пад сваім прозв.

1976. Пасылка Валянціна Таўлая // ЛіМ. 20 лют.

1977. Зацесна Нарве ў берагах; У Плоцку: [Вершы] // ЛіМ. 29 ліп.; Ніва. 28 жн.; Як завітае ў госці «Ніва»; Успамінаю Беласток; Дзе тыя Пясчанікі?: [Вершы] // Ніва. 13 сак.

1978. Дарога; Скарына; Тое поле; Дабрадзея: [Вершы] // Полымя. № 3; «Па-над Слонімам стыне...»: [Верш] // ЛіМ. 18 жн.; У зімовым лесе: [Верш] // Ніва. 29 студз.; На братняй зямлі: [Верш] // Там жа. 19 лют.

1979. Абеліскі; Закаласуе новы дзень...; Ты пра сэрца казала...: [Вершы] // Звязда. 29 вер.; На лыжах: [Верш] // Ніва. 14 студз.

1980. Далёкі ўспамін // Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн.; Пошта: [Ліст у рэдакцыю] // Ніва. 24 лют.

1981. Тэатр, які любяць // Беларусь. № 6; Ён адкрыў мне Беларусь: [Успаміны] // Полымя. № 11; Пачатак шляху; Успаміны: [Вершы] // Гродн. правда. 10 янв.

1982. Ён адкрыў мне Беларусь // Успаміны пра Янку Купалу. Мн.; Песні на загонах; «Не выпускаю аўтамат...»; Жыву ў бацькоўскім краі: [Вершы] //

Гродн. правда. 15 мая; Незабываемые встречи / / Там жа. 7 июля; Не абышлося без агрэхаў: [Рэц. на кн.: Рылко М., Шпыркова И. Слоним. Мн., 1981] / / Звязда. 24 сак. / Сааўт. А.Руцкая.

1983. Дарога да Звестуна / / ЛіМ. 25 ліст.

1984. Пасылка Валянціна Таўлая / / Валянцін Таўлай: Дакументы, успаміны, артыкулы. Мн.; Родная мова; Валянціну Таўлаю: [Вершы] / / Гродн. правда. 1 сент.; Добры след паэта / / ЛіМ. 10 лют.

1985. Яго вясна: [Верш] / / Гродн. правда. 20 апр.; На родных загонах; Сустрэчы; Ты жывеш пад небам сінім: [Вершы] / / ЛіМ. 24 мая.

1.5.

На рускую мову. Беласток: [Верш] / / Сталин молодежь. 1939. 7 нояб.; Дорогое имя: [Верш] / Пер. В.Милованов / / Сов. Бел. 1949. 21 дек.; Пароль; Портрет Ленина; Ходили мы походами...: [Вершы] / Пер. А.Чепуров / / Партизанская слава. Л., 1985.

2.3.

На беларускай мове. Анатолю Іверсу — 60 гадоў / / ЛіМ. 1972. 19 мая; Анатолю Іверсу — 70 / / Там жа. 1982. 14 мая; Арочка М. Балючая памяць зямлі / / Полымя. 1984. № 7; Беларускі маладняк пяе / / Рэха (Парыж). 1938. № 2; Каліснік У. Лёсам пазнанае. Мн., 1982. С. 262—268; Лехерзак С. Малады паэт: (Творчы шлях А.Іверса) / / Чырв. звязда. 1940. 16 кастр.; Лойка А. «Хачу не проста жыць...» / / Іверс А. Жыву ў бацькоўскім краі. Мн., 1982; Яго ж. Чалавек у дарозе / / Лойка А. Паэзія і час. Мн., 1981; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Сяброўскія радкі Анатолія Іверса / / Ніва. 1977. 13 сак.; У гэтым месяцы... / / Беларусь. 1972. № 5; Хмара С. Пяе беларускі маладняк / / Шлях моладзі. 1938. № 20.

На рускай мове. Бичель-Загнетова Д. «Я ушел бы вслед за летом...»: (К 70-летию поэта А.Иверса) / / Гродн. правда. 1982. 15 мая; Петкевич А. Дорога по родной земле: А.Иверсу — 60 лет / / Там жа. 1972. 17 мая.

3.1.

ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап., ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 145; ЦБ АН Літвы, аддз. рукап., ф. 21, адз. зах. 187.

*Т.М. Махнач.*

# ІГНАЦІЙ СМАЛЬНЯНІН

*Ігнацій Смальнянін [? — каля 1405 (паводле іншых звестак 1423), Афон], смаленскі дыякан, аўтар «Хаджэння» — падарожных нататак на старажытнарускай мове.*

Пра месца і час нараджэння іх аўтара, а таксама яго дзіцячыя і юнацкія гады нічога невядома. У 1389 адправіўся разам з кіеўскім мітрапалітам Піменам у Царград (Канстанцінопаль), дзе застаўся і пасля заканчэння місіі да 1393. Пэўны час Ігнацій жыў у Іерусаліме, у 1396 пераехаў на Афон, дзе і памёр.

«Хаджэнне Ігнація Смальняніна» ("Піменава хаджэнне") з'яўляецца адзінай крыніцай звестак пра яго аўтара. Распачата ў 1389 па наказу смаленскага епіскапа Міхаіла, які выконваў наказ мітрапаліта Пімена. Твор гэты захаваўся ў 24 спісах 16—18 ст., якія належаць да дзвюх рэдакцый (кароткай і поўнай). Верагодна, што ў аснову першай з іх лёг падарожны дзённік Ігнація. Другая, летапісная, рэдакцыя з'яўляецца пазнейшай стылёвай перапрацоўкай з пэўнымі зменамі ідэалагічнага характару (напрыклад, у ёй апушчаны эпізод пра дзяржаўны пераварот 1393). «Хаджэнне» не з'яўляецца цэласным творам: яно складаецца з шэрагу апавяданняў, якія часам маюць свае падзагалоўкі. Некаторыя з апавяданняў, далучаныя да тэксту летапіснай рэдакцыі ("Аповесць пра Амурата", «Хаджэнне ў Іерусалім»), хутчэй за ўсё, не належаць пяру Ігнація, хаця і прыпісваюцца яму. Стыль «Хаджэння», асабліва яго першай рэдакцыі, вызначаецца лапідарнасцю мовы, эканомным ужываннем тропаў, адсутнасцю рытарычных упрыгожанняў. Ігнацій дакладна і падрабязна апісвае хрысціянскія святыні, выкарыстоўваючы звычайны для жанру хаджэнняў прасторава-часавы прынцып, апавядаючы пра гісторыю той ці іншай рэліквіі. Аўтар дэталёва расказвае пра палітычныя падзеі ў Візантыі (змаганне за трон паміж Калуянам і Мануілам Палеалогам, вянчанне на царства Мануіла II), згадвае або толькі намякае на палітычныя абставіны на Русі (сварка Пімена з маскоўскім вялікім князем Дзімітрыем Данскім). «Хаджэнне» Ігнація вылучаецца фактычнай дакладнасцю; у ім відаць спробы выкарыстання іншых крыніц, у тым ліку дакументальных ("Чын вянчання на царства"). Гэта робіць сачыненне смаленскага пілігрыма цікавай крыніцай звестак па царкоўнай і грамадзянскай гісторыі, духоўнай культуры старажытнай Русі.

*А.А. Мельнікаў.*

## Бібліяграфія

1.3.

1887. Хождение Игнатия Смольнянина / Под ред. С. Арсеньева / / Православный палестинский сборник. Спб. Вып. 12.

1897. Хождение Игнатия Смольнянина / Под ред. С.Арсеньева / / Полное собрание русских летописей. Спб. Т. 11.

1965. Хождение Игнатия Смольянина / Под ред. С.Арсеньева / / Полное собрание русских летописей. 2 изд. М. Т. 11.

1984. Хожение Игнатия Смольнянина в Царьград; Пименово хожение в Царьград / / Книга хожений. Записки русских путешественников XI—XV вв. М. (Сокровища древнерус. литературы).

1.5.

**На англійскую мову.** «The Journery to Constantinople» of Ignatius of Smolensk / / Russian Travels to Constantinople in the fourteenth and fifteenth Centuries by G.P. Majeska. Washington, 1984.

2.3.

**На беларускай мове.** Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. С. 79—80.

**На нямецкай мове.** Seeman K. Die altrussische Wallfahrtsliteratur München, 1976. S. 236—242.

**На рускай мове.** Андрианова-Перетц В. Путешествия XIV—XV вв. / / История русской литературы. М.; Л., 1945. Т. 2. Ч. 1. С. 227—228; Арсеньев С. Предпринятое исследование по поводу Хождения чернеца Игнатия Смолянина в Царьград и Иерусалим / / Сборник импер. АН. 1880. № 3; Барсов Е. Древнерусские памятники священного венчания царей на царство в связи с греческими их оригиналами / / Чтения в ОИДР. 1883. Кн. 1; Варлаам, архиманд. Описание сборника XV столетия Кирилло-Белозерского монастыря / / Уч. Зап. II отд. имп. АН. 1859. Кн. 5; История белорусской доктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 51—52; Мисников Н. О приписываемом Игнатию Смольнянину описании Иерусалима / / Чтения в ОИДР. 1901. Кн. 2; Попов А. Обзор хронографов русской редакции. Мн., 1869. Ч. 2. С. 50—51; Прокофьев Н. Игнатий Смольянин — древнерусский мастер литературного слова / / Рус. речь. 1973. № 1; Я г о ж. Русские хождения XII—XV вв. / / Литература Древней Руси и XVIII в. М., 1970. С. 144—170; Я г о ж. Хождение Игнатия Смольнянина / / Литература Древней Руси: Сборник науч. статей. М., 1978. Вып. 2; Прохоров Г. Повесть о Митяе. Л., 1978. С. 183—185, 225—228; Сахаров И. Сказания русского народа. Спб., 1849. Т. 2. Кн. 8. С. 95—107; Татищев В. История Российская. М.; Л., 1965. Т. 5. С. 165—172.

*Т.М. Махнач.*

# ІЛЬІНСКІ МІКОЛА

*Ільінскі Мікола (Мікалай Канстанцінавіч; 21.3.1899, м. Мір Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 1943, Мінск), драматург, празаік, акцёр.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў Навагрудскую гімназію, вучыўся ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве, БДУ, Маскоўскім тэхнікуме кінематаграфіі. Служыў у Чырвонай Арміі. Працаваў у Белдзяржтэатры і Інбелкульце, з'яўляўся намеснікам адказнага сакратара Беларускага таварыства драматычных пісьменнікаў і кампазітараў, загадваў літаратурнай часткай БДТ-ІІ, быў кіраўніком справамі СП Беларусі. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». У 1937 выключаны з Саюза пісьменнікаў за неэтычныя паводзіны, спробу дыскрэдытацыі некаторых пісьменнікаў: у яго п'есах адмоўныя персанажы (шкоднікі, кулакі, падкулачнікі), нібы ўласныя, чыталі вершы В.Маракова, У.Хадыкі і інш., што ў той час успрымалася звычайным палітычным даносам. У пісьмах І.Сталіну і некаторым іншым крамлёўскім кіраўнікам, адстойваючы права на пастаноўку ўласных п'ес, дапускаў грубыя ідэалагічныя выпады супраць сваіх творчых праціўнікаў. У час Вялікай Айчыннай вайны заставаўся ў акупаваным Мінску, працаваў ва ўправе па справах мастацтва. У 1943 забіты ў СД.

Літаратурную працу М.Ільінскі пачаў у 1920, але першыя публікацыі не выяўлены. Пачатак драматургічнай творчасці адносіцца да 1926, калі трупай БДТ-І была пастаўлена яго драма «Лес цёмны», прысвечаная жыццю прыгранічнай вёскі. У далейшым п'есы М.Ільінскага ставіліся і БДТ—ІІ («На прадвесні», 1929), а таксама ў некаторых калгасна-саўгасных тэатрах Беларусі. Тэматыка яго ранніх п'ес грунтавалася на тагачаснай актуальнасці: ломка ўстояў дарэвалюцыйнага жыцця, калектывізацыя, нараджэнне новых традыцый і г.д. Паслядоўны прыхільнік палітычнага тэатра, Ільінскі разам з тым не быў абмежаваным у сваіх жанрава-тэматычных прыхільнасцях. Прынамсі, ад дэтэктыўнай меладрамы «Лес цёмны» ён нязмушана пераходзіў да лірычнай «Камедыі пачуццяў альбо Уласнасць» (нап. 1933), ад сацыяльнай драмы «Рунь вясновая» — да дыялагічнага апавядання ў вершах «Пра Кліма, Тараса, Свірыда ды Панаса» і, нарэшце, ад псіхалагічнай драмы «Айцец Мікалай альбо знойдзены шлях» (нап. 1933) — да сатырычнай камедыі «Апошні пехацінец». Пісаў таксама агітп'есы, скетчы, сцэнічныя эцюды і інш. Большасць п'ес напісана на «патрэбу дня» і не вызначаецца высокім мастацкім узроўнем.

Празаічная спадчына М.Ільінскага параўнаўча нешматлікая колькасна і небагатая ў жанравых адносінах. У нарысах «Вясна пераможная», «Міхаіл Рыгоравіч Захараў» і інш. апалагетычна паказваюцца дасягненні паслярэвалюцыйнай Беларусі. Ідэйна-тэматычную аснову яго апавяданняў склала асэнсаванне перажыткаў старой вёскі ("Слабада"), паказ будняў пагранічнікаў ("У летнюю ноч", «На дачы»), і працы калгаснікаў ("Залом", «Шчасце»). Аповесць «Чалавек у штоніках» у гіпербалічна-сатырычнай манеры высмейвае прыстасаванцаў, якія дзеля сваёй кар'еры здольны пайсці на данос і подласць, прыкрываючы сапраўдны свой твар дву

рушніцтвам і мімікрыяй. Значнае месца ў творчасці Ільінскага заняла перакладчыцкая дзейнасць: ім перакладзена больш за 20 п'ес рускай і украінскай драматургіі.

*С.С.Лаўшук.*

## Бібліяграфія


1.2.

Лес цёмны: П'еса. Мн., 1930.

Любоў да «бліжняга»: Драматычны эцюд. Мн., 1930.

На суд грамадскі: Аратары за ліквідацыю прарываў: [П'еса]. Мн., 1930.

Рунь вясновая: Сацыяльная драма. Мн., 1930.

Як Мікіта і Панас працаваць ішлі ў калгас: Сцэнкі. Мн., 1930.

Кавалі жыцця: Агіт-п'еса. Мн., 1931.

Пустазелле: Драматычны эцюд. Мн., 1931.

На прадвесні: П'еса. Мн., 1932.

Месія: Драматычны эцюд. Мн., 1940. Рэц.: Е с а к о ў А. «Месія» / / ЛіМ. 1940. 21 вер.

1.3.

1931. "Пра Кліма, Тараса, Свірыда ды Панаса": (Дыялагічнае апавяданне ў вершах) / / Другая бальшавіцкая. Мн.

1933. Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 г. / / ЛіМ. 28 студз.; Камедыя пачуццяў: [Урывак з п'есы] / / Там жа. 9 ліп.

1934. Вясна пераможная: Нарыс / / ЛіМ. 6 крас.

1935. Апошні пехацінец: Урывак з камедыі / / ЛіМ. 31 жн.

1936. Пра мову перакладаў п'ес / / ЛіМ. 18 ліп.; «Апошняя ахвяра» Астроўскага ў ЦТЧА / / Там жа. 17 жн.; Водзыў на пастаноўку п'есы Транёва «Любоў Яравая» / / Там жа. 14 вер.

1937. «Жыць»: Слова пра творчыя планы / / ЛіМ. 23 крас.

1938. Слабада: Апавяданне / / Полымя рэвалюцыі. № 3; Нашы старыя: Камедыя / / Там жа. № 6; Тэлефон: Апавяданне / / Там жа. № 12; У ССП БССР / / ЛіМ. 27 ліст.

1939. Чалавек у штоніках: (Гісторыя адной кар'еры) / / Полымя рэвалюцыі. № 5—6. Рэц.: Г е р ц о в і ч Я. Замысел і выйрашэнне / / ЛіМ. 1939. 3 вер.

1940. Месія: Драматычны эцюд / / Полымя рэвалюцыі. № 3; Міхаіл Рыгоравіч Захараў: (Біяграфічны нарыс) / / Вольная праца. 12 сак.; «Што пасееш — то й пажнеш»: Урывак з камедыі / / ЛіМ. 10 жн.; «Браты» / / Праўда. 25 марта.

1941. «Залом»; Паядынак: Апавяданні / / Полымя. № 1; У летнюю ноч; На «дачы»: Апавяданні / / Там жа. № 2; Шчасце: Апавяданне / / ЛіМ. 7 чэрв.

1.4.

Б у х а ў А. Такія, якія ёсць: Эстрадны скетч / З рус. Мн., 1930.

В а л ж э н і н Р. Рунь: П'еса / З рус. Мн., 1930.

Д а л ь н і С. Ваўкі: П'еса / З рус. Мн., 1930.

К а с ь я н а ў Д. Першае сакавіка: [П'еса] / З рус. Мн., 1930.

К у р ы н Г. Сакрэт: Камедыя / З рус. Мн., 1930.

П р о н і н І. У поцемках / З рус. Мн., 1930.

С е л і х а в а В. Фрыц Бадэр / З рус. Мн., 1930.

С о к а л а ў К. Панскае чэрава / З рус. Мн., 1930.

Т р у с а ў С. Прызнанне Клуні: Рэвізор з вёскі Клуні: Камедыя / Вольны пер. з рус. Мн., 1930.

Т р ы г е р М. Доктарскі сакрэт: Драматычны эцюд / З рус. Мн., 1930.

Г л е б а ў А. Адаплата: П'еса / З рус. Мн., 1931.

Ч ы р к о ў А. Чорны гальштук: Драма / З рус. Мн., 1931.

Ш л о к Э. Крушэнне: Драма / З рус. Мн., 1931.

1934. І в і н С. Базылькаў май: [П'еса]; Г э д з ь Ю. Кавалі: [П'еска] / З укр. / / Вясна пераможная. Мн.

2.3.

На беларускай мове. А. [Есакоў А.] Чытка п'есы М.Ільінскага / / ЛіМ. 1937. 6 крас.; З в о н а к А. Аб адной п'есе / / Чырв. змена. 1929. № 123; Я г о ж. Чаму зрабіў памылку БДТ-2 / / Віцеб. пралетарый. 1929. 24 ліст.; Л а р ч а н к а М. Супраць пошласці / / Звязда. 1940. 4 кастр.; М. П. Новая п'еса Ул.Глазырына / / ЛіМ. 1934. 24 кастр.; Р о з а н а ў С. «На прадвесні» / / Віцеб. пралетарый. 1929. 1 ліп.


*М.П.Барташэвіч.*

# ІЛЬЮШЧЫЦ КАСТУСЬ



*Ільюшчыц Канстанцін Мікалаевіч (н. 2.1.1947, м. Наваельня Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.), паэт. Член СП Беларусі з 1991.*

Нарадзіўся ў сям'і служачага. Радзіма бацькоў — в. Рог каля Старобіна. У 1960 скончыў сямігадовую Рогаўскую школу, у 1963 сярэднюю школу ў в. Скаўшын. Пасля заканчэння Беларускага тэхналагічнага інстытута (1968) атрымаў спецыяльнасць інжынера-механіка. Служыў у Савецкай Арміі (1968—80). Закончыў Усурыйскае ваеннае аўтамабільнае каманднае вучылішча (1971). З 1980 да 1985 знаходзіўся ў Заходняй групе войск, у 1992 вярнуўся на радзіму. Узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны», медалямі.

Друкавацца пачаў у раённай газеце «Шахцёр» (Салігорск). Але пачаткам творчасці, лічыць 1965, калі ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'явілася першая падборка яго вершаў. Друкуецца ў рэспубліканскай перыёдыцы, зб. «Дзень паэзіі». Выдаў зборнікі вершаў «Армейскія будні» і «Таёжны гарнізон». Вершы К.Ільюшчыца перакладаліся на рускую мову, друкаваліся ў акруговых армейскіх газетах, часопісе «Советский воин». Шмат вершаў К.Ільюшчыца прысвечана роднай Беларусі, будням воінаў Савецкай арміі, службу якіх, псіхалогію, ваенны побыт паэт добра ведае. К.Ільюшчыц не абмяжоўваецца нацыянальнай тэматыкай: гады армейскай службы за межамі Беларусі пашырылі яго кругагляд, далі магчымасць для параўнанняў, дазволілі звяртацца да самых розных праблем сучаснага жыцця.

*Л.С.Савік.*

## Бібліяграфія


1.2.

Армейскія будні: Вершы. Мн., 1977 (Першая кніга паэта). Рэц.: Федзюковіч М. Пазначана сучаснасцю // Маладосць. 1978. № 4.

Таёжны гарнізон: Вершы. Мн., 1982. Рэц.: Чыгрын С. Пра святы і будні армейскія // ЛіМ. 1983. 13 мая.

1.3.

**1965.** У лесе; Пара сенакосу; Рабінавая ноч; Першы пералёт; Папары; Восень; Тапаліны пух: [Вершы] // ЛіМ. 23 ліст.

**1966.** «У цесным стане паднябесся...»: [Верш] // Дзень паэзіі — 66. Мн.; Палешукі; Лось; Найда: [Вершы] // ЛіМ. 16 жн.; Веснавое: [Верш] // Там жа. 30 крас.; Мае сябры; Дачка лесніка: [Вершы] // Чырв. змена. 11 мая.

**1967.** Кедравыя арэхі; «Вясковыя хлопцы чубатыя...»; Перад адлётам: [Вершы] // Маладосць. № 4; Хлебароб; «Астыла сонца за нядзелю...»; «Двурогі месяц выплыў высака...»: [Вершы] // Чырв. змена. 11 крас.

**1968.** 1917; «А вы былі ў лясах сасновых...»; Асенняе: [Вершы] // Маладосць. № 12; «Я працаваў паўгода паштальёнам...»: [Верш] // Вяч. Мінск. 18 крас.; «А вы былі ў лясах сасновых...»: [Верш] // Чырв. змена. 6 крас.

**1969.** А вы былі ў лясах сасновых... [Верш] // Беларускі каляндар на 1970 год. Беласток; Упішу сваё слова...: [Верш] // Чырв. змена. 22 мая.

**1971.** Паштальён; «У траве густой...»: [Вершы] // Дзень паэзіі — 71. Мн.

**1972.** Запасны раён: [Верш] // Дзень паэзіі — 72. Мн.

**1973.** 1917: [Верш] // Голас Радзімы. № 46; «Штурмуюць войскі палігон...»; «Тайгі каляровая хустка...»: [Вершы] // Маладосць. № 2; З армейскага сшытка: [Вершы] // Чырв. змена. 3 чэрв.

**1976.** «А мы ўсім жадаем шчасця...»; «Граніцы слухаю дыханне..»; Святло ў акне; «Палессе... Палессе... Палессе...»: [Вершы] // Маладосць. № 2.

**1977.** Палешукі; Жадаем шчасця; Хлебароб; Салдацкі хлеб; «Граніцы слухаю дыханне...»; Корань жыцця; Курылы: [Вершы] // Полымя. № 6; «Маладзік, як пілотка...»: [Верш] // ЛіМ. 10 чэрв.; «Не знайшоў бы я шчасця...»; «Мы пішам, што служыцца добра...»; Папаўненне: [Верш] // Чырв. змена. 26 кастр.

**1978.** Палешукі: [Верш] // Адданасць. Мн.; Маладзік, як пілотка; Таёжны гарнізон; Ручэй: [Вершы]

// Маладосць. № 2; «Служу. Цяпер на мне пагоны...»: [Верш] // ЛіМ. 7 крас.; «І чаму я не стаў леснікам...»; Лысая гара: [Вершы] // Чырв. змена. 28 лют.; Каханай: [Верш] // Там жа. 8 кастр.; Трывога: [Верш] // Там жа. 5 ліст.; Праводзіны лета; «Бусел спраўна да буслянкі...»; «А я закаханы ў Палессе...»: [Вершы] // Там жа. 12 ліст.

1980. Хлебароб; «Я вырас там...»: [Вершы] // Мін. праўда. 9 вер.; Крыніцы: [Верш] // Чырв. змена. 29 чэрв.

1982. Вучэнні: [Верш] // Чырв. змена. 18 вер.

1984. На заходніх рубяжах; Пад Берлінам; Сорак пяты; Палігон; Афіцэрскія зоркі: [Вершы] // ЛіМ. 24 лют.; Бацькі; Вяртанне; Афіцэрскія зоркі: [Вершы] // Мін. праўда. 30 кастр.; Дзе бацькі ваявалі...: [Верш] // Там жа. 28 снеж.

1985. Павесткі выдала Айчына; Бацькі; Суніцы; Апорны пункт: [Вершы] // ЛіМ. 22 лют.

1.5.

На грузінскую мову. Жадаем шчасця: [Верш] / Пер. В.Салпа // Сабчота Абхазеці. 1979. 1 сак.

На рускую мову. Жыву в предчувствии атаки: [Верш] / Пер. автор // Сов. воин. 1978. № 23; Я помню...: [Верш] / Пер. автор // Сов. Армия. 1982. 7 марта; Живу в предчувствии атаки; Рассвет: [Вершы] / Пер. автор // Там жа. 13 марта; «Штурмуют роты полигон...»: [Верш] / Пер. Н.Малашич // Подъем. 1985. № 7; Всегда готов: [Верш] / Пер. автор // Сов. Армия. 1985. 22 сент.

На украінскую мову. Поліщуки: [Верш] / Пер. В.Ганущак // Прикарпат. правда. 1982. 19 груд.

2.3.

На беларускай мове. Б у р а ў к і н Г. Кастусь Ільюшчыц // ЛіМ. 1965. 23 ліст.; Я ф і м а ў Ф. Улада часу // Там жа. 1977. 22 ліп.

*В.М.Грышкевіч.*

# ІЛЬЯШЭВІЧ ХВЕДАР



*Ільяшэвіч Хведар (псеўд. М. Д а л ь н ы, С в я т а с л а ў  З а л у ж н ы, Л. І с к р а, М а л а д ы, крыпт. І — ч, Х. І.; 17.3.1910, Вільня — 7.11.1948, Ватэнштат, ФРГ; пахаваны ў г. Галенсдорф паблізу Брауншвейга), паэт, крытык, празаік, грамадска-культурны дзеяч.*

З сям'і паштальёна. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, гістарычны факультэт Віленскага універсітэта. За дысертацыю «Друкарня дома Мамонічаў у Вільні (1572—1622)» (на польскай мове) атрымаў званне магістра філасофіі (1936). У даваеннай Польшчы праследаваўся, быў засуджаны, сядзеў у турме. У час фашысцкай акупацыі супрацоўнічаў з гітлераўцамі, рэдагаваў беластоцкую газету «Новая дарога». З 1945 у ФРГ. Належаў да літаратурнага аб'яднання «Шыпшына», рэдагаваў часопіс «Шляхам жыцця», інфармацыйны лісток «Апошнія весткі» (Ватэнштат). Удзельнічаў у барацьбе розных эмігранцкіх груповак. Загінуў у аўтамабільнай катастрофе.

Дэбютаваў у друку абразкамі і вершамі ў 1925 («Студэнцкая думка», «Беларуская ніва», «Крыніца»). Аўтар зборнікаў вершаў «Веснапесні», «Зорным шляхам», «Захварбаваныя вершы». У паэтычных і празаічных творах паказваў супярэчнасці буржуазнага горада («Вочы места», «Валакуся ўтомлены, зморany...»), заклікаў да барацьбы за нацыянальнае вызваленне («Куйце волю, браты...», «Песні жыцця»). Значную частку яго паэзіі віленскага перыяду складае пейзажная і інтымная лірыка. Аддаў даніну ўпадніцкім настроям, эстэцтву. Напісаў літаратуразнаўчую працу пра Ядвігіна Ш., нямала крытычных артыкулаў і рэцэнзій. У эміграцыі друкаваўся ў часопісе «Шыпшына». Пасмяротна выйшлі яго «Апавяданні» (Ватэнштат, 1948. Пад псеўд. Святаслаў Залужны), «Недапетая песня» (Без месца, 1982. Гектагр.; 2 выд. Ляймен, 1987). У эмігранцкай творчасці Х.Ільяшэвіча пераважаюць матывы тугі, адчаю (вершы «Чорныя цені», «Сябрам»). Перакладаў з нямецкай мовы Г.Гейнэ. Рукапісы Х.Ільяшэвіча захоўваюцца ў Беларускім музеі г.Ляймена (Германія).

*А.В.Мальдзіс.*

1978. Дырэктар: [Нарыс] / / Сучаснік. Мн.; Маргарытка-кветачка: Гумарэска / / Беларусь. № 1; А ў сэрцы нараджаўся верш...: [Успаміны] / / Там жа. № 7; Прыляцела песня: Апавяданне / / Бярозка. № 4; Шэры вецер: [Апавяданне] / / Там жа. № 9; Вусы: Гумарэска / / Работніца і сялянка. № 1; За акном свяціла сонца... / / ЛіМ. 28 крас.; Піва: [Гумарэска] / / Там жа. 2 чэрв. / Пад псеўд. К.Алесенка; Не абрывайся, сувязь сэрцаў...: Урывак з аповесці / / Там жа. 28 ліп.; Як падарунак сэрца / / Там жа. 25 жн,; Аўтобусны талон: [Гумарэска] / / Там жа. 29 вер.; Белыя коні з казкі: Апавяданне / / Там жа. 17 ліст.; У школе: [Урывак з аповесці «Скажу праўду»] / / Наст. газ. 30 жн.; Акрыленасць: Нарыс / / Чырв. змена. 1 мая; Смельчакі: Гумарыстычнае апавяданне / / Там жа. 3 вер. / Пад псеўд. А.Ладаў; З трывогай у сэрцы / / Там жа. 12 снеж.

1979. [Уступнае слова пра сатыру Я.Асэнкі] / / Далягляды. Мн.; Да вечнага агню: Апавяданне / / Бярозка. № 10. Дыялог; Шчырасць: Байкі / / Вожык. № 13; Белае медзведзяня: Апавяданне / / Маладосць. № 2; Дзедава кватэра: [Гумарэска] / / Работніца і сялянка. № 6; Адказ на тэлеграму: Урывак з аповесці «Скажу праўду» / / Звязда. 17 сак.; Кашуля: Апавяданне / / ЛіМ. 13 крас.; Балельшчык: [Гумарэска] / / Там жа. 31 жн. / Пад псеўд. К.Алесенка; Пятак: [Гумарэска] / / Там жа. 28 вер. / Пад псеўд. А.Алесенка; Разгаварыўся: [Гумарэска] / / Там жа. 12 кастр. / Пад псеўд. К.Алесенка; На рыбалцы: Апавяданне / / Там жа. 27 ліст.

1980. Дазваніўся: Гумарэска / / Беларусь. № 11; Музыка белых пялёсткаў: Апавяданне / / Бярозка. № 7; Мірны лётчык: [Апавяданне] / / Вясёлка. № 7; Віншаванне: [Апавяданне] / / Работніца і сялянка. № 11; За прахадной: Апавяданне / / Звязда. 2 сак.; Вехі стромкай дарогі / / Там жа. 20 ліп.; Няўмоўчны голас хвалі: Апавяданне / / ЛіМ. 15 лют.; Рупнасць кожнага дня: [Нарыс] / / Там жа. 2 мая; Глыбокае разуменне чалавека / / Наст. газ. 3 вер.; Віншаванне: [Апавяданне] / / Ніва. 14 снеж.; И живет песня... / / Сел. газ. 3 июля; Прысяга на вернасць / / Чырв. змена. 7 вер.; Выпрабаванне абставінамі: [Рэц. на кн.: Г а м о л к а М. Лясная крэпасць. Мн., 1980] / / Там жа. 23 снеж.

1981. Галасы абпаленых сэрцаў / / Беларусь. № 7; Праявіцель: Гумарэска / / Там жа. № 9; Гулі і звінелі струны: Апавяданне / / Бярозка. № 4; Шабля маршала / / Вясёлка. № 2; Сіла духоўнай роднасці / / Звязда. 18 сак.; Дружба вывела да зорак / / Там жа. 1 жн.; Без права на памылку / / Там жа. 7 жн.; Яго старшына: Апавяданне / / ЛіМ. 20 ліст.; Праўда аб шэрым ветры: [Інтэрв'ю] / Зап. У.Ліпскі / / Наст. газ. 1 жн.; Бяроза: Апавяданне / / Там жа. 15 жн.

1982. На сонечных берагах: [Нарыс] / / Вечная крыніца. Мн.; Полымя. № 7; А за акном свяціла сонца... / / Успаміны пра Івана Мележа. Мн.; Дні і ночы атак; [Урывак з дакум. аповесці] / / Беларусь. № 6; Капітан каманды: Апавяданне / / Бярозка. № 2; Ясныя зоры Малдавіі / / Там жа. № 7; На пчальніку: [Апавяданне] / / Вясёлка. № 10; Чалавек нараджаецца для дабра / / Звязда. 20 студз.; Мінута маўчання: [Апавяданне] / / Звязда. 31 ліп.; Святло вокнаў паэта / / Там жа. 3 вер.; Як чыстыя кроплі...: Апавяданне / / ЛіМ. 23 ліп.; На пскоўскай зямлі: [Нарыс] / / Там жа. 30 ліп.; Сустрэча каля помніка: Быль / / Там жа. 5 ліст.; Вытокі песні — на Палессі / / Чырв. змена. 11 сак.; Пясняр зямлі роднай / / Там жа. 7 ліп.; Збалелая памяць / / Там жа. 16 кастр.

1983. Мірны лётчык: [Апавяданне] / / Вяснянка. Мн.; «Ружовай грыве скакуна» / / Дзень паэзіі—83. Мн.; Беларусь. № 9; Маргарытка-кветачка: [Сатыр. і гумарыст. мініяцюры] / / Крыштальная душа. Мн.; Як патрабуе парадак...: [Гумарэска] / / Беларусь. № 3; Пасля фінішу: Апавяданне / / Бярозка. № 2; Эўрыка: Гумарэска / / Вожык. № 8; Край упругих ветров: Из монгольского дневника / / Коммунист Бел. № 4; Вецер з Бярозавай грывы: Апавяданне / / Полымя. № 6; Міцькава пісьмо: Апавяданне / / ЛіМ. 6 мая; На поўны голас / / Там жа. 29 ліп.; Таков он «средний» председатель: [Рэц. на кн.: Г е р ч ы к М. Час гаспадароў. Мн., 1983] / / Сел. газ. 31 мая.

1984. Чайкі над сіняй вадой: [Нарыс] / / Беларусь. № 2; Гром з яснага неба: Апавяданне / / Бярозка. № 2; Каралеўская ідэя: Гумарэска / / Вожык. № 3; На Партызанскім востраве: [Апавяданне] / / Вясёлка. № 2; Гудок далёкага цягніка: Апавяданне / / Маладосць. № 1; Карпавіч: Апавяданне ў абразках / / Звязда. 18 лют.; У школе: Навела / / Там жа. 2 вер.; Акопы на плацдарме: Апавяданне / / ЛіМ. 10 лют.; На пасецы: [Апавяданне] / / Ніва. 24 чэрв.

1985. Насустрач халоднаму сонцу: Апавяданне / / Беларусь. № 11; Галубы на тратуары: Апавяданне / / Бярозка. № 4; Віншаванні: Гумарэска / / Вожык. № 2; Малюнак: [Апавяданне] / / Вясёлка. № 2; Цвіў бэз, іграла скрыпка: [Нарыс] / / Маладосць. № 5; У бai за Жлобін: [Урывак з дакум. аповесці «Салёная раса»] / / Гомел. праўда. 13 сак.; Імчаў удалечыню паравоз... / / Звязда. 24 студз.; Як маладыя гады: Навела / / Там жа. 14 ліп.; Праўда нам сілу дае / / Там жа. 5 ліст.; Музыка белых пялёсткаў: [Апавяданне] / / Ніва. 16, 23 чэрв.; Ленин, революция, народ: [Рэц. на кн.: Ш а м я к і н І. Петрогад—Брэст. Мн., 1983] / / Сел. газ. 17 апр.

1.4.

1974. Л а р ы ё н а ў А. Ліда; Дзве маці; Вялікая вера; Мемарыяльныя курганы: Апавяданні / З рус. / / ЛіМ. 1 мая; І л ь е н к а ў В. Феціс Зяблікаў: Апавяданне / З рус. / / Там жа. 30 жн.

1976. П а н ч П. Разбітая жалейка: Урывак з эцюда / З укр. / / ЛіМ. 21 мая; А с э н к а Я. Сустрэча з творчым работнікам: Гумарэска / З пол. / / Там жа. 1 кастр.; Я г о ж. Кнопка: [Гумарэска] / З пол. / / Наст. газ. 9 кастр.; Я г о ж. Зачараванае кола: Дыялог / З пол. / / Чырв. змена. 12 вер.

1977. А с э н к а Я. У чарзе: Гумарэска / З пол. / / Чырв. змена. 13 ліст.

1978. А с э н к а Я. Урок культуры: Гумарэска / З пол. / / ЛіМ. 12 мая.

1979. А с э н к а Я. Дасягненні навукі; Урок культуры; У чарзе: [Гумарэскі] / З пол. / / Вясёлы калейдаскоп. Мн.; Яго ж. Дыялог; Сустрэча з творчым работнікам; Кнопка: Апавяданні / З пол. / / Далягляды. Мн.

1982. М а р ы н а т А. На паляванні: Гумарэска / З малд. / / Вожык. № 22; Х а м і д у л і н Л. Незабыўны прасёлак: Апавяданне / З рус. / / Полымя. № 12.

1985. Р а к і п а ў Ш. Подзвіг Галімкая: Апавяданне-быль / З тат. / / Братэрства, 85. Мн.

1. 5.

На азербайджанскую мову. Молодичка / Терч. А.Абдулла / / Эдэб. ве инчэсенет. 1977. 1 јанв.

На армянскую мову. Свет вокнаў: [Апавяданне] / Пер. М.Максапецян / / Мост. Ерэван, 1979.

На балгарскую мову. По орбитата на паметта: Разказ / Прев. С.Владимиров / / Лит. фронт. 1975. 28 авг.

На літоўскую мову. Baltosios zasys vasara pranasauja: Apsakymas / / Kuryb. savaite ("Kauno tiesos" priedas). 1975. Kovo 23.

На польскую мову. Dwa słowa po polsku: Opowiadanie / / Czerw. Szt. 1974. 25 sierp.

На рускую мову. Мерой закона и совести: Рассказы и повесть / Пер. Э.Корпачев. М., 1978. Рэц.: К а ж а м я к і н Ц. Вера ў чалавека / / Гомел. праўда. 1978. 10 вер.

Соленая роса: Повесть / Пер. А.Бутевич. Казань, 1984.

Белые гуси лето пророчат: Повести и рассказы / Пер. В.Бжезовский. М., 1987.

Ветер с Березовой гривы: повесть, рассказы. Мн., 1989.

Можно ли вернуть былое?: Рассказ / / Сел. газ. 1972. 15 марта; Будет Нефтеградl / / Сов. Клайпеда. 1972. 9 февр.; Белые гуси лето пророчат: [Апавяданне] / Пер. Ф.Архипов / / Неман. 1974. № 3; Прочный сплав: [Нарыс] / Пер. А.Горчак / / Там жа. 1976. № 1; Посмотреть за горизонт: Докум. повесть / Пер. Л.Кириллов / / Пром-сть Бел. 1979. № 2—5; Запах живицы: [Апавяданне] / Пер. В.Лавров / / Неман. 1980. № 9; Столетник: [Апавяданне] / / Неман. 1984.

№ 1; Минута молчания: Рассказ / Пер. М.Волошка // Знамя юности. 1984. 10 февр.; Минута молчания: Рассказ / Пер. А.Бутевич // Сов. молодежь (Иркутск). 1985. 28 марта.

**На татарскую мову.** Тозлы чык: [Урывак з аповесці] // Казан. утлары. 1982. № 9; Язгы тендэ: [Апавяданне] / Ш.Рэкыйпов тэрж. // Соц. Татарстан. 1982. 10 окт.; Ленин байрагы (Бугульма). 1983. 5—26 февр.

**На ўкраінскую мову.** На сотому кілометрі: Оповідання // Літ. Укр. 1975. 1 лип.; Стаття до газети: Гумореска / Пер. О. Жолдак // Там жа. 1976. 21 трав.; На сотому кілометрі: Оповідання // Комсомолець Запоріжжя. 1976. 26 серп.

2.3.

**На беларускай мове.** Аляксандру Капусціну — 60 // ЛіМ. 1984. 10 лют.; Гамолка М. З увагай да чалавека: (Да 60-годдзя з дня нараджэння А.Капусціна) // Наст. газ. 1984. 18 лют.; Яго ж. Прадмова // Капусцін А. Чалавек з пазіцыяй. Мн., 1975; Марціновіч А. Шчаслівы лёс: Беларускаму пісьменніку А.Капусціну — 60 гадоў // Гомел. праўда. 1984. 12 лют.; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Скрыган Я. Ненадрукаваныя апавяданні // Скрыган Я. Ранішнія росы. Мн., 1965. С. 134—141, 151—152; Яўменаў Ф. І словам, і справай народу служыць // Гомел. праўда. 1952. 25 студз.

2.4.

**На беларускай мове.** Пысін А. Аляксандру Капусціну: [Верш] // Беларусь. 1980. № 3; Яго ж. Сцяжынкі лясныя стаптаны да дзір...: [Верш] // Пысін А. Палёт. Мн., 1982.; Янчанка М. Запрашэнне: [Верш] // Чырв. змена. 1978. 18 студз.

**На рускай мове.** Пысин А. Лесная тропинка протерта до дыр: [Верш] // Пысин А. Есть на свете мой олень. М., 1983.

3.1.

БДАМЛіМ, ф. 299.

*В.У.Смольская.*

# КАПУЦКІ АНДРЭЙ



*Капуцкі Андрэй Рыгоравіч (псеўд. Я.Пралеска, Язэп Пралеска; 2.5.1897, Маладзечна — 1935), празаік, паэт, журналіст, дзеяч заходнебеларускага рэвалюцыйнага руху.*

У сям'і Капуцкіх было 9 дзяцей. Да 16 год А.Капуцкі вучыўся ў народнай школе. Скончыўшы яе, паступіў працаваць у ваенна-будаўнічы атрад, дзе былі старыя камуністы, якія і прыцягнулі яго да ўдзелу ў падпольнай рабоце. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Сябраваў з М.Чаротам. Удзельнічаў у імперыялістычнай, затым — у грамадзянскай войнах. У 1917 жыў у Петраградзе. З 1918 працаваў на гаспадарцы бацькоў у Маладзечне, у гады акупацыі Беларусі кайзераўскімі войскамі і польскімі легіянерамі вёў падпольную работу, распаўсюджваў лістоўкі, вазіў іх у Мінск. Там яго арыштавалі, і ён тры месяцы адсядзеў у Мінскай турме. Другі раз арыштаваны ў 1921, сядзеў у турме на Лукішках у Вільні, але яго выпусцілі з-за недаказанасці віны. Быў адным з заснавальнікаў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (1922), разам з якой у студзені 1924 уступіў у КПЗБ. Кааптаваны ў ЦК КПЗБ. Да 1925 працаваў з пасламі польскага сейма П.Мятлой, С.Рак-Міхайлоўскім і Б.Тарашкевічам. 4.10.1925 зноў арыштаваны. Сядзеў у Вілейцы і Вільні. Без суда (не была ўстаноўлена яго віна) А.Капуцкага трымалі ў турме 14 месяцаў. Дзеля яго вызвалення сям'і, у якой было трое малых дзяцей, давялося заплаціць выкуп у 2 тыс. злотых. У 1926—27 на працягу 8 месяцаў ён знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У ліпені 1927 падпольна перайшоў у СССР, куды пераправіў і сям'ю. Жыў у Мінску. Скончыў Камуністычны універсітэт Беларусі. Працаваў у рэдакцыях газеты «Звязда», часопіса «Полымя рэвалюцыі», дырэктарам універсітэта марксізма-ленінізма, загадчыкам сектара друку ЦК КП(б)Б, сектара Заходняй Беларусі ў Інстытуце гісторыі партыі. Быў беспадстаўна арыштаваны і ў студзені 1934 прысуджаны да расстрэлу (аднак сваякі сцвярджаюць, што А.Капуцкага не стала ў 1935). Рэабілітаваны ў 1956.

У беларускай літаратуры А.Капуцкі выступіў як паэт пад псеўд. Я.Пралеска ў 1929, надрукаваўшы ў час. «Паляўнічы Беларусі» верш «У дарозе». У

1930 апублікаваў у «Полымі» свае лепшыя апавяданні «Парабкі» і «На расцяробе» (у 1932 яны выйшлі асобнай кнігай пад назвай «Паноў трэба знішчаць гуртам»), а таксама некалькі фельетонаў у газеце «Савецкая Беларусь». Прозу А.Капуцкага вызначаюць добрая каларытная мова, выключнае веданне жыцця, майстэрства дыялогу. Аўтар знаходзіў цікавыя характэрныя дэталі і жыва, вобразна перадаваў іх. Аднак яму не хапала ўмення кампазіцыйна з'яднаць багаты матэрыял. Жыццёвыя ўражанні, яскравыя дыялогі нанізваліся на сюжэтную схему, у аснове якой ляжаў класавы канфлікт. Відавочнай была зададзенасць у развіцці сюжэта, што абумовіла штучнасць некаторых эпізодаў і нераспрацаванасць сюжэтных ліній. Але, нягледзячы на відавочную тэндэнцыйнасць, творы К.Капуцкага дапаўняюць мастацкую літаратуру аб Заходняй Беларусі. Імем А.Капуцкага названа вуліца ў г. Маладзечна.

*І.Э.Багдановіч, Г.А.Каханоўскі.*

## Бібліяграфія


1.2.

Паноў трэба знішчаць гуртам: Апавяданні з жыцця Заходняй Беларусі. Мн., 1932 / Пад псеўд. Я.Пралеска. Рэц.: С а л а г у б А. // Заклік. 1933. № 1.

1.3.

1929. У дарозе: [Верш] // Паляўнічы Бел. № 3 / Пад псеўд. Я.Пралеска.

1930. Парабкі: Апавяданне // Полымя. № 3; На расцяробе: Апавяданне // Там жа. № 9—10; І выюць, і когці вострацъ: [Фельетон] // Сав. Бел. 9 сак.; Уласная, беларуская, «цудоўная»: [Фельетон] // Там жа. 20 сак.; Абрэз: [Апавяданне] // Там жа. 4 кастр. / Усе пад псеўд. Я.Пралеска.

1932. Усё ж такі будзе...: [Апавяданне] // Сав. Бел. 15 студз.; Не дамо кулаку разбурыць калгас «Скавародзіна» // Там жа. 10 кастр. / Усе пад псеўд. Я.Пралеска.

1933. Парабкі: [Апавяданне, скароч.] // Хрэстаматыя рэвалюцыйнай літаратуры Заходняй Беларусі. Мн. / Пад псеўд. Я.Пралеска.

2.3.

На беларускай мове. К а х а н о ў с к і Г. Даследаванне пра заходнебеларускі тэатр // Полымя. 1971. № 2; С т а л е в і ч А. [Родзевіч А.]. Прадмова // Пралеска Я. Паноў трэба знішчаць гуртам. Мн., 1932.


*Т.М.Махнач.*

# КАПЫЛОВІЧ ІВАН



*Капыловіч Іван Іванавіч (н. 2.1.1944, в. Забалацце Мазырскага р-на Гомельскай вобл.), празаік. Член СП Беларусі з 1981.*

Маці, Марыя Андрэеўна, працавала настаўніцай у вясковай школе. Бацька, Іван Платонавіч, быў калгасным шафёрам. У час Вялікай Айчыннай вайны — партызанскі падрыўнік. Пасля вызвалення разам з часцямі Савецкай Арміі пайшоў на захад, загінуў у Памераніі. У 1962 І.Капыловіч скончыў Рамязоўскую адзінаццацігодку Ельскага р-на і паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага ф-та БДУ. Восенню 1964 быў прызваны на службу ў рады Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі (1966) вярнуўся ва ўніверсітэт, які скончыў ў 1967. У 1967—69 працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». У канцы 1969, знаходзячыся ў службовай камандзіроўцы, трапіў ў аўтамабільную катастрофу і стаў інвалідам (на пенсіі).

Літаратурную работу І.Капыловіч пачаў у 1970. Лепшыя з ранніх апавяданняў празаіка ўвайшлі ў кніжку «Сонца садзіцца ў травы». У яе ўвайшлі 7 апавяданняў, аб'яднаных адной тэмай — любоў да зямлі, на якой жывуць працавітыя і прыгожыя душой людзі. Аўтар добра ведае іх клопаты і трывогі, радасці і засмучэнні. Першая кніжка ўразіла до-

брым веданнем сакрэтаў сюжэта і кампазіцыі, сваёй тэмай і сваім героем, узятым з самога жыцця. Аўтар кніг «Два дні ў лютым», «Асенні гром», «Сны не вяртаюцца» і інш. У час. «Полымя», «Беларусь», «Неман», «Маладосць» у розныя гады друкаваліся апавяданні і аповесці «Хто дасць рады?», «Серафіна», «Абходчык», «Сны не вяртаюцца», «Бяроза на мяжы», «Пісьмы Караліне». У іх ёсць сцвярджэнне жыцця, няма адчаю і песімізму, скаргі на свой складаны і драматычны лёс. Аўтар рамана «Пачынак» (Полымя". 1993. № 4, 5).

Жыве ў Мінску.

*В.І.Смыкоўская.*

## Бібліяграфія

1.2.

Сонца садзіцца ў травы: Апавяданні. Мн., 1978. (Першая кніга празаіка). Рэц.: Бароўскі А. Прыемная сустрэча // Гомел. праўда. 1979. 3 ліп.; Лісіцкі А. Сустрэча адбылася // Чырв. змена. 1980. 23 крас.

Два дні ў лютым: Аповесці і апавяданні. Мн., 1981. Рэц.: Васючэнка П. Гэтае шматаблічнае «Рэтра»... // ЛіМ. 1982. 21 мая.

Асенні гром: Аповесць і апавяданні. Мн., 1985.

Сны не вяртаюцца: Аповесці і апавяданні. Мн., 1988.

Імянны гадзіннік: Апавяданні, аповесці. Мн., 1991.

1.3.

1966. Флаг над рэўкомам // Чырв. змена. 3 вер.; Часцінка неба: Нарыс // Там жа. 1 кастр.

1967. Як загараецца вясёлка? // Чырв. змена. 19 ліст.

1968. Не па-суседску: [Гумарэска] // Вожык. № 18; Палеская ява: Нарыс // Наст. газ. 28 снеж.; След ружовага дзяцінства: Навела // Чырв. змена. 31 снеж.

1969. Палескі чарадзей: Нарыс // Беларусь. № 8; У Маскву, на злёт; У школьным музеі: Нарысы // Бярозка. № 5; Лесной патруль: [Нарыс] // Неман. № 4.

1970. Галасы на золаку: Нарыс // Чырв. змена. 8 лют.

1972. Пучок жытнёвых каласоў: Навела // Чырв. змена. 8 чэрв.

1974. [Рэц. на кн.: Хорсун В. З дарог далёкіх і блізкіх. Мн., 1973] // Звязда. 16 лют.; Палескія пчаляры // Звязда. 17 вер.; Подзвіг разведчыка // Чырв. змена. 17 чэрв.; На Чырвоным возеры: Навела // Там жа. 3 ліст.

1975. Глыбокія карэнні; Буслы дзядзькі Андрэя: Былі // Беларусь. № 7; Млечны шлях: Нарыс // Звязда. 1 чэрв.; Развітанне: Абразок // ЛіМ. 24 студз.; Трывожныя вёрсты // Там жа. 17 кастр.; Сучасны погляд на стыль // Там жа. 19 снеж.

1976. Ісці ўпоравень з часам // Беларусь. № 3; Плённасць вытокаў: [Рэц. на кн.: Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. Мн., 1975] // Там жа. № 4; Пятровічаў лес: Апавяданне // Маладосць. № 11; Мировоззрение и творческий процесс // Неман. № 3; Зорка рыбацкая: Нарыс // Звязда. 21, 22 студз.; Самая доўгая вахта: Нарыс // Там жа. 26 чэрв.; Пад старой дзічкай: Апавяданне // ЛіМ. 19 ліст.

1977. Даўнія суседзі: Апавяданне // Беларусь. № 9; На адзін круг вышэй: [Рэц. на кн.: Кандрусевіч А. Кругі на Белай паляне. Мн., 1977] // Полымя. № 12; Порт на Прыпяці: Нарыс // Звязда. 23 крас.; Борец за народное счастье // Сов. Бел. 4 авг.

1978. Дзеля найвышэйшай праўды: [Рэц. на кн.: Жук А. Не забывай меня. Мн., 1978] // Звязда. 13 кастр.; Сыны: Апавяданне // ЛіМ. 7 ліп.

1979. Ліст у адказ: Апавяданне // Маладосць. № 9; Вяртанне ў вогненную маладосць: [Рэц. на кн.: Хомчанка В. Вяртанне ў агонь. Мн., 1978] // Полымя. № 1; Паміж берагамі жыцця: [Рэц. на кн.: Вышынскі М. Крыніца, светлая вадзіца. Мн., 1979] // Там жа. № 10; Каму расказаць: Апавяданне // ЛіМ. 5 кастр.

1980. Гняздо на дубе: Апавяданне // Бярозка. № 10; Унук: Апавяданне // Полымя. № 6; Аб´ект даследавання — культура: [Рэц. на кн.: Головнев А., Мельников А. Сближение национальных культур в процессе коммунистического строительства. Мн., 1979] // Вяч. Мінск. 20 вер.; Востраў у моры: Апавяданне // ЛіМ. 25 ліп.

1981. Пералётныя птушкі: Апавяданне // Беларусь. № 10; Браты: Апавяданне // Полымя. № 2; Строгая дабрата: Нарыс // Звязда. 30 жн.; Права на выбар: [Рэц. на кн.: Міська П. Градабой. Мн., 1980] // ЛіМ. 19 чэрв.

1982. Позні гром: [Урывак з аповесці «Асенні гром»] // ЛіМ. 3 снеж.

1983. Сувязь пакаленняў: [Рэц. на кн.: Панцюшэнка Ц. Тайны старажытных руін. Мн., 1983] // ЛіМ. 5 жн.; Мацвейкаў стажок: Апавяданне // Там жа. 9 снеж.

1984. Дача: Апавяданне // Маладосць. № 9; Свой хлеб: Нарыс // Там жа. № 10; Чарнабурка: Апавяданне // Полымя. № 7; Абходчык: Апавяданне // Там жа. № 10; Не пагаварылі: Апавяданне // ЛіМ. 17 жн.; Які ён, сучаснік?: [Рэц. на кн.: Далідовіч Г. На новы парог. Мн., 1983] // Наст. газ. 12 снеж.

1985. Хто дасць рады?: Апавяданне // Беларусь. № 7; Сны не вяртаюцца: Аповесць // Маладосць. № 11; Радзіма клікала ў бой: [Рэц. на кн.: Высоцкий В. Битва при Сиверсте. Мн., 1985] // Звязда. 21 снеж.

1.5.

На рускую мову. Над Припятью-рекой: Рассказы / Пер. В.Громыко. М., 1985. Рэц.: Суніца А. Кнігапіс // ЛіМ. 1985. 6 снеж.

Внук: [Апавяданне] / Пер. Т.Мартыненко // Неман. 1982. № 2.

На ўкраінскую мову. Сонца сідае у трави: [Апавяданне] / Пер. А.Осипчук // Рідня. К., 1980.

2.3.

На беларускай мове. Дзюбайла П. У пошуках духоўных каштоўнасцей // Полымя. 1981. № 9; Лаўшук С. А майстэрства прыйдзе // ЛіМ. 1978. 27 кастр.; Прынятыў Саюз пісьменнікаў // ЛіМ. 1981. 24 крас.

*В.У.Смольская.*



*Капыловіч Мікола Фаміч (н. 10.7.1937, в. Астражанка Лельчыцкага р-на Гомельскай вобл.), празаік. Член СП Беларусі з 1968.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў Астражанскую СШ, працаваў інструктарам Лельчыцкага РК ЛКСМБ (1956—58). У 1958 паступіў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філфака БДУ. Пасля заканчэння (1963) працаваў настаўнікам Цудзеніцкай СШ Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. З 1964 у Мінску. Рэдактар у выдавецтве «Беларусь» (1964—71; 1981—83), літаратурны сакратар газеты «Звязда» (1971—73), рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура (1973—81). У 1983 з-за перанесенай траўмы выйшаў на пенсію па інваліднасці, пераехаў жыць у Маладзечна.

Літаратурнай працай пачаў займацца яшчэ ў студэнцкія гады. На 1960 прыпадае першая публікацыя М.Капыловіча ў рэспубліканскім друку. Першая кніга апавяданняў «Скрозь жывуць людзі» выйшла ў 1968. Асноўная тэматыка творчасці—сучаснае жыццё вёскі, маральна-этычныя праблемы, мужнасць савецкіх людзей у Вялікай Айчыннай вайне («Засада», «Дні ціхай восені», «Чужы сваяк»). Піша для дзяцей.

Жыве ў Маладзечне.

*Л.С.Савік.*

## Бібліяграфія


1.2.

Скрозь жывуць людзі: Апавяданні. Мн., 1968. Рэц.: Бечык В. Чым жылі і жывуць аднагодкі // ЛіМ. 1969. 25 сак.; Гусак С. Скрозь людзі // Маладосць. 1969. № 10; Калеснік І. З крыніц жыцця // Чырв. змена. 1969. 12 студз.; Кірвель А. Проза... Выдаткі і прэтэнзіі // Мін. праўда. 1968. 5 снеж.; Марціновіч А. Аб нашых сучасніках // Гомел. праўда. 1969. 28 студз.; Прашковіч М. Усюды добрыя людзі // Полымя. 1969. № 4; Сачанка П., Якімовіч А. // Вяч. Мінск. 1969. 18 лют.

Засада: Аповесці. Мн., 1979. Рэц.: Александровіч І. Пра сапраўдных сяброў // ЛіМ. 1979. 7 снеж.; Астрэйка Н. Паэзія прозы // Наст. газ. 1980. 9 ліп.

Дні ціхай восені: Апавяданні. Мн., 1981. Рэц.: Васючэнка П. Гэтае шматзначнае «Рэтра...» // ЛіМ. 1982. 21 мая.

Чужы сваяк: Аповесці і апавяданні. Мн., 1987.

1.3.

**1960.** Беларускія салдацкія песні // ЛіМ. 14 мая.

**1961.** Сыкаюць косы; У акопах растуць баравікі: Эцюды // ЛіМ. 19 снеж.

**1962.** Перад касьбой; Перагародка; Сланечнік: Апавяданні // Маладосць. № 9; Па чарніцы: Апавяданне // Чырв. змена. 8 жн.

**1963.** Як дома; Было свята; Раніца; Поўдзень; Вечар: Апавяданні // Маладосць. № 8; Тапаліны пух: Апавяданне // Чырв. змена. 14 ліп.

**1964.** Не прыедзе: Апавяданне // Маладосць. № 10; ЛіМ. 13 кастр.; Двое на возеры: Апавяданне // Чырв. змена. 19 ліп.

**1966.** Антонаў вугал: Апавяданне // Вожык. № 2; Пучок чабору: [Апавяданне] // Вясёлка. № 4; У ружовым тумане: Апавяданне // Маладосць. № 8; Паэтычны роздум // Звязда. 21 мая; Гнёзды: Апавяданне // Піянер Бел. 12 ліст; Разбітае акно: Апавяданне // Чырв. змена. 18 снеж.

**1967.** Сірата; Аборка на чамадане: Апавяданні // Маладосць. № 4; Сірата: Апавяданне // ЛіМ. 7 крас.; Пустальга: Апавяданне // Чырв. змена. 21 снеж.

**1968.** Пустальга: Апавяданне // Полымя. № 1; Хлеб: Апавяданне // Там жа. № 8.

**1969.** Трыпціх: Раніца; Поўдзень; Вечар // Чырв. змена. 9 крас.

**1970.** Жыві: Апавяданне // Полымя. № 1; Каб ціха было: Апавяданне // ЛіМ. 26 чэрв.

**1971.** Французскі замах: Гумарэска // Маладосць. № 7; Сталасць майстэрства // Звязда. 27 кастр.

**1972.** Сірата; «Птушыны бацька»: [Апавяданні] // У глыбі жыцця. Мн.; Сяргей, сын Антолін: Апавяданне // Маладосць. № 7; На сваім селішчы: Апавяданне // ЛіМ. 7 студз.

**1974.** Мар'я з Хатак: Апавяданне // Маладосць. № 9.

**1977.** Залатая казка; Верка і Валодзя: Апавяданні // Маладосць. № 8; Жаніх: Апавяданне // ЛіМ. 18 ліст.

1978. Шостая зорка: Апавяданне / / Беларусь. № 5; Тайна: Аповесць / / Бярозка. № 8, 9; Агароднае пудзіла: [Апавяданне] / / Вясёлка. № 2; Даўнія сябры; Вераснёўскай раніцай: Апавяданні / / Полымя. № 10; Восеньскім днём: Апавяданне / / Родная прырода. № 5.

1979. Петрык; Апошні дзень: Апавяданні / / Полымя. № 4; Вяртанне: Апавяданне / / Вяч. Мінск. 22 студз.

1980. Яго чакалі; Мёртвы вузел: Апавяданні / / Беларусь. № 3; Бацькаў ордэн: Апавяданне / / Бярозка. № 6; Вяч. Мінск. 12 чэрв.; Газон: Гумарэска / / Вожык. № 11; Царэўна: [Апавяданне] / / Вясёлка. № 10; Вясною; Анюта; Сонечны лівень: Апавяданні / / Маладосць. № 5; Начальнік агню і дыму; Да маці; Скрыпун, або Паганіні з Зарэчча; Бацька і сын: Апавяданні / / Полымя. № 9; Навелы аб прыродзе / / Родная прырода. № 3; Ластаўкі: Апавяданне / / Там жа. № 5; Ніна Перагуд; Пахатуха: Апавяданні / / ЛіМ. 29 лют.; Вавёрка; Ліса ў трубе; Каршун і варона: Навелы / / Мін. праўда. 4 мая; Сустрэча: Апавяданне / / Там жа. 17 мая; Рэмез; Гадзючын гіпноз; Удод: Лясныя замалёўкі / / Там жа. 17 жн.

1981. Царэўна: [Апавяданне] / / Вясёлка. Мн.; Бяроза на мяжы: Аповесць / / Маладосць. № 3.

1984. Мара; Рыбак-рыбака; Бабуля: Гумарэскі / / Вожык. № 17; Сыкаюць косы: Навела / / Мін. праўда. 16 чэрв.; Бацькаў ордэн: [Апавяданне] / / Ніва. 4 ліст.

1985. У ружовым тумане: Апавяданне / / Апавяданні пра Вялікую Айчынную. Мн.; Чужы сваяк: Аповесць / / Полымя. № 8; Газон: [Гумарэска] / / Ніва. 26 мая.

1.4.

1966. М у х а м е д а ў М. Партрэт: Апавяданне / З узб. / / Узбекскія апавяданні. Мн.

1967. К л д з і я ш в і л і С. Асенні дождж: Апавяданне / З груз. / / Горны вадаспад. Мн.; Бес Г. Сельскі дэпутат: Апавяданне / З арм. / / Полымя. № 11.

1.5.

На латышскую мову. Vejagrabslis / Atdz. T.Rullis / / Lit. un Maksla. 1972. 26. Aug.

На літоўскую мову. Paskutine diena: [Apsakymas] / Vert. A.Lapinskiene / / Lit. ir menas. 1981. Vas. 6; Bobute: Humoreska / Vert. G.Michailivas / / Taryb. zeme (Zar.). 1984. Lapkr. 3.

На рускую мову. Везде живут люди: Рассказы. Мн., 1968. Рэц.: А н д р е ю к С. Люди чуткого сердца / / Дружба народов. 1969. № 6.

Сирота; В розовом тумане: [Апавяданні] / Пер. Б.Казанов / / Неман. 1968. № 1; Пустельга: [Апавяданне] / Пер. З.Островская / / Звезда. 1969. № 1; Хлеб: [Апавяданне] / Пер. Н.Татур / / Неман. 1969. № 12; Сирота: [Апавяданне] / Пер. В.Щедрин / / ЛГ. 1969. 30 июля; Пустельга: [Апавяданне] / Пер. З.Островская / / Белорусские рассказы. М., 1971; За хлебом: [Апавяданне] / Пер. Т.Горбачев / / Мы — молодые. М., 1971. Вып. 2; Сергей, сын Антоли: [Апавяданне] / Пер. В.Кудинов / / Неман. 1976. № 7; Марья из Хаток: [Апавяданне] / Пер. В.Тарас / / Там жа. 1979. № 6.

На эстонскую мову. Leiba toomas: (Jutustus) / Tlk. K.Kokk / / Selle punase paikese all. 3. Lugemispalu noukogude rahvaste kirjandusest. Tallinn, 1983.

1.6.

Мужык і агуркі: Бел. нар. казка / / Вясёлка. 1978. № 6 / Зап. і апрац.

2.3.

На беларускай мове. А н д р а ю к С. Жыць чалавекам. Мн., 1983. С. 121—122; Я г о ж. Куды ідзе апавяданне? / / ЛіМ. 1979. 18 мая; Б е ч ы к В. Чым жылі і жывуць аднагодкі / / Б е ч ы к В. Свет жывы і блізкі. Мн., 1974; К а в а л е н к а В. Прага духоўнасці. Мн., 1975. С. 118—121, 148—149; Я г о ж. У далечы жыццёвых гарызонтаў / / Полымя. 1973. № 6; К а р ш у к о ў Я. Выбар героя: Палемічныя нататкі / / ЛіМ. 1973. 26 студз.; С а в і к Л. Адчуванне часу. Мн., 1981. С.170—171.

На рускай мове. Б е ч и к В. Молодым идти вперед / / Знамя юности. 1969. 9 апр.; М е л е ж И. Жизненные заботы. М., 1980. С. 99—100; Я г о ж. [Пра маладых празаікаў Беларусі] / / ЛГ. 1969. 9 апр.; С т р е л ь ц о в М. Первое знакомство / / Неман. 1968. № 1.

*Г.І.Рэут.*



*Карабан Сцяпан Ігнатавіч [н. 26.12.1901 (8.1.1902), в. Дзехнаўка Мінскага пав. Мінскай губ., цяпер Мінскі р-н — 14.1.1974, Мінск; пахаваны на могілках у Заслаўі], літаратуразнавец. Доктар філілагічных навук (1960), прафесар (1961).*

З сялянскай сям'і. З дзяцінства дапамагаў бацькам па гаспадарцы. У канцы 1918 — пачатку 1919 працаваў справаводам Заслаўскага валвыканкома. З сакавіка 1919 у Чырвонай Арміі, пісар чыгуначнага батальёна Лібава-Роменскай чыгункі. Быў паранены. З чэрвеня 1919 па май 1920 лячыўся ў шпіталі ў Мінску, выйшаў адтуль з ампутаванай нагой. У 1920—25 працаваў сакратаром валрэўкомаў, валвыканкомаў, старшынёй райкома сялянскай узаемадапамогі ў розных месцах Мінскай вобл. (м. Заслаўе, в. Станькава, в. Бесяды, м. Койданава). Член КПСС з 1924. У 1928 скончыў Камуністычны універсітэт нацыянальных меньшасцяў у Маскве, у 1931 — БДУ. У 1931—34 вучыўся ў аспірантуры Інстытута філасофіі АН БССР і выкладаў у кансерваторыі. Атрымаўшы ў 1934 ступень кандыдата філасофскіх навук, працаваў у Інстытуце філасофіі АН БССР і выкладаў у кансерваторыі і БДУ (1934—35). У 1936 нейкі час быў дырэктарам Палітасветінстытута ў Магілёве. У 1937—41 дацэнт на кафедры рускай літаратуры Мінскага педінстытута. У час Вялікай Айчыннай вайны пражываў у в. Заляшаны Клецкага р-на і ў Ляхавіцкім р-не, займаўся шавецкай справай. З верасня 1944 — дацэнт, у 1961—71 — прафесар Мінскага педінстытута. З 1971 на пенсіі. Узнагароджаны медалямі.

Як літаратуразнавец пачаў выступаць у 1938. Даследаваў філасофскія, эстэтычныя і літаратурныя погляды рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў В.Бялінскага і Д.Пісарава ў сувязі з распрацоўкай імі тэорыі рэалізму. У 1950-я гады займаўся вывучэннем светапогляду і асноўнай праблематыкі творчасці Я.Купалы, што паслужыла асновай для яго доктарскай дысертацыі, апублікаваў па гэтай тэме шэраг артыкулаў у рэспубліканскім друку. Пэўным укладам у беларускае літаратуразнаўства сталі «Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў», ацэненыя як «першая абагульняльная праца пра складаную і супярэчлівую эпоху станаўлення і развіцця беларускай савецкай крытыкі» (У.Конан). Разам з тым, рэцэнзенты выказалі шэраг прэтэнзій да аўтара ў сувязі з нізкім агульным узроўнем кнігі, пазбаўленай па сутнасці выразнай навуковай канцэпцыі. Яны датычыліся і выказванняў С.Карабана адносна некаторых літаратараў. Так, калі пра Бэндэ ён здолеў сказаць праўду, то ў адносінах да М.Гарэцкага, У.Дубоўкі, С.Некрашэвіча не здолеў вызваліцца ад уплыву вульгарна-сацыялагічных ацэнак. Як выкладчык С.Карабан шмат увагі надаваў методыцы выкладання літаратуры, выхаванню будучых настаўніцкіх кадраў.

*І.Э.Багдановіч.*

## Бібліяграфія


1.2.

В.Г.Белинский: Его философские, эстетические и критические взгляды. Мн., 1936.

Мировоззрение Янки Купалы: Автореф. дисс.... д-ра философ. н. Мн., 1954.

Мировоззрение и основные проблемы творчества Янки Купалы: Автореф. дисс.... д-ра филол. н. Мн., 1955.

Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў. Мн., 1971. Рэц.: Бугаев Д. Зигзаги критической мысли // Вопросы литературы. 1974. № 5; Сачанка І. Шляхамі вострай барацьбы // ЛіМ. 1971. 23 крас.; Царанкоў Л. З любоўю да роднай літаратуры // Вяч. Мінск. 1971. 24 мая.

Очерки истории белорусской эстетической мысли и литературной критики. Мн., 1971. Рэц.: Разанаў І. Аб вытоках эстэтычнай думкі // Вяч. Мінск. 1972. 12 жн.; Семяновіч А. Даследаванне беларускай крытыкі // Звязда. 1972. 24 сак.; Царанкоў Л. Цікавае даследаванне // Мін. праўда. 1972. 9 чэрв.

1.3.

1938. Дзімітрый Іванавіч Пісараў // ЛіМ. 16 ліп.

1940. Литературно-критические взгляды Писарева // Уч. зап. Мин. пед. ин-та. Вып. 2.

1945. Вялікі рускі патрыёт // Звязда. 20 ліст.

1946. Геніяльны мысліцель і крытык // ЛіМ. 15 чэрв.

**1947.** Николай Платонович Огарев: (К 70-летию со дня смерти) / / Сов. Бел. 11 июня.

**1948.** Эстэтычныя і літаратурна-крытычныя погляды В.Р.Бялінскага / / ЛіМ. 5 чэрв.; Д.І.Пісараў / / Там жа. 17 ліп.; Великий русский дараматург / / Сов. Бел. 11 апр.; Д.И.Писарев: К 80-летию со дня смерти / / Там жа. 16 июля; Великий революционный демократ / / Там жа. 24 июля / Сааўт. П.Пратасеня.

**1950.** Эстэтычныя і крытычныя погляды В.Р.Бялінскага; Драматургія Купалы ("Паўлінка) / / Вуч. зап. Мін. пед. ін-та. Філалаг. серыя. Вып. 1; Гордасць рускага народа / / Чырв. змена. 21 ліст.

**1952.** Вялікі патрыёт Радзімы: (Да стагоддзя з дня смерці Н.В.Гогаля) / / ЛіМ. 9 лют.; Усеагульнае прызнанне / / Там жа. 28 чэрв.

**1953.** Кніга аб ранняй творчасці Янкі Купалы: [Рэц. на кн.: І в а ш ы н В. Янка Купала: Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг. Мн., 1953] / / Звязда. 26 снеж.

**1954.** Драма «Раскіданае гняздо» / / Уч. зап. Мин. пед. ин-та. Вып. 3; Аналіз вобразаў драмы «Раскіданае гняздо» (Я.Купалы) / / Сав. школа. № 6;

**1955.** Драматычныя паэмы Янкі Купалы / / Уч. зап. Мин. пед. ин-та. Вып. 4; Тэма прыроды ў творчасці Янкі Купалы / / Сав. школа. № 6.

**1956.** Ля вытокаў беларускай дэмакратычнай крытыкі: (1906—1916 гг.) / / Полымя. № 10; Паэма Янкі Купалы «Курган» / / Сав. школа. № 4; Творчасць Янкі Купалы ў славянскай крытыцы / / Уч. зап. БГУ. Серия филолог. Вып. 27; Пытанні маралі ў творчасці Янкі Купалы / / Уч.зап. Мин. пед. ин-та. Вып. 6, юбилейный.

**1957.** К истории газеты «Северо-Западный край» и ее роли в революции 1905 г. / / Уч. зап. БГУ. Серия филол. Вып. 39; Да пытання аб вытоках творчасці Я.Купалы / / Уч.зап. Мин. пед. ин-та. Вып. 8.

**1961.** Вялікі мысліцель і барацьбіт / / Звязда. 13 чэрв. / Сааўт. І.Лушчыцкі; Свежымі фарбамі: [Рэц. на кн.: В а с и л ё н о к С. Фольклор и литература Белоруссии эпохи феодализма (XIV—XVIII вв.). М., 1961] / / Звязда. 2 снеж.

**1962.** Заснавальнік сучаснай беларускай літаратуры / / Гомел. праўда. 3 ліст.; Нязгасна ззяе слава песняра / / Мін. праўда. 3 ліст.; Наш Янка Купала / / Фізкультурнік Бел. 6 ліп.

**1964.** Живой голос поэта / / Сел. газ. 15 окт.

**1966.** И.С.Тургенев в белорусской печати / / Филологический сборник. Мн.

**1967.** Пошукі творчага метаду: (На матэрыялах беларускай крытыкі 20—30-х гадоў) / / Материалы межвузовской научной конференции по проблемам теории и истории белорусской и русской литератур. Минск, 1967, 20—21 окт. (Доклады). Мн.

**1971.** Глыбокі рэалізм / / Звязда. 11 ліст. / Сааўт. І. Разанаў.

**1972.** Пясняр дум народных / / Звязда. 7 ліп.; Пясняр дружбы народаў / / Там жа. 18 кастр. / Сааўт. І.Разанаў.

**1973.** Служыць народу свайму / / Вяч. Мінск. 2 кастр. / Сааўт. І.Разанаў; Волат рускай драматургіі / / Звязда. 12 крас.; Першапраходца новых шляхоў / / Там жа. 13 снеж.

**1.6.**

П е с н і барацьбы: Зборнік песень, казак і частушак беларускіх партызан. Мн., 1946 / Скл.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Б у г а ё ў Д. Здабыткі крытычнай думкі і яе зігзагі / / Бугаёў Д. Чалавечнасць. Мн., 1985; Б я р о з к і н Г. З аршынам па вершах / / ЛіМ. 1956. 29 вер.; К о н а н У. Праблемы беларускай крытыкі і эстэтыкі / / Полымя. 1972. № 6; К у д р а ў ц а ў І. «Востракарныя словы...» / / ЛіМ. 1958. 25 студз.; П а б я р э ж а ц А. Дарогі даследчыка і педагога / / Звязда. 1972. 25 студз.; С ц я п а н Ігнатавіч Карабан: [Некралог] / / ЛіМ. 1974. 18 студз.

**На рускай мове.** П р о т а с е н я П. Против проработочной критики: Письмо в редакцию / / Сов. Бел. 1958. 11 июня.

*М.П.Барташэвіч.*

# КАРАВАЙЧЫК ПАВЕЛ



*Каравайчык Павел Гіляравіч (псеўд. П. К а р а в а й, П. Л ю б е ц к і, П а в а л Л ю б е ц к і, П а в е л Л ю б е ц к і, P a u l u s, крыпт.: П. К., П. Л.; 3 (15). 6.1896, м. Любча Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер г.п. Любча Навагрудскага р-на — 21.11.1937, Чэбаксары], крытык, публіцыст, паэт.*

З сям'і малазямельных сялян. Пасля заканчэння пачатковай школы паступіў у Вышэйшую пачатковую школу ў Навагрудку, у 1910 перайшоў у Навагрудскую прыватную рэальную школу. У 1911 здаў уступныя экзамены ў Мінскую гімназію і скончыў яе у 1916 з залатым медалём у Маскве, куды

гімназія была эвакуіравана ў час 1-й сусветнай вайны. Вярнуўшыся ў Мінск, браў чынны ўдзел у Таварыстве дапамогі ахвярам вайны, потым паступіў у Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Петраградзе. Ад імя петраградскіх студэнтаў вітаў у 1917 з'езд бел. нац. арганізацый ў Мінску. Але праз два гады вымушаны быў перапыніць вучобу па матэрыяльных прычынах. Пераехаў у Маскву, займаўся на 3 курсе медфака Маскоўскага ўніверсітэта. У 1919—21 служыў у Чырвонай Арміі на Заходнім фронце. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Маскву, але аднавіць заняткі не ўдалося. У 1922 пераехаў у Мінск, паступіў на 3 курс медфака БДУ, які скончыў у 1925.

Пасля заканчэння гімназіі П.Каравайчык актыўна ўдзельнічаў у грамадска-палітычным і культурна-асветным руху. У 1917 працаваў у Мінску ў рэдакцыі газеты «Вольная Беларусь», дзе пачаў друкаваць свае творы, у 1918 у Петраградзе быў сакратаром агітацыйна-выдавецкага аддзела Белнацкома (Петраградскае аддзяленне) і супрацоўнічаў у часопісе «Чырвоны шлях». У 1918—19 на працягу года і двух месяцаў быў інфарматарам па беларускіх справах пры Народным камісарыяце нацыянальнасцей. Яго агляды беларускага друку былі своеасаблівым летапісам першых крокаў Беларускай Савецкай Рэспублікі, якія шырока выкарыстоўваюць сучасныя гісторыкі. На пачатку 1919 загадваў выдавецкім аддзелам Белнацкома і рэдагаваў першую савецкую газету на беларускай мове «Дзянніца». Вярнуўшыся з Чырвонай Арміі, працаваў сакратаром Беларускага бюро Наркамасветы РСФСР, цэнтральным бюро Галоўмастацтва. З восені 1922 да канца 1926 загадчык аддзела замежнага друку газеты «Савецкая Беларусь». У красавіку 1924 удзельнічаў у заснаванні медычнай секцыі пры Інстытуце беларускай культуры і заняўся спецыяльнай распрацоўкай беларускай медычнай тэрміналогіі (першы выпуск — слоўнік анатамічных назваў — апублікаваны ў 1926). У 1926—30 працаваў у клініцы нервовых хвароб медфака БДУ. Быў рэпрэсіраваны і 10.4.1931 асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Чэбаксары Чувашскай АССР, дзе працаваў урачом-неўрапатолагам. У ссылцы П.Каравайчык працягваў навуковыя доследы ў галіне медыцыны (па фізіялогіі мозга). Перад заканчэннем тэрміну ссылкі (да пяці гадоў яму дадалі яшчэ два) ён паслаў свае даследаванні ў клініку нервовых хвароб г. Горкі і адтуль атрымаў запрашэнне на працу. Аднак у 1937, за дзень да канца высылкі, быў арыштаваны паўторна і прысуджаны да расстрэлу. Рэабілітаваны па абодвух справах у 1957 і 1959.

Творчая спадчына П.Каравайчыка узор абуджэння і ўздыму таленту на хвалі нацыянальна-адраджэнцкага руху. Пачаў ён у 1917 з рэцэнзіі на пастаноўку ў Мінску драмы «Раскіданае гняздо» Я.Купалы. Тады ж яго пачало хваляваць пытанне рэальнага самавызначэння народаў, і ён, як публіцыст, выступаў з артыкуламі на гэтую тэму. Крытычны густ П.Каравайчыка быў досыць абіральны — ён пісаў водгукі на тыя творы, якія станавіліся бясспрэчнай класікай беларускай літаратуры (кнігі «Матчын дар» А.Гаруна, «Спадчына» Я.Купалы, «Творы» М.Багдановіча), прысвячаў свае літаратурныя доследы Ф.Багушэвічу і У.Галубку. Крытычныя развагі П.Каравайчыка грунтаваліся на глыбокім эстэтычным і псіхалагічным аналізе твораў. Ён пазбягаў спрошчаных вульгарызатарскіх трактовак. Так, аналізуючы «Спадчыну» Я.Купалы, П.Каравайчык прыйшоў да вываду, што многія «высокамастацкія творы, змешчаныя ў кніжцы, з'яўляюцца спробаю творчасці ў новым для паэта кірунку», што сама кніга з'яўляецца тэматычным і фармальным паваротам у творчасці Купалы. Гэта было ў час, калі Купалу моцна крытыкавалі за «перапеў адраджэнцкіх матываў». У 1921—23 П.Каравайчык чытаў лекцыі па беларускай літаратуры на настаўніцкіх курсах у Бабруйску і Мінску. Вынікам гэтага чытання з'явіўся падручнік па беларускай народнай творчасці, а таксама «Выпісы з беларускае літаратуры», складзеныя супольна з М.Гарэцкім і У.Дзяржынскім. П.Каравайчык з'яўляецца таксама аўтарам нешматлікіх вершаў, у якіх развіваў матывы адраджэнскага руху беларусаў, будавання новага свету, дзе «не будзе крыўды, зла». Яго вершы — гэта тыповыя на той час спробы шырока адоранай асобы выяўляць свой талент у розных жанрах.

*І.Э.Багдановіч, В.У.Скалабан.*

## Бібліяграфія


1.3.

**1917.** Беларускі тэатр // Вольная Бел. 7, 26 ліп. / Пад крыпт. П.К. Аўт. спрэчнае; Выбары гласных у Мінскую народную Думу // Там жа. 11 жн.; Лісты з Петраграду // Там жа. 9, 26 кастр. / Пад крыпт. П.К.; Дэмакратычная нарада і беларусы // Там жа. 19 кастр. / Пад крыпт. П. К.

**1918.** Будучыня Вільні: [Нарыс]; [Рэц. на кн.: Г а р у н А. Матчын дар. Мн., 1918] // Чырв. шлях. № 5—6 / Пад псеўд. Павел Любецкі; О белорусском литературном языке // Там жа. № 7—8 / Пад псеўд. Павел Любецкий; Аб беларускім клюбе і яго задачах // Дзянніца. 17 снеж. / Пад псеўд. Павал Любецкі; Настрой беларускай шляхты // Там жа. 31 снеж. / Пад псеўд. Павал Любецкі.

**1919.** Дарэмна, панове; Аб беларускім універсітэце // Дзянніца. 4 студз. / Пад псеўд. Павал Любецкі; Ламайце згніўшае!: [Верш] // Там жа. 16 студз. / Пад псеўд. П.Каравай; Аб выдзяленні Віцебскае губ.; Вялікая Польшча // Там жа. 8 лют. / Пад псеўд. Павал Любецкі; Беларусь жыла і будзе жыць / Пад псеўд. Павал Любецкі; Выдавецкая праца Беларускага нацыянальнага камісарыята / Пад крыпт. П.Л. // Там жа. 24 лют.

**1921.** Memento mori: [Верш] // Вольны сцяг. № 3 / Пад псеўд. Paulus; Мы ўсходзім: [Верш] // Сав. Бел. 5 чэрв. / Пад псеўд. Paulus; К пытанню нацыянальна-культурнага адраджэння беларусаў за межамі ССРБ // Там жа. 4 снеж. / Пад псеўд. Павел Любецкі.

**1922.** Беларуская народная вусная творчасць / Пад псеўд. П.Любецкі; [Рэц. на кн.: К у п а л а Я. Спадчына. Мн., 1922] / Пад псеўд. П.Любецкі; [Рэц. на кн.: К о л а с Я. Водгулле. Мн., 1922; Я с а к а р [З.Бядуля]. Пад родным небам. Мн., 1922] / Пад крыпт. П. Л. // Адраджэнне. Сш. 1; Беларуская народная літаратура // Вольны сцяг. № 1 / Пад псеўд. П.Любецкі; Думкі аб паэзіі З.Бядулі (Ясакара) // Сав. Бел. 21 ліп. / Пад псеўд. Павал Любецкі; Тэатральная праца Ул.Галубка: (Думкі і ўражанні) // Там жа. 13 жн. / Пад псеўд. Павал Любецкі; Беларуская вечарына // Там жа. 16 жн. / Пад крыпт. П. Л.; Беларуская выдавецкая праца ў Берліне. V. Зборнік вершаў Ц.Гартнага // Там жа. 13 вер. / Пад псеўд. Павал Любецкі; Беларуская выдавецкая праца ў Берліне. VI. Першы раман у белар. мове // Там жа. 15 вер. / Пад

псеўд. Павал Любецкі; «Страхі жыцця» і «Фанатык»: (Тэатральная праца Галубка) / / Там жа. 10 кастр. / Пад крыпт. П.Л.; «Жрэц Тарквіні» / / Там жа. 29 кастр. / Пад псеўд. П.Любецкі; К бяздонню / / Там жа. 17 ліст. / Пад крыпт. П.Л.; Балетныя вечары ў Беларускім дзяржаўным тэатры / / Там жа. 22 ліст. / Пад крыпт. П.Л.; Беларуская культурная праца на Усходзе Беларусі / / Там жа. 1, 27 снеж. / Пад псеўд. Павал Любецкі.

**1923.** Конкурс на лепшага настаўніка: (Настаўнік Бруякін) / / Сав. Бел. 9 чэрв. / Пад крыпт. П.Л.; Першыя краёвыя курсы беларусазнаўства / / Там жа. 17 жн. / Пад псеўд. П.Любецкі.

**1926.** Да новага жыцця: Драма ў 2-х актах / / Малады араты. № 13—14 / Пад крыпт. Л.П. Аўт. спрэчнае.

**1927.** На кабана: Апавяданне / / Паляўнічы Бел. № 2—3 / Пад крыпт. П.К. Аўт. спрэчнае.

**1928.** Новае аб Багушэвічу / / Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.» № 3 / Пад псеўд. П.Любецкі; Звяставанне: [Верш] / / За працу. 24 ліст. / Аўт. спрэчнае; Цяжкае становішча беларускіх школ у Заходняй Беларусі / / Сав. Бел. 5 студз. / Пад псеўд. Павал Любецкі; Беларускі нацыянальны камісарыят / / Там жа. 14 лют. / Пад псеўд. Павал Любецкі; 10 год з дню выхаду «Дзянніцы» / / Там жа. 1 сак. / Пад псеўд. П.Любецкі; Леў Мікалаевіч Талстой / / Чырв. змена. 12 вер. / Пад крыпт. П.К.

**1929.** [Рэц. на кн.: Б а г д а н о в і ч М. Творы. Мн., 1928. Т. 2] / / Полымя. № 7 / Пад крыпт. Л.П. Аўт. спрэчнае.

**1982.** Ламайце згніўшае!: Memento mori: [Вершы] / / Дзень паэзіі—82. Мн.

**1.6.**

**В ы п і с ы** з беларускае літаратуры: 1. Вусная народная творчасць. 2. Старадаўняе пісьменства. М.; Л., 1925 / Скл. з інш. Рэц.: С л у ц к і А. / / Полымя. 1925. № 7.

**2.3.**

**На беларускай мове.** С к а л а б а н В. Будынак новы мы будуем...: (Вершы Паўла Каравайчыка) / / Дзень паэзіі—82. Мн., 1982.

*З.У.Драздова.*

# КАРАВАЦКІ ФРАНЦІШАК

*Каравацкі Францішак Казіміравіч (псеўд. К р а в а ц к і, Л я в о н, E F E R, L o s, F r a n c i s z e k K a z i m i e r o w i s z; н. 14.5.1907, фальв. Каладзянка Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі. р-н Мінскай вобл.), паэт, журналіст.*

Нарадзіўся ў сям'і парабка. Бацька і маці, беззямельныя сяляне, да 1923 батрачылі ў маёнтках пана Скірмунта. З-за канфлікту з гаспадаром былі выгнаны з працы і жылля, працавалі на «запашках» як арандатары (палавічнікі) у вёсках Янявічы і Воўчын, з 1927 — у фальварку Малінаўка і ў засценку Белашы Кабыльніцкай гміны, з 1931 — у маёнтку Чурлёні Вілейскага пав. Там дачакаліся вызвалення Заходняй Беларусі, атрымалі надзел зямлі і аселі жыць і працаваць як аднаасобныя сяляне. На бацькавай сялібе цяпер пражывае з сям'ёй брат паэта Янка. У сям'і Каравацкіх спакон панавалі рэвалюцыйныя настроі. Францішак у 1925 уступіў у Незалежную сялянскую партыю, якая супрацоўнічала з Беларускай Сялянска-работніцкай грамадой, выконваў абавязкі інструктара па Віленскай акрузе. З гэтага часу стаў карэспандэнтам друкаваных органаў гэтай партыі і блізкіх да яе арганізацый, друкаваў допісы і вершы ў часопісе «Orka» («Ворыва»), газеце «Dziennik popularny» («Папулярная газета»), якія падпісваў псеўданімам EFER. Змяшчаў карыкатуры і шаржы на палітычных дзеячаў у часопісах «Zielony sztandar» («Зялёны сцяг»), «Tydzień robotnika» («Тыдзень рабочага») і інш. У 1926 уступіў у КПЗБ, пад партыйнай клічкай Лявон працаваў у падпольнай арганізацыі мястэчка Кабыльнік. У 1928 абраны членам Пастаўскага падпольнага райкама КПЗБ. Улады буржуазнай Польшчы прасьледавалі і рэпрэсіравалі Ф.Каравацкага: у турмах Лукішкі, Стэфанаўка, Вронкі, Грудзёндз ён правёў больш да 7 гадоў. Вызвалены ў 1936 па амністыі, да 1938 працаваў у падпольным Краёвым сакратарыяце ЦК КПЗБ у Варшаве. Нараз былі арыштаваны і адбывалі турэмнае пакаранне бацька паэта Казімір Карлавіч і сястра Казіміра; брат Броніслаў у выніку катаванняў на допытах і чатырох гадоў паняверкі ў турме захварэў псіхічна, выпушчаны на волю неўзабаве памёр. У гады Вялікай Айчыннай вайны Ф.Каравацкі супрацоўнічаў з польскім патрыятычным рухам на тэрыторыі СССР. У 1943 быў скінуты на парашуце ў акупіраваную Варшаву, устанавіў сувязь з ЦК КПРП, да 1945 выконваў спецыяльныя заданні ЦК. Пасля вайны па фальшывым абвінавачванні быў арыштаваны і рэпрэсіраваны, 5 гадоў правёў у сібірскіх лагерах зняволення, пасля рэабілітаваны. З 1952 працаваў літработнікам газеты «Czerwony sztandar» («Чырвоны сцяг»), пісаў вершы для дзяцей на польскай мове, падпісваючы іх псеўд. Franciszek Kazimierowicz, перакладаў з літоўскай мовы дзіцячыя вершы для польскага часопіса «Pionier Litwy» («Піянер Літвы»). У 1957 выехаў у Польшчу па выкліку кіраўніцтва ПАРП. Жыве ў Варшаве.

Пісаць вершы пачаў у 10 гадоў на беларускай і польскай мовах. У 1927 напісаў у пастаўскай турме верш «Мы ішлі ў цяжкім змаганні». Сябры па зняволенні пачалі спяваць яго на матыў вядомай песні «Волга-Волга». Пасля выхаду з турмы (1927) неўзабаве зноў быў арыштаваны за напісанне «камуністычнага» верша. Вершы Ф.Каравацкага з'яўля-

юцца творамі палітычнай лірыкі. Удзельнікі рэвалюцыйнага падполля ў Заходняй Беларусі распаўсюджвалі іх у рукапісах, як ананімныя творы, лепшыя з іх чыталіся публічна на вечарынах або спяваліся як песні. У пачатку 1930 гадоў напісаў паэму «Нарач», прысвечаную старэйшаму брату Іосіфу, які ў пошуках працы і хлеба выехаў у Аргенціну і прапаў без вестак. Рукапіс твора быў адасланы ў Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры ў Вільні, адкуль праз два гады прышоў адказ, што твор не можа быць надрукаваны, паколькі яго тэкст канфліктуе з законам па друку. Другая паэма, пра Кастрычнік была напісана па-польску ў Грудзёндзкай турме; яе тэкст перапісаў у свой сшытак сябра па камеры і вынес на волю. Потым сшытак захоўваўся ў Варшаўскім музеі рэвалюцыйнага руху. Верш «Навагодні» («Стары год прайшоў, жывём Новы год») Ф.Каравацкі падарыў сваёй сяброўцы А.Каркоз, а яе брат-падпольшчык завучыў тэкст верша на памяць і «занёс» у турму на Лукішкі; там яго пачуў П.Пестрак і выкарыстаў у аповесці «Сустрэнемся на барыкадах» як ананімны твор. Гэты і іншыя творы Ф.Каравацкага запісваліся на Навагрудчыне ў 1950 годы як рэвалюцыйныя песні ад ветэранаў вызваленчага руху былой Заходняй Беларусі (надрукаваны як ананімныя тэксты рэвалюцыйных песень у зборніку «Сцягі і паходні»). Большасць твораў захоўваецца ў выглядзе аўтарскіх рукапісаў. Беларускія і польскія вершы Ф.Каравацкага — пераважна маналогі публіцыста і агітатара — вызначаюцца уменнем дасціпна перадаваць характэрныя рысы грамадска-палітычнай сітуацыі ў краі, дыханне часу. Паэт быў арганічна звязаны з масамі, тонка ўлоўліваў характэрныя рысы масавай свядомасці, ствараючы аб'ёмнае бачанне крызісных грамадскіх падзей, што аказаліся гістарычнымі. Для сённяшняга часу беларускія вершы Ф.Каравацкага маюць гісторыка-літаратурнае значэнне як дакументы і факты грамадска-палітычнага жыцця, як акты творчага мастацка-вобразнага рэагавання на падзеі.

*У.А.Калеснік*

## Бібліяграфія


1.3.

1926. Не заўсёды будзе так!: [Верш] / / Сялян. ніва. 7 мая / Пад псеўд. Кравацкі.

1956. Стары год пражыўшы: [Верш] / / Полымя. № 9 / Без подп.; Kartki z przeszłości / / Czer. Sztandar. Nr 218; 1957. Nr 16.

1965. «Стары год пражыўшы, жывём новы год...»: [Верш] / / Сцягі і паходні. Мн. / Без подп.

1975. Памятные годы: [Успаміны] / / Люди Нарочанского края. Мн.

1980. Важная пляцоўка: [Успаміны] / / Беларускі каляндар: 1980. Беласток.

2.3.

**На беларускай мове.** Астаневіч М. Песня рвалася з-за кратаў / / Звязда. 1967. 10 студз.; Калеснік У. Гняздо паэтаў / / Калеснік У. Зорны спеў. Мн., 1975. С. 192—203; Яго ж. Лёсам пазнанае. Мн., 1982. С. 269—283; Саламевіч І. Іскра з вогнішча / / ЛіМ. 1966. 9 снеж.

*Т.М.Махнач.*


# КАРАІЧАЎ ЛЕЎ



*Караічаў Леў Сяргеевіч (псеўд. Л.Сергіевіч Л.Сяргеевіч; н. 16.5.1936, Разань, Расія), драматург, публіцыст. Член Саюза журналістаў Беларусі з 1962, Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі з 1968. Піша на беларускай і рускай мовах.*

Бацькі Л.Караічава жылі і працавалі на Палессі, у в. Рудакова недалёка ад Хойнікаў. Па сямейных абставінах месцам яго нараджэння стаў г. Разань. Незадоўга да вайны ўся сям'я пераехала ў Мінскі раён, у 1948 — у Мінск. Пасля заканчэння сярэдняй школы № 15 (1953) Л.Караічаў працаваў

тэхнікам-канструктарам у праектным інстытуце «Белдзяржпраект» і адначасова вучыўся на вячэрнім аддзяленні будаўнічага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута (1954—60). З 1958 тэхнік-канструктар, старшы архітэктар, старшы інжынер Інстытута будаўніцтва і архітэктуры АН БССР. З 1962 кіраўнік групы тэхнічнай інфармацыі трэста «Арттэхбуд», затым працаваў у Міністэрстве будаўніцтва БССР. У 1967—76 загадчык рэдакцыі тэхнікі, будаўніцтва і спорту Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Пасля працаваў карэспандэнтам газеты «Звязда» (1976—77), рэдактарам-кінадраматургам сцэнарнай майстэрні кінастудыі «Беларусьфільм» (1977—78), супрацоўнікам часопіса «Нёман» (1980—81), загадчыкам літаратурнай часткі Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача (1983—84), карэспандэнтам газеты «Известия» па Беларускай ССР (1984—86). З 1986 на творчай рабоце.

Літаратурнай дзейнасцю Л.Караічаў займаецца з 1958. Аўтар п'ес «І выхавай сына» (паст. ў Магілёўскім абласным і інш. тэатрах), «Зорныя ночы» (ставілася ў Гродзенскім, Магілёўскім абласных тэатрах), «Цар прыроды», «І на ўсе часы», «Бацька Мінай», «Слова гонару», «Партызанскі праспект» (напісана ў 1988), «Апанаванасць» (апубл. ў 1989), п'есы-інсцэніроўкі аповесці І.Шамякіна «Гандлярка і паэт» (паст. ў Магілёўскім абласным тэатры). П'есы Л.Караічава, як правіла, «маланаселеныя», таму зручныя для выканання на сцэне. Сюжэты іх бяруцца з народнага жыцця, мова індывідуальная, канфлікты выразна акрэсленыя, аўтарская пазіцыя па-грамадзянску вострая. Напісаў некалькі інсцэніровак па празаічных творах, якія ставіліся на беларускім радыё. Аўтар шэрагу кінасцэнарыяў для аб'яднання «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм».

Жыве ў Мінску.

*Л.М.Гарэлік.*

## Бібліяграфія


I.3.

1958. Рассказ о суровых днях // Знамя юности. 27, 28 марта; Третья встреча с героями Шолохова // Там жа. 20 июня; Возвращение Марата Туйска // Там жа. 16 окт.; «Падарожжа за тры моры» // Мін. праўда. 26 крас.; Па дарогах жыцця // Чырв. змена. 6 ліп.; Дарога, якой ідзеш і ты... // Там жа. 22 ліст.; Гімн чалавеку працы // Там жа. 8 снеж.

1959. «Гадзіннік спыніўся апоўначы» // Звязда. 5 сак.; Яна ішла наперадзе // Там жа. 15 мая; Путем проторенным // Знамя юности. 25 нояб.; «Баллада о солдате» // Там жа. 11 дек.

1960. Непатрэбная ўсмешка // Звязда. 8 крас.; Час дзеяння — нашы дні // Там жа. 16 чэрв.; Растет хороший человек // Сов. Бел. 4 авг.

1961. На экране — Куба // Звязда. 24 мая; Знойдзенае і пазычанае // Там жа. 30 чэрв.; На фоне белых начэй // Там жа. 15 кастр.; Баявы васемнаццаты год...; «Справа была ў Пенькаве» // Чырв. змена. 11 студз.; Добрыя сябры ў Генадзя // Там жа. 18 ліп.

1962. Перамога дастаецца настойлівым // Звязда. 4 лют.; Не абышлося без трафарэту // Там жа. 24 чэрв.; Перамога сумлення // Там жа. 6 вер.; Гэта не павінна паўтарыцца // Там жа. 31 кастр.; Прымірымасць і непакорнасць // Там жа. 28 снеж.; Талантами земля богата // Знамя юности. 12 июля.

1963. Два спектаклі пра сучасніка // Звязда. 12 лют.; Абясцэненыя ацэнкі // Там жа. 16 крас.; Пераможцы агляду — усе // Там жа. 1 чэрв.; Апошні дзюйм надзеі // Там жа. 23 вер.

1964. Рамантыка пошукаў // Звязда. 26 сак.; Такія рассеюць змрок // Там жа. 13 кастр.; Монолог Гамлета и Варюха-Горюха // Знамя юности. 11 февр.; Баллада о солдате, вернувшемся с войны // Там жа. 8 апр.; От замысла — к воплощению // Там жа. 1 окт.

1965. Девочка, море и песни // Знамя юности. 12 февр.

1967. «Французские картинки» // Сов. Бел. 9 дек.

1971. «Беларускі ваказал» // Звязда. 12 мая.

1972. Дабро перамагае // Звязда. 28 вер.

1975. Суд сумлення // Звязда. 20 ліст. / Пад псеўд. Л.Сяргеевіч.

1976. Звяртаючыся да праблем часу // Звязда. 29 ліп.; Пранікненне ў сутнасць першакрыніцы // Там жа. 25 снеж.

1977. Сведка абвінавачвае // Звязда. 23 крас. / Пад псеўд. Л.Сергіевіч; «Зоркі для лейтэнанта» // Там жа. 29 чэрв.

1978. На скрыжаванні // Звязда. 6 студз. / Пад псеўд. Л. Сергіевіч.

1979. Цар прыроды: [Урывак з п'есы] // ЛіМ. 3 жн.

1980. Адданасць тэатру // Звязда. 6 лют.; Дваццаціголдзе народнага // Там жа. 6 чэрв.

1982. Слова гонару: П'еса // Слова гонару. Мн.; Ведаць і помніць вечна // Звязда. 12 чэрв.

1985. И на все времена: Драма в двух частях // Сучасная беларуская п'еса. Мн.

I.5.

**На рускую мову.** «...И воспитай сына»: Пьеса в 3-х д. / Пер. В.Баскина. М., 1967.

2.3.

**На беларускай мове.** Гаробчанка Т. Выпрабаванне // Чырв. змена. 1978. 17 кастр.

**На рускай мове.** Орлова Т. И воспитай сына... // Сов. Бел. 1967. 14 окт.; Петкевич А. Постижение нравственной высоты // Гродн. правда. 1977. 4 нояб.


*В.У.Смольская.*

# КАРАМАЗАЎ ВІКТАР



*Карамазаў Віктар Філімонавіч (н. 27.6.1934, Чэрыкаў Магілёўскай вобл.), празаік. Член СП Беларусі з 1969. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К.Каліноўскага (1990, за кнігу публіцыстыкі «Проста ўспомніў я цябе...»).*

Нарадзіўся ў сям'і настаўнікаў. Бацька, Філімон Сяргеевіч, больш за 50 гадоў вучыў дзяцей беларускай і рускай мове і літаратуры. Маці, Ганна Анісімаўна, была выкладчыцай пачатковых класаў. У першыя дні Айчыннай вайны сям'я Карамазавых пайшла ў бежанства на ўсход (бацька па ўзросту ў армію не прызываўся), дабралася да Волгі. Ва Ульянаўскай вобл., у в. Тургенева, бацька загадваў сямігадовай школай, маці настаўнічала, а В.Карамазаў з сястрой вучыліся. Калі Магілёўшчына была вызвалена, сям'я вярнулася ў родныя мясціны, пасялілася ў г. Крычаве. Бацька памёр у 1964, маці — пенсіянерка. У 1953 В.Карамазаў паступіў на аддзяленне журналістыкі БДУ, якое скончыў у 1958. Пасля вучобы працаваў адказным сакратаром у рэдакцыі чэрыкаўскай раённай газеты «Сацыялістычная перамога». У 1959—61 адказны сакратар крычаўскай раённай газеты «Шлях сацыялізма», у 1961—62 загадчык аддзела прамысловасці і транспарту міжраённай газеты «Новае жыццё» (Крычаў). З 1962 уласны карэспандэнт абласной газеты «Магілёўская праўда» па Крычаўскаму, Клімавіцкаму і Мсціслаўскаму раёнах. З 1964 ў рэспубліканскай газеце «Звязда», дзе спачатку быў літсупрацоўнікам, пасля загадчыкам аддзела навукі, ВНУ і школ, аддзела літаратуры і мастацтва. У 1969—71 літсупрацоўнік, загадчык аддзела культуры газеты «Літаратура і мастацтва». У 1971—81 загадваў аддзелам мастацкіх фільмаў, быў членам рэдакцыйна-сцэнарнай калегіі Белдзяржкамітэта па тэлебачанню і радыёвяшчанню. У 1982 загадчык аддзела нарыса часопіса «Полымя», з лістапада таго ж года літкансультант СП БССР. З 1986 на творчай рабоце. Як член дэлегацыі БССР прымаў удзел у рабоце 22-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА. Сябра рады СП Беларусі (з 1990). Узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны», Ганаровымі граматамі і Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Першае апавяданне В.Карамазава «Сыны» апублікавана ў 1957 у часопісе «Советская Отчизна». Першы зборнік апавяданняў «Падранак» выйшаў у 1968. У полі зроку В.Карамазава — паўсядзённыя справы і клопаты вясковага чалавека, праблемы неперспектыўных вёсак і адзінокай старасці, міграцыі сельскага насельніцтва і вяртання да вытокаў («Бярозавыя венікі», «Галуба», «Дзяльба кабанчыка», «Дзень Барыса і Глеба» і інш.). Скразным матывам праз яго творы праходзяць праблемы адносін чалавека да прыроды, іх псіхалагічнага, сацыяльнага ўзаемадзеяння. З асаблівай вастрынёй яны пастаўлены ў рамане «Пушча», дзе праз адносіны да навакольнага асяроддзя вымяраецца ідэйна-маральная сутнасць чадавека, яго духоўнасць або бездухоўнасць. Паспяхова працуе ў жанры падарожнага нарыса («Вясёлка сярод зімы», «Глядзіце ў вочы лемуру» і інш.). Аўтар рамана «Бежанцы» («Полымя». 1990. № 6, 7); аповесці «Краскі белага шляху» (Там жа. 1992. № 8, 9). Па сцэнарыю В.Карамазава зняты дакументальны тэлефільм «Ад родных ніў»(1969). У 1993 была экранізавана яго аповесць «Крыж на зямлі і поўня ў небе».

*А.С.Гурская.*

## Бібліяграфія


1.1.

Дома: Аповесці, апавяданні. Мн., 1984. (Б-ка бел. прозы).

Дзяльба кабанчыка: Выбранае. Мн., 1988.

1.2.

Падранак: Апавяданні. Мн., 1968. Рэц.: Блатун С. Вытокі дабраты // Мін. праўда. 1968. 17 жн.; Браілоўскі А. Не пераказваць — маляваць // ЛіМ. 1968. 16 ліп.; Навуменка І. Першыя крокі // Полымя. 1968. № 12; Палтаран В. Свет добрых людзей // Маладосць. 1968. № 9; Цімафееў В. З пахам траў і ветру дарог // Вяч. Мінск. 1968. 19 вер.

Гомель: [Фотаальбом]. Мн., 1971 / Аўт. тэксту на бел. і рус. мове.

Па талым снезе: Аповесць; Апавяданні; Падарожжа па Карэліі. Мн., 1973. Рэц.: Гіль М. Сярод людзей,

сярод прыроды // Полымя. 1974. № 1; Ж у к А. Чалавек на сваёй зямлі // Маладосць. 1973. № 10; М а р т и н о в и ч А. Память о первом снеге // Дружба народов. 1974. № 6; С і н е н к а Г. Свет нашага сучасніка // ЛіМ. 1973. 15 чэрв.

Спіраль: Аповесць. Мн., 1974. Рэц.: К у д р а ў ц а ў І. З поглядам на сучасніка // Беларусь. 1975. № 11.

Вясёлка сярод зімы: Падарожжы. Мн., 1978. Рэц.: Н я х а й М. Кардыяграма падарожжа сэрца // Чырв. змена. 1979. 30 кастр.

Пушча: Раман. Мн., 1979. Рэц.: Г а р а д н і ц к і Я. Зеляней, пушча! // Звязда. 1980. 2 крас.; Д з ю б а й л а П. Чалавек і прырода // ЛіМ. 1978. 10 ліст.; Д у б р о в і н М. Пушча і людзі // Родная прырода. 1980. № 5; И в а щ е н к о В. Корни и короеды // Дружба народов. 1980. № 10; М а р т и н о в и ч А. // Лит. обозрение. 1981. № 4; Я г о ж. Родная пушча // Беларусь. 1980. № 6; С а в і к Л. У пошуках гармоніі // ЛіМ. 1980. 26 вер.

Дзень Барыса і Глеба: Аповесць і апавяданні. Мн., 1981. Рэц.: Г р а м а д ч а н к а Т. З трывогай і радасцю за чалавека // ЛіМ. 1982. 1 студз.; Л а м е к а Л. Вяртанне да вытокаў // Полымя. 1983. № 5.

Глядзіце ў вочы лемуру: Аповесць-эсэ з пастскрыптумамі і вернісажам. Мн., 1989.

Проста ўспомніў я цябе...: Публіцыстычная проза, эсэ. Мн., 1989.

Крыж на зямлі і поўня ў небе: Эскізы, эцюды і споведзь Духу, альбо Аповесць-эсэ жыцця жывапісца і паляўнічага Бялыніцкага-Бірулі. Мн., 1991.

1.3.

1957. Сыновья: [Апавяданне] // Сов. Отчизна. № 3; Свой каток // Піянер Бел. 4 студз.; Піянер Вася Пляшкоў // Там жа. 25 студз.

1958. Время и люди: [Нарыс] // Сов. Отчизна. № 2.

1959. Трубач Першага курсанцкага: Быль // Маг. праўда. 8 ліп.

1960. Дні Валі Дузенка: Нарыс // Маладосць. № 11.

1961. У вагоне; Няўважлівы: Апавяданні // Маладосць. № 8; Букініч: Апавяданне // Полымя. № 4.

1962. У зялёных тонях: Апавяданне // Беларусь. № 1; След бліскавіцы: (Нарыс) // Маг. праўда. 5 чэрв.; Не магу прымірыцца: Апавяданне // Маг. праўда. 11 жн.; Цудоўны сплаў: Нарыс // Там жа. 2 вер.

1963. Майстры вечнага каменя: Рэпартаж // Голас Радзімы. № 82; І зноў будуць песні: Нарыс // Маладосць. № 11; Апошні бой генерала // Звязда. 13 вер. На старце вялікіх здзяйсненняў // Там жа. 25 снеж. / Сааўт. А.Кукарэка; Хімію — на палі і фермы // Там жа. 26 снеж. / Сааўт. А.Кукарэка; Людскімі сцежкамі: (Нарыс) // Маг. праўда. 17 сак.; Параднілiся на паклёпах: Фельетон // Там жа. 21 ліп.; Вінаваты прыбіральшчыцы // Там жа. 24 ліп.; Плытагоны: Нарыс // Маг. праўда. 7, 25 жн.; А па якому праву? // Там жа. 30 жн.

1964. Залатыя сыны ў цябе, Крычаў! // Голас Радзімы. № 19—20; Хутчэй адчыні дзверы: [Нарыс] // Звязда. 7 лют.; Песні шасці вёсен: Нарыс // Звязда. 8 крас.; Галубы над Полацкам // Там жа. 18 крас.; Слова ў абарону сасны: (Нататкі публіцыста) // Звязда. 5 чэрв.; Сустрэчы сам-насам: (Кароткія апавяданні) // Там жа. 23 вер. Жамчужына Палесся: [Рэпартаж] // Там жа. 16 кастр.

1965. Па птушыную песню: Апавяданне // Беларусь. № 4; Атакуючы пошукам: (Нарыс) // Звязда. 16 мая; Быць чалавекам: (Нарыс) // Там жа. 14 ліст. Па птушыную песню: Апавяданне // ЛіМ. 16 крас.

1966. Пад гукі карная // Голас Радзімы. № 17 / Сааўт. С.Садоўская; Злоўленыя галасы // Там жа. № 35; Ліменскі сшытак: Нарыс // Полымя. № 3; Карнай збірае сяброў // Звязда. 20 крас. / Сааўт. С.Садоўская; Даліна паэтаў // Там жа. 26 крас. / Сааўт. С.Садоўская; Горад юных майстроў // Там жа. 1 чэрв.; Чырвоны мерыдыян: (Нарыс) // Там жа. 2, 3 жн.; Крылы дае інстытут // Там жа. 30 жн.; Салдаты арміі духу // Там жа. 15 вер. / Сааўт. М.Мельнікаў; Быль пра гарніста: З успамінаў камісара // Там жа. 6 ліст.; Ява фантастыкі // Там жа. 30 ліст.; Песні і кветкі змагання // Там жа. 24 снеж.

1967. Я любіў яго: Апавяданне // Беларусь. № 12; Людзі Арлінай крыніцы // Голас Радзімы. № 5; Звязда. 8 студз.; Падранак // Голас Радзімы. № 34; Нязгаснае: Апавяданне // Маладосць. № 3; Панарама трывог і надзей // Звязда. 7 лют.; Галоўны напрамак — творчасць // Там жа. 20 крас.; Вечна жывыя вобразы // Там жа. 27 крас.; Вялікае падарожжа // Там жа. 1 мая.; Паэма пра 26-га // Там жа. 7 чэрв.; Свая сцяжына // Там жа. 25 чэрв.; Вакол «Гусарыкаў» // Там жа. 28 чэрв.; І часам траціласа духмянасць // Там жа. 1 ліп.; Падранак; Рыбачка: (Кароткія апавяданні) // Там жа. 27 ліп.; Тры гісторыі // Там жа. 15 жн.; Побач з намі // Там жа. 1 кастр.; Паміж чытачом і кнігай // Там жа. 10 снеж.; Нязгаснае: Успаміны // ЛіМ. 7 сак.

1968. Як ніхто іншы... // Наша «Звязда»: 1917—1967 гг. Мн.; Бачыць сваім зрокам // Звязда. 13 лют.; Святло схаванага колеру // Там жа. 14 лют.; Вобраз вечна жывы, любімы: У.І.Ленін у творах беларускай літаратуры і мастацтва // Там жа. 10 сак. / Сааўт. С.Садоўская; Талент мацуе сяброўства; Дыялог пабрацімаў; Свята паэзіі і белых начэй; Цёплыя сталі воды Нявы; Кранштат, ты ў нашым сэрцы!; У вянок нашай дружбы: [Карэспандэнцыі] // Там жа. 5, 6, 8, 9, 11 чэрв.; Шлях вёў праз Беларусь // Там жа. 22 вер.; Напярэдадні; Збылося!; Жанчына ішла ў рэвалюцыю...; Канец апошняга гнязда; Сцяг над Рудабелкай; За пагранічным шлагбаумам; Дарогамі змагання // Там жа. 14, 15, 16, 23, 24, 26, 29 ліст. / Сааўт. М.Васілеўскі, А.Палякоў.

1969. Калі ён побач: (Апавяданне) // Голас Радзімы. № 8; Не першы снег; Дзед: Апавяданні // Маладосць. № 11; Два апавяданні: Жаваранак; Прыліпала // Полымя. № 1; Ветэран у піянерскім гальштуку: [Нарыс] // Звязда. 15 жн.; Жаваранак: Апавяданне // ЛіМ. 7 студз.; Песні бярыце з сабою // Там жа. 4 ліст.; Штодзённы неспакой // Там жа. 18 ліст.; Сіла прыязнасці: [Апавяданне] // Наст. газ. 30 крас.

1970. Па талым снезе: Апавяданне // Полымя. № 2; І гумар едзе за мяжу // ЛіМ. 16 студз.; Сваё, блізкае... // Там жа. 20 сак.; Вясёлка сярод зімы // Там жа. 10, 24 крас., 1 мая; Яго чакалі ў Смольным // Там жа. 17 крас.; Па той бок «Безыменкі» // Там жа. 12 чэрв.; На асялку народнай мудрасці // Там жа. 31 ліп.; А песня жыве // Там жа. 21 жн.

1971. Пагоннік: Аповесць // Полымя. № 10; Тут жывуць нашы землякі // Звязда. 15 вер.; Паньгома; Нататкі // ЛіМ. 19, 26 лют.; Пахлі някошаныя лугі...: Нарыс // Там жа. 30 ліп.; Юлька: (Урывак з аповесці «Пагоннік») // Там жа. 10 вер.; З «рабочай костачкай» // Там жа. 5 ліст.

1972. Руны мараны: Нарыс // Полымя. № 2; Чырвонае вока аленіхі: Нарыс // ЛіМ. 31 сак.

1973. Бярозавыя венікі: Аповесць // Полымя. № 2; Рэц.: М а р ц і н о в і ч А. Які ён дзень заўтрашні? // Вяч. Мінск. 1973. 3 ліп.; Пачыналася лета: Фрагмент аповесці // ЛіМ. 25 мая.

1974. Спіраль: Аповесць // Полымя. № 9.

1977. Векавое: Нарыс // Полымя. № 3.

1978. Векавое: [Нарыс] // Сучаснік. Мн., Пушча: Раман // Полымя. № 7, 8, 9; Адна ноч: Урывак з рамана // ЛіМ. 16 чэрв.; Ціха жывуць паэты // Там жа. 22 вер.

1979. Калінава сіла // Полымя. № 5; Адліжным днём: (Урывак з будучай кнігі, рамана «Пушча») // Родная прырода. № 2.

1980. Мая Лімень, мая Лісань: [Нарыс] // Беларусь. № 10; Дзень Барыса і Глеба: Аповесць // Маладосць. № 11, 12. Рэц.: М а р ц і н о в і ч А. Два дні Цімафея Мурашкі // ЛіМ. 1981. 23 студз.; Зямная повязь: Нарыс // Полымя. № 6; Дзяльба кабанчыка: Апавяданне // ЛіМ. 1 жн.

1981. Зямная повязь: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Сямёнаўна: Апавяданне // Беларусь. № 6; Твары... як у людзей...: Нататкі пісьменніка // ЛіМ. 15 мая; Галуба: Апавяданне // Там жа. 5 чэрв.; Летняе пажоўклае лісце: Апавяданне // Там жа. 23 кастр.; Праз КПП сумлення: [Інтэрв'ю] // Там жа. 27 ліст.

1982. Гарадскія: Апавяданне // Полымя. № 2; Рэц.: Тычына М. Верность дороге // Лит. обозрение. 1983. № 7; Хлеб і да хлеба // Полымя. № 12; Галапагосы: Апавяданне // ЛіМ. 16 ліп.; І сейбіт, і жнец // Там жа. 22 кастр.

1983. Чалавек і ўвесь народ // Вобраз—83. Мн.; Хлеб і да хлеба: [Нарыс] // Сучаснік. Мн.; Чалавек і ўвесь народ // ЛіМ. 18 лют.; Слова з поля бою: [Рэц. на кн.: Міско Я. Маё маўклівае сэрца. Мн., 1983] // Там жа. 1 ліп.; Арыенцір ідэйнай накіраванасці // Там жа. 9 вер.

1984. Усе чатыры небасхілы: Слова пісьменніка // Беларусь. № 5; Сверяя литературу с жизнью народа // Вопросы литературы. № 12; «Проста ўспомніў я цябе...» // Полымя. № 6. Рэц.: Бур'ян Б. «Ахвота пагаварыць з Аляксеем...» // ЛіМ. 1984. 3 жн.

1985. «Проста ўспомніў я цябе...» // Сучаснік. Мн.; Жаваранак: [Апавяданне] // Твой зорны час. Мн.; Як стэп, як Дон... як свет // Полымя. № 5.

1.5.

На латышскую мову. Ubele. Stasts / Atdz. T.Rullis // Pad. Sieviete. 1982. N 4.

На польскую мову. Archipelag Galapagos / Tł. M.Putrament // Przyjaźń. 1982. Nr 29.

На рускую мову. Тепло родного очага: Повести. Мн., 1983. (Б-ка бел. повести). Рэц.: Иващенко В. Обличье прозы // Неман. 1984. № 6.

Жаворонок над полем: Повести, рассказы. М., 1981. Рэц.: Міхалевіч Д. Кнігапіс // ЛіМ. 1982. 26 ліст.; Тычына М. Верность дороге // Лит. обозрение. 1983. № 7.

Пуща: Роман / Пер. И.Киреенко. М., 1983.

Смотрите в глаза лемуру: Повесть, роман / Авториз. пер. М., 1989.

Дома: Рассказ / Пер. Д.Ковалев // Дружба народов. 1969. № 5; Прицепа: [Апавяданне] / Пер. А.Островский // Белорусские рассказы. М., 1971; Жаворонок: Рассказ // Волга. 1972. № 9; Четыре стихии Карелии / Пер. И.Сергеев // Дружба народов. 1972. № 3; Верховик: Повесть // Наш современник. 1972. № 12. Рэц.: Анискович В. Восхождение // Неман. 1974. № 5; Березовые веники: Повесть / Пер. А.Островский // Дружба народов. 1973. № 6. Рэц.: Анискович В. Восхождение // Неман. 1974. № 5; Вековечное: [Нарыс] / Пер. Б.Казаков // Неман. 1978. № 1; «Прицепа»: [Апавяданне] / Пер. А.Островский // Березы на шляху. М., 1980; Земная повязь: (Рассказ) / Пер. Т.Смолянская // Дружба народов. 1980. № 12; Спираль: (Повесть) / Пер. В.Кудинов // Неман. 1980. № 10; Погонник: [Аповесць] / Пер. А.Островский // Белорусские повести. Л., 1981; День Бориса и Глеба: (Повесть) / Пер. В.Жиженко // Неман. 1981. № 7; Земная повязь: Очерк // Судьбою связаны одной. М., 1982; Голуба: Рассказ / Пер. А.Островский // Нева. 1983. № 8; Пуща: (Роман) / Пер. И.Киреенко // Неман. 1983. № 1—3; Встреча: (Отрывок из романа «Пуща») // Ленин. знамя. 1984. 21 февр.

На славацкую мову. Prilepok / Prel. M.Sigetová // Mesačna poc. Bratislavá, 1973.

На ўкраінскую мову. День Бориса й Гліба: [Аповесць] / Пер. Г.Кулінич // Сучасна білоруська повість. К., 1984.

На чувашскую мову. Куршанак: Калав / А.Соколова кусарна // Тарна сассилле серем-шывам. Шупашкар, 1985.

2.2.

На рускай мове. Казейко А. Проблемы взаимоотношений человека и природы в современной белорусской прозе: (И.Пташников, В.Козько, В.Карамазов): Автореф. дисс.... канд. филол. н. Мн., 1987.

Судьева Н. Проблема личности в белорусской прозе конца 70-х — начала 80-х годов: На материале произведений В.Адамчика, В.Козько, В.Карамазова: Автореф. дисс.... канд. филол. н. Мн., 1988.

2.3.

На беларускай мове. Андраюк С. Жыць чалавекам. Мн., 1983. С. 36—38; Анісковіч У. Гаспадару — гаспадарыць // ЛіМ. 1975. 18 крас.; Яго ж. Ціхамірнасці скажам: «Не!» // Там жа. 1974. 11 студз.; Аношкін І. Заўжды ў пошуках: (Да 50-годдзя В.Карамазава) // Маг. праўда. 1984. 27 чэрв.; Буракова Н. Слухаючы зялёны пошум // ЛіМ. 1975. 24 кастр.; Віктару Карамазаву — 50 // Там жа. 1984. 22 чэрв.; Гігевіч В. Служэнне людзям і дабрыні // Там жа. 1984. 22 чэвр.; Дзюбайла П. Беларускі раман: Гады 70-я. Мн., 1982. С. 33—45; Яго ж. Вобраз нашага сучасніка ў беларускай прозе. Мн., 1978. С. 35—39, 89—90; Яго ж. Духоўныя далягляды героя // На арбіце часу. Мн., 1974; Яго ж. На парозе васьмідзесятых // Полымя. 1980. № 7; Яго ж. Наш сучаснік — у жыцці і літаратуры. Мн., 1984. С. 27—38, 53—54; Яго ж. Сацыяльная актыўнасць, духоўныя далягляды героя // Полымя. 1974. № 3; Яго ж. У пошуках духоўных каштоўнасцей // Там жа. 1981. № 9; Яго ж. Чалавек пярэдняга краю // ЛіМ. 1976. 6 лют.; Дуброўскі І. Не толькі разведка, але і бой // ЛіМ. 1977. 18 ліст.; Каваленка В. Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры. Мн., 1981. С. 280—281; Яго ж. Пазіцыя пісьменніка і духоўны свет героя // Полымя. 1975. № 12; Казейка А. Свет прыроды і чалавека // Беларуская літаратура. Мн., 1984. Вып. 12; Локун В. Сучасны беларускі раман // Полымя. 1983. № 12; Марціновіч А. Сіла вытокаў // Полымя. 1982. № 4; Мішчанчук М. Беларуская літаратура на сучасным этапе. 2 выд., перапрац. Мн., 1983. С. 48—55; Навуменка І. Добры пачатак // Навуменка І. Зб. тв.: У 6 т. Мн., 1984. Т. 6; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Савік Л. Адчуванне часу. Мн., 1981. С. 155—157, 169; Яго ж. Да вытокаў сучаснасці // Полымя. 1980. № 2; Яго ж. Жыццё вёскі і сучасная беларуская проза // Там жа. 1983. № 9; Яго ж. Каб не астыла цяпло зямлі. Мн., 1984. С. 45—51; Савіцкі В. Не страляйце, не падлічыўшы // ЛіМ. 1981. 3 ліп.; Сідарэвіч А. Вёска і мы // Вобраз—83. Мн., 1983. С. 72—82; Стральцоў Б. Дзесятая пяцігодка ў беларускім нарысе. Мн., 1980. С. 94—97; Стральцоў М. Вясёлка і стрэчны вецер // Маладосць. 1984. № 6; Чаркасава Д. Ад мудрасці народа... // ЛіМ. 1972. 1 вер.

На рускай мове. Егоренкова Г. Диалектика души и духовности // Неман. 1983. № 8; Его ж. Победители и побежденные // Там жа. 1982. № 1; Яго ж. Пространство и ритм сюжета // Там жа. 1979. № 12; Иващенко В. Романная мысль и структура прозы // Иващенко В. Круги надежды и добра. Мн., 1983; Из почты «Немана» // Неман. 1978. № 9; Кудравцев Е. Человек производства и литература // Там жа. 1981. № 4.

2.4.

На беларускай мове. Скрыган Я. Ненадрукаваныя апавяданні // Скрыган Я. Ранішнія росы. Мн., 1965. С. 141—143, 148—150.

*В.У.Смольская.*

# КАРАТКЕВІЧ УЛАДЗІМІР



*Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (26.11.1930, Орша Віцебскай вобл. — 25.7.1984, Мінск; пахаваны на Усходніх могілках), паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык, кінасцэнарыст. Член СП Беларусі з 1957. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І.Мележа (1983; за раман «Нельга забыць») і Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я.Коласа (1984; за раман «Чорны замак Альшанскі»).*

Нарадзіўся ў сям'і патомных інтэлігентаў. Маці, Надзея Васілеўна Грынкевіч (1893—1977), пасля заканчэння марыінскай гімназіі ў Магілёве працавала настаўніцай. Бацька, Сямён Цімафеевіч (1887—1959), быў работнікам фінансавых органаў. Вялікае ўздзеянне на будучага пісьменніка зрабіў у дзяцінстве дзядуля — бацька яго маці, які паслужыў прататыпам старога Данілы Вежы-Загорскага, аднаго з герояў рамана «Каласы пад сярпом тваім». Старэйшы брат Валерый (1918—41) загінуў на вайне. Паводле слоў маці, Валодзя «чытаць, непрыкметна для іншых, навучыўся ў тры з паловаю гады», «пісаць (а спачатку «бубніць») вершы пачаў гадоў у шэсць», «трохі пазней спрабаваў пісаць апавяданні, прычым абавязкова іх ілюстраваў». Ужо ў дзяцінстве выявілася рознабаковасць таленту У.Караткевіча. Ён добра маляваў. Маючы абсалютны слых, наведваў музычную школу, іграў у «Рэвізоры» Добчынскага. Вайна застала хлопчыка ў Маскве, куды ён прыехаў у госці да сястры, якая там вучылася. Доўгі час не ведаў, дзе бацькі. Трапіў на Разаншчыну, потым на Урал, у наваколле Кунгура. Некалькі разоў уцякаў з інтэрната на фронт. Яго затрымлівалі, вярталі назад. З вялікімі цяжкасцямі дабраўся да бацькоў у Арэнбург. Скончыў там шосты клас. Потым трапіў у вызвалены Кіеў, жыў у цёткі. У 1944 разам з бацькамі вярнуўся ў Оршу. Вучыўся ў школе, уздымаў з руін родны горад. Як і многія аднагодкі, пісаў вершы. Некаторыя з іх і прыгодніцкая аповесць «Загадка Неферціці» з'явіліся ў школьным рукапісным часопісе «Званочак». У 1949—54 вучыўся на філалагічным факультэце Кіеўскага універсітэта. У пачатку 50-х гадоў свае раннія творы даслаў для ацэнкі Я.Коласу. Пра сур'ёзнасць і шматграннасць яго навуковых інтарэсаў сведчаць напісаныя ў той час працы: «Багдановіч і сучаснасць», «Моўная стыхія Пушкіна», «Цёмныя месцы «Слова», «Беларускія і ўкраінскія школьныя драмы» і інш. Універсітэт скончыў з адзнакай, здаў кандыдацкі мінімум і пачаў пісаць дысертацыю пра паўстанне 1863 г. У 1954—56 працаваў настаўнікам у вёсцы Лесавічы, што на Кіеўшчыне. Пераехаў у Оршу, дзе ў 1956—58 настаўнічаў. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя (1960) і сцэнарныя (1962) курсы ў Маскве. З 1963 у Мінску. Быў нястомным вандроўнікам. Шмат падарожнічаў па Беларусі і за яе межамі, два разы быў у Польшчы, тры — у Чэхаславакіі. У 1967 у Брэсце на чытацкай канферэнцыі па раману «Каласы пад сярпом тваім» (раман прысвяціў сваёй маці) пазнаёміўся з выкладчыцай Брэсцкага педінстытута Валянцінай Браніславаўнай Нікіцінай (1934—1983), сваёй будучай жонкай. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.

Першыя вершы У.Караткевіча «Тут будзе канал» і «Якубу Коласу» надрукаваны ў 1951 у аршанскай раённай газеце «Ленінскі прызыў» (адзін на рускай мове, другі — на беларускай). У 1955 апублікаваны яго нарыс «Вязынка» і верш «Машэка». Гэта падзея, паводле прызнання пісьменніка, пераламіла яго лёс. У беларускіх перыядычных выданнях пачалі друкавацца яго вершы, якія заўважыла і высока ацаніла крытыка. Былі, праўда, і нападкі: у шэрагу матэрыялаў, змешчаных у 1957 у газеце «Ленінскі прызыў», яго вершы асуджаліся, асабліва на гістарычную тэму. Вершы былі першымі друкаванымі творамі пісьменніка, а паэтычныя зборнікі «Матчына душа» і «Вячэрнія ветразі» — першымі яго кнігамі. У 1969 ён выдаў арыгінальны зборнік паэзіі «Мая Іліяда». Прыкметнай з'явай у беларускай літаратуры стала і апошняя яго паэтычная кніга «Быў. Ёсць. Буду», якая выйшла пасля яго смерці. У.Караткевіч — яркі і таленавіты беларускі паэт. Яго паэзія вызначаецца рамантычнай узнёсласцю і грамадзянскай страснасцю, асацыятыўнай вобразнасцю і глыбінёй зместу, пранікнёным лірызмам і філасафічнасцю, патрыятычным пачуццём і гуманістычнай скіраванасцю («Партызанская балада», «Заяц варыць піва», «Калумбы зямлі нязнаемай», «Матчына душа», «Гусі-лебедзі ў лугах зялёных», «Дзіва на Нерлі», «Трызненне мужыцкага Брэйгеля», «Беларуская песня», «Таўры», «Скарына пакідае радзіму», «Фантазія», «Безгаловая Венера» «Быў. Ёсць. Буду» і інш.).

Шырокае прызнанне як на Беларусі, так і далёка за яе межамі прынесла У.Караткевічу яго проза. У

1957 ён напісаў аповесць «У снягах драмае вясна», у якой адлюстраваў студэнцкае жыццё пачатку 1950-х гадоў, у 1958 — аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» — адзін з самых вядомых твораў пісьменніка. Звяртаючыся да падзей беларускай гісторыі 1880-х гадоў, робячы экскурсы ў больш раннія часы, аўтар асудзіў у гэтым гістарычным дэтэктыве сацыяльны прыгнёт, тыранію, уціск і дэспатызм і адначасова паставіў пытанні аб прызначэнні чалавека, аб сутнасці яго жыцця і любові да радзімы, паказаў вялікае, прыгожае і чыстае каханне. Падчас вучобы на Вышэйшых літаратурных курсах, якія, як сведчыў пісьменнік, шмат далі яму «самой сваёй атмасферай, глыбінёй спрэчак, сяброўствам, шырынёй далягляду», ён напісаў некалькі апавяданняў і гістарычную аповесць «Сівая легенда». Разам з напісанай раней аповесцю «Цыганскі кароль» яны склалі першую яго кнігу прозы «Блакіт і золата дня». У Маскве быў задуманы і першы раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі», які пад назвай «Нельга забыць» надрукаваны ў 1962 ў часопісе «Полымя». Планавалася выданне аднайменнай кнігі, куды павінна была ўвайсці і аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». Але набор гэтай кнігі быў рассыпаны восенню 1963 (асобнай кнігай раман выйшаў толькі праз 20 гадоў). У рамане «Нельга забыць» сцвярджаецца думка пра непарыўнасць повязі часоў, раскрываецца прыгажосць і непаўторнасць інтымнага пачуцця, выяўляюцца інтэлектуальныя і духоўныя пошукі творчай інтэлігенцыі. У 1962—64 створаны раман «Каласы пад сярпом тваім». Задума напісаць твор пра паўстанне 1863—64 на Беларусі і ў Літве пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага ўзнікла на пачатку 1950-х гадоў. Меркавалася стварыць тры кнігі, дзе апісваліся б адпаведна пярэдадзень паўстання, само паўстанне, яго паражэнне і вынікі. Пісьменнік завяршыў толькі першую кнігу. Да паўстання 1863—64 У.Караткевіч выяўляў асаблівую цікавасць, аб чым сведчаць яго апавяданні «Паляшук», «Сіняя-сіняя...», пралог да рамана «Нельга забыць», драмы «Кастусь Каліноўскі», «Калыска чатырох чараўніц» і многія вершы. Выключная ўвага мастака да падзей таго часу абумоўлена іх значнасцю ў гісторыі Беларусі, а таксама тым, што ў сям'і пісьменніка захавалася памяць пра родзіча, аднаго з кіраўнікоў паўстання на Магілёўшчыне Тамаша Грыневіча, які быў расстраляны ў Рагачове. Гэты факт пакладзены ў аснову пралога да рамана «Нельга забыць». Раман «Каласы пад сярпом тваім» займае цэнтральнае месца ў творчасці пісьменніка. Гэта, па сутнасці, першы беларускі гістарычны раман. У ім створана шырокая панарама народнага жыцця, перададзена грамадская атмасфера напярэдадні паўстання 1863—64. Раман прыхільна сустрэлі крытыка і чытачы, хоць былі і значныя цяжкасці з яго выданнем, а у друку змяшчаліся адмоўныя ацэнкі твора. Асаблівая заслуга У.Караткевіча ў стварэнні высокамастацкай беларускай гістарычнай прозы, дзе ім узняты шырокія пласты нацыянальнай гісторыі, створаны жыццёвыя характары, раскрыты багаты духоўны свет герояў, якія звязалі свой лёс з лёсам народа. Гэтыя творы вызначаюцца рамантычнай акрыленасцю і жыццёвай дакладнасцю, мастацкай культурай і патрыятычным пафасам, незвычайнай пазнавальнасцю і гуманістычным зместам. Роля У.Караткевіча ў беларускай літаратуры такая, як В.Скота ў англійскай ці Г.Сянкевіча ў польскай. Відаць, у маі-верасні 1964 была напісана аповесць «Зброя» (апублікавана ў 1981) — гнеўная, выкрывальная сатыра на самадзяржаўна-прыгонніцкі лад Расіі 1850-х гадоў, тэматычна звязаная з раманам «Каласы пад сярпом тваім». Сам пісьменнік адзначаў, што гэта не працяг рамана, а яго адгалінаванне. У 1965—66 створаны раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (апублікаваны па-беларуску ў 1972), прысвечаны падзеям беларускай гісторыі 16 ст. Пісьменнік звярнуўся да факту, адзначанага ў старажытных беларускіх хроніках, і стварыў гісторыю бадзягі, які «воляй лёсу быў названы Хрыстом, вымушаны быў рабіць «цуды» і, урэшце, узначаліў паўстанне супраць царквы і караля». Раман займае адметнае месца ў беларускай літаратуры. Калі ж шукаць аналогіі ў сусветнай літаратуры, то па ідэйна-мастацкіх асаблівасцях яго можна суаднесці з «Гарганцюа і Пантагруэлем» Ф.Рабле, «Легендай пра Уленшпігеля» Ш. дэ Кастэра, «Кала Бруньёнам» Р.Ралана, «Майстрам і Маргарытай» М.Булгакава. У.Караткевіч пераканаўча паказаў, што і на беларускай нацыянальнай глебе ёсць постаці тыпу Тыля Уленшпігеля. Яны выяўляюць дух Беларусі, нязломны і непераможны народны характар. Пісьменнік арыгінальна асэнсаваў падзеі гістарычнай даўніны, прыгодніцкі сюжэт напоўніў сацыяльна-філасофскім і псіхалагічным зместам. У.Караткевіч збіраўся напісаць 15-томную серыю «Век», а ўсяго планаваў 78 тамоў прозы.

Багаты матэрыял для твораў давалі пісьменніку шматлікія падарожжы. У жніўні-верасні 1965 ён праходзіў зборы на Ціхаакіянскім флоце ў газеце «Боевая вахта». Пасля паездкі на Далёкі Усход з'явілася аповесць «Чазенія», у якой У.Караткевіч выявіў зайздросныя веды ў галіне прыродазнаўчых навук. Пісьменнік валодаў бездакорным мастацкім густам, глыбока і грунтоўна ведаў як айчынную, так і сусветную гісторыю і культуру. Плённа развіваючы нацыянальныя літаратурныя традыцыі, ён абапіраўся ў сваёй творчасці і на вопыт іншых літаратур. Ствараючы гістарычныя ці дэтэктыўныя творы, імкнуўся пашырыць ідэйна-тэматычныя і жанрава-стылявыя даляглялы беларускай літаратуры, абудзіць патрыятычныя пачуцці, выклікаць цікавасць да беларускай гісторыі і беларускага мастацкага слова. Гуманістычным і патрыятычным зместам прасякнуты раман «Чорны замак Альшанскі». У.Караткевіч імкнуўся раскрыць тут не прыватную і займальную гісторыю, што здарылася з яго героем, а паспрабаваў выявіць повязь мінулага з сучасным, раскрыць жыццё ў яго складанасці і супярэчлівасці, сцвердзіць думку пра непераможнасць і ўсемагутнасць дабра і чалавечнасці.

Талент пісьменніка дасканала раскрыўся ў яго апавяданнях. У іх па-майстэрску намаляваны бясконцая вадзяная роўнядзь веснавой паводкі на Палессі і нараджэнне шчырага і чыстага пачуцця паміж героямі («Блакіт і золата дня»), раскрыты трагедыя і нязломнасць беларускага народа ў 1880-я гады («Сіняя-сіняя...», «Кніганошы»), асуджаны тыранія і дэспатызм Сталіна і грамадскага дзеяча старажытнага Кітая Шан Яна («Маленькая балерына», «Вялікі Шан Ян»). Яшчэ ў студэнцкія гады У.Караткевіч збіраў вуснапаэтычную народную творчасць, апрацоўваў і пісаў для дзяцей казкі. Асобныя з іх увайшлі ў зборнік «Казкі».

Плённа працаваў У.Караткевіч і як драматург. У 1957 напісаў п'есу «Млын на Сініх Вірах» (апубл. ў 1988) пра падзеі часоў Вялікай Айчыннай вайны (паст. ў 1959 на Беларускім тэлебачанні). Напісаная ў 1959—60 п'еса «Трошкі далей ад Месяца» прысвечана рэчаіснасці канца 1950-х гадоў, лёсу

чалавека, які вярнуўся дамоў пасля беспадстаўных рэпрэсій (не друкавалася). У 1978 Віцебскім тэатрам пастаўлена яго п'еса «Кастусь Каліноўскі» (вядома каля дзесяці варыянтаў гэтага твора, адзін з ранніх называўся «Руна пра Кастуся»). Да 1000-годдзя Віцебска з'явілася драма «Званы Віцебска» (паст. ў 1974 Віцебскім тэатрам), у якой аўтар звярнуўся да Віцебскага паўстання 1623. 100-годдзю з дня нараджэння Я.Купалы прысвяціў У.Караткевіч п'есу «Калыска чатырох чараўніц» (1981, паст. ў 1982 Мінскім тэатрам юнага гледача), у якой драматург паказаў дзіцячыя і юнацкія гады беларускага песняра. Прыкметную цікавасць выявіў У.Караткевіч і да Крычаўскага паўстання 1743—44: у сакавіку 1956 напісаў пра яго легенду «Маці ветру», у 1982 закончыў драму «Маці ўрагану» (паст. ў 1988 Мінскім аматарскім тэатрам «Золак»).

Прыкметны след пакінуў У.Караткевіч у публіцыстыцы і літаратурнай крытыцы. Мастацкай энцыклапедыяй Беларусі стаў яго нарыс «Зямля пад белымі крыламі» (спачатку выйшаў ў Кіеве на ўкраінскай мове, потым у Мінску на беларускай). У ёй пісьменнік з любоўю і цеплынёй расказаў пра Беларусь і яе народ, беларускую гісторыю і культуру. Аўтар шматлікіх нарысаў і эсэ. У творчай спадчыне У.Караткевіча захаваліся малюнкі, а таксама ілюстрацыі да ўласных твораў. На самым пачатку творчага шляху звярнуўся ён і да мастацкага перакладу. Аддаваў перавагу паэтам-рамантыкам, выказваў прыхільнасць галоўным чынам да духоўна блізкіх аўтараў, творчасць якіх прасякнута патрыятычным і грамадзянскім пафасам. Ён узнавіў па-беларуску паэзію В.Катула, Дж.Байрана, А.Міцкевіча, І.Франка, Я.Судрабкална, Б.Мацкявічуса і інш., драмы грэчаскага пісьменніка П.Антэаса «Праметэй перад трыбуналам», А.К.Талстога «Цар Фёдар Іаанавіч» і інш. Аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў «Сведкі вечнасці» (1964), «Памяць» (1966), «Будзь шчаслівай, рака» (1967), мастацкага «Чырвоны агат» (1973) і інш. На студыі «Беларусьфільм» па яго сцэнарыях пастаўлены мастацкія фільмы «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка» (1967, па раману «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»), «Дзікае паляванне караля Стаха» (1979, сааўт. сцэнарыя В.Рубінчык), «Чорны замак Альшанскі» (1984, сааўт. сцэнарыя М.Пташук), «Маці ўрагану» (1990). На рэспубліканскім тэлебачанні інсцэнізаваны яго апавяданне «Сіняя-сіняя...» і аповесць «Лісце каштанаў». Рэспубліканскім радыё па яго творы пастаўлены радыёспектакль «Паром на бурнай рацэ» (1982), на студыі «Беларусьфільм» створаны аднайменны мастацкі фільм (1989). У Гомельскім абласным тэатры ставілася п'еса паводле легенды «Ладдзя Роспачы». Па лібрэта У.Караткевіча Д.Смольскім напісана опера «Сівая легенда» (паст. ў Беларускім тэатры оперы і балету ў 1978). Паводле яго аповесці У.Солтанам створана опера «Дзікае паляванне караля Стаха» (паст. ў Беларускім тэатры оперы і балета ў 1989, Дзяржаўная прэмія Беларусі 1990). Пра У.Караткевіча створаны дакументальныя фільм «Быў. Ёсць. Буду» (1989), відэафільмы «Успамін» і «Рыцар і слуга Беларусі» (усе 1991). Творы пісьменніка перакладзены на многія мовы.

Імем У.Караткевіча названы вуліцы у Віцебску і Оршы, яго імя носіць школа № 3 у Оршы, дзе адкрыты літаратурны музей У.Караткевіча. Мемарыяльныя пакоі-музеі пісьменніка створаны ў інтэрнаце мінскага завода «Інтэграл» і ў інтэрнаце маладзечанскіх будаўнікоў. На доме № 36 па вул. К.Маркса, дзе жыў пісьменнік у апошнія гады, а таксама на доме ў Оршы, дзе ён жыў у 1956—58, устаноўлены мемарыяльныя дошкі, на магіле і ў Оршы — помнікі. Яго імем названы Фонд дапамогі маладым пісьменнікам, прэмія выдавецтва «Мастацкая літаратура».

*А.Л.Верабей.*

## Бібліяграфія


1.1.

Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1987—1991. Т. 1. Вершы; Паэмы. Мн., 1987; Т. 2. Аповесці; Апавяданні; Казкі. Мн., 1988; Т. 3. Нельга забыць: Раман; Аповесці. Мн., 1988; Т. 4. Каласы пад сярпом тваім: Раман. Кн. 1. Мн., 1989; Т. 5. Каласы пад сяпом тваім: Раман. Кн. 2; Зброя: Аповесць. Мн., 1989. Т. 6. Хрыстос прызямліўся ў Гародні: (Евангелле ад Іуды): Раман. Мн., 1990. Т. 7. Дзікае паляванне караля Стаха: Аповесць; Чорны замак Альшанскі: Раман. Мн., 1990. Т. 8. Кн. 1. П'есы; Нарыс. Мн., 1990. Т. 8. Кн. 2. З жыццяпісу: Нарысы. Эсэ. Публіцыстыка. Постаці. Крытыка. Інтэрв'ю. Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1991.

З вякоў мінулых: Апавяданні, аповесці. Мн., 1978. (Б-ка бел. прозы).

Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1980. Т. 1. Апавядянні; Аповесці; Т. 2. Хрыстос прызямліўся ў Гародні: (Евангелле ад Іуды): Раман. Рэц.: Ганчароў У. Праз церні да зорак // ЛіМ. 1981. 5 чэрв.

1.2.

Матчына душа: Вершы. Мн., 1958. Рэц.: Колесник В. Душа поэта // Дружба народов. 1959. № 8; Кудраўцаў І. Маладыя галасы // Полымя. 1959. № 1; Шкраба Р. Свет паэта // Беларусь. 1959. № 2.

Вячэрнія ветразі: Вершы і паэмы. Мн., 1960. Рэц.: Кудраўцаў І. Другое спатканне з чытачом // Полымя. 1961. № 5; Лойка А. Выхаванне таленту // Маладосць. 1961. № 7; Скапараў І. Бліжэй да жыцця, да сучаснасці // ЛіМ. 1961. 10 лют.

Блакіт і золата дня: Апавяданні і аповесці. Мн., 1961. Рэц.: Гапава В. Лірычнае натхненне празаіка // ЛіМ. 1962. 29 чэрв.; Клюсаў Б. Проза паэта // Маладосць. 1961. № 12.

Каласы пад сярпом тваім: Раман: У 2 кн. Мн., 1968. Рэц.: Андраюк С. Трагедыя і слава // Маладосць. 1969. № 11; Кісялёў Г. Шматпланавы гістарычны раман // Полымя. 1969. № 12; Клімковіч С. «Каласы пад сярпом тваім» // Голас Радзімы. 1969. № 32; Климкович С., Письменная И. И станут зерна хлебом... // В мире книг. 1974. № 10; Fornalczyk F. Polsko-białoruska epopeja Karatkiewicza // Życie Lit. 1975. 2 czerw.

Мая Іліяда: Вершы. Мн., 1969. Рэц.: Гаўрусёў С. Паўната сталай сілы // ЛіМ. 1970. 13 сак.; Шпакоўскі Я. Лірыка шырокага дыхання // Маладосць. 1970. № 8; Ялон М. Радость поэта — радость читателя // Знамя юности. 1971. 8 июля; Ярош М. Добры плён пошукаў // Полымя. 1970. № 2.

Чазенія: Апавяданні і аповесць. Мн., 1970. Рэц.: Андраюк С. На рамантычнай хвалі // Полымя. 1971. № 5; Nieuważny F. «Czozenia» czyli białoruski poemat prozą o pięknie człowieka // Przyjaźń. 1971. Nr 5.

Хрыстос прызямліўся ў Гародні: Евангелле ад Іуды: [Раман]. Мн., 1972. Рэц.: Журавлев И. «Христос» против Христа // Гродн. правда. 1973. 13 марта.

Белавежская пушча: [Фотаальбом]. Мн., 1973 / Аўт.

тэксту. Бел., рус., англ.
Вока тайфуна: Апавяданні і аповесці. Мн., 1974.
Белавежская пушча. Мн., 1975.
Казкі. Мн., 1975.
Зямля пад белымі крыламі: Нарыс. Мн., 1977. Рэц.: К а л е н к о в и ч И. Сказание о Белоруссии // Заря. 1978. 15 марта. 2 выд. Мн., 1992.
Каласы пад сярпом тваім: Раман: [У 2 кн.]. Мн., 1981. (Шк.б-ка). Рэц.: С е к у ш э н к а Г. Кнігапіс // ЛіМ. 1981. 16 кастр.
Нельга забыць: Раман амаль што сентыментальны. Мн., 1982. Рэц.: А с т р а ў ц о ў С. З пашанай да памяці продкаў // ЛіМ. 1984. 18 мая; Т ы ч ы н а М. Выпрабаванне часам // Полымя. 1983. № 11.
Чорны замак Альшанскі: Раман, аповесць. Мн., 1983. Рэц.: А с т р а ў ц о ў С. З пашанай да памяці продкаў // ЛіМ. 1984. 18 мая; П о й м а н а в а Г. Дабро застаецца назаўсёды // Маладосць. 1984. № 7; Ф а м і ч У. // ЛіМ. 1984. 19 лют.; Ш ы н к а р э н к а В. Клопат пра будучыню // Полымя. 1984. № 8.
Мсціслаў—Мстиславль: Эсэ пра гісторыю і людзей адной зямлі. Мн., 1985 / Бел., рус.
Быў. Ёсць. Буду: Кніга паэзіі. Мн., 1986.
Старыя беларускія хронікі: П′есы. Мн., 1988.
У снягах драмае вясна: Аповесць. Мн., 1989.
З вякоў мінулых: Апавяданні, аповесці. Мн., 1990. (Шк. б-ка).
Чазенія: Аповесць, п′еса, апавяданні. Мн., 1992. (Шк. б-ка).
1.3.
1955. Вязынка: [Успаміны] // Янка Купала. Мн.; Машэка: [Верш] // Полымя. № 7.
1956. Орша; Заяц варыць піва: [Вершы] // Полымя. № 3; Балада пра паўстанца Ваўкалаку; «Стаю ўначы ў завіруху...»: [Вершы] // Там жа. № 9.
1957. Бацькаўшчына; Ялінка; Рута ў халоднай расе: [Вершы] // Маладосць. № 1; Вясна: [Верш] // Там жа. № 4; Вадарод; Як размаўляюць звяры і птушкі; Гісторыя з першым каханнем; Песня шафёра; Праменьчык; Сырцовыя цагліны; Лісце: [Вершы] // Полымя. № 7; Спадарожніку Зямлі: [Верш] // Там жа. № 12; Рыбы ў падводных лясах: [Верш] // ЛіМ. 1 мая; Вадарод: [Верш] // Ніва. 11 жн.; Сплятайце рукі!: [Верш] // Чырв. змена. 30 чэрв.; У тую ноч: [Верш] // Там жа. 11 вер.
1958. Орша; Спадарожніку Зямлі; Праменьчык: [Вершы] // Дзвіна (Віцебск). № 1; На радзіме: [Верш] // За вярт. на Радзіму. № 30; Маладосць. № 4; Партызанская балада; На пачатку дарог: [Вершы] // Полымя. № 2; Дзень першы: [Верш] // Там жа. № 12.
1959. Бацькаўшчына: [Верш] // За вярт. на Радзіму. № 47; Балада пра смяротнікаў; Баявыя вазы; Вячэрнія ветразі: [Вершы] // Маладосць. № 3; Месяц над млынам: [Верш] // Полымя. № 4; Буслы вучаць дзяцей: [Верш] // Там жа. № 10; Пад зялёнымі шатамі паркаў: Нарыс // ЛіМ. 10 чэрв. / У сааўт.; Замарожаныя мільёны // Там жа. 24 мая / У сааўт.; Якім шляхам ісці? // Там жа. 26 жн.; «Як стажары ў небе заззялі...»: [Верш] // Чырв. змена. 22 сак.
1960. Дзяўчаты: [Верш] // Голас Радзімы. № 49; Я сумую...: [Верш] // Там жа. № 85; Ленін калыша дзіця: [Верш] // Маладосць. № 4; У шалашы: Апавяданне // Там жа. № 5; Дзяўчаты; Чайка; «О, мой цудоўны край...»; «Месяц заснуў на коміне хаты...»; Мімозы: [Вершы] // Там жа. № 6; Чайка: [Верш] // Ніва. 10 ліп.
1961. Заяц варыць піва; Балада пра паўстанца Ваўкалаку; Партызанская балада: [Вершы] // Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 3; Каўчэг: Апавяданне // Полымя. № 1; Раман Ракута: Легенда // Там жа. № 4; Нявесце Кастуся Каліноўскага: [Верш] // Там жа. № 5.
1962. Партызанская балада; «Трагеды не знікнуць...»: [Верш] // Слаўце Радзіму. Мн.; Пакуль гэта сэрца б′ецца // Маладосць. № 7; З любоўю да чалавека: [Рэц. на кн.: Н а ў р о ц к і А. Неба ўсміхаецца маланкаю. Мн., 1962] // Там жа. № 12; Вуліца касманаўтаў: [Верш] // Полымя. № 3; Нельга забыць: Раман // Полымя. № 5, 6. Рэц.: Б р а н д о б о в с к а я Л. Время, люди, верность // Знамя юности. 1962. 2 окт.; Г е р ц о в і ч Я. Пошукі, знаходкі, страты // Звязда. 1962. 22 ліст.; М а л ь д з і с А. Права мастака // ЛіМ. 1962. 17 ліп.; Кніганошы: Навела // Полымя. № 12.
1963. Здратаваныя магілы; Жаўранак — звонкая ніць: [Вершы] // Маладосць. № 5; Казкі янтарнай краіны: Нарыс // Полымя. № 2; ...Будзе свой сярод чужых: [Рэц. на кн.: Б а й р а н Д.Г. Выбранае. Мн., 1963] // Там жа. № 10; Студзеньскім цёмным світаннем: Раздзел з рамана «Каласы пад сярпом тваім» // ЛіМ. 1 лют.; Прывіды знікаюць: Раздзел з аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» // Там жа. 26 лют.
1964. Гэта было 10-га сакавіка 1864 года...: Да стагоддзя з дня смерці Кастуся Каліноўскага // Беларусь. № 3; Сіняя-сіняя...: Апавяданне // Там жа. № 9; І будуць людзі на зямлі: Эсэ // Маладосць. № 3; Дзікае паляванне караля Стаха: Аповесць // Там жа. № 9—12. Рэц.: Г е р ц о в и ч Я. Судьбы человеческие и судьбы народные // Сов. Бел. 1965. 9 сент.; «Бетховен б′е ў далоні...» // Полымя. № 9; Белавежскі алень: [Верш] // Заря. 24 мая.
1965. Чорная балада Гаркушы; Балады каменя // Дзень паэзіі—65. Мн.; Песня з Паўночных Афін: Эсэ // Маладосць. № 9; Каласы пад сярпом тваім: Раман // Полымя. № 2—6. Рэц.: Г е р ц о в и ч Я. Судьбы человеческие и судьбы народные // Сов. Бел. 1965. 9 сент.; М а л ь д з і с А. Праўда мастацкая і праўда гісторыі // ЛіМ. 1965. 6 жн.; Людзям простым к дабраму навучанню // Ніва. 14 сак.; «О, вясна! Тапалі! Свеце мілы!..»; «Усё, што было, і ўсё, што часам сніцца...»; Цюляня; «Падымаюць жоўтыя галовы...»: [Вершы] // Там жа. 25 крас.; Люблю тебя, Вильнюс // Сов. Литва. 24 июля.
1966. Карадаг; Трасцянец; Безгаловая Венера: [Вершы] // Дзень паэзіі—66. Мн.; Дарога, якую прайшоў // Пра час і пра сябе. Мн.; Слова беларускай бярозы; Раманс Марылі; І сніў Адам...: [Вершы] // Беларусь. № 2; Крэсіва, іскры, агонь: [Рэц. на кн.: З у ё н а к В. Крэсіва. Мн., 1966] // Маладосць. № 8; Летапісец: Да 75-годдзя з дня нараджэння М.Багдановіча // Там жа. № 12; [Уступнае слова да твораў А.Міланава] // Полымя. № 5; Крокі ўначы; Маленне да бога рэк; «Бацькі з магіл цяплом дыхнулі...»: [Вершы] // Там жа. № 10; Слова беларускай бярозы: [Верш] // ЛіМ. 8 лют.; Трасцянец: [Верш] // Ніва. 13 сак.; «Бацькі з магіл цяплом дыхнулі...»: [Верш] // Там жа. 10 крас.; Балада аб нашэсцях // Там жа. 24 крас.
1967. Каўчэг: [Апавяданне] // Анталогія беларускага апавядання: У 2 т. Мн. Т. 2; Горад паўстае: [Нарыс] // Горад і годы. Мн. / Сааўт. А.Мальдзіс; Каложа: [Верш] // Беларусь. № 2; Дзень першы: [Верш] // Голас Радзімы. № 1; Трасцянец: [Верш] // Там жа. № 41; Чазенія: Паэма // Маладосць. № 2, 3. Рэц.: Б о г д а н о в а З. Человек среди людей // Молодая гвардия. 1967. № 12; Мой друг і мая зямля // Маладосць. № 8; Экзамен в Падуе // Неман. № 8; Землятрус: [Верш] // Полымя. № 7; ЛіМ. 11 ліп.; Земля под белыми крыльями // Коммунист Таджикистана. 27 марта; Правда Востока. 7 февр.; «Рша камен...» // ЛіМ. 4 ліп.; Людзям простым для добрага навучання // Ніва. 6 жн.; Твой зорны шлях // Чырв. змена. 25 чэрв.
1968. «У векавечнай бацькаўшчыне клёны...»; Заяц варыць піва: [Вершы] // Ад родных ніў, ад роднай хаты. Мн.; А бадай вам цікава было // З рога ўсяго многа: Беларускія народныя казкі. Мн.; «Калі на зямлі ёсць казачныя краіны...» // Краявіды Беларусі. Мн. / Бел., рус., англ.; Бацькаўшчына; Лісце: [Вершы] // Слова аб роднай прыродзе. Мн.; «Я іду лугавою дарогай...»: [Верш] // Беларусь. № 2; Заяц варыць піва: [Верш] // Голас Радзімы. № 10; «У векавечнай бацькаўшчыне клёны...»: [Верш] // Там жа. № 18; «Яна не блішчыць красою...»: [Верш] // Там жа. № 38; Дуб крывашапкі: Эсэ // Маладосць. № 12; Аўтару «Вянка» // ЛіМ. 11 чэрв. / Сааўт. А.Мальдзіс; Дуб крывашапкі: Урывак // Там жа. 10 снеж.
1969. Дзень першы; Вячэрнія ветразі; Партызанская балада; Паўлюк Багрым; Заяц варыць піва: [Вершы]

А.Мясніковым; Н а ш ы агульныя задачы / / Там жа. 1975. 20 мая / Зап.; С м і р н о ў С. Мая галоўная тэма — подзвіг народа / / Там жа. 1975. 4 чэрв. / Зап. 2.3.

На беларускай мове. А ў д з е е ў І. Зямныя крокі касманаўта / / Чырв. змена. 1981. 17 чэрв.

На рускай мове. Г н и л о м е д о в В. Ощущение жизни / / Катюшенко М. Один дождь на всех. М., 1985.

*М.П.Барташэвіч.*

# КАШТАНАЎ АРНОЛЬД



*Каштанаў (сапр. Э п ш т э й н ) Арнольд Львовіч (н. 21.12.1938, г. Валгаград), празаік. Член СП Беларусі з 1975. Піша на рускай мове.*

Нарадзіўся ў сям'і рабочага. У час вайны сям'я эвакуіравалася ў г. Чалябінск, потым у Маскву. У 1949 пераехала на пастаяннае жыхарства ў Мінск. Бацька, Леў Самойлавіч, працаваў майстрам на Мінскім трактарным заводзе, маці — у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У.І.Леніна. У 1956 А.Каштанаў скончыў сярэднюю школу, у 1961 — Маскоўскі аўтамеханічны інстытут. З 1961 працаваў інжынерам-ліцейшчыкам, з 1965 старшы інжынер на Мінскім трактарным заводзе. З 1976 на творчай рабоце.

Першая аповесць А.Каштанава «Чаго ты хочаш, хлопец?» апублікавана ў 1966. Друкуецца на старонках часопісаў «Неман», «Новый мир». У літаратуру прыйшоў з даволі багатым жыццёвым вопытам, веданнем рабочага асяроддзя і праблем вытворчасці. У творах паказвае побыт і працу рабочага класа (“Заводскі раён“, «Начны вартаўнік», «Карабейнікі»). Піша таксама сцэнарыі мастацкіх фільмаў (“Час яе сыноў“, паст. ў 1975), тэлефільмаў (“Інжынер Антаніна Брагіна“, паст. ў 1978).

У 1991 выехаў у Ізраіль.

*Л.С.Савік.*

## Бібліяграфія

1.2.

Заводской район: Повесть. Мн., 1976.

Мой дождь: Повесть и рассказы. Мн., 1982. Рэц.: М а р ц і н о в і ч А. Гэты знаёмы... заводскі раён / / ЛіМ. 1982. 26 ліст.

Коробейники: Повести. М., 1985.

Эпидемия счастья: Повести и рассказы. Мн., 1986.

Лучшие годы: Повести, рассказы. Мн., 1988.

1.3.

1966. Чего ты хочешь, парень?: (Повесть) / / Неман. № 1, 2.

1973. Заводской район: Повесть / / Новый мир. № 7, 8.

1974. Белые дома Толочи: [Апавяданне] / / Новый мир. № 5.

1979. Ночной сторож: Четыре рассказа о Шубиных / / Неман. № 7.

1981. Человек производства и литература: (Читательская конференция на МТЗ) / / Неман. № 4.

1984. Другой человек: (Повесть) / / Новый мир. № 11.

1985. Петр и Лиза: (Повесть) / / Неман. № 1.

1.5.

На балгарскую мову. Заешка душа: [Апавяданне] / Прев. С.Чотоклиев / / Погляд. 1974. 21 окт.

На беларускую мову. Бедны Назар: Гумарэска. / Пер. І.Аношкін / / Магі. праўда. 1974. 2 крас.

На нямецкую мову. Ein ganz normales Leben / Übers. O.Kolinko. Berlin, 1976.

Hausierer: Roman / Übers. I.Kolinko. Berlin, 1984.

Piotr und Lisa; Ein anderer Mennsch: Novellen / Übers. I.Schröder. Berlin, 1987.

На эстонскую мову. Vaene Nazar / Tlk. A.Leosk / / Edasi. 1974. 5. Juuni; Õnnetu metsavaht / Tlk. T.Kall / / Sirp ja Vasar. 1974. 22. Veebr.

2.3.

На беларускай мове. Д з ю б а й л а П. Вобраз нашага сучасніка ў беларускай прозе. Мн., 1978. С. 112—

113; Егарэнкава Г. Быць чалавекам // ЛіМ. 1977. 4 сак.; Навуменка І. Героя працы — у поўны рост // Там жа. 1974. 11 кастр.; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Ялугін Э. Эпахальнага не было. Аднак... // ЛіМ. 1976. 16 крас.

На нямецкай мове. Lehmke H. Ein einfacher Mensch // Freie Welt. 1976. Nr. 33.

*М.П.Барташэвіч.*

# КЕЙЗАРАЎ АЛЯКСЕЙ



*Кейзараў (сапр. Кейзераў) Аляксей Сцяпанавіч (псеўд. А.Бронніцкі, С.Аляксееў; н. 4.10.1928, в. Бронніца Буда-Кашалёўскага р-на Гомельскай вобл)., празаік, нарысіст. Член СП Беларусі з 1982. Піша на рускай і беларускай мовах.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацька, Сцяпан Ануфрыевіч, і маці, Елізавета Ягораўна, калгаснікі. У 1941 А.Кейзараў скончыў сямігодку. У час нямецка-фашысцкай акупацыі памагаў маці па гаспадарцы. З красавіка 1944 працаваў на аднаўленні электрастанцыі ў г. Унеча. Потым вучань токара Жлобінскага дэпо (ст. Унеча, 1944), студэнт Гомельскага тэхнікума чыгуначнага транспарту, які скончыў у 1948. Працаваў апаратарам, манеўровым дыспетчарам на ст. Казань (1948—49), старшым памочнікам начальніка станцыі ў Калінкавічах (1950). У сувязі з пагаршэннем здароўя пайшоў на пенсію, прыехаў да бацькоў у вёску. Працаваў у школе бібліятэкарам (1950—51), настаўнікам рускай мовы і літаратуры (1951—67). У 1955 скончыў Гомельскі настаўніцкі інстытут. Быў літсупрацоўнікам, раз'язным карэспандэнтам рэспубліканскай «Сельской газеты» (1962—63), рэдактарам Беларускага радыё (1967—74). Працаваў у часопісе «Беларусь» (1974). З 1974 літсупрацоўнік часопіса «Неман». З 1989 на творчай рабоце.

На фарміраванне А.Кейзарава як пісьменніка паўплываў яго дзядзька Сцяпан Кузменка. Пад яго ўплывам пачаў пісаць нарысы, замалёўкі, рэцэнзіі, якія друкаваліся ў раённай і абласной газетах. Першы мастацкі твор — верш «Узнагарода» апублікаваны ў газеце «Сталинская молодежь», першае апавяданне ("З Паўкам") у газеце «Зорька» ў 1954. Першую кніжку «Нас было сямёра» склалі аповесці пра людзей вёскі, пра беларусаў-цалінnікаў. Піша для дзяцей і юнацтва (аповесць «Першы разведузвод»). У яго літаратурным запісе выйшлі кнігі ўспамінаў Героя Савецкага Саюза партызана Э.Лаўрыновіча «Вогненныя рэйкі», былога сакратара Рагачоўскага падпольнага райкама партыі І.Зуевіча «Райком у падполлі», былога сакратара Гарадзішчанскага падпольнага РК КПБ, камісара партызанскага атрада С.Ляснічага «Далёка за фронтам», вучонага-педагога, Героя Сацыялістычнай працы М.Дзмітрыева «Ля ціхай Серабранкі», партызанскага разведчыка М.Фядотава «Разведка вядзе пошук», сведкі трагедыі вёскі Дальва Н.Гірыловіча «Дальва — сястра Хатыні» і інш. Аўтар дакументальнай аповесці «Рэха на Палессі» пра Героя Савецкага Саюза, былога сакратара Мінскага падпольнага абкома партыі Р.Мачульскага.

Жыве ў Мінску.

*Л.С.Савік.*

## Бібліяграфія

1.2.

Нас было семеро: Повести. Мн., 1963. Рэц.: Говор В. Покидают ли гнезда аисты? // Знамя юности. 1963. 18 дек.

Не знающий покоя: [Нарыс]. Мн., 1963. (Рассказы о коммунистах). Рэц.: Полуничев Н. Не знающий покоя // Неман. 1964. № 2.

Хитрый гвоздик: [Апавяданні]. Мн., 1966. Рэц.:

Д а н і л е н к а М. Героі апавяданняў — дзеці / / Гомел. праўда. 1967. 21 студз.

Первый разведвзод: Повесть. Мн., 1969. Рэц.: Д а н і л е н к а М. Аповесць пра шчодрасць / / Чырв. змена. 1970. 6 студз.; П я т р о ў М. Аповесць пра шчодрыя сэрцы / / Гомел. праўда. 1969. 14 чэрв.; Ф о м ч а н к а А. Чалавек — што зорка... / / Вяч. Мінск. 1969. 28 ліп.

У нас в Тополевке: Повесть. Мн., 1976. Рэц.: С а е н к а В. Боль і радасць маленства / / ЛіМ. 1977. 14 студз. Я г о ж. Водгулле трывожнага маленства / / Гомел. праўда. 1976. 5 ліст.

Эхо на Палесье. М., 1979. (Герои Советской Родины). Рэц.: Х а ц к е в і ч А. Чалавек высокага абавязку / / Вяч. Мінск. 1979. 5 чэрв.

Возвратятся журавли: Повести. Мн., 1988.

1.3.

1950. Саставіцель Іван Перажогін: Нарыс / / Бальш. Пал. 9 вер.

1952. «Стэпавае сонца»: [Рэц. на кн.: П а в л е н к о П. Степное солнце. М., 1952] / / Гомел. праўда. 14 вер.

1953. Кніга аб вучоным-вынаходніку: [Рэц. на кн.: К р ы л о в В. А.В.Можайский. М., 1952] / / Гомел. праўда. 14 вер.; Награда учителю: [Верш] / / Сталин. молодежь. 25 нояб. / Пад скажоным прозв. А.Кайзераў.

1954. Кніга аб школе / / Гомел. праўда. 25 чэрв.; «На сажалках» / / Там жа. 16 ліст.: [Рэц. на кн.: Ч а р н ы ш э в і ч А. На сажалках. Мн., 1954] / / Там жа. 16 ліст.; С Павкой: [Апавяданне] / / Зорька. 19 сак.

1956. Чалавек становіцца ў строй: [Рэц. на кн.: К у з м е н к о С. Снова в строю. М., 1955] / / Маладосць. № 1; Воспоминания о верном друге / / Сталин. молодежь. 15 янв.

1957. Чаго яны плакалі: Апавяданне / / Вясёлка. № 3; Моя дочурка: (Маленькие рассказы) / / Отчизна. № 3; Праз сорак год: Нарыс / / Гомел. праўда. 27 кастр.; Награда: [Верш] / / Зорька. 28 сент.; Луковица: [Апавяданне] / / Там жа. 13 окт.; Галя: [Нарыс] / / Там жа. 23 нояб.; Вера: Очерк / / Сов. Бел. 21 дек.

1958. Негаўка: Нарыс / / Беларусь. № 7; На палянцы: Апавяданне / / Вясёлка. № 5; Сустрэча з землякамі: Нарыс / / За вярт. на Радзіму. № 57; Мария Ткачева, доярка: [Нарыс] / / Сов. вестник (Венгрия). № 12; Каваль: Нарыс / / Калг. праўда. 4 кастр.

1959. Свінка: Апавяданне / / Вясёлка. № 2; Половодье больших чувств / / Знамя юности. 10 апр.; Працавіты чалавек: Нарыс / / Калг. праўда. 11 лют.; У гэтыя дні: Рэпартаж / / Там жа. 14 крас.; Апавяданні пра дзяцей: Утаілі; Святланіна вынаходства / / Наст. газ. 1 мая.

1960. Наши земляки: [Нарысы] / / Неман. № 6 / Сааўт. І.Куралікаў; Каханне пазычаць не пойдзеш: [Рэц. на кн.: Т а р а с е н к о в а Н. Через лес. М., 1959] / / Гомел. праўда. 1 сак.; У тыя дні: Нарыс / / Звязда. 13 снеж.; Яблыневы цвет: Апавяданне / / Калг. праўда. 20 студз.; Гісторыя аднаго жыцця: Нарыс / / Там жа. 4 снеж.; Проблема... «ржавого ведра»: [Нарыс] / / Учит. газ. 7 апр.

1961. Вялікая справа — транспарт: Апавяданне / / Вожык. № 9; Нас было сямёра: Аповесць / / Маладосць. № 2. Рэц.: Г е л ь б а р т Л. Аповесць пра цаліннікаў / / Чырв. змена. 1961. 3 вер.; К а ж а м я к і н Ц. Аповесць аб цаліннікаx / / Гомел. праўда. 1961. 28 ліст.; Суровая праўда: Апавяданне / / Наст. газ. 31 мая.

1962. Першы раздзел / / Гомел. праўда. 3 чэрв.; Стукайся ў любы час: Нарыс / / Калг. праўда. 13 чэрв.; Добры настрой / / Там жа. 5 жн.; Прыпар: Апавяданне / / Там жа. 20 вер.; Раніца на ферме: [Урывак з аповесці «Аб чым шуміць лісце] / / Там жа. 10 кастр.; Янковіцкія частушкі / / Сел. газ. 4 снеж.; Нас было семеро: Отрывки из повести / / Сел. жизнь. 1 мая.

1963. Як падказвае сэрца: Нарыс / / Беларусь. № 11; Чалавек вядзе агонь: Нарыс / / Гомел. праўда. 1 снеж.; Жывінка / / Звязда. 19 сак.; Сонечныя кроплі: Нарыс / / Там жа. 18 мая; Жалоба матери-героини: [Нарыс] / / Сел. газ. 13 янв.; У истоков победы / / Там жа. 29 янв.; «Покажи свои руки» / / Там жа. 3 февр.; Снова в колхозе: [Нарыс] / / Сов. Бел. 10 янв.; Бусел не мяняе гнязда: [Урывак з аднайм. аповесці] / / Чырв. змена. 13, 15 чэрв.; Гадзіннік паказвае шэсць...; Апавяданне / / Там жа. 28 вер.

1964. Чаго яны плакалі: Апавяданне / / Кніжка-малышка. Мн.; Добры твор аб народным паэце: [Рэц. на кн.: Л у ж а н і н М. Колас расказвае пра сябе. Мн. 1964] / / Гомел. праўда. 22 ліп.; Добрая кніга: [Рэц. на кн.: Л у ж а н і н М. Колас расказвае пра сябе. Мн., 1964] / / Наст. газ. 28 кастр.

1965. Так надо...; [Нарыс] / / Сел. механизатор. № 9 / Пад скажоным прозв. А.Кайзараў; Паштоўка з бярозкай: Нарыс / / Наст. газ. 4 снеж.

1966. Каб дзейнічаў атрад: Нарыс / / Наст. газ. 1 чэрв.; Прамакатка: [Апавяданне] / / Піянер Бел. 28 кастр.

1967. Будзільнік: [Апавяданне] / / Вясёлка. № 10; Другая маці / / Наст. газ. 29 крас.; Жыватворчая крыніца: Нарыс / / Там жа. 28 чэрв.; Пра Святлану; Шклянка для слёз; Месяц і зоркі: [Апавяданні] / / Чырв. змена. 2 крас.

1969. Духмяныя грушы: [Урывак з кнігі «Першы разведузвод»] / / Піянер Бел. 3 крас.; С задания не вернулась: Партизанская летопись / / Сел. газ. 18 дек.

1970. Дуб ля зямлянкі / / Наст. газ. 5 жн.; «Человек, что звезда...»: Из блокнота журналиста / / Сел. газ. 7 апр.

1972. Будні звяна: Нарыс / / Гомел. праўда. 1 лют.; З усмешкай і гумарам: [Рэц. на кн.: Г р о д н е ў М. Заручыны. Мн., 1972] / / Мін. праўда. 27 жн.

1974. Испытание выдержано: [Нарыс] / / Люди легенд. М.; З добрым сэрцам: Нарыс / / Беларусь. № 2; Абеліск: Нарыс / / Там жа. № 4; Ад мая да мая: Нарыс / / Там жа. № 5; Над Убарцю: Нарыс / / Там жа. № 7.

1975. Наставники: [Нарыс] / / Неман. № 2; Хортица на Немане / / Там жа. № 5; Адважныя са Старой Рудні / / Звязда. 21 студз.

1976. Выйди на рассвете: [Нарыс] / / Неман. № 11: [Рэц. на кн.: Ш п а д а р у к І. Ф.М.Дастаеўскі і Беларусь. Мн., 1975] / / Гомел. праўда. 16 студз.

1977. [Рэц. на кн.: Д а н и л е н к о М. Заветный океан. М., 1975] / / Неман. № 1; Контуры будущего / / Там жа. № 4; Имя его стало легендой: [Рэц. на кн.: Р о ж к о в Н. Человек из легенды. Мн., 1976] / / Там жа. № 11.

1978. Будни юбиляра / / Неман. № 1.

1982. Сорок лет спустя: [Рэц. на кн.: Л е щ е н я С. С паролем горкома. Мн., 1981] / / Сов. Бел. 1 авг.

1983. Прочнее брони: [Нарыс] / / Народные герои. М.

1.4.

1978. М ы с л и в е ц В. Усадьба: (Рассказ) / С бел. / / Неман. № 8.

1982. Я г о в д и к В. Посылка из дому: [Апавяданне] / С бел. / / Неман. № 8.

1.6.

Л а в р и н о в и ч Э. Огненные рельсы. Мн., 1970 / Літ. зап.; 2 изд, перераб. и доп. Мн., 1974.

З у е в и ч И. Райком в подполье. Мн., 1972 / Літ. зап.

Л е с н и ч и й С. Далеко за фронтом. Мн., 1972 / Літ. зап.

Д м и т р и е в М. У тихой Серебрянки. Мн., 1975 / Літ. зап.

С ч е н с н о в и ч Н. Записки актера и партизана. Мн., 1976 / Літ. зап.

Ф е д о т о в М. Разведка ведет поиск. Мн., 1976 / Літ. зап.

Г и р и л о в и ч Н. Дальва — сестра Хатыни. Мн., 1977 / Літ. зап. 2 изд. доп. Мн., 1981; 3 изд., перераб. и доп. Мн., 1987.

Д м и т р и е в М. Во имя жизни. Мн., 1981 / Літ.

зап.

Мазаник Е. Возмездие: Докум. повесть. Мн., 1981 / Літ. зап.; 2 изд., доп. и перераб. Мн., 1988.

Соленик М. Хозяйство приусадебное — польза общая. Мн., 1985 / Літ. зап.

Усов Н. В семье партизанской. Мн., 1988 / Літ. зап.

Федотов М. Разведка продолжает поиск. Мн., 1988 / Літ. зап.

Лавринович Э. Огненные рельсы // Неман. 1967. № 5 / Літ. зап.; Гірыловіч М. Дальва — сястра Хатыні // Звязда. 1976. 14 студз. / Літ. зап.; Мазаник Е. Возмездие // Неман. 1978. № 5, 6 / Літ. зап.; Винокуров М. Село наше Дроздино // Неман. 1978. № 11 / Літ. зап.; Мазаник Е. Возмездие // Голас Радзімы. 1982. 13, 20, 27 мая, 3 чэрв. / Літ. зап.; Плотников Н. У Сожа, Прони и Днепра // Неман. 1984. № 2 / Літ. зап.; Догуро К. С корабля — на бал целинный... // Неман. 1984. № 10 / Літ. зап.

2.3.

На беларускай мове. Барушка А. Тым, хто ўступае ў жыццё // Звязда. 1967. 21 вер.; Даніленка М. У літаратараў Гомельшчыны // Маладосць. 1956. № 9; Яго ж. І радком, і ўрокам // Наст. газ. 1964. 16 мая; Кажамякін Ц. Вышэй літаратурнае майстэрства // Гомел. праўда. 1954. 11 жн.; Яго ж. Коратка аб кнігах пісьменнікаў Гомельшчыны // Літатаратурны Гомель. Гомель, 1958; Шамякін І. Час — абавязвае, чытач — чакае // ЛіМ. 1978. 3 сак.; Шараметаў А. Першы альманах // Сталин. молодежь. 1959. 28 янв.

На рускай мове. Перестенко А. Когда отступают от истины // Красная Звезда. 1984. 2 февр.; Посвящается целинникам // ЛГ. 1961. 3 марта.

*М.П.Барташэвіч.*

## КЕНЬКА МІХАСЬ



*Кенька Міхась (Міхаіл Паўлавіч; н. 8.2.1947, в.Верацеі Пастаўскага р-на Віцебскай вобл.), літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1983). Член СП Беларусі з 1988.*

Нарадзіўся ў сям'і чыгуначніка. У 1965 паступіў на філалагічны факультэт Магілёўскага педінстытута, які скончыў у 1969. Працаваў журналістам, настаўнікам, камсамольскім работнікам (1969—73). Вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры імя Я.Купалы АН БССР (1973—76), працаваў малодшым, старшым навуковым супрацоўнікам гэтага Інстытута. З 1983 намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Юнацтва». З 1988 дацэнт кафедры беларускай літаратуры БДУ.

У 1974 выступіў у друку з артыкуламі і рэцэнзіямі па праблемах беларускай савецкай прозы і паэзіі, тэорыі і практыкі мастацкага перакладу. Аўтар кніг «Майстэрства Аркадзя Куляшова — перакладчыка», «Міхась Лынькоў: Летапіс жыцця і творчасці». Займаўся тэксталогіяй (падрыхтаваў да выдання 3-і том Збору твораў М. Лынькова, 1-ы том Збору твораў М.Гарэцкага), пераклаў з рускай і польскай моў апавяданні для анталогіі «Дзіцячая літаратура народаў СССР», штогодніка «Ветразь», урыўкі з дакументальнай аповесці У.Кавалёнка «Радзіма крылы дала» (для часопіса «Маладосць»).

Жыве ў Мінску.

*Л.С.Савік.*

### Бібліяграфія

1.2.

Аркадий Кулешов — переводчик: Автореф. дис. ... канд. филол. н. Мн., 1978.

Майстэрства Аркадзя Куляшова — перакладчыка. Мн., 1983. Рэц.: Рагойша В. Что есть перевод? // Неман. 1985. № 4.

Міхась Лынькоў: Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1987.

1.3.

1974. За права малога жанру // ЛіМ. 1 лют.; «Пачуцці светлыя паэзія кране...» // Чырв. змена. 6 чэрв.; Подых грозных вятроў: [Рэц. на кн.:

П а ў л а ў  У. Ад агню і мяча. Мн., 1973] // Там жа. 21 ліп.; На шляху сталення: [Рэц. на кн.: Д з я т л а ў  А. Росы на поплаве. Мн., 1974] // Там жа. 26 снеж.

**1975.** Да пытання аб аўтарстве ананімных паэм // ЛіМ. 13 чэрв.; «А ў радках тых — песня...» // Чырв. змена. 2 кастр.

**1976.** Паэма А.С.Пушкіна «Цыганы» ў перакладзе А.Куляшова // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн. Вып. 4; Паэзія Сяргея Ясеніна ў перакладах Аркадзя Куляшова // Весці АН БССР. Сер. грамад. н. № 1; Творы Тараса Шаўчэнкі ў перакладах Аркадзя Куляшова // Там жа. № 6; Пусть откликается сердце...: [Рэц. на кн.: С л у х а й ц е — Хатынь!.. Слушайте — Хатынь!.. Мн., 1975] // Неман. № 2; Человеку нужен поиск...: [Рэц. на кн.: Г р я д о в к и н  В. Сквозь годы. Мн., 1976] // Там жа. № 11; Высокі ўзлёт // ЛіМ. 27 жн.

**1977.** Звонкая песня паэта: [Рэц. на кн.: Я с е н і н  С. Выбранае. Мн., 1976] // Полымя. № 5; Слова сагрэтае пачуццём: [Рэц. на кн.: Б а р а д у л і н  Р. Суровая вымова. Мн., 1976] // Там жа. № 12; Творчая акрыленасць: [Рэц. на кн.: К у л я ш о ў  А. Зб. тв.: У 5 т. Мн., 1974—77] // Звязда. 20 снеж.; Новы рахунак вайне: [Рэц. на кн.: К а р п а ў  У. Прызнанне ў нянавісці і любві. Мн., 1976] // ЛіМ. 4 лют.; Далягляды: [Рэц. на кн.: Д а л я г л я д ы . Мн., 1976] // Там жа. 27 мая; Ад вёскі да горада... і далей: [Рэц. на кн.: Г і г е в і ч  В. Спелыя яблыкі. Мн., 1976] // Чырв. змена. 20 ліст.

**1978.** Ленін думаў пра нас // Звязда. 7 мая; Памяці рускага Праметэя // ЛіМ. 7 ліп.; Рамкі строгія актавы...: [Рэц. на кн.: Г і л е в і ч  Н. Актавы. Мн., 1976] // Там жа. 17 ліст.

**1979.** Мастацкі пераклад і жанравае ўзбагачэнне беларускай літаратуры // Асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу ў Беларусі на сучасным этапе. Мн.; Спасціжэнне паэзіі: [Рэц. на кн.: Ц і х а н а ў  М. Спасціжэнне. Мн., 1978] // Полымя. № 4; Цеплыня чалавечнасці // Звязда. 30 ліст.; Праца нялёгкая, ды ўдзячная // ЛіМ. 7 вер.; У творчай садружнасці // Там жа. 28 снеж. / Сааўт. У.Гніламёдаў.

**1980.** Першы з дзесяці // Звязда. 14 чэрв.; Далягляды «Даляглядаў» // ЛіМ. 11 студз.; «Парушыўшы законы прыцягнення...» // Там жа. 11 крас.; Зброяй сатыры і гумару: [Рэц. на кн.: Г і л е в і ч  Н. Начлег на буслянцы. Мн., 1980]; Школьнікам пра Міхася Лынькова: [Рэц. на кн.: К у л я ш о ў  Ф. Міхась Лынькоў. Мн., 1979] / Пад псеўд. М.Альхевіч // ЛіМ. 3 кастр.

**1981.** Перакладныя выданні ў Беларусі і іх крытыка // Книга в Белоруссии: Книговедение, источники. Мн., 1981; «Даляглядам» — глядзець далей // ЛіМ. 1 мая / Сааўт. Л.Казыра; Абсягі яго душы: [Рэц. на кн.: П е р к і н  Н. Абсягі думкі. Мн., 1980] // Там жа. 5 чэрв.

**1982.** З лабараторыі майстра: [Уступнае слова] // Братэрства. Мн.; Пейзажы Уладзіслава Галубка // Звязда. 2 ліп.

**1983.** Яго перакладчыкі // Братэрства. Мн.; «Укладзецца ў душу беларускую...» // Полымя. № 2.

**1984.** Космас пачынаецца з зямлі: [Рэц. на кн.: Г і л ь  М. Ёсць на зямлі крыніца. Мн., 1984] // Маладосць. № 8; Юным чытачам // Нар. асвета. № 2; Не вчитываясь в строку: [Рэц. на кн.: П ы с и н  А. Есть на свете мой олень. М., 1983] // Неман. № 11; «Чалавек з адкрытым сэрцам» // Звязда. 30 ліст.; Маленькие герои лесной крепости // Знамя юности. 17 окт.; Талент дабрыні: [Рэц. на кн.: Ч а р н я ў с к а я  Л. Апавяданні. Мн., 1983] // ЛіМ. 11 мая; След застанецца: [Рэц. на кн.: Р а л ь к о  І. Святло зары вячэрняй. Мн., 1983] // Там жа. 13 ліп.

**1985.** Пераклаў Максім Гарэцкі // Братэрства, 85. Мн.; Летапіс жыцця і творчасці // Лынькоў М. Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1985. Т. 8; «Юнацтва» — дзецям // Нар. асвета. № 2; Плынь супраць плыні // ЛіМ. 14 чэрв.; Каб заўтра зноў дарыць сябе... // Там жа. 6 снеж.

1.4.

**1984.** В а л а н ч у е  М. Міке-манюка; Бойкі Вяпцэ; К р э в е  В. Бабульчыны клопаты; Песня пра Арла; Б а л т р у н а с  А. Медны якарок: [Апавяданні] / З літ. // Бурштынавыя пацеркі. Мн.

**1985.** П ш ы м а н о ў с к і  Я. Атака на смерць: Урывак з аповесці «Чатыры танкісты і сабака» / З пол. Ветразь. Мн.

1.5.

На ўкраїнскую мову. Аркадій Кулешов і українська література // Рад. літ.-знавство. 1977. № 6.

1.6.

Л ы н ь к о ў  М. Зб. тв.: У 8 т. Т. 3. Аповесці і раманы. Мн., 1983 / Падрыхт. тэкстаў і камент.

Г а р э ц к і  М. Зб. тв.: У 4 т. Т. 1. Апавяданні. 1913—1930. Мн., 1984 / Падрыхт. тэкстаў і камент.

*М.П.Барташэвіч.*



*Кіркор Адам Ганоры Карлавіч [псеўд. Ян са Слівіна, Ян Валігурскі, Сабары, Jacek ze Śliwina, Jan ze Śliwina, Tułacz Sobarri, Sobarri і інш.; 21.1.1818 (па іншых звестках 1819), в. Слівіна Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Манастыршчынскі р-н Смаленскай вобл. — 23.11.1886, Кракаў], этнограф, гісторык, археолаг, публіцыст, выдавец, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку. Член-карэспандэнт імператарскага археалагічнага т-ва ў Пецярбургу (1856), Акадэміі ведаў у Кракаве (1873).*

Належаў да небагатага беларускага шляхецкага роду татарскага паходжання. Бацькі яго (Караль Мікалаевіч і Тэкля Маркаўна з Валадковічаў), паводле архіўных звестак, у 1830—40-я гады валодалі невялікім фальваркам Грынеўшчына (Кіркораўшчына) у Клімавіцкім пав. У 1832—34 А.Кіркор вучыўся ў Магілёўскай гімназіі, потым у 2-й Віленскай гімназіі (Віленскі дваранскі інстытут), якую скончыў экстэрнам у 1838. Яшчэ ў гімназічныя часы зацікавіўся фальклорам і этнаграфіяй і надрукаваў у зборніку лепшых сачыненняў выхаванцаў Беларускай навучальнай акругі (1839) свой першы артыкул «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі». Вельмі рана пад уплывам былога выкладчыка Віленскага універсітэта, знаўца старажытнасцей доктара М.Гамаліцкага зацікаваўся археалогіяй і гісторыяй роднага краю. Паступіўшы на службу ў Віленскую казённую палату (1838—64), ён не кідаў і літаратурна-навуковых заняткаў, пісаў тэатральныя рэцэнзіі, выдаваў альманахі «Radegast» («Радэгаст», 1843) і «Pamiętnik umysłowy» («Разумовы дзённік», 1845—46). Спачатку віленскае асяроддзе не да канца задавальняла яго, ён рабіў спробы перанесці сваю журналісцка-выдавецкую дзейнасць у Адэсу, Кракаў (1845) і нават Пецярбург (1846). У 1846, у сувязі з вострымі сацыяльнымі канфліктамі ў Галіцыі, улады даручылі яму сакрэтную місію — разведаць настроі насельніцтва ў Заходняй Беларусі, і ён напісаў па гэтых пытаннях цікавую дакладную запіску, адзначыўшы глыбокую варожасць мясцовых сялян да памешчыкаў. Да гэтага ж часу адносіцца яго нешчаслівы шлюб з артысткай Аленай Маеўскай (1828—1900), які прынёс яму ў будучым вялікія расчараванні (у 1857 жонка пакінула яго і паехала ў Польшчу, дзе прыняла актыўны ўдзел у падзеях 1863). У 1849 А.Кіркор стаў членам Віленскага статыстычнага камітэта. Як сакратар камітэта (да 1854) ён па сутнасці кіраваў усімі яго справамі. Рэдагуючы губернскія «Памятные книжки» (1850—54), ён пашырыў у іх неафіцыйны аддзел, змясціў багатыя матэрыялы па гісторыі і статыстыцы Віленшчыны, у тым ліку па яе беларускіх паветах. Ён вёў шматлікія археалагічныя раскопкі ў Літве і на Беларусі, раскапаў (часткова сумесна з археолагам Я.Тышкевічам) каля 1000 курганоў. Актыўны ўдзел ён прыняў у арганізацыі Музея старажытнасцей у Вільні (1855), стаў яго хавальнікам і сакратаром Археалагічнай камісіі. Выдатны знаўца гісторыі і этнаграфіі Беларусі і Літвы, ён падрыхтаваў некалькі папулярных даведнікаў па Вільні і яе ваколіцах, друкаваў шматлікія навуковыя матэрыялы ў рускай і польскай перыёдыцы. Асабліва каштоўнай для беларускай навукі была яго праца «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—58), складзеная па праграме Рускага геаграфічнага т-ва. У ёй выказана вялікая павага да духоўнага жыцця працоўнага народа, прыведзены больш за 100 беларускіх песень, 200 прыказак, слоўнік беларускай мовы. У 1857—58 А.Кіркор выдаваў неперыядычны зборнік «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік»), забаронены за змяшчэнне пісьма вядомага гісторыка (у той час палітычнага эмігранта) І.Лялевеля. Своеасаблівым працягам «Тэкі...» былі зборнікі «Pismo zbiorowe Wileńskie» («Віленскі альманах», 1859, 1862). У 1859 А.Кіркор заснаваў у Вільні ўласную друкарню (спачатку ў суполцы, потым перайшла ў яго поўную ўласнасць) і выдаў у ёй шэраг навуковых і мастацкіх кніг, у тым ліку творы Ю.Крашэўскага, У.Сыракомлі, Ю.Ляскоўскага. З 1860 выдаваў і рэдагаваў галоўную газету літоўска-беларускага рэгіёна «Кур'ер віленскі» (на польскай і рускай мовах), зрабіўшы яе больш змястоўнай і папулярнай. У 1850-я гады вакол Кіркора ўтварыўся гурток мясцовых (беларускіх, польскіх, літоўскіх) літаратараў і культурных дзеячаў. Да яго належалі або падтрымлівалі з ім сувязі пісьменнікі У.Сыракомля, В.Каратынскі, В.Дунін-Марцінкевіч, А.Вярыга-Дарэўскі, М.Акялайціс, А.Адынец, І.Ходзька, гісторыкі М.Маліноўскі і Я.Тышкевіч, журналіст В.Пшыбыльскі, кампазітар С.Манюшка. Многія з удзельнікаў гуртка былі звязаны з беларускай літаратурай, у сувязі

з чым гурток А.Кіркора часам называюць першым беларускім літаратурным гуртком, падкрэсліваючы тым самым яго значэнне для станаўлення новай беларускай літаратуры. Паводле няпэўных звестак (Багдановіч М. Тв. Мн., 1968. Т. 2. С. 226), сам А.Кіркор «пісаў для народа папулярныя беларускія брашуркі», але сёння навука нічога пра іх не ведае. Затое добра вядома яго сардэчная прывязанасць да беларуска-літоўскага краю, які традыцыйна ў тыя часы называўся «Літвой». «Я літвін, — пісаў А.Кіркор, — ніколі не знішчыць ува мне гэтага пачуцця» [Революционная Россия и революционная Польша (вторая половина XIX в.). М., 1967. С. 18]. У іншых выпадках ён называў сябе «не прыродным палякам, а беларусам» (Полымя. 1929. № 2. С. 132). У 1858 Кіркор разам са сваімі аднадумцамі ўдзельнічаў у т. зв. «Віленскім альбоме», выдадзеным у гонар прыезду ў Вільню цара Аляксандра II. Гэты ўчынак быў расцэнены многімі як адыход ад традыцый вызваленчага руху і выклікаў крытыку ў розных пластах польскага грамадства, асабліва ў эміграцыі. Ліберальная лінія А.Кіркора, накіраваная на супрацоўніцтва з царскімі ўладамі, не раз выклікала крытыку і ў далейшым. Цяжкія выпрабаванні выпалі на яго долю ў перыяд паўстання 1863, калі Мураўёў-вешальнік ператварыў газету А.Кіркора ў афіцыйны орган генерал-губернатарскага ўпраўлення. Прыхільнікаў паўстання абурыла дачыненне А.Кіркора да выпрацоўкі вернападданніцкага адраса мясцовага дваранства цару. Разам з тым А.Кіркор быў прыцягнуты да следства ў сувязі з удзелам у паўстанні сваёй жонкі А.Маеўскай, у варшаўскай кватэры якой доўгі час хаваўся кіраўнік паўстанцкага ўрада Р.Траўгут. І хоць следства не знайшло яго віны, тым не менш улады, бачачы ў ім праціўніка сваёй русіфікатарскай палітыкі, яму не давяралі, і, страціўшы магчымасць працаваць у Вільні, ён быў вымушаны перабрацца ў Пецярбург, дзе разам з М.Юматавым выдаваў у 1868—71 газету «Новое время», якая праводзіла курс на збліжэнне рускага і польскага грамадства і таксама была на падазрэнні ва ўлад. Апрача таго А.Кіркор апынуўся ў вельмі цяжкім фінансавым становішчы, яму пагражала даўгавая турма. Усё гэта прымусіла яго пакінуць Расію і ўжо ў немаладым узросце асталявацца ў Кракаве (тады Аўстрыйская імперыя). Тут ён працягваў займацца навуковай і журналісцкай дзейнасцю, у розныя часы рабіў няўдалыя спробы выдаваць літаратурна-навуковыя альманахі «Na dziś» ("На сёння", 1872), «Teka Krakowska» ("Кракаўскі зборнік", 1884), з поспехам як супрацоўнік Кракаўскай акадэміі вёў раскопкі ў Галіцыі, чытаў публічныя лекцыі па літаратуры і археалогіі. З прац гэтага перыяду асабліву цікавасць маюць «Нарысы сучаснай рускай літаратуры» (1873), дзе А.Кіркор падкрэсліваў яе дэмакратычныя традыцыі, ролю у ёй В.Бялінскага і М.Чарнышэўскага, «Літоўскія абразкі» (1874) і іншыя віленскія ўспаміны, «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874) з асобным нарысам гісторыі беларускай літаратуры, «Літва і Русь у гістарычных, геаграфічных, статыстычных і археалагічных адносінах» (1875), нарысы гісторыі і культуры Беларусі ў 3-м томе «Живописной России» (1882). Апошнія гады А.Кіркор цяжка хварэў і жыў у вялікай беднасці. З настальгічным пачуццём ён пісаў на радзіму незадоўга да смерці: «Дактары вырашылі, што ў мяне невылечная хвароба сэрца і што кожную хвіліну я магу памерці. Аднак смерць мяне не палохае: я досыць жыў. Што было ў маіх сілах і сродках, я зрабіў і магу з чыстым сумленнем прызнацца, што маё жыццё для Літвы [Літва і Беларусь] не прайшло марна» (Древности. М., 1888, Т. 12. С. 105). У апошні шлях на Ракавіцкія могілкі ў Кракаве яго праводзіла невялікая група мясцовых літаратараў і супрацоўнікаў Акадэміі.

А.Кіркор не меў спецыяльнай адукацыі, працаваў у неспрыяльных умовах, але паспеў зрабіць нямала ў розных галінах навукі і культуры. Як даследчык духоўнай культуры беларускага народа і літаратуразнавец, збіральнік літаратурна-культурных сіл ён адыграў прыкметную ролю ў станаўленні новай беларускай літаратуры. Свае зборы і рукапісы ён завяшчаў кракаўскаму Нацыянальнаму музею. Зараз яго архіў захоўваецца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве, частка архіва (пісьмы да А.Кіркора розных карэспандэнтаў) зберагаецца ў ДГА Літвы ў Вільнюсе.

*Г.В.Кісялёў.*

## Бібліяграфія


1.2.

Языческие обычаи на Белой Руси. Вильна, 1839.

Историческо-статистические очерки Виленской губернии. Вильна, 1852—1853. Т. 1—2 / Ананімна.

Apolinary Kątski: (Na pamiątkę pobytu jego w Wilnie). Wilno, 1852.

Черты из истории и жизни литовского народа. Вильна, 1854.

Przechadzki po Wilnie i jego okolicach. Wilno, 1856; 2 wyd. Wilno, 1859; 3 wyd. Wilno, 1865.

Перечневый каталог предметов в Виленском музеуме древностей. Вильна, 1858.

Wilno i koleje żelazne z Wilna do Petersburga i Rygi oraz do granic na Kowno i Warszawę: Przewodnik z planem, widokami Wilna i mapą kolei żelaznych. Wilno, 1863.

Zarysy współczesnej literatury rosyjskiej. Poznań, 1873.

O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich. Kraków, 1874 / Пад псеўд. Tułacz Sobarri.

Obrazki litewskie: Ze wspomnień tułacza Sobarri. Poznań, 1874.

Litwa i Ruś pod względem historycznym, geograficznym, statystycznym i archeologicznym. Warszawa, 1875.

Skarbiec katedry wileńskiej. Wilno, 1876.

Słowianie nadbałtyccy: Zarysy etnologiczno-mitologiczne. Lwów, 1876.

O znaczeniu i ważności zabytków pierwotnych oraz umiejętnym ich poszukiwaniu: (Dwa odczyty publiczne w Muzeum Techniczno-Przemysłowym w Krakowie). Kraków, 1878; Kraków, 1882.

Живописная Россия. Спб., 1882. Т. 3. Ч. 1: Литовское Полесье. Ч. 2. Белорусское Полесье / У сааўт. Рэц.: Г-кий М. [Шолкович С.]. Библиографическая заметка по поводу III тома «Живописной России» // Ист. вестник. 1884. № 5; Krajowiec. Nowa etnografja «białoruska» // Kraj. 1884. Nr 27; S. Książka rosyjska o Litwe i Białorusi // Czas. 1883. Nr 13, 14.

Groby wielkoksiążęce i królewskie w Wilnie. Warszawa, 1882.

Bazylika litewska. Kraków, 1886.

Przewodnik po Wilnie i jego okolicach... Wilno, 1889.

1.3.

1839. Прут: Историческое происшествие; Смерть поэта; Остатки языческих обыкновений в Белоруссии // Опыты в русской словесности воспитанников гимназий Белорусского учебного округа. Вильно.

1842. Nowiny z Wilna / / Tyg. Petersb. 15 listop.

1844. Shakekspeare na wileńskiej scenie: list do wydawcy / / Tyg. Petersb. 8 listop. / Пад псеўд. Jacek ze Sliwina.

1845. Wiktor Każyński / / Athenaeum. T. 6 / Пад псеўд. Jan ze Śliwina.

1846. Wrażenia Petersburga: Listy do redaktora «Athenaeum» / / Athenaeum. T. 4 / Пад псеўд. Jan ze Sliwina.

1851. Очерк городов Виленской губернии / / Памятная книга Виленской губ. на 1851 г. Ч. 2.

1855. Wycieczka archeologiczna po gubernii Wileńskiej / / Bibl. Warsz. T. 2—4 / Пад псеўд. Jan ze Śliwina.

1857. Этнографический взгляд на Виленскую губернию / / Вестник РГО. Ч. 20, 21; Julian-Albin Moszyński: Rzecz czytana na posiedzeniu Wileńskiej archeologicznej komissyi dnia 11 października 1857 r. / / Teka Wil. Nr 2.

1858. Этнографический взгляд на Виленскую губернию / / Этнографический сборник, издаваемый РГО. Спб. Вып. 3; Ludność miasta Wilna / / Teka Wil. Nr 3; Od redakcyi «Teki Wileńskiej» / / Teka Wil. T. 5 / Пад псеўд. Jan ze Śliwina.

1862. Od redakcji / / Kur. Wil. 5. 12, 19 czerw.; S.p. Ludwik Kondratowicz / / Kur. Wil. 11 wrzes.; Od redakcji / / Kur. Wil. 14 grud.

1863. Краткое обозрение ученой деятельности по части статистики в Литовском крае и в особенности в Виленской губернии / / Сборник историко-статистических материалов по Виленской губ. Вильно. Ч. 1; Виленский вестник / / Мин. губ. вед. 22 нояб.

1868. Граф К.П.Тышкевич / / Новое время. № 137 / Пад крыпт. А.К.

1875. O pierwotnej Słowiańszczyźnie / / Niwa. T. 7; Zarys gubernji północno-wschodnich i południowo-zachodnich / / Opiekun dom. Nr 1—25, 31—33, 35—36, 43—48 / Пад псеўд. Jan ze Śliwina.

1879. Zabytki bałwochwalcze w Galicyi / / Kłosy. Nr 722, 724.

1884. Wspomnienia z lat 1860—1863 / / Dz. Poznański. Nr 1; 1885. Nr 11—13; Ze wspomnień wileńskich / / Kraj. Nr 3; Jeszcze słówko o zwłokach Króla Stanisława Leszczyńskiego / / Kraj. Nr 22; Korespondencye: Domejko, jego przeżyte dni, miejsce urodzenia. Towarzystwo filaretów i filomatów w Wilnie... / / Kraj. Nr 32.

1885. Zjazd archeologiczny we Lwowie / / Kraj. Nr 40, 41 / Пад псеўд. Jan ze Sliwina.

1912. Среди белорусской природы и быта: Природа Белоруссии / / Бел. вестн. 17, 24 июня.

1978. Умственные силы и средства образования / / Александровіч С., Александровіч В. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мн.

1.5.

**На беларускую мову.** [Запіс у Альбоме А.Вярыгі-Дарэўскага] / 3 пол. / / Пачынальнікі. Мн., 1977.

**На літоўскую мову.** Adomas Honoris Kirkoras Pasivaiksciojimai po Vilniu ir jo apylinkes / Vert. K. Uscia. Vilnius. 1991.

**На чэшскую мову.** Hroby a mohyly predhistoricke v Polsce, na Litve a Rusi. Praha, 1881.

2.2.

**На беларускай мове.** З я м к е в і ч Р. Адам-Ганоры Кіркор: (Біяграфічна-бібліяграфічны нарыс у 25-летнюю гадавіну смерці). Вільня, 1911 / Кірыліца і лацінка.

**На польскай мове.** B r e n s t e j n M. Adam Honory Kirkor, wydawca, redaktor i właściciel drukarni w Wilnie: Od r. 1834 do 1867. Wilno, 1930.

K i r k o r S. Przeszłość umiera dwa razy. Kraków, 1978.

K i r k o r o w i e litewscy: Materiały do monografii rodziny kresowej. Londyn, 1969.

K o n a r s k i Sz. Kirkorowie. Londyn, 1963.

S t o l z m a n M. Czasopisma wileńskie Adama Honorego Kirkora. Kraków, 1973. Рэц.: L e c h n i c k i Cz. / / Zeszyty Prasoznawcze. 1975. Nr 2.

**На рускай мове.** Я н ч у к Н. А.К.Киркор: Краткий очерк жизни и деятельности. М., 1888.

Я н ч у к Н. А.К.Киркор, ученый исследователь Литвы и Белоруссии: Некролог. Читано в заседании Моск. археол. о-ва. Киев, 1887 / Адб. з «Киевской страницы». 1887. № 6—7.

2.3.

**На беларускай мове.** А л я к с е е ў Л. Выдатны археолаг і краязнаўца / / Полымя. 1979. № 9; Б а н д а р ч ы к В. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. С. 34—38; Г а р э ц к і М. Адам Кіркор / / Г а р э ц к і М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. Вільня, 1924; Г і л е в і ч Н. З клопатам пра песні народа. Мн., 1970. С. 30—31; Г і с т о р ы я беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1969. Т. 2. С. 43; З я м к е в і ч Р. Адам Гоноры Кіркор: (Біяграфічна-бібліяграфічны нарыс у 25-летнюю гадаўшчыну смерці) / / Н.н. 1911. 8 снеж.; К а р с к і Я. Арцём Дарэўскі-Вярыга / / Рунь. 1920. № 9—10; К а х а н о ў с к і Г. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX ст. Мн., 1984. С. 56—61; Я г о ж. Адчыніся, таямніца часу. Мн., 1984. С. 19—22, 38—41, 44—45; Я г о ж. З часоў Кастуся Каліноўскага / / ЛіМ. 1975. 22 жн.; Я г о ж. Львоўскае рэха / / Полымя. 1971. № 11; К і с я л ё ў Г. Сейбіты вечнага. Мн., 1963. С. 126—132; Я г о ж. Ці добрая была памяць у Кіркора? / / Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971; Л о й к а А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1977. Ч. 1. С. 115—118; М а л ь д з і с А. Творчае пабрацімства. Мн., 1966. С. 70—73, 127—128; М а р х е л ь У. З эпісталярнай спадчыны Вінцэся Каратынскага / / Весці АН БССР. Сер. грамад. н. 1981. № 4; Я г о ж. «Кур'ер віленьскі» як крыніца для вывучэння гісторыі культуры Беларусі: (1860—1862 гг.) / / Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1972. Вып. 2; Ф . Д . [Дамінікоўскі Ф.] Першы беларускі краязнаўца / / Беларусь. 1946. № 4.

**На літоўскай мове.** F a i n h a u z a s D. Slaptas caro valdzios dokumentas apie 1846 m. Lietuvoje i Baltarusijoje (Adomo Kirkoro «Keliones dienorastis») / / Vilniaus valst. V. Kapsuko v. universiteto mokslo darbai: Istorijos-filologijos mokslu serija. 1958. 5 t.; U z t u p a s V. Adomo Honorio Kirkoro leidybine spaustuvine veikla / / Knygotyra. 1985. T. 12 (19).

**На польскай мове.** A n t o n i e w i c z W. Adam Honory Kirkor / / Ziemia. 1913; I l g o w s k i J. Archeologia w Wilnie / / Kraj. 1892. Nr 27; J . S . Kilka szczegółów, odnoszących się do stanu wychowania i literatury na Litwie w ostatnich czasach / / Dz. Lit. 1863. 24, 27 list.; J.S. Pamiętniki umysłowe (wydane przez Jana ze Sliwina) / / Bibl. Warsz. 1847. T. 2; J a r o s z e w i c z - K l e i n d i e n s t B. W kręgu bohemistycznych zainteresowań A.H.Kirkora / / Pamięt. Słowiański. 1975. T. 25; J e l s k i A. Adam Honory Kirkor: (Wspomnienie pośmiertne) / / Prz. Lit.: Dodatek do «Kraju». 1886. Nr 51; J e l s k i A. Kronika naukowa, literacka i artystyczna: Słówko sprostowania o Kirkorze / / Prz. Lit.: Dodatek do «Kraju». 1887. Nr 23; K i r k o r S. «Korespondencje» petersburskie J.I.Kraszewskiego / / Zeszyty Historyczne (Paryż). 1970. Z. 17; K i r k o r S. Od Heleny do Marii: (Przyczynki do biografii A.H.Kirkora) / / Wiadomości (Londyn). 1973. Nr 50; M a r c h e l U. Nieznane listy Syrokomli / / Gaz. Poznańska. 1972. Nr 287; P ł u g A. Adam Honory Kirkor / / Kłosy. 1886. T. 43; S a s B e r l i c z. Odkrycia A.H.Kirkora, w Kwaczale w 1873 roku / / Kłosy. 1874. T. 19. Nr 476, 477; S t o l z m a n M. Wydawnictwo drukarni obywatelskiej w Wilnie (1859—1867) / / Roczniki biblioteczne. 1973. Z. 1—2; S t o l z m a n M. Z dzialalności wydawniczej Adama Honorego Kirkora: Pismo zbiorowe «Na dziś» / / Rocz. Historii Czasopiśmiennictwa polskiego. 1968. Z. 1.

**На рускай мове.** Б е л о р у с с. Библиографическая заметка по поводу III тома Живописной России: (Литва и Белоруссия — соч. Киркора) / / Лит. епарх. вед. 1884. № 9; Я г о ж. Последнее слово «Краю» из-за «Живописной России» / / Там жа. 1884. № 48; Б у л а х о в М. Киркор Адам-Гонорий Карлович / / Булахов М. Восточнославянские языковеды: (Библиогр. словарь). Мн., 1976. Т. 1; В е н г е р о в С. Источники

словаря русских писателей. Пг., 1914. Т. 3. С. 75—76; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 338; Климанский С. Новое о Киркоре // Неман. 1969. № 7; Тальвирская З. Некоторые вопросы общественного движения в Литве и Белоруссии в конце 50-х — начале 60-х гг. и подпольная литература // Революционная Россия и революционная Польша. М., 1967.

3.1.

Б-ка АН Украіны імя В.Стафаніка ў г. Львове, аддз. рукап., Карл 68/п. 2; Карл 189/п. 4; Б-ка Асалінскіх у Вроцлаве (Польшча), аддз. рукап., адз. зах. 5877, т. 2; 6524; 6831; 6841; 14178; 14 409; Б-ка Ягелонскага ун-та ў Кракаве (Польшча), аддз. рукап., 4496, 4497, т. 14; 6028, 6456, 6467, 6509, 8917, 8922, 8923, 9202, 9814; Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве (Польшча), архіў Пшэздэцкіх, Д—172; ДГА Літвы, ф. 378, Агульн. аддз., 1845 г., спр. 1042; 1864 г., спр. 213, 383; 1866 г., спр. 191; воп. 121, спр. 583; ф. 1135, воп. 4, спр. 391 а, с. 12; воп. 11, спр. 1—24; ІРЛІ, ф, 93, воп. 3, спр. 607, ф. 548, воп. 1, спр. 148, 269; Нацыянальная б-ка ў Варшаве (Польшча), аддз. рукап., 2669, 2674, 2915, 2995, 5704, 5993, 6111, 6338, 7028, 7262, 7263, 7301, 7861, 8840, 10641; Расійская дзярж. б-ка, аддз. рукап., ф. 156, адз. зах. 4, 7; Расійская нац. б-ка (Санкт-Пецярбург), аддз. рукап., ф. 37, адз. зах. 437, 726; ф. 124, воп. 2, адз. зах. 100; ф. 377, адз. зах. 1448; ф. 386, адз. зах. 52; ф. 629, адз. зах. 196; ЦБ АН Літвы, ф. 7, адз. зах. 1744; ф. 9, адз. зах. 2178, 2368; ф. 273, адз. зах. 1252; ЦНБ АН Беларусі, ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, л. 166—167.

*Г.В.Кісялёў.*

# КІРЫЛА ТУРАЎСКІ



***Кірыла Тураўскі (каля 1130, г. Тураў, цяпер г.п. Тураў Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. — каля 1188), старажытнабеларускі пісьменнік-прапаведнік, царкоўны дзеяч, майстар красамоўства.***

Паходзіў з сям'і багатых тураўскіх мяшчан. У дзяцінстве атрымаў высокую для таго часу адукацыю ў Тураве, які тады з'яўляўся цэнтрам Турава-Пінскага княства і як культурны і палітычны цэнтр быў цесна звязаны з Кіевам. Дасягнуўшы юнацкага ўзросту, пастрыгся ў манахі, прыняўшы імя Кірыла (ранейшае імя невядома) і захапіўся аскетычным жыццём у такой ступені, што звычайнае манаства перастала яго задавальняць. Ён пажадаў, каб яго замуравалі ў манастырскай вежы, і там у адзіноце аддаўся літаратурнай дзейнасці, якая звярнула на сябе ўвагу жыхароў княства. Калі тураўская епіскапія стала вакантнай, апошнія абралі Кірылу сваім епіскапам. Перапісваўся з уладзімірскім князем Андрэем Багалюбскім. Больш дакладныя біяграфічныя звесткі невядомы.

У гісторыю літаратуры ўвайшоў як выдатны майстар ўрачыстага царкоўнага красамоўства, якое ў 13—14 ст. паступова прыйшло ў заняпад і знікла з літаратурнага ўжытку да 1-й паловы 17 ст., калі зноў адрадзілася ў творчасці Стафана Зізанія, Мялеція Смятрыцкага, Лявонція Карповіча і іншых беларускіх пісьменнікаў. Кірыла Тураўскі быў праславітым пісьменнікам. Стаўшы епіскапам, ён праславіўся як красамоўны прапаведнік, які вельмі клапаціўся пра духоўную дасканаласць суайчыннікаў у адпаведнасці з этычнымі і эстэтычнымі ідэаламі свайго часу. Абапіраючыся на лепшыя традыцыі візантыйскай аратарскай прозы, ён узняў старажытнарускае красамоўства на небывалую вышыню. Яго пяру бясспрэчна належаць «Аповесць пра беларызца і манаства», «Казанне пра чарнарызскі чын», «Аповесць пра бяспечнага цара і яго мудрага саветніка», 2 каноны, 8 «слоў»-павучанняў, як, напрыклад «Слова на вербніцу», «Слова на вялікдзень», «Слова на ўшэсце» і каля 30 малітваў. Поўны аб'ём яго гімнаграфічнай творчасці ў навуцы яшчэ дакладна не вызначаны. Найбольш ярка паэтычны талент пісьменніка праявіўся ў «словах», напісаных з нагады рэлігійных свят, дзе паэтычная фантазія аўтара спалучаецца з хараством і велічнасцю вобразаў, пададзеных у жывой драматычнай форме і надзеленых багатай паэтычнай сімволікай. Тут праз традацыйны біблейскі змест, царкоўна-рэлігійную форму прабіваецца захапленне радасцю жыцця, хараством прыроды, імкненне да духоўнай дасканал-

ласці. Пісьменнік шырока выкарыстоўваў алегорыі, сімвалы, рытарычныя звароты, будаваў разгорнутыя параўнанні, тонка адчуваючы стылістычнае адзінства мастацкага слова. Паводле маскоўскага пісьменніка Б.Зайцава, Кірыла Тураўскі з'яўляецца больш верагодным аўтарам «Слова пра паход Ігаравы».

Высокая кніжная культура і літаратурнае майстэрства ў Кірылы Тураўскага гарманічна спалучаны з жывым народна-паэтычным словам, натуральнай шчырасцю пачуццяў, мастацкай самабытнасцю і смеласцю аўтара, што сведчыць пра высокае майстэрства яго як пісьменніка. Яго літаратурная творчасць яшчэ пры жыцці аўтара атрымала шырокае прызнанне сярод сучаснікаў, якія называлі яго Златавустам. Творы Кірылы Тураўскага склалі залаты фонд старажытнарускай літаратуры і на працягу стагоддзяў карысталіся вялікай папулярнасцю на землях усходніх славян, перапісваліся (нават у 19 ст.), некаторыя з іх перакладаліся вершам і рабіліся прадметам літаратурнага пераймення. Яны ўключаліся ў склад розных зборнікаў ("Златоуст", «Торжественник» і інш.), папулярных анталогій лепшых твораў найбольш славутых грэчаскіх майстроў красамоўства. Асобныя яго творы друкаваліся ў «Евангеллі вучыцельным» (Заблудаў, 1569), «Малітвах паўсядзённых» (Вільня, 1596; Еўе, 1615; Вільня. 1635) і інш.

Кірыла Тураўскі зрабіў вялікі ўплыў на развіццё старажытнарускай аратарскай прозы. Яго творчасць была вядома і ў іншых краінах хрысціянскага свету, асабліва сярод паўднёвых славян (балгар і сербаў). Кірыла Тураўскі быў кананізаваны рускай праваслаўнай царквой і сёння ўваходзіць у Сабор беларускіх святых. Першым, хто адкрыў і апублікаваў значную частку яго твораў, быў К.Калайдовіч (Масква, 1821), але найбольшы ўклад у вывучэнне творчасці пісьменніка зрабілі М.Сухамлінаў і І.Яромін. У Тураве адкрыты помнік Кірылу Тураўскаму (1993); праводзяцца прысвечаныя яму святы. Царква ў яго імя ёсць у Рычмонд Гіл (штат Нью-Йорк). Памяць яго, як беларускага святога, ушаноўваецца 28 красавіка.

*А.Ф.Коршунаў, В.А.Чамярыцкі.*

## Бібліяграфія

1.2.

Молитвы на всю седмицу св. Кирилла, епископа Туровского. Казань, 1857.

Творения святого отца нашего Кирилла епископа Туровского с предварительным очерком истории Турова и Туровской иерархии до XIII века. Киев, 1880. Рэц.: Т в о р е н и я св. отца нашего Кирилла, еп. Туровского. Изд. преосв. Евгения // Мин. епарх. вед. 1880. № 37.

1.3.

1821. [Творы] // Памятники российской словесности XII в., изданные с объяснениями, вариантами и образцами почерков К.Калайдовичем. М.

1854. Новые списки поучений Кирилла Туровского / Публ. И.Срезневский // Изв. АН по ОРЯС. Т. 3.

1855. Новые списки поучений Кирилла Туровского; Еще одно поучение Кирилла Туровского по неизданным спискам / Публ. И.Срезневский // Исторические чтения о языке и словесности за 1854 и 1855 гг. Спб.

1857. Молитвы на всю седмицу // Правосл. собеседник. № 1, 2.

1858. Рукописи графа А.С.Уварова // Памятники словесности. Спб. Т. 2. Вып.1. С. 1—149.

1860. Святого Кирилла, епископа Туровского, молитва ко ангелам о душе глаголема // Прибавление к Херсон. епарх. вед. № 9.

1959. Слово Кирила недостоинаго мниха по пасце, похваление въскресения, и о арътусе, и о Фомине испытаньи ребр господних. Господи, благослови!; Святого Кюрила мниха слово о сънятии тела Христова с креста, и о мюроносицах, от сказания евангельскааго, и похвала Иосифу, в неделю 3-ю по пасце; Слово на възнесение господне, в четвьрток 7-й недели по пасце, от пророчьских указаний и о въскрешении всеродьна Адама из ада; Кирила мниха притча о человечестей души и о телеси, и о преступлении божия заповеди, и о воскресении телесе человеча, и о будущемь суде, и о муце // Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн.

1.5.

**На беларускую мову.** З наукі ў нядзелю пятую па Вялікадні: [Урывак] // Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускай літаратуры. Вільня, 1923.

**На польскую мову.** Słowo Kiryła Turowskiego na Niedzielę Przewodnią. / Tł. z ros. A.Kamińska // W Drodze. 1976. Nr 4.

**На нямецкую мову.** Gebete. München, 1965. (Slavische Propyläen. Bd. 6). Zwei Erzählungen. München, 1964. (Slavische Propyläen. Bd. 5).

**На рускую мову.** Слово в неделю новую по Пасхе // Христианское чтение. 1832. Т. 46; Из «Притч» и «Слов» Кирилла Туровского. (Подг. текста, перевод и комментарии В.Колесова) // Памятники литературы древней Руси: XII век. М., 1980.

**На ўкраінскую мову.** Слово в неділю по великодні / Пер. В.Шевчук // Антологія української поезії. К., 1984. Т. 1.

2.1.

**На рускай мове.** П о п о в [А.]. Библиографические материалы // ЧОИДР. 1889. № 3.

2.2.

**На беларускай мове.** Н а д с о н А. Святы Кірыл Тураўскі. Лондан, 1968.

Л а б ы н ц а ў Ю. «Напой росою благодати...»: Малітоўная паэзія Кірыла Тураўскага / Пер. з рус. В.Сёмуха. Мн., 1992.

**На рускай мове.** А л е к с е е в а Т. Лексика «слов» Кирилла Туровского: Автореф. дис. ... канд. филол. н. М., 1975.

В о р о н ц о в Е. Отличительные черты проповедей св. Кирилла Туровского в связи с особенностями времени и его личностью. Мн., 1899 / Отт. из «Мин. епарх. вед.». 1899. № 7—10.

С у х о м л и н о в М. О сочинениях Кирилла Туровского. Спб., 1858 / Отт. из 1-го вып. «Рукописей графа Уварова».

2.3.

**На англійскай мове.** F e d o t o v J. The Russian Religious Mind. Cambridge, 1966. V. 1. P. 69—84, 136—141; N a d s o n A. Spiritual Writings of St. Cyryl of Turau // Eastern Churches Reviev. 1967—1968. Vol. 1. Nr 4; N a d s o n A. The Writings of St. Cyryl of Turau // Journ. of Byel. Stud. 1965. Nr 1.

**На балгарскай мове.** Н и к о л о в а С. Кирил Туровски и южнославянската книжница // Славянска филология. София, 1988. Т. 20.

**На беларускай мове.** В - в а. Кароткі нарыс развіцця асветы на Беларусі да першай чвэрці XVII стагоддзя // Гоман. 1917. 16 лют.; В о л ь с к і В. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізма. Мн., 1952. С. 24—25; Г а р э ц к і М. Кірыла Тураўскі // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920; 2 выд. Вільня, 1921; 3 выд. Вільня, 1924; Г і с т о р ы я беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. С. 82—85; К а р о т к і нарыс развіцця асветы на Беларусі да

прыйшла вясна; Д з у ц ц а ц і Х.-М. «Змагаліся вы...»; М а р г і е ў К. Я хлопец з гор: [Вершы] / З асец. / / ЛіМ. 6 крас.; Г а д а в а н е ц М. Сярод вясняной гамаы: [Верш] / З укр. / / Там жа. 22 чэрв.; Т э д э т ы Р. У партыю ўступаеш: [Верш] / З асец. / / Там жа. 12 кастр.; Д з у г а е ў Г. Ліса: [Верш] / З асец. / / Там жа. 19 кастр.; Я г о ж. Зямля: [Верш] / З асец. / / Там жа. 16, 23 ліст.

1974. Ч а п у р а ў А. У прыморскім парку Перамогі; Ш о ш ы н У. Ідзём, абняўшыся па-брацку...: [Вершы] / З рус. / / Беларусь. № 1; Б р а н е ў с к і У. Прысяга маладых: [Верш] / З пол. / / Там жа. № 7; П у х а е ў А. Хатынь / З асец.; С м е л я к о ў С. Алёнка / З рус.: [Вершы] / / ЛіМ. 30 жн.; Д ж у с о й т ы Н. Чалавек: [Верш] / З асец. / / Там жа. 8 ліст.; Д з у г а е ў Г. Коста ў Цебярузе: [Верш] / З асец. / / Там жа. 5 снеж.

1975. М е н ю к Г. Камуніст / З малд.; Р у с т а м С. Мая песня / З лезг.: [Вершы] / / Камуністы. Мн.; Ч у х а е ў А. Хатынь: [Верш] / З асец. / / Слухайце — Хатынь!.. Мн.; Ч у м а к В. Чырвоны запеў; Заклік; Т а р э ш ч а н к а М. Дарога; У с э н к а П. Вішанька: [Вершы]; Г а д а в а н е ц М. Пінжак; Авадні; Крыкуны: Байкі; Г а н ч а р э н к а І. Вясельны шаль; То не я стаяла, мама; Дунаю мой; Чакайце волі!; «Севастопаль. Горы Балаклавы...»; «Мільганула бліскаўка...»; В а с к р а к а с е н к а С. Сяржант Іван Рахуба: [Вершы] / З укр. / / Украінская савецкая паэзія: У 2 т. Мн. Т. 1; П я т р э н к а Ю. Коні; Маладыя гром; Бяссмерце; Мяжа; Музей Саксенгаўзен: [Вершы] / З укр. / / Украінская савецкая паэзія: У 2 т. Мн. Т. 2; А с а т ы Р. У гасцях у Леніна: [Верш]; Д з у г а т ы Г. Трубіць алень: Балада; Г а ф е з. «З н о ў . . .»; П л і т ы І. Камяні; М а р г і т ы К. Безымянныя вершы; Д ж у с о й т ы Н. Прымаўка; П у х а т ы А. «Па небе поўня коціцца клубком...»; Н а р ц і к о т ы М. Час жніва; К а з а т ы І. Горац я; Х а р э б а т ы Л. Валы смуткуюць...; Д з у ц а т ы Х. – М. Хмельная ноч; Т э д э т ы Р. Церак у Арджанікідзе; А л б а р т ы Х. Лыжачнік; Х а ц ы р т ы С. Стогне каса пад страхою; Б а к а т ы Н. «Вабяць бровы, хмурынкі-бровы...»; Б е с т а у т ы Г. «Лясное зябне птушанё...»: [Вершы] / З асец. / / Полымя. № 2; Г а н ч а р э н к а І. То не я стаяла, мама: [Верш] / З укр. / / Там жа. № 6; С у а н - З і э у. Новая чарапіца; Х а й Т. Гімн вясне; К а о В. Маё сяло (В'етнамская партызанская): [Вершы] / З в'ет. / / Там жа. № 9; Ш о л а х а ў М. Двухмужняя: Апавяданне / З рус. / / Работніца і сялянка. № 5; А с а т ы Р. Твой кубак: [Верш] / З асец. / / ЛіМ. 28 сак.; М а р г і т ы К. Прыгажосць; К а з а т ы І. Матулі: [Вершы] / З асец. / / Там жа. 1 жн.; К о д а л а е ў Г. Старыя чаравікі: [Верш] / З асец. / / Сел. газ. 1975. 9 февр.

1976. Н э р у д а П. Альмерыя; Спеў Балівару; Карабель; Подзвіг; Дванаццаць: [Вершы] / З ісп. / / Нэруда П. Крыві бунтоўнай кроплі. Мн.; А л е й н і к С. У армію праводзілі Пятра: [Верш] / З укр. / / Беларусь. № 5; Н э р у д а П. Дванаццаць; Спеў Балівару: [Вершы] / З ісп. / / Полымя. № 7; С і к і р ы ц к і І. Гагарын; «Забіць паэзіі не здолеў...»; На смерць знаёмай сасны: [Вершы] / З пол. / / ЛіМ. 8 кастр.; К а н а н о в і ч М. Партызаны; С і к і р ы ц к і І. Гагарын; Паэзія; Ля вадапою на змярканні: [Вершы] / З пол. / / Сел. газ. 7 окт.

1977. Х е т а г у р а ў К. З «Асецінскай ліры»: Алол-лай; Жаданне; Гора; Маці: [Вершы] / З асец. / / Далягляды. Мн.; Б о р у т а К. Сонечны гадзіннік; Балтыйскае мора; Белая чайка; Казка лета; Вечная песня жыцця; І о н і н а с А. «Адтуль...»; П а л е ц к і с Ю. Наш народ перамог; Савецкая Літва; Ты — жывы; Р э й м е р ы с В. Мілюнай; Нёман; Лесвіца эпохі; Тым, каму 20; На падножцы вагона; Падманны спакой; Круг поўні; Клубок жыцця: [Вершы] / З літ. / / Літоўская савецкая паэзія: У 2 т. Мн. Т 1; Р а к а ш Ш. Шэсце беднякоў; Довад і дзеянне; Рэчаіснасць; Галінка абрыкоса; Н е м е ш - Н а д з ь А. Свабодзе; Ураган; Паміж; Статуі; Н а д з ь Л. Зачараванне гарачым ветрам; П а п Л. Казус з містэрам пілотам: [Вершы] / З венг. / / Сучасная венгерская паэзія. Мн.; С ц е п а н ю к Б. Балада пра найпершы верш: Балада / З укр. / / Сцепанюк Б. Матчына слова. Мн.; С ц е п а н ю к Б. Цеплавей; На ўсіх вятрах; Чытай пра чырвоную шапачку; Дзяўчына; Казак; Балада пра найпершы верш: [Вершы] / З укр. / / Полымя. № 2; Ю ш ч а н к а А. Плаўка дружбы; Пяцёра і адна; Горкая навука; Хадунок у хаце Купалы; «Калі ласка!» Чуем часта...: [Вершы] / / Там жа. № 5.

1978. Д ж у с о й т ы Н. Чалавек: [Верш] / З асец. / / Квітней, Радзіма. Красуй, жыццё. Мн.; Ц і х а н а ў М. «Разгулле лютае зімы...»; «Цябе апявалі, Тбілісі...»; Радуга ў Сагурама; Невядомаму таварышу; Дзеля лепшых радасцей на свеце; Вароты Іскандзера: [Вершы] / З рус. / / Ціханаў М. Спасціжэнне. Мн.

1979. А л ь т о ў с к а я Н. «Далонькаю кранае парапет...»; Царэўна карабельнай старанны; Д р у с к і н Л. Мая вуліца; К а б р а к о ў П. Матрона Фаміна; Сянно; М а к с і м а ў В. Снег у горадзе; Пакой з гадзіннікам; М а л я р о в а І. «Бліснe поўня з-за хмурыны шэрай...»; М о л е в а С. У Дачным; Сады; П а л я к о в а Н. Расіянкі; «Пагладзь мяне па галаве...»; Ты куды сабраўся, хлопчык?; П а н ф і л а ў Я. Вясенняя ноч; У г р э н і н а ў Г. Плыты на Няве; Ф ё д а р а ў І. Ля ракі: [Вершы] / З рус. / / Прызнанне. Мн.; Х е т а г у р а ў К. З «Асецінскай ліры»: Запавет; Туга заканагата; Салдат; У расстанні: [Вершы] / З асец. / / Беларусь. № 11; Я г о ж. З «Асецінскай ліры»: [Вершы] / З асец. / / Там жа. № 10; Я г о ж. Каму што...; Балаўнік: [Вершы] / З асец. / / Вясёлка. № 11; Я г о ж. Праспявай!; Знаю; Безразважны пастух; Паходная песня; «Эх, каб запець мне, як нарту-музыку...»; Трывога; Бывай!; Спадзеў; Кубады; Ўсаці; Прападзі!: [Вершы] / З асец. / / Полымя. № 10.

1985. П а л я к о в а Н. Расіянкі: [Верш] / З рус. / / Чырв. змена. 7 вер.

1.5.

**На асецінскую мову.** Хъэды...: [Верш] / Г.Бестауты тэлм. / / Фидиуэг. 1969. № 1; Сэ фэстаджы фэндаг; Чызджы мысы бэрз; Кэддэр...; Хъэды ́рфгуыты...: [Вершы] / Г.Бестауты тэлм. / / Хэстарыд зарэг. Цхинвали, 1976.

**На грузінскую мову.** На апошняй дарозе; Уроскід разараная зямля...; Калісьці...: [Вершы] / Пер. Т.Абуладзе / / Беларускія савецкія паэты. Тбілісі, 1978.

**На літоўскую мову.** Mergaite piesia / Vert. V.Simkus / / Lit. ir. menas. 1975. Kovo. 22.

**На малдаўскую мову.** Друмул де ла моарэ; «О, ну, Минунь пе луме...»; Пе ултимул друм: [Вершы] / Трад. П.Кэраре / / Поець белорушь. Кишинэу, 1975; Пе ултимул друм / Трад. П.Кэраре / / Констелацие де инимь. Кишинэу, 1976.

**На рускую мову.** Яблоня белая; Береза девчонку припомнит...: [Вершы] / Пер. И.Бурсов / / Неман. 1963. № 3; Любимый город: [Верш] / / Сов. Бел. 1963. 22 окт.; Яблоня белая; Береза девчонку припомнит: [Вершы] / Пер. И.Бурсов / / Чувство семьи единой. М., 1964; Рассудил; Жил-был...; Сплавщик; Неудачница: [Вершы] / Пер. И.Бурсов / / Неман. 1967. № 7; Лодырь и кнопки; Почему я холостяк: [Вершы] / Пер. И.Бурсов / / Там жа. 1968. № 6; «Молчала девчонка, что камень...»: [Верш] / Пер. И.Бурсов / / В едином строю. М., 1970; Дом на сопке; Огород при матринской хате; «Распахана, распахнута земля...»: [Вершы] / Пер. И.Бурсов / / Мол. гвардия. 1970. № 7; «Спросите немого...»; «Созвездья висят...»; «Я встречу на зорьке тебя...»: [Вершы] / Пер. И.Бурсов / / Неман. 1970. № 2; От Орши до Бреста: (Дорожный репортаж) / Пер. И.Бурсов / / Там жа. 1970. № 4; Про лавочку-скамеечку: [Фельетон у вершах] / Пер. В.Корчагин / / Правда. 1972. 22 сент.; Молчала девчонка, что камень...: [Верш] / Пер. И.Бурсов / / За тебя, Беларусь. Мн., 1974; Память матерей: [Верш] / Пер. Н.Симаков / / Правда. 1976. 9 мая; Человек: [Вершы] / Пер. И.Бурсов / / Неман. 1977. № 1; Баллада о красном галстуке: [Верш] / Пер. Е.Андреев / / Земля с лазурными очами. М., 1979; Человек; Яблоня белая; Чудес, конечно, нет. Другая сила; Радуга; Береза девчонку припомнит; Дом на сопке; Малина Саласпилса; Распахана, распахнута земля...: [Вершы] / Пер.

И.Бурсов / / Слово по кругу. Мн., 1981; Далекий гром: [Верш] / Пер. Н.Симаков / / Правда. 1983. 1 июля.

На ўкраінскую мову. Леніна том: [Верш] / Пер. В.Петрик / / Дніпро. 1966. № 6; Ім лячно самим серед ночі; Пізньої осені: [Вершы] / Пер. С.Білоконь / /Калинові мости. К., 1969; Весільний коровай: [Верш] /Пер. В.Кохан / / Молодь Закарпаття. 1971. 16 жовт.; Парубоцька скарга: [Верш] / / Сіл. вісті. 1971. 31 січ.; Дуля в кишені: [Байка] / Пер. В.Лагода / / Порідни-лись нязавжди. К., 1972; Том Леніна: [Верш] / / Черв. прапор. 1975. 18 черв.; Дуля в кишені: [Верш] / Пер. В.Лагода / / Літ. Укр. 1976. 21 трав.; «Як мудро все життя створило...»; Вітчизна Купали: [Вершы] / Пер. О.Ющенко / / Украіна. 1977. № 22; Червоний галстук / Пер. Р.Лубківськi; Рідні руки / Пер. С.Йовенко: [Вершы] / / Лісова коліска. К., 1979.

На таджыкскую мову. Мухраи чаварги; Катраи гаронмоя: [Вершы] / Тарч. Ш.Мастон / / Армугони дусти. Душанбе, 1965.

1.6.

Н я д з в е д с к і У. Выбранае: Вершы і паэмы. Мн., 1976 / Скл.

2.3.

На беларускай мове. А р о ч к а М. Балючая памяць зямлі / / Полымя. 1984. № 7; Я г о ж. Зямля, асвечаная любоўю / / ЛіМ. 1979. 13 крас.; Я г о ж. Саюз часу і мастацтва. Мн., 1981. С. 237—239; Б е л а р у с к а я літаратура: Дзень сённяшні. Мн., 1980. С. 103—105; Б у р ′ я н Б. Павышаць патрабавальнасць / / ЛіМ. 1951. 26 мая; Г е н а д з ь Якаўлевіч Кляўко: [Некралог] / / Там жа. 1979. 24 жн.; К а ц ю ш ы н М. Змена маладая, таленавітая / / Голас Радзімы. 1962. № 80; К л і м я н к о ў В. «На сонечных сцежках» / / Гомел. праўда. 1952. 23 снеж.; Л о й к а А. Сустрэчы з днём сённяшнім. Мн., 1968. С. 127—128; М а р ц і н о в і ч А. Боль сэрца і споведзь душы / / Мін. праўда. 1980. 28 чэрв.; П а ў л а ў У. На сярэдзіне дня / / ЛіМ. 1979. 24 жн.; П а ш к о ў Г. Праменні дзён яго: Да 50-годдзя з дня нараджэння Генадзя Кляўко / / Там жа. 1982. 30 крас.; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П я т к е в і ч А. Недасол — перасол / / ЛіМ. 1968. 12 крас.; Ш ы м у к В. У памяці назаўсёды / / Там жа. 1979. 24 жн.

2.4.

На беларускай мове. Б а р а д у л і н Р. Слова замоўкла на міг...: [Верш] / / ЛіМ. 1979. 24 жн.

*В.У.Смольская*

## КЛЯШТОРНЫ ТОДАР



*Кляшторны Тодар Тодаравіч [крыпт. Т.К.; 26.2(11.3).1903, в. Парэчча Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — 30.10.1937, Мінск (?)], паэт, перакладчык. Член СП Беларусі з 1934.*

З беднай сялянскай сям′і. Пасля службы ў Чырвонай Арміі Т.Кляшторны вучыўся на рабфаку ў Оршы. У 1931 скончыў БДУ. Працаваў на радыё, у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Быў членам таварыстваў «Маладняк», «Узвышша», БелАПП. У доме, па Магілёўскай шашы ў Мінску, дзе ён жыў з сям′ёй, часта збіраліся паэты П.Броўка, У.Дубоўка, М.Лужанін, У.Хадыка і інш. Восенню 1936 Т.Кляшторны быў незаконна арыштаваны як член неіснуючай антысавецкай арганізацыі. У 1937 прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Адначасова саслана ў Акмолінскі карлагер і жонка яго з малодшай дачкой. Старэйшыя дзеці трапілі ў дзіцячы дом. Рэабілітаваны ў 1957.

Першыя вершы («На смерць Фрунзе», «Брындае вечар...») апублікаваны ў часопісе «Аршанскі маладняк» у 1925. Першы зборнік яго паэзіі «Кляновыя завеі» ўбачыў свет у 1927. Потым пачалі выходзіць з друку і іншыя — «Светацені», «Ветразі», «Палі загаманілі».

Асноўны змест паэзіі Т.Кляшторнага — рамантычнае апяванне героікі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, услаўленне сацыялістычнага будаўніцтва. Асобнае месца ў яго творчасці займае паэма «Калі асядае муць», у якой адчуваецца расчараванне паэта палітыкай НЭПа. Паэма пазначана журботнымі матывамі, выклікала жорсткія напады з боку вульгарна-сацыялагічнай крытыкі. Т.Кляшторны вядомы і як перакладчык твораў

М.Асеева, А.Безыменскага, М.Галоднага, А.Лухуці, У.Маякоўскага, К.Ванэка і інш. Яго творы таксама перакладзены на літоўскую, рускую і ўкраінскую мовы. На вершы Т.Кляшторнага І.Іваноў, М.Равенскі напісалі песні.

*І.П.Чыгрын.*

## Бібліяграфія

1.1.

Залатое вязьмо: Выбр. вершы. Мн., 1960.

Выбр. вершы. Мн., 1970. (Б-ка бел. паэзіі). Рэц.: Л е ц к а Я. Лірык нашага рання / / ЛіМ. 1972. 4 лют.

1.2.

Кляновыя завеі: Зб. вершаў. Мн., 1927. Рэц.: Б у н т а р ь Г. Рецензия о рецензии / / Звязда. 1927. 27 апр.; П л а ш ч ы н с к і І. / / Чырв. сейбіт. 1927. № 12.

Светацені: Вершы. Мн., 1928. Рэц.: А . Б . / / Узвышша. 1928. № 6; Г а р о д н я А. / / Полымя. 1928. № 8.

Ветразі: Паэзія. Мн., 1929. Рэц.: К у н і ц к і С. / / Маладняк. 1930. № 8—9; С я д у р а У. Спроба паваротy ветразей / / Полымя. 1931. № 5; Ц і т о ў А. / / Там жа. 1930. № 11—12.

Палі загаманілі: Паэма. Мн., 1930. Рэц.: Б у р Л. Вершы аб калгасным уздыме / / Палес. праўда. 1931. 22 лют.; Ц і т о ў А. / / Полымя. 1931. № 1.

Праз шторм — на штурм: Вершы. Мн., 1934. Рэц.: М . Б . «З дарогі, крот і кракадзіл!» / / Чырв. змена. 1934. 10 ліп.; Ш а р а х о ў с к і Я. Пачатак перабудовы / / ЛіМ. 1934. 31 ліп.

Пра зайца, ваўка і мядзведзя: Кніжка-малюнак. Мн., 1935.

Пра зайца, ваўка і мядзведзя: Казка. Мн., 1964.

1.3.

1925. На смерць Фрунзе; Брындае вецер...: [Вершы] / / Арш. малад. № 2.

1926. Акруговаму з'езду камсамола: [Верш]; Праз куламесіцу часу: Апавяданне / / Арш. малад. № 1; Уздыбленыя дні; Развяжанні: [Вершы] / / Там жа. № 2; «Раджаўся дзень...: [Верш] / / Маладняк. № 7—8; Кляновыя завеі: [Верш] / / Там жа. № 10; Кастрычнік: [Верш] / / Чырв. сейбіт. № 3; На ледзяной гітары: [Верш] / / Там жа. № 5; «Рыжы, но, не глядзі з-за плуга...»: [Верш] / / Сав. Бел. 5 вер.; Песня аб дружбе: [Верш] / / Там жа. 19 вер.; Пад шум ветру: [Верш] / / Там жа. 20 кастр.; «Зацвілі сярэбраныя росы...»: [Верш] / / Там жа. 14 ліст.; Зазімак: [Верш] / / Там жа. 21 ліст.; «Хто зварушыў нямеючыя хвалі...»: [Верш] / / Там жа. 28 ліст.; На зары: [Верш] / / Там жа. 25 снеж.; «Па за вокнам крышталюючца зарніцы...»: [Верш] / / Чырв. змена. 24 кастр.

1927. Пра старанных вучняў і жэўжыка Алена: [Верш] / / Бел. работніца і сялянка. № 12; «Зноў вясна...»: [Верш] / / Маладняк. № 4; Бачу і чую — чую і бачу: (З народнага): [Верш] / / Там жа. № 6; «Па-за акном крышталяцца зарніцы...»: [Верш] / / Полымя. № 1; «Калі часы астудзяць...»; «Не глядзі з дакорам...»: [Вершы] / / Там жа. № 4; Успамін: [Верш] / / Там жа. № 6; У дарозе: [Верш] / / Там жа. № 7; Хачу жыць; Ліст у Сібір: [Вершы] / / Там жа. № 8; «Вечар гас...»: [Верш] / / Узвышша. № 3; Маладосць: [Верш] / / Там жа. № 4; Праксэда: [Верш] / / Там жа. № 5; Калі асядае муць: Паэма / / Там жа. № 6; 1928. № 2, 3; У вёсцы: [Верш] / / Чырв. сейбіт. № 8—9; Белыя паляны: [Верш] / / Там жа. № 14; У дарозе: [Верш] / / Там жа. № 16; «Задыміўся імжою сырбор...»: [Верш] / / Заря Запада. 4 дек.; На ўсходзе дальнім, на палёх Кітая: [Верш] / / Звязда. 12 мая; «Золкая сцюжа свідруе...»: [Верш] / / Там жа. 18 снеж.; «Раскідаў месяц пераметы...»: [Верш] / / Наш голас. 26, 28 лют.; Сав. Бел. 3 лют.; «Бачу сон: Дзе ў цемры вякоў...»: [Верш] / / Сав. Бел. 2 кастр.; Успамін: [Верш] / / Чырв. змена. 22 лют.; «За кроснамі часу не прыкмеціш...»: [Верш] / / Там жа. 15 мая; «Вечар гасіць сонечныя плёсы...»: [Верш] / / Там жа. 3 ліп.

1928. Зазімак; На зары: [Вершы] / / Дэкламатар. Мн.; «На палях не шумела калоссе...»: [Верш] / / Літ. дад. да газ. «Сав. Бел». № 14; Песня цапоў: [Верш] / / Там жа. № 20; Мая любімая...: [Верш] / / Маладняк. № 5; Беларусь: Паэма / / Узвышша. № 6; Чырвоны і белы: [Верш] / / Чырв. сейбіт. № 2; Прысвячаю Чырвонай арміі: [Верш] / / Звязда. 4 сак.; Калі асядае муць; Урывак з паэмы / / Там жа. 22 крас.; Майская песня: [Верш] / / Там жа. 1 мая; Чужыя дзеці: (Байка) / / Там жа. 13 мая; Успамін: [Верш] / / Сав. Бел. 26 лют.

1929. Маці; Я ж не артыст: [Вершы] / / Узвышша. № 6; Што нагадаў мне гэты вобраз: [Верш] / / Там жа. № 9—10; Інжынер: [Верш] / / Віцеб. пралетарый. 12 ліст.; Растратчык: [Верш] / / Звязда. 5 кастр.; Рапартую замежным таварышам: [Верш] / / Там жа. 6—7 ліст.; Урывак з балады «Цені мінулага» / / Чырв. змена. 7 крас.; Ці варта сёння быць паэтам?: [Верш] / / Там жа. 12 крас.; Тодар Кляшторны адказвае!: [Верш] / / Там жа. 24 крас.; Гутарка старога з малым: [Верш] / / Там жа. 7 ліп.; Вайна: [Верш] / / Там жа. 3 жн.; Развагі на слядах мінулага: [Верш] / / Там жа. 4 жн.; Інжынер: [Верш] / / Там жа. 18 жн.

1930. Сны: [Верш] / / Узвышша. № 1; Палі загаманілі: Паэма / / Там жа. № 4—5.

1931. З паэмы «Палі загаманілі» / / Рытмы Перамогі. Мн.; Па зімовай дарозе: [Верш] / / Паляўнічы Бел. № 12; Нацыянал-дэмакратам: [Верш] / / Чырв. Бел. № 8; Вандроўнаму тэатру пад кіраўніцтвам Галубка: [Верш] / / Там жа. № 9; Мы перагналі меркаванняў мілі: [Верш] / / Там жа. 1 ліст.

1932. «Кашмарнай цемрай мрок павіс...»; «Калі саюз яшчэ гарматныя сляды...:: [Вершы] / / Беларусь калгасная. № 2; Думкі вартавога: [Верш] / / Там жа. № 4; Машыніст Сакалоў: [Верш] / / Там жа. № 6—7; Паэма пра шкодніка Янку і пра тое, як хлопчык Мацей выратаваў трыер: [Верш] / / Іскры Ільіча. № 5; Песня пра сяўбу бальшавіцкую: [Верш] / / Там жа. № 6; Наш гарод: [Верш] / / Там жа. № 10; Жніво: [Верш] / / Там жа. № 15; Ленін на паляванні: (Успаміны старога бальшавіка паляўнічага): [Верш] / / Паляўнічы Бел. № 1; Бальшавіцкая пераклічка: [Верш] / / Там жа. № 3; Май над сусветам: [Верш] / / Шляхі калектывізацыі. № 9; Па калгасах Лепельшчыны; Усміхнулася, ды не пачакала; Шукаем вінаватага; Беспрытульныя фермы / / Сав. Бел. 20, 24 чэрв.

1933. Сляды дарог: Паэма / / Заклік. № 1; Вольны запіс прамовы аднаго пісьменніка на пленуме ССП: (Пародыя) / / Там жа. № 3; Цёця Вера: [Верш] / / Іскры Ільіча. № 4; «Нашы межы непарушны...»: [Нарыс] / / Звязда. 4 мая; Дзе гулялі буруны: [Верш] / / Там жа. 8 чэрв.; Рукі прэч!: [Верш] / / Там жа. 21 снеж.; Чырвонаарм. праўда. 23 снеж.; Па ленінскай, па сталінскай дарозе: [Вершы] / / Калгаснік Бел. 6—7 ліст.; Пра Леніна: [Верш] / / ЛіМ. 28 студз.; Нашым крытыкам; Сяўбовае; Сяброўскае: (Эпіграмы) / / Там жа. 13 чэрв.; Паэма пра дарожнае будаўніцтва / / Там жа. 31 снеж.; Учора наваселле ў нас было... / / Піянер Бел. 15 ліст.; Спартыўная зіма: [Верш] / / Там жа. 23 снеж.; Баявая прысяга: [Верш] / / Чырвонаарм. праўда. 23 лют.

1934. Май над сусветам: [Верш] / / Вясна переможная. Мн.; Пра зайца, воўка і мядзведзя: [Верш] / / Іскры Ільіча. № 1; Першы снег: [Верш] / / Там жа. № 12 / Сааўт. В.Маракоў, А.Дудар; У вянок памяці таварыша Кірава: [Верш] / / Полымя рэвалюцыі. № 12; Віцеб. пралетарый. 6 снеж.; Звязда. 4 снеж.; Там мёртвыя толькі здаюць барыкады: [Верш] / / Звязда. 25 лют.; Уся справа ў людзях: [Нарыс] / / Там жа. 20 мая; Жыватворчыя агні: [Верш] / / Там жа. 30 ліп.; Юнацтва ў нас вясновае: [Верш] / / Там жа. 24 жн.; Мы вясну спаткалі не такую: [Верш] / / Там жа. 21

ліст.; Наш кірунак дарог — на Маскву!: [Верш] / / Калгаснік Бел. 1 студз.; Праз шторм — на штурм: (З паэмы «Менскія дарогі») / / Там жа. 16 студз.; У мільёнаў б'еццa ленінскае сэрца: [Верш] / / Там жа. 21 студз.; Масквой жыве, Масквою сэрца б'еццa: [Верш] / / Камунар Магілёўшчыны. 6—7 ліст.; У вянок памяці герoў: [Верш] / / ЛіМ. 6 лют.; Марш АБВШ: [Верш] / / Там жа. 26 лют.; Такая не ўзыходзіла зара: [Верш] / / Там жа. 6 ліст.; Старшыня Алеся: [Верш] / / Піянер Бел. 9 сак.; Шмідту: [Верш] / / Там жа. 6 чэрв.; За вучобу: [Верш] / / Там жа. 4 вер.; Сын і бацька: [Верш] / / Там жа. 30 вер.; Казка пра воўка / / Там жа. 23 снеж.; Восеньскімі марозамі / / Чырв. змена. 18 студз.; Мы — сіла савецкай зямлі: Марш АБВШ: [Верш] / / Там жа. 31 студз.; 23 лют.; Радзіма: Урывак з паэмы / / Там жа. 15 жн.; За гэта ручаемся: [Верш] / / Там жа. 1 вер.; Маладым выбаршчыкам: [Верш] / / Там жа. 18 ліст.; Восеньскімі марозамі: [Верш] / / Там жа. 18 снеж.

1935. Байка пра Мішу і Зайку: [Верш] / / Іскры Ільіча. № 1 / Сааўт. В.Маракоў, А.Дудар; Дарогамі шчасця: [Верш] / / Полымя рэвалюцыі. № 9; У мільёнаў б'еццa ленінскае сэрца: [Верш] / / Работніца і калгасніца Бел. № 1; Расціце, сілы маладыя!: [Верш] / / Звязда. 17 студз.; Пра знатных людзей нашай краіны: (Паэма) / / Калгаснік Бел. 14 студз. / Сааўт. А.Звонак; Вялікі садоўнік: [Верш] / / Там жа. 18 чэрв.; Новы год: [Верш] / / ЛіМ. 8 студз.; Прывет камандзірам: [Верш] / / Там жа. 22 сак.; Залатое вязьмо: [Верш] / / Там жа. 6 ліп.; Веснаход; Сады маладосці: [Вершы] / / Там жа. 11 ліп.; Вайна: [Верш] / / Там жа. 30 ліп.; Дзед і баба: Пародыя на К.Крапіву / / Там жа. 22 вер.; На плошчы: [Верш] / / Там жа. 27 вер.; Навагоднія настроі: [Верш] / / Там жа. 31 снеж.; У мільёнаў б'еццa ленінскае сэрца: [Верш] / / Піянер Бел. 21 студз.; Песня перамог: [Верш] / / Там жа. 6 лют. / Сааўт. В.Маракоў; Заўсёды на варце стаіць бальшавік: [Верш] / / Там жа. 31 ліп.; Мая Радзіма: [Верш] / / Там жа. 4 вер.; Сады маладосці: [Верш] / / Рабочий. 11 июля; Пахом Гарамыка: Дэлегат усебеларускага з'езда Саветаў ад Полацкага раёна: [Верш] / / Чырв. Полаччына. 17 студз. / Сааўт. А.Звонак.

1936. Матчына песня: [Верш] / / Полымя рэвалюцыі. № 1; Навагоднія настроі: [Верш] / / Работніца і калгасніца Бел. № 1; На варце: [Верш] / / Там жа. № 4; Кліменцію Яфрэмавічу: [Верш] / / Віцеб. пралетарый. 10 вер.; Звязда. 8 вер.; Камуніст. 10 вер.; Спакойна працуйце, народы!: [Верш] / / Звязда. 12 вер.; Камуніст. 14 вер.; Ленін / / Піянер Бел. 22 студз.; Песня пра вясну: [Верш] / / Там жа. 27 сак.

1961. «Зноў вясна...»; На ўсходзе дальнім, на палях Кітая; Веснаход: [Вершы] / / Анталогія беларускай паэзіі: У 3 т. Мн. Т. 2.

1966. «Упрадае дым у залатую гладзь... Зноў вясна...»: [Верш] / / Дзень паэзіі-66. Мн.

1970. У мільёнаў б'еццa ленінскае сэрца: [Верш] / / З Леніным заўсёды Беларусь. Мн.

1971. Зазімак: [Верш] / / Універсітэт паэтычны. Мн.

1982. Масква: [Верш] / / На сцягу і ў сэрцы. Мн.

1.4.

Ванэк К. Прыгоды ўдалога ваякі Швэйка / З чэш. Мн., 1932.

Панфёраў Ф. Брускі: Раман. Ч. 1 / З рус. Мн., 1932 / Сааўт. пер. М.Багун.

1930. Маякоўскі У. На ўвесь голас: Уступ да паэмы / З рус. / / Узвышша. № 3.

1934. Тычына П. Песня Чырвонай Арміі: [Верш] / З рус. / / Звязда. 15 жн.; Брусаў В. Ленін: [Вершы] / З рус. / / ЛіМ. 24 кастр.; Гусеў В. Любімец партыі: [Верш] / З рус. / / Чырв. змена. 6 снеж.

1935. Кручкін М. Кавалерыйская баявая: [Верш] / З рус. / / Аб кані і конніку. Мн.; Цітоў К. Дзве думкі / З рус. / / Атака: Альманах 1. Мн.; Шарапаў А. Асобая Далёкаўсходняя; Гусеў С. Песня танкістаў; Васілеўскі І. Баявы шлях; Шапавалаў І. Песня пагранічнікаў; Стаканаў. Песня самарскай дывізіі; Кручкін М. Кавалерыйская баявая; Дубасаў. Песня Чангарскай дывізіі / З рус.; Харык І. Над Бярозай / З яўр. / / Палонскі С. Дзесяць чырвонаармейскіх песень. Мн.; Лахуці Г. Янка Купала: [Верш] / З тадж. / / Полымя рэвалюцыі. № 12; Чырв. змена. 11 снеж. Кутатэлі А. Чалвадары: [Верш] / З груз. / / Віцеб. пралетарый. 15 чэрв.; ЛіМ. 31 мая; Палес. праўда. 4 чэрв.

1936. Кручкін М. Кавалерыйская баявая: [Верш] / З рус. / / Аб кані і конніку. Мн.; Маякоўскі У. На ўвесь голас; Асееў М. Рэквіем; Кастрычнік; Гусеў В. Слава: [Вершы] / З рус. / / Анталогія рускай савецкай паэзіі. Мн.; Первамайскі Л. Дзяўчына: [Верш] / З укр. / / ЛіМ. 12 студз.; Галодны М. Быць бальшавікамі да канца: [Верш] / З рус. / / Там жа. 27 студз.; Безыменскі А. Мы з боем бралі нашу ўрачыстасць: [Верш] / З рус. / / Там жа. 6 лют.; Лахуці Г. У Еўропу: [Верш] / З тадж. / / Там жа. 10 лют.; Стальскі С. Прамова на ўсесаюзнай нарадзе перадавікоў-жывёлаводаў / З рус. / / Там жа. 27 лют.; Лахуці Г. Героям: [Верш] / З тадж. / / Там жа. 1 жн.; Первамайскі Л. Смерць Сільвіо Лопес: [Верш] / З укр.; Альберці Р. Айда Лафуэнтэ: [Верш] / З ісп. / / Там жа. 27 кастр.; Кулібай С. Ток: [Верш] / З башк. / / Чырв. змена. 5 лют.

1.5.

На літоўскую мову. Fasistu Lenkija / Vert. F.Sodainis / / Raudonasis artojas. 1931. Lapkr. 7; Laisve. 1932. Nr 2.

На рускую мову.«Наши дороги ведут в Москву»: (Из поэмы) / Пер. Н.Кауричев, В.Наседкин / / Антология белорусской литературы. М., 1934; Следы дорог: Из поэмы / Пер. М.Дубровский / / Поэты Белоруссии. М., 1934; Рабочий. 1935. 2 июля; Война: [Верш] / / Рабочий. 1935. 12 жн.

На ўкраінскую мову. Фрагмент з «Кленових завірух»; Ранок; Під шум вітру: [Вершы] / Пер. І.Кулик / / Нова Білорусь. К., 1929; Веснохід: [Вершы] / Пер. А.Кацнельсон / / Білоруська радянська поезія. К., 1971. Т. 1.

2.3.

На беларускай мове. Алёша (Вольны А.). Тодар Кляшторны: Літ. сілуэт / / Чырв. Бел. 1932. № 2; Бэндэ Л. На літаратурным фронце: Артыкул першы / / Чырв. змена. 1929. 15 вер.; Васілец П. Узварухнеце пачуцці будаўнікоў! / / Там жа. 1929. 14 крас.; Галавач П. Рэпліка таварышам паэтам / / ЛіМ. 1936. 12 студз.; Гілевіч Н. Акрыленая рэвалюцыяй: (Паэзія «Маладняка»). Мн., 1962. С. 117—122; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1964. Т. 1. С. 52; Гольдберг М. Ліст да паэта / / Чырв. змена. 1979. 14 крас.; Грахоўскі С. Лірык нашага ранняя / / Кляшторны Т. Вершы. Мн., 1970; Дворкіна Ю. Меншавізм у беларускай крытыцы / / Маладняк. 1931. № 8; Зарэчны Ц. Пераклады на невядомым «нарэччы» / / ЛіМ. 1936. 26 крас.; Звонак А. Шчырасць лірычнай песні / / Там жа. 1978. 10 сак.; Ілка. Не разважаць, а тварыць! / / Чырв. змена. 1929. 14 крас.; Кляшторная Т. Песню вясне падарыў: Да 80-годдзя з дня нараджэння Т.Кляшторнага / / Віцеб. рабочы. 1983. 11 сак.; Левін С. На наш бераг / / Полымя рэвалюцыі. 1934. № 9; Яго ж. Пра сапраўдны і штучны аптымізм / / ЛіМ. 1935. 18 жн.; Лужанін М. Наш рух — калодзеж непачаты: Старонкі ўспамінаў / / Там жа. 1988. 1 крас.; Пастанова беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша» аб палітычных памылках у літаратурна-публіцыстычнай творчасці / / Узвышша. 1930. № 1; Перкін Н. Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20—30 гг. Мн., 1960. С. 184—187; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Плашчынскі І. Праз муту жыцця да гоману палёў / / Узвышша. 1930. № 6; Пытанні нацыянальнай палітыкі партыі / / Палес. праўда. 1933. 4 крас.; Смальянава Л. Да пытання аб жанравай эвалюцыі паэмы 30-х гадоў / / Беларуская мова і літаратура ў ВНУ. Брэст, 1979; Яго ж. Шляхі паэтычнага эпасу: З гісторыі бел. сав. паэмы. Мн., 1977. С. 52—53; Собаль В. Пакутлівай дарогай пошуку: Да 75-годдзя з дня нараджэння Т.Кляшторнага / / Віцеб. рабочы. 1978. 11 сак.; Стасевіч Б. Аб задачах беларускай мастацкай літаратуры / / Чырв. змена. 1929. 6, 7 крас.; Сядура У. Камсамол у бела-

рускай паэзіі // Маладняк. 1932. № 1; ЛіМ. 1932. 6 сак.; У гэтым месяцы... // Беларусь. 1973. № 3; Узмацніць рэвалюцыйную пільнасць // Палес. праўда. 1933. 4 крас.; Хатулёў П. Супраць бездказных адносін да класікі // ЛіМ. 1936. 26 крас.; Хведаровіч М. Душа паэта // Там жа. 1960. 14 мая; Яго ж. Неспакойны рамантык // Дзень паэзіі-66. Мн., 1966; Хмуры М. «Песні трэба нам другія!» // Чырв. змена. 1929. 12 крас.; «Ці варта сёння быць паэтай?» // Там жа. 1929. 16 мая; Шарахоўскі Я. Супраць халтуры // ЛіМ. 1935. 16 лют.; Шушкевіч С. «Пах агню парахавога...» // Там жа. 1973. 8 сак.; Яго ж. Права на песню // Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2. С. 222—224; Яго ж. Сустрэчы з паэтам // Голас Радзімы. 1970. № 39; Шэнкер. Так нельга ставіць пытанне // Чырв. змена. 1929. 14 крас.; Якімовіч А. За высокую якасць літаратуры для дзяцей // ЛіМ. 1936. 7 крас.

На польскай мове. Jasieński B. O poetach białoruskich // Kamena. 1935. Nr 7.

2.4.

На беларускай мове. Шушкевіч С. Я сёння зноў у Лепелі...: [Верш] // Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1978. Т. 1. С. 227.

*З.У.Драздова.*

# КМІТА-ЧАРНАБЫЛЬСКІ ФІЛОН

*Кміта-Чарнабыльскі Філон Сямёнавіч (каля 1530—29.11.1587), аўтар эпісталярных літаратурных твораў.*

Паходзіў са шляхецкага роду Кмітаў, аселага ў Кіеўскім ваяводстве. Ф.Кміта-Чарнабыльскі быў сынам беларускага шляхціца Сямёна Кміты і яго першай жонкі Тацяны Крошынскай. У 1562 арандаваў замак Асцёр каля Кіева (цяпер ў Чарнігаўскай вобл.), удзельнічаў у войнах супраць Маскоўскай дзяржавы. Узначальваючы невялікі атрад коннікаў, разбіў адзін з буйных варожых атрадаў, узяў штурмам Чарнігаў. Правёў шэраг іншых ваенных аперацый на руска-беларускім пагранічча. У студзені 1564 са сваім двухтысячным атрадам прыкрываў наступленне галоўных сіл Вялікага Княства Літоўскага супраць групы рускіх войск, сканцэнтраваных у Полацку пад камандай князя І.Шуйскага, не дапусціў злучэння гэтай групы з арміяй князя Сярэбранага Абаленскага, якая рухалася з Вязьмы да Оршы. Потым, выкарыстаўшы перавагу князя Радзівіла над Шуйскім у бітве на Іванаўскім полі, паспяхова здзейсніў акцыю, у выніку якой маскоўская армія адступіла на Смаленск. Летам 1565 Ф.Кміта-Чарнабыльскі напаў на Севершчыну, здабыў г. Почап і вярнуўся ў Асцёр. За ваенныя заслугі кароль Жыгімонт II Аўгуст паводле прывілея ад 26.3.1566 падараваў яму ў вечнае карыстанне Чарнабыльскае ўладанне ў Кіеўскім ваяводстве. Ад назвы замка Чарнобыль і паходзіць яго другое прозвішча — Чарнабыльскі. У 1566 ён атрымаў Аршанскае староства. Як староста абараняў межы дзяржавы, адначасова праводзіў ваенную разведку, інфармаваў Вільню пра ўнутраныя справы і палітычныя планы Івана Грознага, вёў дыпламатычныя перагаворы. У 1568 правёў на Смаленшчыне шэраг наступальных аперацый. У прыватнасці, выманіў у поле і разбіў частку смаленскага гарнізона, спустошыў землі аж да Вязьмы. Прымаў удзел і ў вайне з Масквой (1579—82). У 1579, у час паходу на Полацк, прыкрываў галоўныя сілы з боку Смаленска. У тым жа годзе прызначаны смаленскім ваяводам. Смаленск тады знаходзіўся ў складзе Вялікага Княства Маскоўскага. У час вялікалуцкай кампаніі 1580 Ф.Кміта-Чарнабыльскі ўварваўся з атрадам у 9000 коннікаў на тэрыторыю Смаленшчыны, аднак атрымаў паражэнне і вымушаны быў адступіць да Оршы. Кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый у верасні 1580 прызначыў яго камендантам крэпасці Вялікія Лукі. У 1580—81 працягваў ваенныя дзеянні на пагранічны з Маскоўскай дзяржавай. У лютым-сакавіку 1581 правёў глыбокі рэйд, спустошаючы ваколіцы Вялікага Ноўгарада. У жніўні таго ж года ён атрымаў загад Стафана Баторыя пра аб'яднанне з атрадам Крыштофа Радзівіла і правядзенне ваенных дзеянняў у раёне мяркуемай канцэнтрацыі маскоўскага войска. Той паход сучаснікі назвалі «Яздою ў Маскву» (пад такой назвай апісаў у сваёй паэме гэты наезд Ян Каханоўскі). Пасля атрады, што знаходзіліся пад камандай аршанскага старосты, вярнуліся абараняць прыдняпроўскія землі.

Ф. Кміта-Чарнабыльскі — аўтар цікавага помніка беларускай эпісталярнай літаратуры, т.зв. водпісаў. Усяго збераглося 30 лістоў, якія ён дасылаў з Оршы ў Вільню членам дзяржаўнай рады Вялікага Княства Літоўскага. Першы з іх датаваны 1573, астатнія 1574. Яны ўяўляюць сабой службовыя данясенні пра ваенна-палітычную сітуацыю на ўсходніх межах краіны, становішча ў Маскоўскай дзяржаве, намеры Івана Грознага, руска-татарскія адносіны і інш. У некаторых лістах Ф. Кміта-Чарнабыльскі характарызуе ўнутрыпалітычнае жыццё Рэчы Паспалітай свайго часу, закранае вострыя сацыяльныя праблемы, крытыкуе пануючы клас. Вылучаюцца лісты да троцкага кашталяна Я.Валовіча, у якіх выразна паўстае асоба аўтара, яго індывідуальны стыль і характар, яго перажыванні і адносіны да гістарычных падзей і навакольнай рэчаіснасці. Яны напісаны добрай беларускай мовай, жыва і публіцыстычна, з выкарыстаннем прыказак і прымавак, народных сродкаў гумару і сатыры. Гэтыя лісты — прыкметная з'ява ў гісторыі беларускай літаратуры старажытнай пары.

*А.Ф.Коршунаў. В.А.Чамярыцкі.*

1.3.
1923. З «Одпісаў»: [Урыўкі] / / Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня.
1925. Одпісы / / Выпісы з беларускай літаратуры. М.; Л. Ч. 1.
1975. Лісты / / Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн.
2.2.
К р у т а л е в и ч М. Именное слообразование в белорусском языке XVI в.: (На материале «Отписов» Ф.С.Кмиты-Чернобыльского): Автореф. дис.... канд. филол. н. Мн., 1987.
2.3.
На беларускай мове. В о л ь с к і В. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізма. Мн., 1952. С. 110—111; Г а р э ц к і М. Філон Кміта / / Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 28—29; 2 выд. Вільня, 1921. С. 28—29; 3 выд. Вільня, 1924. С. 28—29; Г і с т о р ы я беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1968. Т. 1. С. 246—254; К а р с к і Я. Аршанскі староста Філон Сымонавіч Кміта-Чарнабыльскі / / Беларусь. 1919. 21 кастр.; К о р ш у н а ў А. «Лісты» Ф.С.Кміты-Чарнабыльскага і «Баркулабаўская хроніка»; Жывыя сведкі гісторыі / / Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975; К р у т а л е в і ч М. Вытворчыя асабовыя назоўнікі ў «Допісах» Ф.Кміты-Чарнабыльскага / / Веснік БДУ. Сер. 4. 1981. № 2; Я г о ж. Вытворныя з суфіксамі —- ни (е), ени (е) у старабеларускай мове (на матэрыяле «Допісаў» Ф.С.Кміты-Чарнабыльскага) / / Веснік БДУ. Сер. 4. 1982. № 3; Л а р ч а н к а М. Філон Кміта і яго «Отпісы» / / Ахрыменка П., Ларчанка М. Старажытная беларуская літаратура. Мн., 1968; М а й х р о в і ч С. Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XVI—XVIII ст. Мн., 1980. С. 183—186; Я р ш о ў І «Пісана ў Оршы...» / / Віцеб. рабочы. 1985. 6 ліп.
На рускай мове. И с т о р и я белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 202—205; К а р с к и й Е. Белорусы. Пг., 1921. Т. 3. Вып. 2. С. 110—113; Ч е м е р и ц к и й В. Белорусская литература / / История всемирной литературы: В 9 т. М., 1985. Т. 3. С. 499—500.
3.1.
ЦНБ АН Беларусі, аддз. рукап, ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1, с. 169.

*Т.М.Махнач.*

# КОБЕЦ РЫГОР



*Кобец Рыгор Якаўлевіч [сапр. С а н д ы г а Міхаіл Мусіевіч; псеўд. Г р ы ш а Л а х м а т ы, Г р ы ш к а Л а х м а т ы, Р ы г о р Л а х м а т ы; 12(24).7.1898, г. Елісаветград — 9.9.1990, Мінск; пахаваны на Паўночных могілка], драматург, празаік. Член СП Беларусі з 1935. Член Саюза кінематаграфістаў Беларусі з 1967. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1935).*

З сям'і рабочага. Бацька, Мусій Іванавіч Сандыга, беларус, паходзіў з беззямельных сялян, працаваў у прыватнай пякарні. Маці, Мотра Юхімаўна Драч, украінка, служыла кухаркай у паноў, пасля — у саматужнай пякарні. Р.Кобец нарадзіўся, калі Мотра Юхімаўна яшчэ не была замужам, таму звалі яго Міхайла Драч, з 1918 — Міхаіл Мусіевіч Сандыга. Дзяцінства Р.Кобеца прайшло ў Елісаветградзе. З 8 гадоў яго аддалі ў царкоўна-прыходскую школу, адкуль ён, дзякуючы добрай вучобе, перавёўся ў народнае рамесніцкае вучылішча, потым у Елісаветградскае рэальнае вучылішча. «У 1913 — як сцвярджае сам пісьменнік, — бацькі збяднелі, і зноў прыйшлі мае непрыемнасці: не было чым плаціць за навучанне, за што купіць форму, вярнуліся кпіны і здзекі». На пачатку імперыялістычнай вайны ён ўцёк на Аўстрыйскі фронт, ваяваў у Галіцыі (1914—16), паранены вярнуўся дамоў. Пасля шпіталю здаў экстэрнам экзамены за чатыры класы рэальнага вучылішча. Працаваў токарам у Елісаветградзе, рабочым на Херсонскім заводзе сельгасмашын кампаніі «Эльворці», маркіроўшчыкам на станцыі Елісаветград—Таварная Паўночна-Заходняй чыгункі (1916—18). Нейкі час быў звязаны з анархістамі, выконваў іх заданні. У сувязі з гэтым у 1928 мусіў памяняць прозвішча, імя і імя па бацьку

на Кобец Рыгор Якаўлевіч. Потым ужо ў Мінску, ён напісаў пакаяльную заяву на імя старшыні СНК БССР М.Галадзеда, які наклаў рэзалюцыю «Неадкладна перадаць у органы НКУС». Пастановай НКУС СССР быў амнісціраваны. У гады грамадзянскай вайны служыў у чырвонаармейскім Брацкім палку, які фарміраваўся ў Елісаветградзе. Пасля ўступіў у рады Чырвонай гвардыі (першы інтэрнацыянальны батальён Рэўваенсавета Паўднёвага фронту). Прымаў удзел у ліквідацыі банд. У 1919 ваяваў у асобным кавалерыйскім дывізіёне Першай Коннай арміі С.Будзённага. Пад Варшавай быў цяжка паранены. З 1921, пасля дэмабілізацыі, жыў на Беларусі. Працаваў качагарам на мінскім дражджавым заводзе «Пралетарый» (1922—28). Адначасова вучыўся ў вячэрнім рабочым тэхнікуме. З 1927 член КПСС. У 1928—29 працаваў качагарам на піўзаводзе «Беларусь». 27 мая 1928 на ст. Негарэлае ад імя рабочага класа Беларусі вітаў сваёй прамовай М.Горкага. Як актыўны рабкор накіраваны ў газету «Рабочий», дзе загадваў сельгасаддзелам (1929—30). У 1929 разам з М.Галадзедам і В.Чарвяковым удзельнічаў у калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Друкавацца Р.Кобец пачаў у 1918 у елісаветградскіх газетах «Наша жизнь» і «Друг народа» (першыя публікацыі не выяўлены). Падпісваўся «Рабочий М.Сандыга». Адна з першых публікацый — па-літычны верш-фельетон «Лавачка» (газ. «Друг народа», 1918), дзе высмеяны П.Скарападскі, якога немцы пасадзілі на гетманскі трон. У беларускім друку творы Р.Кобеца з'явіліся ў 1923 (часопіс «Прафрух»). Пісаў пераважна на рабочую тэму. Яго вершы, апавяданні, фельетоны змяшчаліся ў газетах «Рабочий», «Чырвоная змена», «Звязда», «Савецкая Беларусь», часопісах «Маладняк», «Чырвоная Беларусь», «Напагатове», «Полымя рэвалюцыі», у маскоўскіх газетах «Гудок» і «Рабочая газета». У 1925 уступіў у рускую секцыю «Маладняка» — «Звенья», у 1929 — у «Маладняк». Быў членам Бел РАППа. Напісаны ў 1925 верш «Паравоз» пакладзены на музыку, стаў папулярнай камсамольскай песняй. У 1929 ён напісаў першую п'есу аб рабочым класе Беларусі «Гута» (паст. у 1930 БДТ-1, тады ж паказана на 1-й усесаюзнай алімпіядзе мастацтваў у Маскве). Перакладзеная на іншыя мовы, п'еса ішла ў многіх тэатрах СССР, а таксама ў Чэхаславакіі (1931). З 1931 да 1937 Р.Кобец працаваў кансультантам, загадчыкам сцэнарнага аддзела на кінафабрыцы «Савецкая Беларусь», у Ленінградзе. Стварыў сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў ("Ураган", сцэнарый разам з Б.Брадзянскім, «Двойчы народжаны»). Напісаў музычную камедыю «Шчаслівы бераг», якая ставілася ў Ленінградскім тэатры музкамедыі. У 1933 Р.Кобец паехаў у творчую камандзіроўку ў Бірабіджан пісаць сцэнарый сатырычнай кінакамедыі «Шукальнікі шчасця». Знаёміўся з побытам яўрэяў-перасяленцаў, разам з імі працаваў старацелем на залатых капальных, паляваў у тайзе, лавіў рыбу на Амуры, адначасова супрацоўнічаў у газетах «Биробиджанская звезда» і «Тихоокеанская звезда». Кінафільмы «Двойчы народжаны» (1933) і «Шукальнікі шчасця» (1936), створаныя па яго сцэнарыях, з вялікім поспехам ішлі па ўсёй краіне і за рубяжом, увайшлі ў «залаты фонд» савецкай кінаматаграфіі. У 1935 і 1937 ён зноў ездзіў ў творчыя камандзіроўкі на Далёкі Усход, каб прадоўжыць працу над сцэнарыем 2-й серыі фільма «Шукальнікі шчасця». Урыўкі з яго друкаваліся ў газеце «На рубеже», «Тихоокеанская звезда» і «Тихоокеанский комсомолец». У 1935 Р.Кобец разам з І.Барашкам напісаў сцэнарый фільма «Дняпро ў агні» пра забастоўку палескіх плытагонаў напярэдадні рэвалюцыі 1905 (экр. 1937). У 1938 Р.Кобец незаконна быў арыштаваны у Бірабіджане, без падстаў абвінавачаны ў шпіянажы на карысць Японіі, Англіі і Польшчы. У 1939 апраўданы і ў 1939—41 жыў у Хабараўску. Працаваў у газеце «Тихоокеанская правда», дзе змяшчаў свае нарысы, вершы і байкі; друкаваўся ў часопісе «На рубеже», газеце «Тихоокеанский комсомолец». Там жа напісаў п'есу «Мігрэнь» і (разам з паэтам С.Бытавым) камедыю «Сонечны бераг», якая ставілася на сцэне Хабараўскага тэатра камедыі. У 1941 рэдактар Хабараўскай студыі кінахронікі, на пачатку вайны разам з Д.Нагішкіным зрабіў некалькі сатырычных плакатаў, якія друкаваліся ў Маскве. Па даносу таго ж Д. Нагішкіна быў зноў арыштаваны і ў 1942 Асобай нарадай без суда і следства сасланы на 10 гадоў у сібірскія лагеры «за непачцівыя адносіны да асобы Сталіна». Будаваў чыгункі Тайшэт—Лена, ад станцыі Наушка да Улан-Батара. Пасля знаходзіўся ў лагерах на беразе Ангары, адбываў тэрмін у Заярску. З 1951 на пажыццёвым пасяленні ў кіргізскіх стэпах (с. Кара-Балты Фрунзенскай вобл.) без права пражывання ў сталічных і абласных гарадах. Амаль 9 гадоў працаваў у саўгасе «Чалдавар» (Чуйская даліна), сторажам на вінаградніках, памочнікам пчаляра (у гарах Цянь-Шаня), загадчыкам хаты-чытальні, клуба, гаспадаркі ў школе, быў кіраўніком мастацкай самадзейнасці. Праводзіў у саўгасе культурна-асветніцкую работу, быў радактарам саўгаснай насценгазеты, друкаваў нарысы і фельетоны ў рэспубліканскім друку Кіргізіі. У 1958 вярнуўся ў Мінск. У 1960 поўнасцю рэабілітаваны «за адсутнасцю ў яго дзеяннях складу злачынства». Бацька пісьменніцы А.Кобец-Філімонавай.

У 1967 па просьбе Кіраваградскага абласнога гісторыка-краязнаўчага музея Р.Кобец напісаў «Аўтабіяграфію» (у Беларусі друкавалася ў 1973 са скарачэннямі). Гэта шчырая споведзь чалавека вельмі цяжкага і складанага лёсу. У 1964 стварыў аповесць «Ноеў каўчэг», дзе расказаў аб пакутах і мужнасці рэпрэсіраваных у сібірскіх лагерах (урывак з яе надрукаваны ў 1988 у газеце «ЛіМ»). Лепшыя творы Р.Кобеца з'яўляюцца этапнымі ў развіцці беларускай савецкай драматургіі і кінематаграфіі. У іх адлюстравана супярэчлівае станаўленне савецкай улады на Беларусі і ва ўсёй краіне. Ён дажыў да 50-гадовага юбілею свайго твора «Шукальнікі шчасця», які пасля рэстаўрацыі (1987) зноў дэманстраваўся на экранах. Кінасцэнарый «Шукальнікі шчасця» праз паўстагоддзе надрукаваны на яўрэйскай, рускай, англійскай і французскай мовах.

Рукапісная спадчына Р.Кобеца захоўваецца ў яго асабістым архіве, а таксама ў РДАЛМ, БДАМЛіМ, Кіраваградскім абласным гісторыка-краязнаўчым музеі, Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, Літаратурным музеі Я.Купалы.

*Л.С.Савік.*

# Бібліяграфія

1.2.

Гута: Сучасная п'еса. Мн., 1932.

На заставе: Комедия в 5 картинах. М., 1934.

На заставе: Камедыя. Мн., 1936. Рэц.: Б р а н ш т э й н Я. Без скідкі // ЛіМ. 1936. 10 вер.

Герои Балтики: Киноповесть. Хабаровск, 1939.

Мигрень: Одноактная пьеса. Хабаровск, 1940.

Трофим Бутан: Киноповесть. Хабаровск, 1940.

Піражкі з чырвонцамі: Аднаактовая п'еса. Мн., 1966. (У рэпертуар маст. самадзейнасці).

Гута: П'еса ў 3 дзеях. Мн., 1970. (Б-ка бел. драматургіі).

1.3.

1923. Песня летчиков: [Верш] // Звезда. 25 июля.

1924. Вождь: [Верш] // Звезда. 27 янв.; Море: [Верш] // Там жа. 1 мая.

1925. Всякое бывает: [Апавяданне] // Звязда. 14 чэрв. / Пад псеўд. Г.Лохматый; Паравоз: [Верш] // Красная смена. 21 февр. / Пад псеўд. Грыша Лахматы.

1926. Паравоз; Начеку; Уличный: [Вершы] // Звенья. Мн., 1926 / Пад псеўд. Гриша Лохматый.

1927. Гута: Драма ў трох актах // Маладняк. № 8—10.

1930. Штурм богов: [Нарыс] // Рабочий. 7 февр. / Пад псеўд. Гриша Лохматый; Любители сладенького: [Фельетон] // Там жа. 18 апр. / Пад псеўд. Гриша Лохматый.

1931. Дважды рожденный: Отрывок из киносценария // Рабочий. 25 июля.

1932. А ўсё ж заспяваю: Камедыя-жарт // Напагатове. № 2; Ратуй, божа!: Сатырыч. камедыя // Чырв. Бел. № 11, 12, 14, 16, 17 / Сааўт. А.Вольны; Таварыш Кралевіцкі: Апавяденне // Там жа. № 20—21 / У сааўт.; Адным фронтам // ЛіМ. 28 сак. / У сааўт.; Урывак з гукавога сцэнарыя «Двойчы народжаны»; Некалькі слоў пра кінакадры // Там жа. 11 крас.; Урывак з камедыі «Ратуй, божа!» // Там жа. 15 чэрв. / Сааўт. А. Вольны; «Чаму нам ня пець?»: Урывак з камедыі // Палес. праўда. 2 кастр.; Предотвратить несчастье // Рабочий. 20 окт. / Пад псеўд. Лохматый; Няскончаны жыццёпіс: [Нарыс] // Сав. Бел. 20 жн. / Сааўт. А.Вольны; Як я працаваў над гукавой кінадрамай «Двойчы народжаны» // Там жа. 27 ліст.; Вынаходцы: Нарыс // Чырвонаарм. праўда. 5 вер. / Сааўт. А. Вольны.

1933. Як пісаць нарыс // Заклік. № 1; Адзін з лепшых: Нарыс // Іскры Ільіча. № 5—6 / Сааўт. М.Багун; Факты гавораць // Сав. Бел. 13 лют. / Сааўт. М.Багун.

1935. На заставе: Камедыя ў 5 карцінах // Полымя рэвалюцыі. № 12; Гэта натхняе і радуе // ЛіМ. 11 сак.; Адкрыты ліст пісьменнікам БССР // Там жа. 11 мая / У сааўт.; «Дняпро ў агні»: Урывак з кінасцэнарыя // Там жа. 11 вер. / Сааўт. І.Барашка.

1936. Праз 20 год // Звязда. 20 чэрв. / Сааўт. А.Вольны; Паўстанне гневу: Урывак са сцэнарыя // ЛіМ. 17 мая / Сааўт. А.Вольны; Памёр Горкі... // Там жа. 20 чэрв. / У сааўт.

1961. Цяжкі выпадак: П'еса аднаактовая // А гармонік грае, грае. № 4; Простая біяграфія: Нарыс // Полымя. № 10.

1962. Нешта сабе жарты: [Аднаактовая камедыя] // Нешта сабе жарты. Мн.; Беларусь. № 4; Дзяўчаты нашага саўгаса: Нарыс // Беларусь. № 2; Сорак пяты падмурак: Нарыс // Там жа. № 7; Сэрца маці: Нарыс // Там жа. № 10; Катавасія брата Гервасія: П'еса // Полымя. № 8 / Сааўт. А.Астрэйка.

1963. Заслужаная слава: Нарыс // Беларусь. № 3.

1964. Слова да землякоў; І стаў Моня чалавекам: [Урывак з аповесці «Ноеў Каўчэг»] // Голас Радзімы. № 25—26; Круглянскія птушкаводы: Нарыс // Беларусь. № 8.

1965. Піражкі з чырвонцамі: П'еса // Беларусь. № 6; Святая тайна: П'еса // Полымя. № 10. Рэц.: О с к о ц к и й В. Из пьесы слова не выкинешь // ЛГ. 1965, 11 нояб.

1968. Ажыццёўленая мара // Максім Горкі і Беларусь. Мн.; Салавей: Фрагмент з кінасцэнарыя // Беларусь. № 8; Раздумье: [Урывак з паэмы] // Голас Радзімы. № 30; На ўсё жыццё: [Успаміны] // Полымя. № 3.

1971. Прыгадаем мы свае гады...: [Верш] // Полымя. № 7.

1973. Аўтабіяграфія // Вытокі песні. Мн.

1975. Гута: [П'еса]. Дзея першая, 2-я карціна // Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі: У 2 т. Мн. Т. 2.

1988. На ўмацаванне: Успаміны // Мастацтва Бел. № 6; Ноеў каўчэг: Старонкі з аповесці // ЛіМ. 22 ліп.

1989. Ноев ковчег: Повесть // Неман. № 3.

1.5.

На беларускую мову. Палесціна: Урывак з паэмы / Пер. С.Грахоўскі // Полымя рэвалюцыі. 1935. № 6.

На рускую мову. Гута (Завод): Пьеса / Пер. И.Пикулев. М., 1931.

Гута: Картина 3-я из пьесы «Гута» / Пер. С.Зн(аёмы) // Рабочий. 1930. 7 мая / Пад псеўд. Гриша Лохматый.

На яўрэйскую мову Гута: П'еса ў 3 дзеях / Пер. Д.Маршак. Мн., 1933.

Шукальнікі шчасця: Сцэнарый кінафільма / З рус. // Сов. Геймланд. 1986. № 6 / Сааўт. І.Зельцар.

2.1.

На беларускай мове. В а т а ц ы Н. Кобец Р. // Беларуская савецкая драматургія: Бібліяграфія. Мн., 1966.

2.3.

На беларускай мове. А з г у р З. Гнеў і любоў // ЛіМ. 1969. 13 мая; А р ш а н с к і А. Сустрэчы, якія не забываюцца // Там жа. 1969. 30 вер.; А с ь м о ў Я. У вагоне Горкага // Там жа. 1968. 27 сак.; Б а р а ш к а І. Двойчы народжаны // Там жа. 1933. 26 ліст.; Я г о ж. Дняпро ў агні // Там жа. 1936. 7 мая; Я г о ж. На кінастужцы — эпоха // Маладосць. 1967. № 1; Б о б р ы к Я. Кадры Белдзяржкіно // ЛіМ. 1935. 11 вер.; Б у р Л. Урокі справы Баршай // Палес. праўда. 1931. 16 лют.; Б э н д э Л. Творчыя задачы пралетарскай літаратуры // Маладняк. 1931. № 9; Г а л к і н А. Два юбілеі // ЛіМ. 1935. 28 лют.; Г і с т о р ы я беларускага тэатра: У 3 т. Мн., 1985. Т. 2. С. 188—190, 272—276, 285—286; Г і с т о р ы я беларускай савецкай літаратуры: У 2 т. Мн., 1965. Т. 1. С. 75, 590; Г о л ь д б е р г М. Вышэй слоў // ЛіМ. 1968. 27 сак.; Г о л ь д р ы н г І. Дняпро ў агні // Там жа. 1936. 30 кастр.; Г у б а р э в і ч К. Двойчы народжаны // Там жа. 1934. 26 студз.; Я г о ж. Шукальнікі шчасця // Там жа. 1936. 27 мая; Ж ы т к е в і ч З. Спектакль патрэбны пралетарскаму гледачу // Віцеб. пралетарый. 1931. 2 лют.; З е л ь ц а р І. Мая работа ў кіно // Звязда. 1935. 11 сак.; К. Паўстанне гневу // ЛіМ. 1936. 1 мая; К а л і н о ў с к і У. Беларуская п'еса на пражскай сцэне // Там жа. 1973. 16 лют.; Л а ў ш у к С. Станаўленне беларускай савецкай драматургіі (20-я — пач. 30-х гг.). Мн., 1984. С. 150—151; Л я в о н н ы Ю. На лініі агню // Звязда. 1930. 21 снеж.; Я г о ж. Новая перамога БДТ-1: Чаму мы вітаем «Гуту» // Там жа. 1930. 16 ліп.; Я г о ж. Усесаюзная алімпіяда мастацтва народаў СССР: Буйны поспех БДТ-1 на алімпіядзе // Там жа. 1930. 15 ліп.; Н а д ч ы м працуюць пісьменнікі // ЛіМ. 1932. 27 чэрв.; Н е к р а ш э в і ч А. БДТ-1. Мн., 1930. С. 31, 35—36, 53—54; О. Сцэнарый пра Кастрычнік // ЛіМ. 1932. 11 крас.; П е р ш ы гукавы фільм на беларускай мове // Звязда. 1932. 19 ліст.; П і в а в а р а ў З. Шукальнікі шчасця // Чырв. змена. 1936. 21 мая; П і с ь м е н н і к і Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; П я т р о в і ч С. Еўсігней Міровіч: Крытыка-бібліягр. нарыс. 2-е выд. Мн., 1978. С. 128—135; Р а м а н о в і ч Я. Няўрымслівая натура // ЛіМ. 1978. 21 ліп.; Р у т ш т э й н К. Рэжысёрскія заўвагі да

нага кірунку ў беларускай дакастрычніцкай літаратуры, паслядоўнага абаронцы інтарэсаў працоўнага сялянства. Ад імя прыціснутага галечай, абрабаванага селяніна паэт «на грозных межах часаў пераходных» смела звяртаўся да прыгнятальнікаў: «Чыімі рукамі вы дабро збіралі? На чые вы слёзы дабрабыт куплялі?». Выяўленая ў дакастрычніцкай творчасці Я.Коласа канцэпцыя народа сцвярджала погляд на чалавека працы не толькі як на ахвяру несправядлівага ладу, але і як на магутную сілу гістарычнага працэсу, стваральніка матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей на зямлі, творцу будучыні. Гэта было сапраўдным наватарствам у беларускай літаратуры. Падобны погляд узбройваў мастакоў слова гістарычным аптымізмам, адкрываў перад імі шырокія магчымасці ў адлюстраванні народнага жыцця. Творы Я.Коласа адыгралі вялікую грамадска-выхаваўчую ролю ў перыяд першай рускай рэвалюцыі і ў гады панавання рэакцыі. Напоўненыя пачуццём гневу і нянавісці, яны клікалі працоўных да згуртаванасці, сцвярджалі непазбежнасць перамогі над прыгнятальнікамі (“Ворагам“, «Наша возьме», «Будзь цвёрды»). Створаны пісьменнікам вобраз героя, перакананага змагара за народную справу, — значнае дасягненне беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры. У вершах 1914—16 («Думкі салдата», «Ворагам») паэт асуджаў імперыялістычную вайну, выкрываў яе захопніцкі характар, антынародную скіраванасць, праўдзіва маляваў селяніна, удзельніка вайны, яго псіхалогію. Вядучае месца ў творчасці Я.Коласа займае тэма мастака і мастацтва («Не пытайце, не прасеце...», «Пясняр», «Родныя песні», «Песняру...»). Яна вырашана ў традыцыях перадавой, рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры — як тэма самаадданага служэння мастака народу. Як пісьменнік-наватар Я.Колас прыкметна пашырыў ідэйна-тэматычныя, жанрава-стылявыя межы беларускай нацыянальнай літаратуры, узбагаціў яе новымі ідэямі, матывамі, вобразамі, моўна-выяўленчымі сродкамі, даў яскравыя ўзоры грамадзянскай, інтымнай лірыкі, гумарыстычнага, сатырычнага верша, вершаванага фельетона, байкі, вершаванага апавядання. Бытавое, сацыяльна-псіхалагічнае апавяданне пісьменніка («Соцкі падвёў», «Бунт», «Нёманаў дар», «Малады дубок») — класічны ўзор ў жанры «малой прозы». Тут выразна акрэсленыя вобразы, намаляваны тыповыя характары беларускага селяніна-працаўніка. Яго апавяданні характарызуюцца шырынёй ахопу жыццёвых з'яў, тэматычнай разнастайнасцю, мастацкай дасканаласцю. Напісаныя сакавітай народнай мовай, яны вызначаюцца непаўторным нацыянальным каларытам, першароднай свежасцю. Напоўненыя глыбокім жыццёвым і сацыяльна-філасофскім зместам алегарычныя апавяданні Я.Коласа (цыкл «Казкі жыцця») з'явіліся значным мастацкім адкрыццём у беларускай літаратуры, пашырылі яе ідэйна-тэматычныя і жанрава-стылёвыя гарызонты. Яны прасякнуты роздумам мастака-грамадзяніна, патрыёта, гуманіста аб чалавеку і яго жыццёвым прызначэнні, сэнсе чалавечага існавання. Пісьменнік сцвярджае ідэю вечнасці жыцця, бясконцасць форм яго праяўлення, імкненне чалавека да пазнання таямніц быцця, тайн прыроды («Жывая вада», «Супраць вады», «Даль» і інш.).

Выдатным дасягненнем беларускай паэзіі з'яўляецца пейзажная лірыка Я.Коласа. Яна прасякнута пачуццямі шчырай замілаванасці прыгажосцю роднага краю. Многія вершы аб прыродзе — «На полі вясною», «Усход сонца», «Ноч», «Адлёт жураўлёў», «Белыя валокны», «Лес» — сталі хрэстаматыйнымі, увайшлі ў залаты фонд нацыянальнай літаратуры. Паэт па-майстэрску ствараў пластычныя, аб'ёмныя, зрокава адчувальныя малюнкі беларускай прыроды.

Я.Колас творча прадоўжыў рэалістычныя традыцыі нацыянальнай літаратуры, узбагаціў метад крытычнага рэалізму вопытам рэвалюцыйнай барацьбы шырокіх мас за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Глыбокае і змястоўнае напаўненне атрымала катэгорыя народнасці ў паэзіі і прозе Я.Коласа. Пісьменнік узняў беларускае слова на ўзровень сталага мастацтва, паставіўшы яго побач з развітымі літаратурамі свету, і ў гэтым яго вялікая заслуга.

Гады рэвалюцыі — адзін з найбольш складаных, трагічных перыядаў у жыцці і творчасці Я.Коласа. Жахлівыя разбурэнні, незлічоныя людскія ахвяры, якімі суправаджалася Кастрычніцкая рэвалюцыя і якія паэт бачыў на ўласныя вочы, выклікалі яго рашучае асуджэнне і пратэст. Мастак-гуманіст не мог прыняць рэвалюцыю, якая дзеля гіпатэтычнай светлай будучыні знішчала найвялікшую каштоўнасць — чалавека. У «крывавым віры» гінулі маральныя набыткі, выпрацаваныя чалавецтвам за многія стагоддзі існавання. Паэма «Сымон-музыка» (1911—18) з асаблівай яскравасцю выявіла псіхалагічны стан паэта, які ўсведамляў і асабістую адказнасць за трагічныя падзеі, выкліканыя рэвалюцыяй, бо і яго паэтычнае слова рыхтавала рэвалюцыйны выбух. але аказалася, што галоўным героем часу стаў не разняволены рэвалюцыяй свабодны чалавек, міласэрны і спагадлівы да чужога болю і пакутаў, а «чалавек з ружжом», якому зброя замяніла закон і маральныя нормы, а класавая нянавісць, прага помсты сталі вызначальнымі матывамі дзейнасці. Ачышчальная бура-навальніца, якую клікаў пясняр народнай долі («Грымні ж ты, бура, ды грымні дужэй» — верш «Будзе навальніца», 1912), вылівалася ў акт рабаўніцтва і гвалту. Не жадаючы даць маральнае бласлаўленне жорсткай, крывавай, нясправядлівай рэвалюцыі, Я.Колас пакідае свайго героя-музыку на могілках, дзе пахавана яго дзяўчына Ганна — сімвал дабрыні і прыгажосці, жывое ўвасабленне маці-Беларусі, увасабленне няспраўджаных ідэалаў мастака. Сымон-музыка, які марыў пра ўсясветнае брацтва, пра ўсталяванне чалавечай дабрыні, міру і згоды, у знак пратэсту супраць жорсткасці, прымусу, беззаконня і пагарды да чалавечай асобы выключаецца з жыцця, засынае сімвалічным сном («Ты ачнешся ў жыцці новым песні-думкі дапяваць») побач з Ганнай.

Нешматлікасць твораў пісьменніка перыяду 1917—18 яскрава адлюстроўвала сутнасць яго грамадзянскай мастакоўскай пазіцыі, ягонага стаўлення да сацыялістычнай рэвалюцыі. У вершах 1919—21 (“На чужыне“, «Крыж», «Цені-страх», «Звон шыбаў»), у аповесці «Пад Новы год» (1922) паэт праўдзіва раскрываў разбуральныя вынікі ўздзеяння рэвалюцыі на чалавека, перадаваў яго разгубленасці і пачуццё страху. Трывожны звон шыбаў успрымаецца героем аднайменнага верша то як выява

жалобы, гневу, то як знак, «што згубілі мы дарогу» — да святла, праўды і ісціны.

Пасля звароту на Беларусь (май 1921) пачынаецца новы, вельмі плённы перыяд літаратурна-мастацкай і грамадска-культурнай дзейнасці Я.Коласа. Але пералом у светаадчуванні песняра адбыўся не адразу. Тэматыка напісаных і апублікаваных ім у 1921—23 гг. твораў у аснове сваёй скіравана да мінулага: было створана дванаццаць новых раздзелаў паэмы «Новая зямля», аповесць «У палескай глушы», падрыхтаваны і выданы зборнікі «Казкі жыцця» і «Водгулле». Я.Колас устрымліваўся ад апаратўнага водгуку на падзеі новага часу, не падзяляў пазіцыю тых пісьменнікаў, хто бяздумна ўслаўляў новую ўладу.

Паэма «Новая зямля» (1911—23), ідэйная і жанравая задума якой была істотна пераасэнсавана і паглыблена, стала этапнай з'явай у творчасці Я.Коласа і ўсёй беларускай літаратуры. Тут з вялікай сілай мастацкага абагульнення адлюстраваны карэнныя сацыяльныя супярэчнасці канца 19 ст., намалявана шырокая эпічная панарама народнага жыцця, створаны тыповыя, непаўторныя характары, раскрыта духоўная веліч, маральная прыгажосць чалавека працы, яго спрадвечная мара аб вольным шчаслівым жыцці, выяўлена імкненне стаць гаспадаром на ўласнай зямлі. Паэтызацыя працы, эстэтызацыя сялянскага побыту, услаўленне чалавека-працаўніка, носьбіта лепшых рыс народнага, нацыянальнага характару — наватарская рыса паэмы. У 30-я і пазнейшыя гады, калі пераважная большасць савецкіх пісьменнікаў выкрывала т.зв. дробнаўласніцкія інстынкты селяніна, індывідуалістычную мараль, развенчвала яго кулацкія памкненні, Я.Колас паэмай «Новая зямля» з гонарам бараніў аўтарытэт прыгожага пісьменства, годнасць мастака як выразніка інтарэсаў працоўнага сялянства. «Новая зямля» ўвайшла ў свядомасць чытача як найвыдатнейшы твор нацыянальнай літаратуры, з'ява нацыянальнай культуры, як паэтычная энцыклапедыя жыцця беларускага народа на новым этапе яго гістарычнага развіцця. Яна адыграла велізарную ролю ў сцвярджэнні прынцыпаў рэалізму, народнасці, у станаўленні ліра-эпічнай паэмы і празаічнага рамана. У 1923—24 Я.Колас істотна перапрацаваў паэму «Сымон-музыка» (тэкст не захаваўся; рукапіс украдзены ў час вяртання паэта з Кіславодска ўлетку 1924). У 1924—25 была створана трэцяя, канчатковая рэдакцыя, па сутнасці новы твор. З разгортваннем працэсу беларусізацыі аўтар «Сымона-музыкі» абуджае героя ад сну, дае яму магчымасць чароўным гранням вярнуць да жыцця Ганну і накіроўвае іх у шырокі свет да людзей. На пэўны час Я.Колас паверыў у магчымасць адраджэння роднага краю, нацыянальнай культуры, у магчымасць пабудовы суверэннай, незалежнай Беларусі. Паэма прысвечана беларускай моладзі, якой гісторыяй прызначана было будаваць новае жыццё, свабодную краіну. Вера пісьменніка-грамадзяніна, мастака-гуманіста ў шчаслівую будучыню Беларусі і дапамагла нараджэнню канчатковай рэдакцыі паэмы — твора паліфанічнага гучання, дзе драматычныя, трагічныя матывы пераплятаюцца з жыццесцвярджальнымі, аптымістычнымі. Зацятая барацьба бальшавіцкай партыі с рэлігіяй перашкодзіла Я.Коласу выкарыстаць шэраг тэм і матываў першай рэдакцыі, у прыватнасці, тэму мастака як прарока, як носьбіта боскай сілы. Але гэты і іншыя матывы, напрыклад, думка аб неабходнасці ўсеагульнай згоды, ідэя дабрыні, міласэрнасці, чалавекалюбства як арганічнай якасці сапраўднага мастацтва, знайшлі сваё ўскоснае, апасродкавае выяўленне ў апошняй рэдакцыі. Тое, што Сымон здолеў сілай свайго кахання ўдыхнуць жыццё ў безнадзейна хворую Ганну, сведчыла пра бязмежныя магчымасці мастацтва, калі яно сваімі каранямі звязана з народным жыццём, прасякнута ідэяй абароны чалавека. У лірыка-філасофскіх, алегарычных уступах да адпаведных раздзелаў новай рэдакцыі паэт іншасказальна выказаў шэраг глыбокіх думак, якія былі ў рэдакцыі 1911—18. Так, у алегорыі пра змаганне марозу і вады праводзіцца ідэя неабходнасці «згоды, змірэння», стваральнай працы як асновы будаўніцтва суверэннай дзяржавы. Паэма «Сымон-музыка» сведчыць аб шырыні творчага дыяпазону Я.Коласа, аб арыгінальнасці, адметнасці яго таленту і вялікіх творчых магчымасцях як паэта-лірыка. Яна ўражвае рознастайнасцю вобразна-выяўленчых сродкаў, гармоніяй зместу і формы, багаццем рытмікі, дасканалай інструментоўкай паэтычнага радка, мілагучнасцю, напеўнасцю верша, удалым выкарыстаннем фальклорнай паэтыкі. Паэма аказала вялікі ўплыў на развіццё беларускай лірыкі і ліра-эпічнай паэмы, раскрыла вялікія магчымасці рамантычных форм і сродкаў адлюстравання рэчаіснасці.

Жыццё беларускага народа напярэдадні і ў гады першай буржуазнай рэвалюцыі, пошукі перадавой інтэлігенцыяй шляхоў да народа, яе роля ў фарміраванні сацыяльна-палітычных поглядаў сялянства знайшлі сваё глыбокае мастацкае ўвасабленне ў першых двух кнігах «Палескіх аповесцей», якія пазней увайшлі ў трылогію «На ростанях» (1921—54). Аповесці — найбольш значныя творы беларускай мастацкай прозы. У іх яскрава выявіліся сталасць мастацкай думкі пісьменніка, глыбокае разуменне ім ролі народных мас і інтэлігенцыі ў рэвалюцыйным працэсе. «Палескія аповесці» вызначаюцца высокім узроўнем псіхалагічнага майстэрства, здольнасцю аўтара раскрываць дыялектыку пачуццяў герояў, паказваць чалавека ў адзінстве яго грамадскай дзейнасці і асабістага жыцця. Для твораў характэрна шчырасць, даверлівасць аўтарскай інтанацыі. Аповесці маюць выразны біяграфічны характар. Лёс многіх герояў, іх памкненні былі блізкімі і зразумелымі аўтару. Я.Колас сцвердзіў плённасць арыентацыі на актуальную сацыяльную праблематыку, на гістарычна праўдзівае, рэалістычна канкрэтнае, аналітычна заглыбленае адлюстраванне жыцця народа, канкрэтнай чалавечай асобы.

Да значных мастацкіх здабыткаў беларускай літаратуры пачатку і сярэдзіны 20-х г. адносяцца і апавяданні «Крывавы вір», «Пракурор», «Адукацыя», «Туды, на Нёман», «У «калектыве» пана Тарбецкага», «Хатка над балоткам», «На святой зямлі», алегарычна-філасофскія творы з цыкла «Казкі жыцця». Гэтыя творы працягвалі лепшыя традыцыі дакастрычніцкай «малай прозы», яны ўзбагацілі нацыянальнае мастацтва новымі эстэтычнымі адкрыццямі.

Але творча-актыўны, аптымістычны стан Я.Коласа працягваўся нядоўга. Яго ілюзіі адносна светлай будучыні, росквіту нацыянальнай культуры і адраджэння бацькаўшчыны пачалі хутка развей-

ваццa. Жорская рэчаіснасць, канкрэтная практыка сацыялістычнага будаўніцтва рашуча ацвярэжвалі песняра. Менавіта з канца 20-х — пач. 30-х г. Я.Колас трапляе ў безвыхаднае становішча, цалкам залежнае ад ідэалагічных установак камуністычнай партыі і грамадска-дзяржаўных структур таталітарнай сістэмы. Жахі прымусовай калектывізацыі, расслаіванне сялянства разбурэнне традыцыйнага ўкладу вёскі, татальны кантроль над усімі сродкамі грамадска-палітычнага, духоўнага жыцця, фактычная забарона свабоды слова і волевыяўлення, масавыя рэпрэсіі супраць нацыянальнай інтэлігенцыі — усё гэта негатыўна паўплывала на Я.Коласа як творцу. Ёе аказаўся сапраўдным заложнікам антыгуманнай сістэмы, міжвольным прапагандыстам сацыялістычнага рэалізму, які быў зводам палітычных патрабаванняў, але выдаваўся за эстэтычную катэгорыю. Асабліва вялікія творчыя страты Колас-мастак панёс у вершаваных формах. Вершы «Калгаснае», «Краіне Саветаў», «На верту», «Будзьце чуйны», «Памяці С.М.Кірава», «Калгасу «Слабада», «Шчаслівая хвіліна», «Раскуты Праметэй», «Пераможны май», «Радасць», «Да выбараў», «Май», «Майскае свята» ідэалізуюць тагачасную рэчаіснасць, малююць яе ў ружовых, светлых фарбах. Гэта — тыповы ўзор гімнічнай паэзіі, далёкай ад праўды жыцця і праўды мастацтва. Шмат у творах паэта дэкларатыўнасці, рыторыкі, схематызму. Рэальныя супярэчнасці падменены тут імітацыяй канфлікту.

Праўда, у некаторых творах, пераважна буйной сюжэтнай формы, пры ўважлівым чытанні можна адчуць праявы ўнутранага супраціўлення мастака таталітарнаму рэжыму. Ідэалагічна вытрыманыя заклікі, вершы ў гонар кастрычніцкіх гадавін давалі паэту магчымасць ускосна, праз падтэкст выказать сваю асабістую пазіцыю. Адзін з такіх эфектыўных сродкаў — даць магчымасць выказацца антыподам станоўчых герояў. Гэты прыём пісьменнік паспяхова выкарыстаў у аповесці «Адшчапенец», у паэме «На шляхах волі».

У гады Айчыннай вайны змест і танальнасць твораў Я.Коласа прыкметна змянілася. На першым плане ў іх гераізм і патрыятызм народа, услаўленне мужнасці воіна-чырвонаармейца («Народу-барацьбіту», «Душою і сэрцам мы з вамі, героі»), партызанская барацьба на часова захопленай ворагам зямлі («Над магілай партызана», «Бацьку Мінаю»), выкрыццё фашызму і іх прыслужнікаў. Аднак тэма мужнасці, гераізму не атрымала глыбокага адлюстравання у творчасці паэта. Многім яго вершам шкодзіць зададзенасць, афіцыйная трактоўка героікі. Павярхоўнасць, схематызм вобразаў асабліва ўласцівы паэмам «Суд у лесе», «Адплата», апавяданням. Высокімі мастацкімі якасцямі вызначаюцца некаторыя вершы, прысвечаныя непасрэдна Беларусі, у прыватнасці пейзажная лірыка. Глыбіня паэтычнай думкі арганічна спалучаецца тут з высокай эмацыянальнай напружанасцю і гранічнай шчырасцю выяўлення аўтарскіх пачуццяў любві да роднай зямлі, нянавісці да ворага, веры ў непазбежнасць перамогі («Голас зямлі»). Як значнае творчае дасягненне беларускай паэзіі неабходна разглядаць таксама інтымную лірыку паэта гэтых гадоў. У многіх вершах пачуцці асабістага характару, роздум аб жыцці і смерці пераплятаюцца з грамадзянскімі, патрыятычнымі пачуццямі («Мае мары»).

У пасляваенныя гады Я.Колас закончыў паэму «Рыбакова хата» (1939, 1946—47), працаваў над трэцяй кнігай трылогіі, пісаў новыя апавяданні з цыкла «Казкі жыцця», вершамі і публіцыстычнымі артыкуламі адгукаўся на падзеі грамадска-палітычнага, міжнароднага жыцця («Роднаму краю і народу», «Закон Трумэна і Ко»), прымаў актыўны ўдзел у рэдагаванні перакладу «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі» на рускую мову. Як крытык Я.Колас уздымаў надзённыя пытанні сувязі мастака з рэчаіснасцю, дзейснасці мастацкага слова, ролі і значэння крытыкі ў літаратурным працэсе, выкладання літаратуры ў школе, эстэтычнага выхавання маладога пакалення. Я.Колас аўтар шматлікіх твораў для дзяцей («У старых дубах», «Міхасёвы прыгоды», «Раніца жыцця», і інш.). Творчасць Я.Коласа была цесна звязана з развіццём беларускай педагагічнай думкі. Пісьменнік лічыў, што родная мова, літаратура, гісторыя — дзейсныя сродкі фарміравання маральных, патрыятычных пачуццяў школьнікаў, выхавання ў іх любві да «роднага слова — першай крыніцы, праз якую мы пазнаем акаляючы нас свет». Я.Колас шырока вядомы і як перакладчык на беларускую мову твораў А.Пушкіна, М.Лермантава, Т.Шаўчэнкі, Р.Тагора, А.Міцкевіча, П.Тычыны. Ён быў рэдактарам шматлікіх выданняў, анталогій. Яго творы таксама перакладзены на многія замежныя мовы.

Драматычныя творы Я.Коласа маюць даволі багатае сцэнічнае жыццё. П'есы паводле яго апавяданняў, аповесцей, трылогіі былі пастаўлены на сцэнах шматлікіх тэатраў. Жыццё і творчасць Я.Коласа пакладзены ў аснову дакументальных і мастацкіх фільмаў: «Народны паэт» (сцэнарый Ю.Тарыча, М.Лужаніна. Беларусьфільм, 1952), «Якуб Колас» (сцэнарый А.Звонака. Беларусьфільм, 1962), «Дзядзька Якуб» (сцэнарый В.Адамчыка, А.Вялюгіна. Беларусьфільм, 1982), «Песня вясны» — экранізацыя аповесці «На прасторах жыцця» (сцэнарый В.Гардзіна і Л.Ляжневіча, пастаноўка В.Гардзіна, 1929) і інш. На словы Я.Коласа напісана шмат музычных твораў, якія выходзілі асобнымі зборнікамі. Опера «Новая зямля» па аднайменнай паэме Я.Коласа напісана Ю.Семянякам, «У пушчах Палесся» (паводле аповесці «Дрыгва») — А.Багатыровым. Коласаўскую паэзію для напісання песень выкарыстоўвалі кампазітары М.Чуркін («Краска», «Вясна», рамансы «Маёй каханцы», «Гусі...»), А.Туранкоў (рамансы «Усход сонца», «Дудка», песні «Радасць»), Я.Цікоцкі (рамансы «Каманіну, Малакову, Сляпнёву», «Пераможны май») і інш. Вобраз пісьменніка ўвасобілі ў творах выяўленчага мастацтва Л.Асядоўскі, І.Ахрэмчык, М.Будавей, Ю.Герасіменка, Т.Ігнаценка, Я.Кулік, М.Купава, Я.Раманоўскі, І.Рэй, У.Стальмашонак, В.Шаранговіч, Л.Шчамялёў, А.Яр-Краўчанка і інш.

Я.Колас быў вядомым грамадскім дзеячам: ён выбіраўся членам ЦК на XX—XXII з'ездах КПБ. Кандыдат у члены ЦВК БССР у 1927—29, член ЦВК у 1929—31, 1935—38. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—56, Вярхоўнага Савета БССР у 1938—56, член усесаюзнага Камітэта па Дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры і мастацтва. Абіраўся віцэ-старшынёй Усеславянскага камітэта, старшынёй Беларускага і членам Савецкага камітэта абароны міру. Узнагароджаны пяццю ордэнамі Леніна, ордэнамі Чырвонага сцяга, Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі.

Імя народнага песняра з любоўю ўшаноўвае беларускі народ. У 1959—65 прысуджалася літаратурная, а з 1971 раз у два гады прысуджаецца Дзяржаўная прэмія імя Я.Коласа за лепшыя празаічныя

творы і літаратуразнаўчыя працы. Яго імя прысвоена Мінскаму паліграфічнаму камбінату, цеплаходу Дунайскага параходства, Інстытуту мовазнаўства АН Беларусі, Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Беларусі, Віцебскаму драматычнаму тэатру, СШ № 44 Мінска, Мікалаеўшчынскай СШ Стаўбцоўскага р-на, школам-інтэрнатам Брэста, Нясвіжа Мінскай вобл., Сянкевіцкай СШ Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл., Цэнтральнай гарадской бібліятэцы Слоніма Гродзенскай вобл., бібліятэцы № 7 Мінска, калгасам, плошчам і вуліцам рэспублікі. Помнікі пісьменніку пастаўлены на плошчы Мінска, якая носіць яго імя, на радзіме ў в. Мікалаеўшчына, а таксама ў г. Навагрудку Гродзенскай вобл., в. Плоскае Талачынскага р-на Віцебскай вобл. Устаноўлены мемарыяльныя дошкі на будынках, у якіх ён жыў ці працаваў. У Мінску існуе Літаратурны музей Я.Коласа, у Акінчыцах, Смольні і Альбуцці — яго філіялы. Грамадскія Літаратурныя музеі створаны ў Люсінскай СШ Ганцавіцкага р-на, Пінкавіцкай СШ Пінскага р-на Брэсцкай вобл., Бараўлянскай СШ Мінскага р-на, Верхменскай СШ Смалявіцкага р-на, Мікалаеўшчынскай СШ Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл. У пакоі, дзе Я.Колас працаваў як віцэ-прэзідэнт АН БССР, адноўлены мемарыяльны кабінет. Партрэт пісьменніка змяшчаўся на прысвечаных яму паштовых марках і паштоўках, на манеце, выпушчанай да 110-годдзя з дня яго нараджэння.

*М.Д.Мацюх, М.І.Мушынскі.*

## Бібліяграфія


1.1.

Зб. тв.: У 2 т. Т. 1. Вып. 1. Вершы 1904—22 гг. Мн., 1928. Рэц.: Барычэўскі А. // Полымя. 1928. № 10. Т. 1. Вып. 2. Вершы 1907—27 гг. Мн., 1928. Рэц.: А. // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел.». 1928. № 20; Плашчынскі Я. // Узвышша. 1929. № 1. Т. 2. Апавяданні вершам 1907—1927 гг. Мн., 1929. Рэц.: Аляхновіч М. // Маладняк. 1930. № 1; Сярэдні Ф. // Чырв. Бел. 1930. № 2.

Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1952—54. Т. 1. Вершы. Апавяданні вершам: (1904—17). Мн., 1952. Т. 2. Вершы. Апавяданні вершам: (1917—52). Мн., 1952. Т. 3. Апавяданні. Мн., 1952. Т. 4. Новая зямля; Сымон-музыка. Мн., 1952. Т. 5. У палескай глушы; У глыбі Палесся; На ростанях: Трылогія. Мн., 1954. Рэц.: Барсток М. Повесть о судьбах народа и его интеллигенции // Сов. Бел. 1954. 3 нояб.; Пшыркоў Ю. Разам з народам // ЛіМ. 1954. 6 ліст.; Цікоцкі М. Яскравыя старонкі народнага жыцця: Аповесць Якуба Коласа «На ростанях» // Мін. праўда. 1954. 8 снеж.; Шаблінскі П. Трэцяя частка трылогіі Якуба Коласа // Віцеб. рабочы. 1954. 27 кастр. Т. 6. На прасторах жыцця; Адшчапенец; Дрыгва: Аповесці. Мн., 1952. Т. 7. Рыбакова хата; Суд у лесе; Адплата: (Паэмы). Мн., 1952. Рэц.: Бурносаў В. Выдатны ўклад у скарбніцу савецкай літаратуры: Да выхаду сямітомніка Зб. твораў Якуба Коласа // ЛіМ. 1953. 1 студз.; Пшыркоў Ю. Сямітомнік Якуба Коласа // Беларусь. 1953. № 3.

Зб. тв.: У 12 т. Мн., 1961—64. Т. 1. Вершы: 1898—17. Мн., 1961. Т. 2. Вершы: 1917—56. Мн., 1962. Т. 3. Апавяданні вершам, вершы, вершаваныя казкі і паэмы для дзяцей. Мн., 1961. Т. 4. Апавяданні: 1906—17. Мн., 1962. Т. 5. Апавяданні паслякастрычніцкага перыяду, «Казкі жыцця», народныя казкі ў апрацоўцы Я.Коласа. Мн., 1962. Т. 6. Новая зямля; Сымон-музыка: Паэмы. Мн., 1962. Т. 7. На прасторах жыцця; Адшчапенец; Дрыгва: Аповесці. Мн., 1963. Т. 8. Рыбакова хата; Суд у лесе; Адплата: Паэмы. Мн., 1963. Т. 9. Трылогія «На ростанях». Мн., 1963. Т. 10. П'есы; На шляхах волі: Паэма. Мн., 1964. Т. 11. Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы: 1906—56. Мн., 1964. Т. 12. Пісьмы; Дзённікі; Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1964. Рэц.: Базарэвіч М. Спадчына песняра // Беларусь. 1965. № 8; Броўка П., Барысенка В., Пшыркоў Ю. Спадчына паэта — багацце народа: Да выхаду ў свет Зб. твораў Я.Коласа ў 12-ці тамах // ЛіМ. 1965. 19 лют.; Жигоцкий Н. Двенадцать томов Якуба Коласа // Неман. 1965. № 4; Яго ж. Непрочитанная поэма // Знамя юности. 1962. 23 окт.; Яго ж. Нерушимое единство // Радуга. 1965. № 7; Яго ж. Щирий друг України // Рад. Волинь. 1965. 11 лип.; Яго ж. Малавядомая паэма // Калг. праўда. 1962. 25 мая; Яго ж. Недапісаная паэма // Чырв. змена. 1965. 4 ліп.; Яго ж. Спадчына народнага паэта // Голас Радзімы. 1965. № 31; Наст. газ. 1965. 17 ліст.; Хромчанка К. Першае навуковае выданне: Да выхаду Зб. твораў Я.Коласа ў 12-ці тамах // ЛіМ. 1965. 12 сак.

Зб. тв.: У 14 т. Мн., 1972—78. Т. 1. Вершы: 1898—1917. Мн., 1972. Т. 2. Вершы: 1917—56. Мн., 1972. Т. 3. Апавяданні вершам, вершы, вершаваныя казкі, паэмы для дзяцей і народныя казкі ў апрацоўцы Я.Коласа. Мн., 1973. Т. 4. Апавяданні: 1906—17. Мн., 1973. Т. 5. Апавяданні паслякастрычніцкага перыяду і «Казкі жыцця». Мн., 1973. Т. 6. Новая зямля; Сымон-музыка: Паэмы. Мн., 1974. Т. 7. Рыбакова хата; Суд у лесе; Адплата: Паэмы. Мн., 1974. Т. 8. На прасторах жыцця; Адшчапенец; Дрыгва: Аповесці. Мн., 1975. Т. 9. Трылогія «На ростанях». Мн., 1975. Т. 10. Забастоўшчыкі; У пушчах Палесся; Вайна вайне: П'есы; На шляхах волі: Паэма; Пераклады. Мн., 1976. Т. 11. Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы: 1917—46. Мн., 1976. Т. 12. Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы: 1947—56. Мн., 1976. Т. 13. Пісьмы: 1908—49. Мн., 1977. Т. 14. Пісьмы: 1950—56. Мн., 1978. Рэц.: Жигоцкий Н. Новое издание Коласа // Неман. 1978. № 11; Яго ж. Новое издание наследия поэта // Вопр. лит. 1979. № 3; Яго ж. Выданне спадчыны паэта // Беларусь. 1978. № 4; Яго ж. ...І застаецца назаўсёды // Наст. газ. 1979. 6 студз.; Яго ж. Спадчына паэта // Чырв. змена. 1978. 11 чэрв.

Выбр. апавяданні. Мн., 1926. (Сялянская б-ка) / Пад псеўд. Т.Гушча.

Выбр. тв.: Угодкавае выданне. Вільня, 1927. Рэц.: Аршэнік М. // Полымя. 1928. № 2.

Выбр. тв.: Аповесць і апавяданні. Мн., 1935. (Школьная серыя).

Выбр. тв.: Вершы і паэмы. Мн., 1936.

Выбр. апавяданні. Мн., 1937.

Выбр. тв.: Вершы. Мн., 1938.

Выбр. тв. Т. 3. Аповесці і апавяданні. Мн., 1939.

Выбр. вершы. Мн., 1948. (Б-ка школьніка).

З майго летапісу: Выбр. вершы. Мн., 1967.

Вершы. Мн., 1971. (Б-ка бел. паэзіі).

Выбр. вершы. Мн., 1980.

Дрыгва: Аповесць і апавяданні. Мн., 1981. (Б-чка бел. прозы).

Выбранае. Мн., 1982. Рэц.: Міхалевіч Д. // ЛіМ. 1983. 11 ліст.

1.2.

Другое чытанне для дзяцей беларусаў. Напісаў Якуб Колас. Перагледзеў і прадмову прыпісаў Л.Сеўрук. Пб., 1909 / У сааўт. з інш.

Песні-жальбы. Вільня, 1910. Рэц.: Бульба. Песні жальбы... // Н.н. 1910. 30 вер.; Гай П. // Рада. 1910. 21 жовт.; Гермайзе О. Якуб Колас: Песні жальбы // Укр. хата. 1911. № 1; Евшан М. [Федюшка М.] Якуб Колас: Песні жальбы // Літ.-наук. вістник (Львоў). 1911. № 1; Свобода (Нью-Йорк). 1911. 26 січ.; Щурат В. // Неділя. 1911. 1 січ. Факс. выд. Мн., 1982.

Апавяданні. Вільня, 1912 / Пад псеўд. Т.Гушча. Рэц.: І.М. Мае ўвагі // Н.н. 1912. 9 жн.

Batrak: Apawiadańnie z žyćcia palešukoŭ. Pb., 1913.
Нёманаў дар. Пб., 1913 / Пад псеўд. Т.Гушча.
Прапаў чалавек; Паслушная жонка; Грушы-сапяжанкі. Пб., 1913.
Тоўстае палена. Пб., 1913.
Родныя з'явы. Вільня, 1914 / Пад псеўд. Т.Гушча. Рэц.: Власт // Н.н. 1914. 16 кастр.
Чарка ўсё на свеце робіць: 1-ы акт п'есы «Антось Лата». Б.м., 1916.
Сцэнічныя творы. Мн., 1917 / Пад псеўд. Т.Гушча. Рэц.: Лёсік Я. «Антось Лата»: «Сцэнічныя творы» Тараса Гушчы // Вольная Беларусь. 1917. 8 снеж.
Сымон Музыка: Паэма. Мн., 1918.
Казкі жыцця: 1907—21 г. Коўна, 1921 / Пад псеўд. Т.Гушча. Рэц.: Кнігапіс // Бел. вед. 1921. 23 кастр.
Водгулле: Вершы. Мн., 1922. Рэц.: П. Л. // Адраджэнне. 1922. Сш. 1; Т. Г. [Грыб Т.] // Перавясла. 1924. № 2.
Новая зямля: Паэма. Мн., 1923. Рэц.: Байкоў М. Новая беларуская паэма: Якуб Колас. «Новая зямля» // Полымя. 1923. № 5—6; 2 выд. Мн., 1927. Рэц.: Fr. Hr. [Грышкевіч Ф.] // Slovanský přehled. 1930. Т. 22; 3 выд. Мн., 1934. Рэц.: Ларчанка М. Аб новым выданні «Новай зямлі» Коласа і прадмове паэта // Крытыка-бібліягр. бюлетэнь. 1934. № 7; 4 выд. Мн., 1941; 5 выд. Мн., 1958. Рэц.: Бурносаў В. Пісьменнік і мастак // Полымя. 1959. № 6.
У палескай глушы: Аповесць. Вільня. 1923 / Пад псеўд. Т.Гушча. Рэц.: Г...к. // Новае жыццё. 1923. 14 мая; Крывіч. 1923. № 4; 2 выд. Мн., 1927; 3 выд. Мн., 1928.
Крок за крокам: Апавяданні. Мн., 1925 / Пад псеўд. Т.Гушча. Рэц.: С. П. // Полымя. 1925. № 3; 2 выд. Мн., 1928.
На рубяжы: Апавяданні. Мн., 1925 / Пад псеўд. Т.Гушча; 2 выд. Мн., 1928.
Першыя крокі: Апавяданні. Мн., 1925 [1924] / Пад псеўд. Т.Гушча.
Сымон-Музыка: Паэма. Мн., 1925. Рэц.: Бабарэка А. Паэма «Сымон Музыка» Якуба Коласа // Узвышша. 1927. № 3; Р. [Ракуцька(?)] // Сав. Бел. 1925. 25 кастр.; Улідзе [Дзяржынскі У] // Полымя. 1925. № 6; Tichý F. // Slovanský přehled. 1926. Т. 18; 2 выд. Мн., 1928.
У ціхай вадзе: Зб. апавяданняў. Мн., 1925 / Пад псеўд. Т.Гушча; 2 выд. Мн., 1927; 3 выд. Мн., 1928.
Казкі жыцця: Апавяданні. Мн., 1926. Рэц.: П. Б. // Полымя. 1926. № 5; 2 выд. Мн., 1928. Рэц.: Цвяткоў Л. // Сав. Бел. 1929. 17 лют.
Методыка роднае мовы. Мн., 1926 / Пад прозв. К.Міцкевіч. Рэц.: Асвета. 1926. № 4; Цвяткоў Л. // Полымя. 1926. № 5.
На прасторах жыцця: Аповесць і апавяданні. Мн., 1926 / Пад псеўд. Т.Гушча. Рэц.: Камарук Я. // Полымя. 1927. № 1; Яр // Узвышша. 1927. № 1; 2 выд. Мн., 1928. Рэц.: Замбржыцкі С. «На прасторах жыцця» Тараса Гушчы (Я.Коласа) // Маладняк. 1928. № 8; Чырв. змена. 1929. 22 сак.
Казкі жыцця: 1907—21. Вільня. 1927 / Пад псеўд. Т.Гушча. Рэц.: Sédivý J. // Dom in Svet (Ljubljana). 1928. Let. 41.
Prapaŭ caławiek; Niomanaŭ dar; Toŭsta palena. Wilnia, 1927.
У глыбі Палесся: Аповесць. Мн., 1927 / Пад псеўд. Т.Гушча. Рэц.: Адамовіч А. Што чытаць // Чырв. сейбіт. 1928. № 2; І. В. // Маладняк. 1928. № 4; Улідзе [Дзяржынскі У.] // Полымя. 1928. № 1; 2 выд. Мн., 1930.
Нёманаў дар і іншыя расказы. Вільня, 1928 / Пад псеўд. Т.Гушча.
Новая зямля: Паэма. Кн. 1—3. Вільня, 1928—29. Кн. 1. Вільня, 1928. Кн. 2. Вільня, 1928. Кн. 3. Вільня, 1929.
Сымон-музыка: Паэма. Вільня, 1928.
Методыка роднай мовы. Мн., 1930 / Пад прозв. К.Міцкевіч; сааўт. В.Тэпін.
На прасторы жыцця: Аповесць. Мн., 1930. (Мастацкае слова — масам) / Пад псеўд. Т.Гушча.
Новая зямля: Паэма. Вільня, 1931.
У глыбі Палесся: Аповесць. Вільня, 1931 / Пад псеўд. Т.Гушча.
Адшчапенец: Аповесць. Мн., 1932. 2 выд. Мн., 1950. Рэц.: Кніжная паліца // Калг. праўда. 1951. 25 сак.; Кришталь В. Произведение о великом переломе // Гродн. правда. 1952. 13 июня.
У старых дубох; Дзеравеншчына; Злучыліся: Апавяданні для дзяцей. Вільня, 1933 / Пад псеўд. Т.Гушча.
Дрыгва: Аповесць. Мн., 1934; 2 выд. Мн., 1935. Рэц.: Даміленка В. Выдатны твор // Камуніст. 1936. 30 кастр.; Замотин И. Высокий образец художественного реализма: (О повести «Дрыгва») // Рабочий. 1936. 10 февр.; Яго ж. «Дрыгва» // ЛіМ. 1936. 11 кастр.; Кніга аб незабыўных днях // Віцеб. пралетарый. 1936. 15 кастр.; Кучар А. // Лит. учеба. 1935. № 11; Літаратурны мінімум // Чырв. змена. 1935. 23 сак.; 3 выд. Мн., 1936. Рэц.: Мукасей Ю. Пабольш такіх кніг // ЛіМ. 1936. 10 лют.; 4 выд. Мн., 1937; 5 выд. Мн., 1940. Рэц.: Новые книги // Сов. Бел. 1941. 15 мая; 6 выд. Мн., 1946. Рэц.: Кудраўцаў І. Аповесць Якуба Коласа «Дрыгва» // Сав. школа. 1948. № 3; 7 выд. Мн., 1952. (Школьная б-ка); 8 выд. Мн., 1959. Рэц.: Новыя кнігі // Віцеб. рабочы. 1959. 18 сак.
Міхасёвы прыгоды: Паэма для дзяцей. Мн., 1935. Рэц.: Куніцкі С. // Полымя рэвалюцыі. 1936. № 6; Новыя кніжкі для дзяцей // Камуніст. 1936. 1 крас.; Песня аб прыродзе // Піянер Бел. 1936. 3 студз.; Шушкевіч С. «Міхасёвы прыгоды» // ЛіМ. 1935. 28 снеж.; 2 выд. Мн., 1937; 3 выд. Мн., 1947.
Вялікаму Сталіну: Пісьмо народаў Савецкай Беларусі. Мн., 1936 / У сааўт. з інш.
Дванаццаць песень пра нашу непераможную Чырвоную армію, пра яе тварца і натхніцеля вялікага Сталіна, пра яе палкаводца Клімента Варашылава... Мн., 1936 / У сааўт. з інш.
Пісьмо народаў Савецкай Беларусі правадыру працоўных Вялікаму Сталіну. Мн., 1936 / У сааўт. з інш.
Савось-распуснік: Кніжка-верш для дзяцей малодшага ўзросту. Мн., 1936.
Anton Łata: Sceničny twor u 2 aktach; Na darozie žyćcia: Sceničny abrazok u 1 akcie. Wilnia, 1937 / Пад псеўд. Т.Гушча.
Вялікаму Сталіну ад беларускага народа. Мн., 1937 / У сааўт. з інш.
Нашы дні: 1922—36: Вершы. Мн., 1937. Рэц.: Ушакоў А. «Нашы дні» Якуба Коласа // ЛіМ. 1938. 10 жн.
Сцэнічныя творы. Вільня, 1937. (Беларуская тэатральная кніжніца) / Пад. псеўд. Т.Гушча.
Вайна вайне: Драма ў 4-х актах. Мн., 1938.
Радзіме і правадыру: Вершы і песні аб Сталінскай канстытуцыі. Мн., 1938 / У сааўт. з інш.
Рак-вусач: Вершаваная казка для дзяцей. Мн., 1938. 2 выд. Мн., 1956.
Дзед і мядзведзь: Вершы. Мн., 1939. Рэц.: Шарапов А. Макулатурное издание // Сталин. молодежь. 1940. 14 янв.
Каля заставы: Апавяданне. Мн., 1939.
Апавяданні. Мн., 1940. (Масавая б-ка).
Вершы. Мн., 1940. (Школьная б-ка).
Дванаццаць несень... Мн., 1940 / У сааўт. з інш.
Пад Сталінскім сонцам: Вершы 1937—39 гг. Гомель, 1940.
На рэчцы зімой: Верш. Мн., 1941.
Начаткі: [Урывак з паэмы «Новая зямля»]. Мн., 1941.
У старых дубах: Апавяданні. Мн., 1941. Рэц.: Малышаў І. «У старых дубах» // Піянер Бел. 1941. 10 крас.; Новые книги для детей // Сов. Бел. 1941. 4 марта; Фигловская Л. Сборник хороших рассказов // Там жа. 1941. 11 марта; Фінкевіч А. «У старых дубах» // Чырв. звязда. 1941. 29 крас.
Адпомсцім: Вершы. Б.м., 1942.
Да зброі, беларускі народ! Б.м., 1942.
Рыцар Шыкльгрубер: Верш. Б.м., 1942.
Сымон Музыка. Прага, 1942.
Голас зямлі: Вершы. М., 1943.
Суд у лесе: Паэма. М., 1943.
Вершы для дзяцей. Мн., 1945.

Адплата: Паэма. Мн., 1946.
Вершы. Т. 1. Мн., 1946.
Мой дом: (Вершы). Мн., 1946. Рэц.: Новая книга стихов Якуба Коласа «Мой дом» // Сов. Бел. 1947. 13 февр.
Паэмы. Мн., 1946.
Рыбакова хата: Паэма. Мн., 1947. Рэц.: Борисенко В. Выдающееся произведение белорусской советской литературы // Сов. Бел. 1947. 1 июля; Яго ж. Поэма Я.Коласа «Хата рыбака» // Там жа. 1949. 27 апр.; Бровка П. Новая поэма Якуба Коласа // Правда. 1947. 12 авг.; Яго ж. Выдатны твор // ЛіМ. 1949. 16 крас.; Яго ж. Новая паэма Якуба Коласа // Віцеб. рабочы. 1947. 23 жн.; Кавалёў Н. Паэма Якуба Коласа «Рыбакова хата» // Бальш. Пал. 1947. 19 жн.; Марціновіч А. Вялікі эпічны твор // Чырв. змена. 1949. 28 крас.; Нічыпаровіч М. Паэзія працы і барацьбы за камунізм // Гомел. праўда. 1949. 19 ліст.; Пшыркоў Ю. Паэма Я.Коласа «Рыбакова хата» // ЛіМ. Звязда. 1947. 7 ліп.; Сабаленка Р. Выдатны твор савецкай паэзіі // Чырв. звязда. 1949. 29 чэрв.; Яго ж. «Рыбакова хата» Якуба Коласа // Там жа. 1947. 17 жн.; Сергіевіч Н. «Рыбакова хата» // Сав. Радзіма. 1949. 29 чэрв.; Усікаў Я. «Рыбакова хата» // За Радзіму. 1949. 20 мая; Царанкоў Л., Барысавец А. Выдатны твор савецкай паэзіі // Зара. 1948. 14 сак.; Шкраба Р. «Рыбакова хата» // Наст. газ. 1949. 12 мая; Яго ж. Шчасце з усхода // ЛіМ. 1947. 19 ліп.; Makarow A. Rok poetycki // Lit. Radz. 1949. Nr 5; 2 выд. Мн., 1957.
Аповесці: У палескай глушы; У глыбі Палесся. Мн., 1948.
Вершы і паэмы. Мн., 1948.
Усход сонца: Вершы аб прыродзе. Мн., 1948.
Раніца жыцця: Апавяданні. Мн., 1950. (Школьная б-ка). Рэц.: Антонов К. Содержательная книга для детей // Сталин. молодежь. 1950. 17 нояб.; Майхровіч С. «Раніца жыцця» // Наст. газ. 1950. 12 кастр.; Маркаў К. Зборнік апавяданняў Якуба Коласа // Гомел. праўда. 1950. 18 снеж.; Раніца жыцця: Зборнік апавяданняў: Прачытай гэтую кнігу // Бярозка. 1950. № 6; Семяновіч А. «Раніца жыцця» // Звязда. 1950. 30 вер.; Царанкоў Л. «Раніца жыцця» // Зара. 1950. 26 ліст.
Міхасёвы прыгоды: Паэмы, казкі, вершы. Мн., 1951. Рэц.: Кніжная паліца // Наст. газ. 1951. 28 чэрв.; Новыя кнігі // Віцеб. рабочы. 1951. 9 снеж.; Прачытай гэтыя кнігі // Бярозка. 1951. № 7; 2 выд. Мн., 1956.
Жыве між нас геній: Вершы аб У.І.Леніне і І.В.Сталіне. Мн., 1952. Рэц.: Новыя кнігі: Я.Колас. Жыве між нас геній // Калг. праўда. 1953. 14 крас.
Новая зямля. Мюнхэн, 1952.
Новая зямля; Сымон музыка: Паэмы. Мн., 1953. (Школьная б-ка). Рэц.: Кніжная паліца // Наст. газ. 1953. 29 кастр.
На ростанях: Трылогія. Мн., 1955. Т. 1—2. Рэц.: Александровіч С. Патрабавальнасць мастака // ЛіМ. 1956. 21 студз.; Андрыенка О. Тэма інтэлігенцыі ў трылогіі «На ростанях» Я.Коласа // Уч. зап. Гомел. пед. ин-та. 1956. Вып. 2; Герцовіч Я. Пра народ і для народа // ЛіМ. 1955. 30 ліп.; Казека Я. Вобразы роднага краю // Там жа. 1956. 16 чэрв.; Казлова В. // Калг. праўда. 1956. 10 лют.; Яе ж. Станоўчы герой трылогіі Якуба Коласа // Сав. школа. 1956. № 1; Мозольков Е. Трилогия Якуба Коласа // Правда. 1955. 12 февр.; Новиченко А. Путь героя к народу // ЛГ. 1956. 21 янв.; Пшыркоў Ю. Трылогія Я.Коласа «На ростанях» // Полымя. 1955. № 12; Шкраба Г. В начале века // Известия. 1956. 7 марта; Mozolkow E. // Lit. Radz. 1955. Nr 7; 2 выд. Мн., 1958. (40 год Савецкай Беларусі). Рэц.: Звонак А. Праўда аб жыцці // Калг. праўда. 1960. 13 сак.; Масевіч С. «На ростанях» // Чырв. змена. 1960. 29 сак.; Поликанов А. // Труд. 1960. 11 марта.
П'есы. Мн., 1955.
Сымон Музыка: Паэма. Мюнхэн, 1955.
Апавяданні. Мн., 1956. (Школьная б-ка).
Дзядзькаў сведка: Апавяданні. Мн., 1957. (Б-ка «Вожыка»).
На рэчцы: (Урывак з паэмы «Міхасёвы прыгоды»). Мн., 1957.
Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы. Мн., 1957. Рэц.: Адамчык В. Радкі пафасу і гневу // За вярт. на Радзіму. 1959. № 42; Бурносаў В. Публіцыстычная і літаратурна-крытычная спадчына народнага паэта // Камуніст Бел. 1958. № 5; Казека Я. Вочы і сэрца народа // Полымя. 1958. № 1; Тикоцкий М. Публицистика Я.Коласа // Сов. Бел. 1958. 7 янв.; Шкраба Р. Сардэчная размова // Беларусь. 1958. № 3; Юревич В. Яркие, живые черты современности // ЛГ. 1958. 12 авг.; Яго ж. Разам з народам за шчасце народа // Звязда. 1958. 16 лют.
У палескай глушы: Повесць. Мюнхэн, 1957.
Новая зямля: Паэма. Мн., 1958.
На прасторах жыцця. Мн., 1959. (Школьная б-ка).
На споведзі: (Урыўкі з трылогіі «На ростанях»). Мн., 1959. (Б-чка атэіста).
Казкі жыцця. Мн., 1960.
Рыбакова хата: Паэма. Мн., 1962.
Дрыгва. Мн., 1966. (Школьная б-ка).
На ростанях: Трылогія. Мн., 1966.
Апавяданні. Мн., 1967. (Школьная б-ка).
Новая зямля. Мн., 1967. (Школьная б-ка).
На ростанях: Трылогія. Мн., 1968.
Новая зямля: Паэма. Мн., 1968.
Сымон Музыка. Мн., 1968. (Школьная б-ка).
Міхасёвы прыгоды. Мн., 1969. (Школьная б-ка).
Раніца ў нядзельку: Вершы, апавяданні, казкі. Мн., 1969.
Дрыгва. Мн., 1970. (Школьная б-ка).
У пушчах Палесся: Драма ў 4-х дзеях: (Паводле аповесці «Дрыгва»). Мн., 1970. (Б-ка бел. драматургіі).
Асадзі назад: Гумар. вершы. Мн., 1972. (Б-ка «Вожыка»).
Вершы. Мн., 1972.
На ростанях: Трылогія. Мн., 1972. (Школьная б-ка).
Сымон-музыка: Паэма. Мн., 1972.
Новая зямля: Паэма. Мн., 1975. (Школьная б-ка).
За навуку. Мн., 1976. (Мая першая кніжка).
Казкі жыцця. Мн., 1976. (Школьная б-ка).
Страшнае спатканне: Апавяданні. Мн., 1976. (Мая першая кніжка).
Сымон-музыка. Мн., 1977. (Школьная б-ка).
Міхасёвы прыгоды: Паэма. Мн., 1980. (Мая першая кніжка).
На прасторах жыцця: Аповесць. Мн., 1980. (Б-ка юнацтва).
На ростанях: Трылогія. Мн., 1981. (Школьная б-ка).
Вершы. Мн., 1982.
На ростанях: Трылогія. Мн., 1982. (Школьная б-ка).
Новая зямля: Паэма. Мн., 1982.
Родныя вобразы: Вершы. Мн., 1982. (Паэтычная б-ка).
На прасторах жыцця: Аповесць, апавяданні, казкі. Мн., 1986. (Школьная б-ка).
Новая зямля; Сымон-музыка: Паэмы. Мн., 1986.
Усход сонца: Вершы. Мн., 1986. (Мая першая кніжка).
Голас зямлі: Вершы і паэма. Мн., 1988. (Школьная б-ка).
Рак-вусач: Казка, вершы. Мн., 1989. (Мая першая кніжка).
Дрыгва: Аповесць, паэма, апавяданні. Мн., 1990.
Сымон-музыка: Паэма. Мн., 1990.

1.3.

1906. Наш родны край: [Верш] // Наша доля. 1 вер.; Слабода: [Апавяданне] / Пад псеўд. Дзядзька Карусь; Асенні вечар: [Верш] // Там жа. 15 вер.; Беларусам: [Верш] // Там жа. 20 вер.; Выбар старшыні: [Апавяданне] / Пад псеўд. Тамаш Булава; Нёман: [Верш] // Н.н. 10 ліст.; Чорт: [Апавяданне] // Там жа. 17, 24 ліст. / Пад псеўд. К.Альбуцкі; Могілкі: [Верш] // Там жа. 17 ліст.; Дудар: (Казка) / Пад псеўд. Тамаш Булава; Дарога: [Верш] // Там жа. 2 снеж.; Думкі ў дарозе: [Апавяданне]; Моладасць: [Верш] // Там жа. 14 снеж.

1907. Власць: Жарт / Пад псеўд. Стары Шут; На Новы год: [Верш] / / Н.н. 6 студз.; Суд «Нашай долі» / / Там жа. 19 студз. / Пад псеўд. Марцін; Бунт: Апавяданне / / Там жа. 11 лют. / Пад псеўд. Лесавік; Дума і народ / Пад псеўд. Марцін; Расейскія абразы: [Верш] / / Там жа. 24 лют.; Партыі ў думе / / Там жа. 9 сак. / Пад псеўд. Марцін; 6 крас. / Пад крыпт. М.; Вёска: [Верш] / / Там жа. 30 сак.; Месяц: [Верш] / / Там жа. 6 крас.; Самаўпраўленне / / Там жа. 13 крас. / Пад псеўд. Марцін; Песня каля калыскі: [Верш] / / Там жа. 20 крас.; Плытнікі: [Верш] / / Там жа. 18 мая; Аб народным вучыцелю / Пад псеўд. К.Наднёманец; Сябрам: (Народным вучыцелём, што пацярпелі за свабоду): [Верш] / / Там жа. 25 мая; Паўлюковы думкі: Апавяданне / Пад псеўд. Дзядзька Карусь; Роднае поле: [Верш] / / Там жа. 1 чэрв.; Людскія слёзы / Пад псеўд. Ганна Крум; Хмары: [Вершы] / / Там жа. 8 чэрв.; У горадзе: Апавяданне / Пад псеўд. Ганна Груд; Работніку: (З нямецкай мужыцкай газеты «Zandbote»): [Верш] / Пад крыпт. К.М. / / Там жа. 21 чэрв.; «Што вы, хлопцы, пахмурнелі?..»: [Верш] / / Там жа. 6 ліп.; Мужычая ніва: [Верш] / / Там жа. 20 ліп.; Жывая вада: Казка / Пад псеўд. Тамаш Булава; «Вейце, ветры, на прасторы...» / Пад крыпт. К.М.; На перакрэстку: [Вершы] / / Там жа. 3 жн.; Баба і куры: Байка / Пад псеўд. Т.Гушча; «Недалёка ад Урала...» / Пад псеўд. К.Адзінокі; Згнаннiку: [Вершы] / / Там жа. 14 жн.; Не бядуй!..: [Верш] / / Там жа. 31 жн.; Соцкі падвёў: Апавяданне / Пад псеўд. Т.Гушча; Пад шум ветра: [Верш] / / Там жа. 28 вер.; З судзебнай практыкі ў Мінскім павеце: Жарт / Пад псеўд. Стары Шут; Братомзгнаннікам: [Верш] / / Там жа. 12 кастр.; Андрэй-выбаршчык: Апавяданне / Пад псеўд. Агарак; Перад дарогай: [Верш] / / Там жа. 26 кастр.; Кірмаш: Апавяданне / Пад псеўд. Дзядзька Карусь; Горкая доля: [Верш] / Там жа. 23 ліст.; Васіль Чурыла: (Апавяданне з жыцця леснікоў) / Пад псеўд. Лесавік; Пытанне: [Верш] / / Там жа. 7 снеж.; Калядны вечар: Апавяданне / Пад псеўд. К.Альбуцкі; На гасцінцы: [Верш] / / Там жа. 21 снеж.

1908. Кантракт: (З жыцця пінчукоў): Апавяданне / / Н.н. 29 лют. / Пад псеўд. Тамаш Булава; «Сацыяліст»: (З апавядання мужыка) / Пад псеўд. Андрэй «сацыяліст»; На прадвесні: [Верш] / / Там жа. 14 сак.; Зяць: (Апавяданне вершамі) / Пад псеўд. Тамаш Булава; Вясною: [Верш] / / Там жа. 28 сак.; Старая праўда: [Верш] / / Там жа. 11 крас.; Вецер: [Верш] / / Там жа. 25 крас.; Пясняр: [Верш] / / Там жа. 9 мая; «Асадзі назад!» / Пад псеўд. Тамаш Булава; Доля батрачкі: [Вершы] / / Там жа. 22 мая; Імяніны: Апавяданне / Пад псеўд. Т.Гушча; Хлебароб: [Верш] / / Там жа. 6 чэрв.; Калодка пчол: Апавяданне / Пад псеўд. Пятрусь Дзягель; На полі вясною: [Верш] / / Там жа. 20 чэрв.; Вечар на Палессі: [Верш] / Пад псеўд. К.Адзінокі; У балоце: (Праўдзівае здарэнне): Апавяданне / Пад псеўд. Агарак; Кірыла: [Верш] / / Там жа. 4 ліп.; Жніво; Мужык: [Вершы] / / Там жа. 18 ліп.; Мужычае жыццё: [Верш] / / Там жа. 15 жн.; Нягода; Усход сонца: [Вершы] / / Там жа. 28 жн.; За падаткі: [Верш] / / Там жа. 11 вер.; «Мы маўчалі, як нямыя...»: [Верш] / / Там жа. 9 кастр.; У вастрозе: [Верш] / / Там жа. 23 кастр.; Чыгунка: [Верш] / / Там жа. 7 ліст.; Восень: [Верш] / / Там жа. 20 ліст.; На мяжы: [Верш] / / Там жа. 18 снеж.

1909. Вярбіна: [Верш] / / Н.н. 15 студз.; З песень астрожніка: [Верш] / / Там жа. 29 студз.; Панас гуляе: [Верш] / / Там жа. 20 лют.; Вясна: [Верш] / / Там жа. 1 мая; Сон у турме: [Верш] / / Там жа. 7 мая; Пахаванне: [Верш] / / Там жа. 14 мая; «Глуха стала пасля буры...»: [Верш] / / Там жа. 21 мая; «У бярлозе ты радзіўся...»: [Верш] / / Там жа. 11 чэрв.; Ноч: [Верш] / / Там жа. 16 ліп.; Прад навальніцай: [Верш] / / Там жа. 23 ліп.; Родныя абразы: [Верш] / / Там жа. 13 жн.; Ржаны колас: [Верш] / / Там жа. 20 жн.; Адлёт жураўлёў: [Верш] / / Там жа. 17 вер.; Маці: [Верш] / / Там жа. 24 вер.; Асенні дождж: [Верш] / / Там жа. 29 кастр.; Гусі: [Верш] / / Там жа. 5 ліст.; «Уюцца думкі, томяць грудзі...»; «Ой, вы, думкі, думкі...»: [Вершы] / / Там жа. 12 ліст.; «Скора ў полі забушуе...»: [Верш] / / Там жа. 19 ліст.; Катаржнікі: [Верш] / / Там жа. 3 снеж.; Родныя песні: [Верш] / / Там жа. 17 снеж.

1910. Нёман: [Верш] / / Першы беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1910 год. Вільня; Вылечыў: [Верш] / / Н.н. 1 студз.; У школку: [Верш] / / Там жа. 21 студз.; Зіма: [Верш] / / Там жа. 28 студз.; Даўнейшыя дні: [Верш] / / Там жа. 11 лют.; У судзе: [Верш] / / Там жа. 4 сак.; Думкі: [Верш] / / Там жа. 11 сак.; Вясна: [Верш] / / Там жа. 25 сак.; Вясной: [Верш] / / Там жа. 8 крас.; Шэрая гадзіна: [Верш] / / Там жа. 6 мая; Думкі: [Верш] / / Там жа. 13 мая; Дарога: [Верш] / / Там жа. 27 мая; Хмары: [Верш] / / Там жа. 1 ліп.; Памяці Л.М.Талстога: [Верш] / / Там жа. 3 снеж.; У зімовы вечар: [Верш] / / Там жа. 9 снеж.; У ночы: [Верш] / / Там жа. 23 снеж.

1911. Дудар: (Казка) / / Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1911 год. Вільня; Матчына прычытанне: (Палеская легенда): [Верш] / / Н.н. 3 лют.; Пад вакном ў вастрозе: [Верш] / / Там жа. 17 сак.; Перад дарогай: [Верш] / / Там жа. 16 чэрв.; Дзяліцьба: Апавяданне / Пад псеўд. Т.Гушча; «Ты пампэш, цябе не будзе...»: [Верш] / / Там жа. 7 ліп.; З турмы: [Верш] / / Там жа. 28 ліп.; Адзінота: [Верш] / / Там жа. 29 вер.; Вярба: [Верш] / / Там жа. 13 кастр.; На расстанні: [Верш] / / Там жа. 3 ліст.; Паўлюкова бяда: [Верш] / / Там жа. 22 снеж.

1912. Над калыскай: [Верш] / / Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1912 год. Вільня; Старасць не радасць: [Апавяданне] / / Зборнік «Нашай нівы». Вільня. № 1 / Пад псеўд. Т.Гушча; Зло — не заўсёды зло; Родныя з'явы: (У старых дубах): [Апавяданні] / Пад псеўд. Т.Гушча; Леснікова пасада: (Урывак з паэмы) / / Зборнік «Нашай нівы». Вільня. № 2; Батрак: (Апавяданне з жыцця палешукоў); Як Янка забагацеў: (Легенда); Лес; У дарозе; «Дзе не быў я...»: [Вершы] / / Маладая Беларусь. Сер. 1. Сш. 2; Песня: [Верш] / / Н.н. 19 студз.; Трывога: Апавяданне / / Там жа. 2 лют. / Пад псеўд. Т.Гушча; Думкі адзінокага: [Верш] / / Там жа. 9 лют.; Беларускі вечар у Вільні 2 лютага / / Там жа. 16 лют.; Недаступны: Апавяданне / / Там жа. 23 лют. / Пад псеўд. Т. Гушча; Агляд зямлі: [Верш] / / Там жа. 22 сак.; Старасць не радасць: Апавяданне / / Там жа. 5 крас. / Пад псеўд. Т.Гушча; Пастушок: [Верш] / / Там жа. 19 крас.; «Дні ідуць за днямі...»: [Верш] / / Там жа. 10 мая; Жыта: [Верш] / / Там жа. 7 чэрв.; Зло не заўсёды — зло: Апавяданне / / Там жа. 14 чэрв. / Пад псеўд. Т.Гушча; Леснікова пасада: [Урывак з паэмы «Новая зямля»] / / Там жа. 19 ліп.; Родныя з'явы: У старых дубах: Апавяданне / / Там жа. 9 жн. / Пад псеўд. Т.Гушча; Родныя з'явы: «Дзеравеншчына»: Апавяданне / / Там жа. 20 вер. / Пад псеўд. Т.Гушча; Раніца ў нядзельку: [Урывак з паэмы «Новая зямля»] / / Там жа. 27 вер.

1913. Вярба: [Верш] / / Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1913 год. Вільня; За сталом: [Урывак з паэмы «Новая зямля»] / / Н.н. 4 студз.; Вясне: [Верш] / / Там жа. 20 лют.; Злавіў!: Апавяданне / / Там жа. 1 сак. / Пад псеўд. Т.Гушча; Гора мацеры: [Верш] / / Там жа. 8 сак.; З днеўніка пана Жылкі: Запіскі С-га іграка: [Апавяданне] / / Там жа. 22 сак. / Пад псеўд. Т.Гушча; Хмаркі: [Верш] / / Там жа. 5 крас.; Няшчасная маці: (Сынам Беларусі): [Верш] / / Там жа. 12 крас.; Адгукнуўся: Апавяданне / / Там жа. 26 крас. / Пад псеўд. Т.Гушча; Першае знаёмства: [Верш] / / Там жа. 16 мая; Старыя падрызнікі: Апавяданне / / Там жа. 7 чэрв. / Пад псеўд. Т.Гушча; Журба палёў: [Верш] / / Там жа. 20 чэрв.; Родныя з'явы: Выстагнаўся: [Апавяданне] / / Там жа. 5 ліп. / Пад псеўд. Т.Гушча; Кажух старога Анісіма: (Казка для старых) / / Там жа. 12 ліп. / Пад псеўд. Т.Гушча; Родныя з'явы: Знайшлі: Апавяданне / / Там жа. 26 ліп. / Пад псеўд. Т.Гушча; Сялянскія дзеці: (Ліст з Мікалаеўшчыны Мінск. губ.) / Пад крыпт. К.М.; Песня жніва: [Верш] / / Там жа. 9 жн.; Роднаму краю: [Верш] / / Там жа. 16 жн.; Дубы: [Верш] / / Там жа. 5 вер.; На ніве: [Верш] / / Там жа. 19 вер.; Пастушка: [Верш] / / Там жа. 3 кастр.; Кветкі: (Народным настаўніцам): [Верш] / / Там жа. 7 ліст.; У дарозе: [Верш] / / Там жа. 12 снеж.

маадносінам чалавека і навакольнага свету. П.Кошаль — прапагандыст і перакладчык беларускай паэзіі на рускую мову.

Жыве ў Маскве.

*Г.М.Урупіна.*

## Бібліяграфія


1.2.

Листва: Стихи. Мн., 1979. (Первая книга поэта). Рэц.: Д е м е н т ь е в В. И хлеб, и судьба // Дружба народов. 1980. № 2; К о н я е в И. Поэзия как родиноведение // Знамя юности. 1979. 23 нояб.; П л а с т о в М. // Лит. обозрение. 1981. № 2.

Городская звезда: Стихи. М., 1981. (Молодые голоса).

Река Жизнь: Стихи. Мн., 1987.

Такой как есть: Стихи. М., 1987.

1.3.

**1967.** «Опять под утро снится Север...»: [Верш] // Знамя юности. 14 сент.

**1974.** Белоруссия 43-го года: [Верш] // Моск. комсомолец. 10 дек.

**1975.** «Незрячие окна приземистых хат...»: [Верш] // День поэзии. М.; «Так здравствуй же, общее дело...»; «Январь...»; «Погода дождем исходила...»; «По тающей вниз Долгобродской...»: [Вершы] // Юность. № 1; «В сахалинском порту Поронайск...»; «У самой охотской воды...»: [Вершы] // Знамя юности. 22 янв.; «Нас рассудят березы в лесу...»: [Верш] // Там жа. 23 окт.; «Весенним порядком работы...»: [Верш] // Лит. Россия. 30 окт.; Строка набухает движеньем: [Вершы] // Там жа. 12 дек.

**1976.** «Во все века...»; «Дверь отворяется, входит отец...»; «Ты не знаешь, как жутко лететь...»; Чаадаев: [Вершы] // Поэзия. М. Вып. 18; Любовь моя, жизнь: [Вершы] // Дружба народов. № 11; «Наскитаешься по городам...»; «Ты полями неслышно пройдешь...»: [Вершы] // Знамя. № 6; Отчий дом: [Вершы] // Неман. № 4; «Дверь отворяется, входит отец...»; «Насильственно вживается художник...»: [Вершы] // Новый мир. № 4; «Сухую травинку в зубах придержу...»: [Верш] // Октябрь. № 12.

**1978.** Городская звезда; «В сахалинском порту Поронайск...»: [Вершы] // День поэзии. М.

**1979.** Путь: [Верш] // День поэзии. М.; «Слиянность неба и земли...» // Сверстники—1979. М.

**1981.** Взгляд в сорок первый; «Оглянусь, а дорога исчезла...»: [Вершы] // День поэзии. М.

**1982.** «Кружатся чайки над Бугом...»; «Не хватит жизни расплатиться...»; «Кто я? — Падающая звезда...»: [Вершы] // День поэзии. М.

**1983.** «Все связано веревочкой одной...»; «На родине Якуба Коласа...»; «Этой ночью последние слёзы...»: [Вершы] // День поэзии. М.; «На родине Якуба Коласа...»; «Этой ночью последние слёзы...»: [Вершы] // Поэзия. М. Вып. 37.

**1984.** «Не кричи, вещий ворон, надсадно...»: [Верш] // День поэзии. М.; На земле XX век...: [Вершы] // Неман. № 3; Работа; «Скачут кони по траве...»; Дочерям: [Вершы] // Заря. 12 июля.

**1985.** Работа; «Вдоль позабытой просеки...»; «Дым столетий отразится в водах...»; «Река свернула вдруг, и не видна...»; «Вышел за спичками — и десять лет...»; «Не беснуйся. Ничего...»: [Вершы] // День поэзии. М.; «Осознать жизнь свою не хватит ума...»; Весна; «Ждут там, где и не думаешь...»; «За вздохом болот и за плеском лесов...»; «Граница меж светом и тьмою...»: [Вершы] // Юность. № 8.

1.4.

Б о р о в и к о в а Р. Горицвет: Стихи / С бел. М., 1982. Рэц.: З в о н а р е в а Л. // Неман. 1983. № 9.

Ч а с в е т р о в е я: Стихи и поэмы / С бел. Мн., 1987.

Осёл на именинах: Бел. басни / С бел. Мн., 1989.

Д у н и н - М а р ц и н к е в и ч В. Избранное: Стихотворения, повести, рассказы. Драм. произведения / С бел. и пол. Мн., 1991 / Сааўт. пер. І.Бурсаў.

Ч е р е з наше село летело помело / С бел. Мн., 1991.

**1981.** З а р и ц к и й А. Осенью сорок первого: [Вершы] / С бел. // Новый мир. № 6.

**1982.** Б о р о в и к о в а Р. «Не нужны быстрокрылые весла...»: [Верш] / С бел. // Дружба народов. № 3; Я г о ж. Люблю, надеюсь, ожидаю; Весна диктует мне строку; Дабранач: [Вершы] / С бел. // Мол. гвардия. № 3; Я г о ж. Дабранач; «Пока живу — огнем горю!..»; «И опавшей листве, видно, больно...»: [Вершы] / С бел. // Москва. № 5; Н е к л я е в В. Вера: [Паэма] / С бел. // Неман. № 10 / Сааўт. пер. В.Элькін; Б о р о в и к о в а Р. Шлях-Пуща; «Ах, как тянулся этот год безликий...»; «Я уеду, конечно, уеду...»; «Еще не покрылись травою луга...»: [Вершы] / С бел. // ЛГ. 3 марта; З а р и ц к и й А. Родине: [Верш] / С бел. // Правда. 10 марта.

**1983.** Б о р о в и к о в а Р. На родине; «Поникший клен...»; Сумерки в березняке; «Стремительно скользнет над пашней...»; Микропоэма трех дождей; «Живу, как есть, под небом синим...»; «Пусть будет все наоборот...»: [Вершы] / С бел. // Неман. № 2.

**1984.** К о в т у н В. Жизнь; «Такой тревожный выпал год...»; Вроде бы шуточное: [Вершы] / С бел. // Неман. № 11; Т а н к М. Обелиск; Чтобы посадить дерево...; П а н ч е н к о П. Девчата моют танк; «И неудачливый, и грешный...»; З а р и ц к и й А. «Звезда над памятью встает...»; П р и х о д ь к о П. «Дороги в безвестные вечные дали...»; З у е н о к В. Огонь; В е р т и н с к и й А. «А жизнь дается, чтобы жизнь творить...»; З а к о н н и к о в С. Поет жито; Благодарность: [Вершы] / С бел. // Новый мир. № 8.

**1985.** П а н ч е н к о П. Девчата моют танк; Надежда; «Ах, детство, не броди ты возле дома...»: [Вершы] / С бел. // День поэзии. М.; П р о к о п о в и ч М. Приметы: [Вершы] / С бел. // Неман. № 1; З у е н о к В. Быть человеком: [Верш] / С бел. // Там жа. № 4; П а н ч е н к о П. «Ах, детство, не броди ты возле дома...»; Б у р а в к и н Г. «О, Время — наш мудрец великий!»; З у е н о к В. На звездных рубежах: [Вершы] / С бел. // Там жа. № 6.

1.5.

**На английскую мову.** «It sometimes happens that I can longer...» // Poet. 1982. Nr 7.

**На балгарскую мову.** Грижа: [Верш] / Прев. И.Николова // Пулс. 1986. 25 февр.

**На беларускую мову.** «Усё з'яднана ніткай суравой...» / Пер. С.Законнікаў; Праца; Гэта хто там?.. / Пер. Т.Бондар; Атамная вайна / Пер. Я.Янішчыц; Неразуменне / Пер. У.Някляеў; Турбота / Пер. Т.Бондар; «Беларуссю — гаручыя росы...» / Пер. Я.Янішчыц; Над гістарычным раманам / Пер. У.Някляеў; Чэ / Пер. С.Законнікаў: [Вершы] // ЛіМ. 1985. 23 жн.

**На венгерскую мову.** A csalogány; «Belorusszia — keserűharmat...»; Városi csillag; Hivás // Afolytatasert. Budapest, 1985.

1.6.

День поэзии. М., 1983 / Скл.

Осел на именинах: Бел. басни. Мн., 1989 / Скл.

2.3.

**На рускай мове.** Б а р а н о в а - Г о н ч е н к о Л. Романтический плащ и куфаечка в заплатах: О поэзии П.Кошеля // Лит. учеба. 1983. № 3; Д е м е н т ь е в В. Первая книга // Пламя поэзии. М., 1982; К о ж и н о в В. Петр Кошель // День поэзии. М., 1978; Ш е в е л е в а И. Поэзии высокое звучанье // Веч. Москва. 1985. 22 июня.


*Я.А.Гарадніцкі.*



*Крамко Яўген Ігнатавіч (н. 17.9.1920, в. Беражна Стаўбцоўскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл.), празаік, публіцыст.*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацькі яго былі пісьменныя, таму і ў хаце было многа кніг на беларускай і рускай мовах, па якіх дзеці вучыліся чытаць. У 1934 Я.Крамко скончыў польскую сямігадовую школу, а ў 1939 — сельскагаспадарчую школу ў Кошалеве пад Навагрудкам. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР працаваў загадчыкам клуба ў роднай вёсцы, з верасня 1940 вучыўся ў Гродзенскім тэхнікуме фізкультуры і спорту. У Гродне Я.Крамко застала вайна. Вярнуўшыся ў сваю вёску, стварыў падпольную арганізацыю з камсамольцаў і моладзі. У жніўні 1942 яе члены пайшлі ў лес і арганізавалі партызанскі атрад «Камсамольскі», на базе якога пазней створана брыгада «Камсамолец». У атрадзе Я.Крамко камандаваў ротай, потым быў намеснікам камандзіра брыгады па разведцы. Пасля вызвалення Беларусі накіраваны ў школу прапагандыстаў пры ЦК КПБ. Працаваў рэдактарам раённай газеты «Ивенецкая правда» (1946—48), карэліцкай «Красное знамя» (1948). Скончыў аддзяленне журналістыкі рэспубліканскай партшколы (1950) і завочна гістарычны факультэт БДУ (1950). Быў навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Я.Купалы (1950—51). У чэрвені 1951 як афіцэр запаса прызваны ў Савецкую армію, дзе праслужыў да 1970 (у тым ліку ў Аўстрыі і ГДР). У 1962 экстэрнам скончыў Першае Ленінградскае артылерыйскае вучылішча. Зволніўся з арміі ў чыне падпалкоўніка. З 1970 пенсіянер. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны 1-й ступені, медалямі.

Вершы Я.Крамко пачаў пісаць у юнацтве, але нідзе іх не друкаваў. Стала літаратурнай працай заняўся, калі працаваў у музеі Я.Купалы. Першае выступленне ў друку — рэцэнзія на аповесць Я.Брыля «У Забалоцці днее», апублікаваная ў газеце «Калгасная праўда» у 1950. Выступае ў рэспубліканскім друку з рэцэнзіямі, нарысамі, замалёўкамі, эцюдамі, кароткімі апавяданнямі. Напісаў успаміны пра дзейнасць партызан на тэрыторыі Стаўбцоўскага, Карэліцкага і Мірскага раёнаў, якія змешчаны ў калектыўных зборніках «У Прынёманскіх лясах» і «За край родны». У дакументальнай аповесці «Атрад»Камсамольскі“ расказваецца пра барацьбу моладзі ў гады вайны. Піша апавяданні для дзяцей (зборнік «Звяры таксама плачуць»). Прыгажосць Наднямоння паказана ў кнізе «Нёманскія замалёўкі». Аўтар успамінаў пра У.Караткевіча.

Жыве ў Мінску.

*В.А.Хілімонаў.*

## Бібліяграфія


1.2.

Звяры таксама плачуць: Апавяданні. Мн., 1985. Рэц.: В я р т а н н е да гнязда // Голас Радзімы. 1985. 12 ліп.

Атрад «Камсамольскі»: Дакум. аповесць. Мн., 1987. (З арлінага племені).

Нёманскія замалёўкі: Літ.-мастац. выданне. Мн., 1989.

1.3.

**1950.** Аповесць аб нараджэнні новага // Калг. праўда. 11 ліст.

**1951.** Манаграфія пра жыццё і творчасць Якуба Коласа: [Рэц. на кн.: П ш ы р к о ў Ю. Якуб Колас. Жыццё і творчасць. Мн., 1951] // Звязда. 23 мая; Аповесць аб простых людзях: [Рэц. на кн.: Х а д к е в і ч Т. Рэха ў гарах. Мн., 1951] // Калг. праўда. 1 сак.; У музеі Янкі Купалы // Там жа. 5 мая.

**1974.** Гарыць касцёр: [Нарыс] // Работніца і сялянка. № 5; Буслы прыляцелі // Родная прырода. № 2; Мсціўцы Барштанскага лесу: Успамін // Звязда. 19—21 ліп.; Ходили мы походами: [Успаміны] // Сел. газ. 21, 22 мая; Рэйкавая вайна: Успаміны // Чырв. змена. 9 студз.

**1975.** Суровые испытания // У прынёманскіх лясах. Мн.

**1977.** Да апошняга дыхання: [Нарыс] // Бярозка. № 10.

**1978.** Тема бесстрашных // За край родной. Мн.;

Батыр партызан: Успаміны // Сов: Удмуртия. 22 февр.

**1979.** Памяць: [Нарыс] // Беларусь. № 5; Гусіты: [Нарыс] // Наст. газ. 5 вер.; Камсамольцы не здаюцца: [Успаміны] // Там жа. 4 жн.

**1980.** Да апошняга патрона: [Нарыс] // Звязда. 9 студз.; Огненная переправа: [Нарыс] // Сел. газ. 19 февр.

**1981.** Папрок; Казытуха: [Гумарэскі] // Вожык. № 18; Вяртанне: [Апавяданне] // Голас Радзімы. 22 студз.; Прыкметы; Лясны сіноптык: Эцюды // Звязда. 7 чэрв.; Маленькі смерч: Эцюд // Там жа. 11 ліп.; Сустрэча каля трох соснаў // Там жа. 16 жн.; Зачараванасць // Там жа. 13 вер.; Развітальны візіт: Замалёўка // Там жа. 18 кастр.; Ганаруся таварышам: [Нарыс] // Там жа. 4 ліст.; Восень на Нёмане; Русалкі; Разлікі ці прамашкі // Там жа. 22 ліст.; Вячэра на лёдавай пляцоўцы: Эцюд // Там жа. 6 снеж.; Што мы пакінем у спадчыну // ЛіМ. 7 жн.; Родина прежде всего: [Нарыс] // Сел. газ. 6—8 мая.

**1982.** Замачылі; Клапатлівы муж, злавіў злодзея: [Гумарэскі] // Вожык. № 5; Памылілася: [Гумарэска] // Там жа. № 6; З народнага гумару: [Гумарэска] // Там жа. № 8; Парады пачынаючаму грыбніку [Гумарэска] // Там жа. № 16; Аднойчы ў зімовы ранак: Эцюд // Звязда. 17 студз.; Лагодны люты: Эцюд // Там жа. 14 лют.; Мы разам ваявалі: Успаміны // Там жа. 17 лют.; Першыя крокі; Ужо ідзе жаданая: Эцюды // Там жа. 8 сак.; Песня над пратал інамі: Эцюд // Там жа. 14 сак.; Крыгалом // Там жа. 21 сак.; Галасы красавіцкага дня: [Навелы] // Там жа. 11 крас.; Роздум над выпадкамі: Эцюд // Там жа. 25 крас.; Майскія эцюды // Там жа. 23 мая; Світанак над Нёманам // Там жа. 27 чэрв.; Навальніца: Эцюд // Там жа. 4 ліп.; Натхненне: Эцюд // Там жа. 18 ліп.; Верабей птушка свойская: Эцюды // Там жа. 15 жн.; Першыя прыкметы восені: Эцюд // Там жа. 29 жн.; Напеў; Дрымота; Абяцанне: Малюнкі восені // Там жа. 21 кастр.; Прыклад яго герояў // Там жа. 3 ліст.; Успаміны каля млына: Эцюд // Там жа. 19 снеж.

**1983.** Аплочаны здзек: Апавяданне // Беларусь. № 3; Прачынаецца лес; Песня: Эцюды // Звязда. 27 сак.; Дарога ў родны лес: Эцюд // Там жа. 24 крас.; Хоць не мастак; Марнае спадзяванне: Эцюды // Там жа. 12 чэрв.; У госці да таямніц: Эцюд // Там жа. 19 чэрв.; Сустрэча ў лесе: Эцюд // Там жа. 10 ліп.; «Парушальнік»; Хованкі: Эцюды // Там жа. 31 ліп.; Падае вішнёвы ліст: Эцюд // Там жа. 4 вер.; Ішлі партызаны ў бой: Успаміны // Там жа. 24 вер.; Падсуседзі: Эцюд // Там жа. 30 кастр.; Модніца: Эцюд // Там жа. 18 снеж.; Карагод на палянцы: Замалёўка // Піянер Бел. 22 снеж.

**1984.** Звяры таксама плачуць: [Апавяданне] // Вясёлка. № 3; Камандзір атрада «Камсамольскі»: [Нарыс] // Голас Радзімы. 22 ліст.; Полымя над рэйкамі: [Нарыс] // Звязда. 13 лют.; Хто ў гэтай хаце жыве; Неруш: Эцюды // Там жа. 8 ліп.; Бліжэй да прыроды; Знікшая казка: Эцюды // Там жа. 26 жн.; Урокі пад ялінай: Замалёўка // Там жа. 1 вер.; Восенькі світанак: Эцюд // Там жа. 14 кастр.; Снежань — снежыць: Эцюд // Там жа. 16 снеж.; Блокада: [Апавяданне] // Сел. газ. 16 окт.; Камсамольцы не здаюцца: Успаміны // Чырв. змена. 26 студз.

**1985.** Гамоніць лес; Гаспадар часу: Зімовыя эцюды // Звязда. 6 студз.; Радасць; Зайдрасць; Суніцы; Грыбнікі: Мініяцюры // Там жа. 22 студз.; Злуецца зіма: Эцюд // Там жа. 10 лют.; Развітанне са сном: Эцюд // Там жа. 3 сак.; Дубовы нарт: Эцюд // Там жа. 30 жн.; Позні лістапад // Там жа. 21 кастр.; Сулка: Эцюд // Там жа. 29 ліст.; Над ракою, над Сулою: [Апавяданне] // ЛіМ. 12 крас.; Вся жизнь борьба: [Нарыс] // Сел. газ. 28 февр.; 5 марта.

**1.4.**

**1981.** Пурэў Ж. Архонская балада: Навела / З манг. // Вясновыя птушкі. Мн.

*В.М.Грышкевіч.*

# КРАПАЧОЎ А.

*Крапачоў А.М., празаік сярэдзіны 1930-х гадоў. Член СП Беларусі з 1934. Пісаў на рускай мове.*

Звесткі пра А.Крапачова вельмі скупыя. Быў вайскоўцам у Гомелі і Рагачове. Уваходзіў у Літаратурную арганізацыю Чырвонай Арміі і Флоту (ЛЧАФ). Аўтар нешматлікіх нарысаў, апавяданняў і аповесцей на армейскія тэмы, надрукаваных у альманахах «Літаратурны Гомель» і «Атака», а таксама ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» і газеце «Літаратура і мастацтва», для якіх А.Крапачоў, магчыма, сам перакладаў свае творы на беларускую мову. Рэдагаваў альманах «Літаратурны Гомель». Крытыка 30-х гадоў прыхільна пісала пра яго творчасць, адзначала плённасць і сур'ёзнасць працы над абароннай тэматыкай, добрае веданне мінулага і сучаснага становішча Чырвонай Арміі. Найбольш папулярным у той час яго творам было апавяданне «Шахімарданская мячэць», прысвечанае барацьбе Чырвонай Арміі супраць басмачоў. А.Крапачоў паказваў чырвонаармейцаў як мужных і смелых людзей, але яго героям не хапала індывідуалізацыі. Крытыка заўважала кампазіцыйныя вартасці твора, жывасць апісання падзей, тое, што апавяданне «літаральна захоплівае чытача». Па ўсёй верагоднасці, А.Крапачоў быў рэпрэсаваны ў другой палавіне 30-х г.

*І.Э.Багдановіч.*

1.3.

1934. Шахимарданская мечеть: [Апавяданне] // Літаратурны Гомель. Гомель; Полымя рэвалюцыі. № 5; На пераломе: Урывак з аповесці // ЛіМ. 8 чэрв.

1935. Песок горит: (Очерк) // Атака. Мн. Альманах 4.

1936. Янгі — юль: Апавяданне // Полымя рэвалюцыі. № 9.

1.6.

Літаратурны Гомель // Гомель. 1934 / Рэд. з М.Бугровым, М.Хведаровічам.

2.3.

На беларускай мове. Клімковіч М. Літаратурны Гомель // Палес. праўда. 1934. 12 мая; Я.Ш. «Полымя рэвалюцыі». Кніга пятая. 1934 г. // ЛіМ. 1934. 24 кастр.

*Т.М.Махнач.*

# КРАПІВА КАНДРАТ



*Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; інш. псеўд. Астапчук, М. Доўгі; 22.2(5.3).1896, в. Нізок Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 7.1.1991, Мінск; пахаваны на Усходніх могілках), драматург, паэт, празаік, вучоны, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1956). Акадэмік АН Беларусі (1950, член-карэспандэнт, 1940), доктар філалагічных навук (1953). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1978). Член СП Беларусі з 1934. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР (за п'есы: «Хто смяецца апошнім», 1941; «Пяюць жаваранкі», 1951; за комплекс работ па беларускай лінгвагеаграфіі, 1971). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я.Купалы (1974, за камедыю «Брама неўміручасці»).*

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Бацькі, Кандрат Міхайлавіч і Пелагея Данілаўна (дзявочае прозвішча Ніканові́ч) мелі 6 дзесяцін зямлі, нажытых цяжкай працай, хацелі, каб яны засталіся адзінаму сыну Кандрату. Вучыўся К.Крапіва ў царкоўнапрыходскай школе ў в. Нізок, Уздзенскім народным вучылішчы, Стаўбцоўскім і Койданаўскім чатырохкласных гарадскіх вучылішчах. Восенню 1913 экстэрнам здаў у Мінску экзамен на званне народнага настаўніка. Зімой 1914 разам з бацькам працаваў на пабочных заработках, вясной і летам — рознарабочым на цагельні. Восенню 1914 атрымаў месца настаўніка ў земскім народным вучылішчы ў в. Мнішана Пяршайскай вол. Мінскага пав. У жніўні 1915 прызваны ў царскую армію і праз некаторы час накіраваны ў Гатчынскую школу прапаршчыкаў, якую скончыў у сакавіку 1916. Вясну і лета 1916 праслужыў у запасным батальёне ў г. Асташкаве Цвярской губ. (цяпер Калінінская вобл.) у якасці ўзводнага афіцэра. Восенню таго ж года накіраваны з маршавай ротай на Заходні фронт, а потым разам з вайсковай часцю на Румынскі фронт, дзе і атрымаў баявое хрышчэнне. Там жа сустрэў і Кастрычніцкую рэвалюцыю. У пачатку студзеня 1918 як настаўнік быў дэмабілізаваны і ў лютым вярнуўся ў родную в. Нізок. Вясной і летам 1918 працаваў на бацькавай гаспадарцы, з лістапада — настаўнікам пачатковай школы ў в. Каменка Уздзенскай вол. У 1919 ажаніўся з Аленай Канстанцінаўнай Махнач, родам з в. Нізок. Са жніўня 1920 да 1923 служыў у Чырвонай Арміі, камандзір узвода. Восенню 1923 дэмабілізаваўся, год жыў у роднай вёсцы, працаваў на бацькавай гаспадарцы, затым пераехаў з сям'ёй у в. Астравок, куды быў прызначаны настаўнікам пачатковай школы. У маі 1925 пераехаў у Мінск, працаваў інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інстытуце беларускай культуры. У 1926 паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ, якое скончыў у 1930. Працаваў загадчыкам аддзела рэдакцыі часопіса «Полымя рэвалюцыі» (1932—36). Удзельнічаў ва ўз'яднанні Заходняй Беларусі з

БССР (верасень 1939), у савецка-фінляндскай вайне (1939—40). На пачатку Вялікай Айчыннай вайны К.Крапіва працаваў у рэдакцыі газеты «Красноармейская правда», затым у рэдакцыі франтавой газеты Заходняга фронта «За Савецкую Беларусь». У 1941 уступіў у КПСС. З сакавіка 1943 і да канца вайны быў адказным рэдактарам ілюстраванай сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну». Адразу пасля вайны прызначаны адказным рэдактарам сатырычнага часопіса «Вожык» (1945—47). У 1947—51 загадчык сектара мовазнаўства Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР, з 1952 дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР, з 1956 віцэ-прэзідэнт АН БССР. У 1982—89 вядучы навуковы супрацоўнік-кансультант Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа АН БССР. З мая 1989 на пенсіі.

Свой творчы шлях К.Крапіва пачынаў як паэт-сатырык. Яго першы друкаваны твор — вершаваны фельетон «Жылі-былі», змешчаны ў газеце «Красноармейская правда» у 1922. У час службы ў Чырвонай Арміі ў гэтай газеце надрукавана некалькі яго вершаваных фельетонаў на рускай мове. Асноўнай іх тэмай былі міжнародныя падзеі, жыццё воінаў. 23 мая 1922 у газеце «Савецкая Беларусь» надрукаваны першы твор К.Крапівы на беларускай мове — сатырычны верш «Сваты». З гэтага часу пачынаецца яго сталая літаратурная праца. У сярэдзіне 20-х г. выходзяць яго першыя зборнікі «Асцё» і «Крапіва». К.Крапіва быў членам літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» (1924—26), «Узвышша» (1926—31). Сатыра і гумар сталі вызначальнымі рысамі яго творчасці. Асноўным жанрам паэзіі на першым этапе творчасці былі байка і сатырычна-гумарыстычны верш. Пісьменнік выкрываў класавых ворагаў, фальшывых людзей, бічаваў бюракратызм, кар'еризм, шкурніцтва, падхалімства, раскрадальнікаў дзяржаўнай маёмасці, хабарніцтва, валакіту, мяшчанскую пошласць, пляткарства, пустазвонства, п'янства, высмейваў невуцтва, рэлігійныя забабоны, старыя звычкі, прыватна-уласніцкую псіхалогію, заклікаў вясковых жыхароў будаваць новы быт. Шмат увагі аддаваў тэме грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі, абароне сваёй айчыны. Выкрываў імперыялістаў, фашыстаў і іх памагатых. Нямала твораў прысвяціў тэме літаратурнага жыцця таго часу, у якіх выступаў супраць нізкапробных твораў, фармалізму, бязглуздага моднічання, беспрынцыпнай крытыкі. У 1931 выйшаў адзін з буйнейшых яго сатырычных твораў — паэма «Хвядос — чырвоны нос». Нягледзячы на казачна-фантастычны сюжэт, твор сваім зместам быў накіраваны ў рэчаіснасць 20 — пачатку 30-х г. У ім асуджаліся адмоўныя з'явы ў грамадскім жыцці і побыце і адначасова сцвярджалася ўсё новае, што павінен быў несці сацыялістычны лад.

У раннi перыяд сваёй літаратурнай дзейнасці К.Крапіва паспяхова працаваў і ў галіне мастацкай прозы, асноўным жанрам якой было сатырычнае апавяданне. Паводле ідэйна-тэматычнага зместу гэтыя апавяданні блізка стаялі да твораў яго сатырычнай паэзіі: у іх аўтар бічаваў заганы ў жыцці і побыце людзей («Людзі-суседзі», «Аднае раніцы», «На алкагольным фронце»), высмейваў мяшчанства («Смерць»), рэлігійныя забабоны («Як ён стаў бязбожнікам», «Споведзь»), абывацеляў і плеткароў («Вайна»), палітычных прыстасаванцаў («Мой сусед»). Апавяданні пісьменніка, як і яго сатырычная паэзія, насычаны вострым і дасціпным, падчас грубаватым народным гумарам, з'едлівай іроніяй, знішчальным сарказмам. Яны былі сведчаннем развіцця рэалістычна-сатырычнай лініі ў беларускай прозе 20-х г. У 1932 асобным выданнем выйшаў яго раман «Мядзведзічы», прысвечаны жыццю беларускай вёскі канца 20-х г. У ім пісьменнік імкнуўся асэнсаваць тыповыя для тагачаснай беларускай вёскі сацыяльныя з'явы, тыя працэсы, якія адбываліся ў ёй напярэдадні калектывізацыі. Раман застаўся незавершаным.

У пачатку 1930-х г. К.Крапіва звярнуўся да драматургіі. Яго п'есы — значная з'ява не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй шматнацыянальнай драматургіі былой савецкай краіны. Яны ўзнімалі актуальныя пытанні сучаснасці, хвалюючыя тэмы і праблемы, адлюстроўвалі найбольш істотныя бакі тагачаснай рэчаіснасці. Першым драматычным творам пісьменніка была псіхалагічная драма «Канец дружбы» (пастаўлена ў 1934 БДТ-1), у якой узніміліся складаныя маральна-этычныя праблемы. Да 20-годдзя Кастрычніка К.Крапіва напісаў народна-гераічную драму «Партызаны» (пастаўлена ў 1938 БДТ-1), у якой паказаў гераізм барацьбы беларускага народа ў перыяд грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі. П'еса была паказана на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве (1940), ставілася ў многіх рэспубліканскіх тэатрах, а таксама ў розных гарадах Расіі і Украіны. У канцы 30-х г. пісьменнік звярнуўся да жанру сатырычнай камедыі, напісаў класічную п'есу «Хто смяецца апошнім» (пастаўлена ў 1939 БДТ-1), у якой талент Крапівы-сатырыка раскрыўся з выключнай сілай. Знішчальны смех гэтай п'есы выкрываў кар'ерыстаў, двурушнікаў, авантурыстаў, шантажыстаў, падхалімаў, паклёпнікаў. Імёны яе камедыйна-сатырычных персанажаў Гарлахвацкага, Зёлкіна, Тулягі ператварыліся ў назоўныя. Камедыя пастаўлена больш як у 120 тэатрах краіны і ў шмат якіх тэатрах за мяжой, экранізавана кінастудыяй «Беларусьфільм» (1954).

У час Вялікай Айчыннай вайны К.Крапіва зноў звярнуўся да аператыўнага баявога жанру — сатырычнага верша. Пісаў байкі, памфлеты, вершаваныя фельетоны (зборнік «Смех і гнеў»). У гэты ж час ім напісана п'еса «Проба агнём» (пастаўлена ў 1943 Беларускім тэатрам імя Я.Коласа), прысвечаная змаганню нашага народа з фашысцкай навалай. У ёй драматург адлюстраваў, як выпрабоўваліся характары і пачуцці людзей у дні вайны, як выяўляў сваё душэўнае харaство, мужнеў, маральна і духоўна загартоўваўся чалавек. У сатырычнай камедыі «Мілы чалавек» (пастаўлена ў 1945 Беларускім тэатрам імя Я.Купалы) стварыў запамінальныя вобразы фальшывых, паразітычных людзей, раскрыў і паказаў сутнасць іх філасофіі, якая была асабліва шкоднай у цяжкія для нашага народа ваенныя гады. Тэма вайны хвалявала К.Крапіву і ў пасляваенны час, пра што сведчаць яго драмы «З народам» (пастаўлена ў 1948 Беларускім тэатрам імя Я.Купалы) і «Людзі і д'яблы» (пастаўлена ў 1958 Беларускімі тэатрамі імя Я.Купалы і імя Я.Коласа). У адрозненне ад п'есы «Проба агнём», дзе паказаны першы перыяд вайны, у гэтых драмах дзеянне адбываецца на тэрыторыі, акупаванай фашысцкімі захопнікамі. Пісьменнік сутыкае тут сумленных людзей, патрыётаў-падпольшчыкаў з вырадкамі, якія здрадзілі Радзіме і народу, аналізуе сацыяльныя і маральныя вытокі здрадніцтва. У пасляваенны перыяд К.Крапіва стварыў п'есы: «Пяюць жаваранкі» (пастаўлена ў 1950 тэатрамі імя Я.Купалы і Я.Коласа), «Зацікаўленая асоба» (пастаўле-

на ў 1953 тэатрам імя Я.Купалы), «Брама неўміручасці» (пастаўлена ў 1974 тэатрам імя Я.Купалы), «На вастрыі» (пад назвай «Блытаныя сцежкі» пастаўлена ў 1983 тэатрам імя Я.Коласа). Першыя дзве з іх прысвечаны стваральнай працы савецкіх людзей. Поспехам карысталася лірычная камедыя пра жыццё калгаснай вёскі «Пяюць жаваранкі», якая вызначаецца самабытнасцю характараў, іскрыстым народным гумарам, багатым падтэкстам дыялогаў, вобразнай сакавітай мовай, глыбокім лірызмам. П'еса ставілася многімі тэатральнымі калектывамі краіны, экранізавана на кінастудыі «Беларусьфільм» (1953). «Зацікаўленая асоба» — першая спроба драматурга ў паказе жыцця рабочага класа і тэхнічнай інтэлігенцыі. Вялікім дасягненнем Крапівы-драматурга з'явілася сатырычная камедыя «Брама неўміручасці», якая вырашае маральна-этычныя праблемы. Выведзеныя ў ёй персанажы працягваюць галерэю сатырычных тыпаў з ранейшых п'ес драматурга. П'еса ішла на сцэнах многіх тэатраў Беларусі і іншых рэспублік. П'еса «На вастрыі» таксама закранае маральна-этычную праблематыку, узаемаадносіны розных па характару і жыццёвых прынцыпах людзей, выкрывае праявы бездухоўнасці ў жыцці.

Сатырычныя творы К.Крапівы — вялікая школа мастацкага майстэрства. Дабратворны ўплыў яго адчуваецца ў творчасці беларускіх пісьменнікаў-байкапісцаў У.Корбана, Э.Валасевіча, М.Скрыпкі, драматургаў А.Макаёнка, М.Матукоўскага, А.Петрашкевіча, А.Дударава. З імем К.Крапівы звязаны шырокі выхад нашай нацыянальнай драматургіі на еўрапейскую арэну.

К.Крапіва — аўтар навуковых прац па літаратуразнаўству і мовазнаўству, крытычных артыкулаў па беларускай літаратуры і мове. Ён рэдагаваў «Беларуска-рускі слоўнік», «Руска-беларускі слоўнік» (з Я. Коласам, П. Глебкам), ажыццяўляў агульнае рэдагаванне «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» у 5 т. Пісаў таксама нарысы («Міхаіл Сільніцкі», «Лондан», «Над ракой Арэсай»). Перакладаў на беларускую мову працы К.Маркса, Ф.Энгельса, У.Леніна, мастацкія творы Д.Фанвізіна. І.Крылова, А.Пушкіна. М.Гогаля, А.Астроўскага, А.Чэхава, У.Маякоўскага, А.Твардоўскага. Т.Шаўчэнкі, А.Міцкевіча, Я.Гашака, В.Шэкспіра і інш. Творы К.Крапівы перакладзены на многія замежныя мовы, у т.л. у Балгарыі, Германіі, Кітаі, Польшчы, Румыніі, Францыі, Чэхаславакіі. Пра К.Крапіву створаны дакументальны фільм «Кандрат Крапіва» (1983, «Беларусьфільм»). Імя К.Крапівы прысвоена Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, Уздзенскай СШ № 2.

Узнагароджаны 4 ордэнамі Леніна, ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі, ордэнам Чырвонага Сцяга, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, ордэнам Дружбы народаў, ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі, Ганаровымі Граматамі Вярхоўнага Савета БССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—90. У 1946 у складзе дэлегацыі БССР удзельнічаў у рабоце 1-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Лондане, ва Усеславянскім кангрэсе ў Чэхаславакіі, у 1963 — у Міжнародным кангрэсе славітаў у Балгарыі.

*А.А.Семяновіч.*

## Бібліяграфія


1.1.

Зб. тв.: У 3 т. Мн., 1956. Т. 1. Байкі і вершы. Паэмы. Т. 2. Проза. Т. 3. П'есы. Рэц.: Бурносаў В. Творы народнага пісьменніка / / Камуніст Бел. 1957. № 3; Казека Я. Народны пісьменнік / / Полымя. 1957. № 2; Макарэвіч А. Любоў і прызнанне народа / / Маг. праўда. 1956. 9 снеж.; Марціновіч А. Творы вялікай жыццёвай праўды / / Калг. праўда. 1956. 21 ліст.; Михолап Я., Охрименко П. Большой вклад в сокровищницу белорусской культуры / / Сов. Бел. 1956. 21 дек.; Орлов Д. Сатирические комедии К.Крапивы / / Там жа. 1957. 13 февр.; Палітыка Д. Аб тым, што нас хвалюе / / ЛіМ. 1956. 9 вер.; Пшыркоў Ю. Творы Кандрата Крапівы / / Беларусь. 1957. № 1; Собрание сочинений К.Крапивы / / Сов. Отчизна. 1956. № 1; Усікаў Я. Важная падзея ў культурным жыцці рэспублікі: Да выхаду ў свет Збору твораў Кандрата Крапівы / / Звязда. 1956. 20 кастр.

Зб. тв.: У 4 т. Мн., 1963. Т. 1. Байкі і вершы. Паэмы. Рэц.: Першы том Збору твораў Крапівы / / ЛіМ. 1963. 24 вер.; Т. 2. Проза. Т. 3. П'есы. Т. 4. П'есы. Артыкулы.

Збор твораў: У 5 т. Мн., 1974—1976. Т. 1. Вершы, байкі, эпіграмы, паэмы. Мн., 1974. Т. 2. П'есы. Мн., 1974. Т. 3. П'есы. Мн., 1975. Т. 4. Апавяданні, фельетоны, памфлеты, раман. Мн., 1975. Т. 5. Нарысы, артыкулы, пераклады. Мн., 1976.

Выбраныя байкі. Мн., 1932.

Калючы строй: Вершы. Мн., 1932. (Б-ка для малапісьменных). Рэц. / / Родны край. 1933. № 24.

Творы. Мн., 1934. Т. 1.

Выбраныя вершы. Мн., 1935. (Школьная серыя).

Выбраная сатыра: Вершы. Мн., 1938.

Выбр. тв. Мн., 1941. (Школьная б-ка). Рэц.: А. Е. «Выбраныя творы» К.Крапівы / / ЛіМ. 1941. 10 мая; Новые книги для детей / / Сов. Бел. 1941. 4 марта.

Смех і гнеў: (Выбранае). Мн., 1946. Рэц.: Новыя кнігі / / Сав. селянін. 1946. 28 ліп.

Выбр. тв. Мн., 1947. (Выбраныя творы бел. сав. л-ры. 1917—1947). Рэц.: Карпачоў М. Выбраныя творы К.Крапівы / / Гомел. праўда. 1947. 21 снеж.

Выбр. тв. Мн., 1948. (Б-ка школьніка).

Байкі; Вершы. Мн., 1971. (Б-ка бел. паэзіі).

Выбр. тв.: У 2 т. Мн., 1986. Т. 1. Вершы, байкі, эпіграмы, паэмы, апавяданні, фельетоны, памфлеты, аўтабіяграфія. Т. 2. П'есы.

1.2.

Апавяданні. Мн., 1925. (К-ца «Маладняк»).

Асцё: Вершы. Мн., 1925. (К-ца «Маладняк»). Рэц.: Жук Я. / / Малады араты. 1925. № 14.

Крапіва: Вершы. Мн., 1925. Рэц.: А. Б. [Бабарэка А.] / / Сав. Бел. 1925. 15 ліст.; Ок-с З. / / Чырв. сцяг. 1925. № 7; 2 выд. падноўленае. Мн., 1928. 3 выд. Мн., 1930; 4 выд., перапр. і дап. Мн., 1932.

Біблія: Кніга быція. (Вольны пераклад): Сатырычная паэма. Мн., 1926. 2 выд. Мн., 1928; 3 выд. Мн., 1959. (Б-чка атэіста).

Байкі. Мн., 1927. Рэц.: Гайдук Ю. / / Арш. малад. 1928. № 7; 2 выд. Мн., 1928.

Людзі-суседзі: Апавяданні. Мн., 1928.

Жывыя праявы: Гумарыстычныя апавяданні. Мн., 1930. (Мастацкае слова масам). Рэц.: Бур Л. За дзейную пралетарскую сатыру! / / Палес. праўда. 1931. 11 сак.

Пра нашых шкоднікаў, папоў ды ўгоднікаў: Вершы. Мн., 1930. (Мастацкае слова — масам).

Ухабы на дарозе: Сатырычныя вершы і прыпеўкі. Мн., 1930. (Мастацкае слова — масам). Рэц.: Бур Л. За дзейную пралетарскую сатыру! / / Палес. праўда. 1931. 11 сак.

Хвядос — чырвоны нос: Вершаваная казка. Мн.,

1931.

Мядзведзічы: Раман. Кн. 1. Мн., 1932. Рэц.: Горскі Э. «Мядзведзічы» К.Крапівы // ЛіМ. 1933. 15 ліп.; Крытыка-бібл. зб. Мн. 1934. С. 54; 2 выд. Мн., 1935.

Канец дружбы: П'еса. Мн., 1934. Рэц.: Вольскі В. Каштоўны ўклад у беларускую драматургію // Крытыка-бібл. бюл. 1934. № 7.

Партызаны: П'еса. Мн., 1938.

Радзіме і правадыру: Вершы і песні аб Сталінскай канстытуцыі. Мн., 1938 / У сааўт.

Герой Савецкага Саюза Міхаіл Сільніцкі: Нарыс. М., 1943.

П'есы. Мн., 1946. Рэц.: Карпаў У. Беларуская літаратура перыяду Айчыннай вайны і першых дзён аднаўлення // Наст. газ. 1946. 24 жн.; Новыя кнігі // Сав. селянін. 1946. 21 ліп.

З народам: Драма ў 7 карцінах. Мн., 1948.

Драматычныя творы. Мн., 1951. Рэц.: Семяновіч А. П'есы Кандрата Крапівы // Калг. праўда. 1953. 25 лют.

Працы І.В.Сталіна ў галіне мовазнаўства і задачы беларускай савецкай літаратуры. Мн., 1951. Рэц.: Новыя кнігі // Калг. праўда. 1951. 28 жн.

Пяюць жаваранкі: П'еса ў 4-х актах, 6-ці карц. Мн., 1951. Рэц.: Кніжная паліца // Калг. праўда. 1951. 25 сак.; Кучар А. П'еса Кндрата Крапівы «Пяюць жаваранкі» // Наст. газ. 1951. 29 сак.

Зацікаўленая асоба: П'еса ў чатырох актах, дзевяці карцінах. Мн., 1953. Рэц.: Новыя кнігі // Наст. газ. 1954. 4 сак.; Царанков Л. // Заря. 1953. 17 нояб.; Шаблинский П. Новая пьеса К.Крапивы // Сов. Бел. 1953. 24 июня; Шатаў П. П'еса аб аўтазаводцах // Сцяг камунізма. 1953. 10 чэрв.

П'есы. Мн., 1953. (Школьная б-ка). Рэц.: Новыя кнігі // Наст. газ. 1954. 4 сак.; Семяновіч А. П'есы Кандрата Крапівы // Калг. праўда. 1953. 25 лют.

Сатыра і гумар. Мн., 1954. (Школьная б-ка).

Жаба ў каляіне: (Байкі і фельетоны). Мн., 1957. (Б-ка «Вожыка»).

Людзі і д'яблы: Драма ў 3-х актах, 10-ці карц. Мн., 1958.

Байкі, вершы, п'есы. Мн., 1960. (Школьная б-ка).

Дзве п'есы. Мн., 1966. (Школьная б-ка).

Сорак баек. Мн., 1966.

Вершы і байкі. Мн., 1967. (Школьная б-ка). 2 выд. Мн., 1978. (Школьная б-ка).

Хто смяецца апошнім: Камедыя ў 3-х актах. Мн., 1969. (Б-чка бел. драматургіі).

Пучок жыгучкі: Байкі. Мн., 1973.

Хто смяецца апошнім; Проба агнём; Брама неўміручасці: П'есы. Мн., 1983. (Школьная б-ка).

Загадкі дзеда Кандрата. Мн., 1986.

Вершы. Байкі. Эпіграмы. Паэмы. Мн., 1991. (Школьная б-ка).

1.3.

**1922.** Самаганачка: [Верш] // Бел. деревня. 12 июня / Пад. сваім прозв.; Жили-были: [Верш] // Красноарм. правда. 13 апр.; Сваты: [Верш] // Сав. Бел. 23 мая; На менскім «скверы»: [Верш] // Там жа. 16 жн.; Што я бачыў на «Трэку»: [Верш] // Там жа. 19 жн.; Плеткары: [Верш] // Там жа. 23 жн.; Продналог: [Верш] // Там жа. 26 жн.; Эпіграмы // Там жа. 8 кастр.; Дай ды дай...: [Байка] // Там жа. 3 ліст.; Шчыраму лацяністу: [Верш] // Там жа. 12 ліст.; Ратуйце!: [Верш] // Там жа. 14 ліст.; Рашыў памерці: [Верш] // Там жа. 22 ліст.; Ігрышча: [Верш] // Там жа. 24 ліст.; Класавыя ворагі: [Верш] // Там жа. 29 ліст.; Гульня ў жмуркі: [Верш] // Там жа. 7 снеж.; Крапіва: [Верш] // Там жа. 28 снеж.; Новая прасіцельная экценія: [Верш] // Там жа. 30 снеж.; Навагоднія пажаданні: Антанце; Нямеччыне; Польшчы; Дэлегатам на Лазанскай канферэнцыі; У.І.Леніну; Царкве; Газеце «Савецкая Беларусь» // Там жа. 31 снеж.

**1923.** Камсамольскія частушкі; Царкоўная «расколіна»: [Вершы] // Комс. село. № 2; Лявоніха: [Верш] // Малады араты. № 2; Гані мешалкай: [Верш] // Сав. Бел. 19 студз.; На вечары «Полымя»: [Верш] // Там жа. 24 студз.; На крэсах Усходніх: [Верш] // Там жа. 2 лют.; Малітвы па-беларуску: Маленькі фельетон // Там жа. 4 лют.; Чыстка: [Верш] // Там жа. 6 лют.; Вось такія дактары вымуць душу без пары: [Верш] // Там жа. 7 лют.; Год Сцяпана Лайдака: [Вершы] // Там жа. 16 лют.; Нібы сатыра на «Нібы паэму — Гвалт над формай»: [Верш] // Там жа. 20 лют.; Чырвоная мятла добра мяла: [Верш] // Там жа. 23 лют.; Некралог: [Верш] // Там жа. 3 сак.; Няхай ён моліцца...: [Верш] // Там жа. 4 сак.; Хто за намі?: [Верш] // Там жа. 7 сак.; Годзе слухаць байкі!: [Верш] // Там жа. 3 крас.; Святкуюць: [Верш] // Там жа. 7 крас.; Кармлю усе словам божым... (Вялікодная гутарка папоў): [Верш] // Там жа. 11 крас.; Вясковым дзеткам вясною: [Верш] // Там жа. 12 крас.; Дзве куклы: [Верш] // Там жа. 15 крас.; Прагулка на Парнас: [Верш] // Там жа. 18 крас.; Каханне планет: [Верш] // Там жа. 6 мая; К сабачаму раўнапраўю: [Верш] // Там жа. 16 чэрв.; Частушкі // Там жа. 11 ліп.; Здарэнне на вуліцы: [Верш] // Там жа. 12 жн.; Рубель і марка: [Верш] // Там жа. 14 жн.; Савецкі грамадзянін; Нэпман; Поп: [Вершы] // Там жа. 22 жн.; «Пралетары» і «буржуй»: [Верш] // Там жа. 25 жн.; Кулак: [Верш] // Там жа. 4 вер.; Дзве выстаўкі: [Верш] // Там жа. 5 вер.; Аб «буры» і «націску»: [Верш] // Там жа. 6 вер.; Хаджу па рынку: (Песня селяніна) // Там жа. 10 вер.; Здаў «акзамінт»: Апавяданне // Там жа. 13 вер.; Ганульчына гора: [Верш] // Там жа. 22 вер.; Польскаму пану ў дзень стварэння Беларускай дывізіі: [Верш] // Там жа. 23 вер.; Каровін мужык: Апавяданне // Там жа 27 вер.; Споведзь: замест фельетону // Там жа. 4 кастр.; Пакі, пакі: [Верш] // Там жа. 6 кастр.; Не кісні, а цэні: [Байка] // Там жа. 10 кастр.; Кулак; Бядняк; Выпівака: [Вершы] // Там жа. 12 кастр.; З падарожжа: [Верш] // Там жа. 27 кастр.; У сушні: [Верш] // Там жа. 1 ліст.; Будуйце лазні!: [Верш] // Там жа. 27 ліст.; Ціт заводзіць новы быт: [Верш] // Там жа. 19 снеж.; Калядная размова: [Верш] // Там жа. 26 снеж.; Жизнь рабочих: Трущобой пахнет // Соха и молот. 30 сент. / Пад псеўд. Крапіва / Аўт. спрэчнае.

**1924.** Год Сцяпана Лайдака (1. Восень; 2. Зіма; 3. Вясна; 4. Лета); Плеткары; Дзве кумы: (Байка); Вось такія дактары вымуць душу без пары; Нэп і я: (Прыпеўкі); Частушка-чыстушка; Рашыў памерці; Кармлю усё словам божым; Чырвоная мятла добра мяла; «Продналог» // Беларускі фальклор. Мн.; Цёткам навука: [Верш] // Бел. вёска. 10 мая; Калі церці, дык да смерці: [Верш] // Там жа. 17 мая; У малочную арцель запішыся: [Верш] // Там жа. 13 снеж.; Рагуліна прамова да свайго гаспадара: [Верш] // Там жа. 17 снеж.; Ціт заводзіць новы быт; Будуйце лазні: [Байкі] // Малады араты. 28 сак.; З тысячным нумарам: [Верш] // Сав. Бел. 5 студз.; Як ён стаў бязбожнікам: Апавяданне // Там жа. 3 лют.; Вяліканоснае: [Верш] // Там жа. 25 крас.; Не да «бжуху» страва: [Байка] // Там жа. 20 снеж.

**1925.** Год Сцяпана Лайдака: [Вершы] // Беларускі Гаспадарскі Каляндар на 1926 год. Вільня; Не будзь горшай!: [Верш] // Арш. малад. № 1; Кляса: Апавяданне; Лягчэй на паваротах!: [Верш] // Маладняк. № 8; Мандат: Байка; Ну й людзі, ну й суседзі: Гумарэска // Там жа. № 9; Зарабатак: Апавяданне // Малады араты. № 1; Лявоніха: [Верш] // Там жа. № 2; Кавалі: [Верш] // Там жа. № 6; Свет у кут — менш пакут: [Верш] // Там жа. № 8; Споведзь; Як ён стаў бязбожнікам: Апавяданні // Там жа. № 17—18; Каровін мужык: (Апавяданне) // Сав. вёска. № 15; Ты ня лайся, дзядзя, пры савецкай уладзе: [Байка] // Бел. вёска. 7 студз.; Ці няможна працей: [Байка] // Там жа. 23 студз.; Рабіў сам — дык раю й вам: [Байка] // Там жа. 4 лют.; Тварам да вёскі: [Верш] // Там жа. 6 сак.; Ня плач, а сябе перайначь: [Верш] // Там жа. 17 сак.; Кармлю ўсё словам божым: [Байка] // Там жа. 10 крас.; Дзядзька Хвядос і «малакасос»: [Байка] // Там жа. 17 крас.; Частушкі пра пазыку: [Верш] // Там жа. 2 чэрв.; Цяпер — самая пара: [Верш] // Там жа. 9 чэрв.; Вось падумайце: [Верш] // Там жа. 11 чэрв.; Пратры, брат, вочы!:

[Верш] // Там жа. 23 чэрв.; На пасёлкі: [Апавяданне] // Там жа. 10 ліп.; Устарэла тэхніка: [Верш] // Там жа. 17 ліп.; Абраза: Байка // Там жа. 21 ліп.; Калі ў краме ёсць нястача...: [Верш] // Там жа. 11 жн.; Баба з калёс, дык каня як чорт панёс: [Байка] // Там жа. 29 вер.; Ціт заводзіць новы быт: [Верш] // Там жа. 7 кастр.; Маг. селянін. 26 сак.; Чырвоная мятла добра мяла: [Верш] // Бел. вёска. 6 ліст.; Народ уваскрос!: [Верш] // Маг. селянін. 23 крас.; Дзяльба сенакосу: [Верш] // Там жа. 4 чэрв.; Вось падумайце: [Верш] // Там жа. 2 ліп.; Далей: [Верш] // Наш працаўнік. 15 мая; Лявоніха; Калі ў краме ёсць нястача...: [Верш] // Там жа. 8 кастр.; Ці то — здольны пясняр, ці то модны пляткар?: [Верш] // Сав. Бел. 28 студз.; Хто пець варт — судзіце самі!: [Байка] // Там жа. 9 крас.; «Мікроба»: [Байка] // Там жа. 27 мая; Кормны і падворны: Байка // Там жа. 16 чэрв.; Старшыня: Байка // Там жа. 19 чэрв.; Казёл: Байка // Там жа. 4 ліп.; І многа гутаркі было...: Байка // Там жа. 10 ліп.; Балет: [Верш] // Там жа. 22 вер.; Ну, як не выпіць?: [Байка] // Там жа. 27 кастр.; Еш, дурань, бо то з макам: Байка // Там жа. 1 ліст.; Как он стал вором: Из жизни одной деревенской ячейки: [Апавяданне] // Чырв. змена. 10 мая / Пад псеўд. Крапіва / Аўт. спрэчнае.

1926. Ну й людзі! Ну й суседзі!: [Апавяданне] // Беларускі народны каляндар на 1927 год. Вільня; Ціт заводзіць новы быт: [Верш]; Лявоніха: [Байка] // Ураджайнае свята. Мн.; Цёткам навука: [Верш] // Бел. работніца і сялянка. № 17; Пад грукат кол: Апавяданне; Чырвонец: Байка // Маладняк. № 1; Стварэнне свету: (Адрывак з Бібліі) // Там жа. № 2; Ліха яго разбярэ: Апавяданне // Там жа. № 3; «Мода»; «Каршун і Цецярук»: Байкі // Там жа. № 4; Мачыха; «Хто спіць, той не грэшыць»: Байкі // Там жа. № 6; Будуйце лазні: [Верш] // Маладняк Калінінішчыны. № 3—4; Першая пара, першы грэх і першая кара: Урывак з «Бібліі» // Малады араты. № 7; «Госці»: [Верш] // Маланка. № 1 / Пад крыпт. К.А.; Аўт. спрэчнае; На «Крэсах Усходніх»; Ігрышча: [Байкі] // Там жа. № 5—6; Ліга Нацыяў (Да паседжання 8-га сакавіка с.г.); Будуйце лазні: [Байкі] // Там жа. № 7; Рагуліна прамова да свайго гаспадара: [Байка] // Там жа. № 8; Ціт заводзіць новы быт; Як «Антэк» стрэў «Вельканоц»: [Байкі] // Там жа. № 9; Цёткам навука; Дзве кумы: [Байкі]; Вясковым дзеткам вясною: [Верш] // Там жа. № 10; Самагоначка: [Верш]; Воўк і ягнюк: (Па-новаму): [Байка] // Там жа. № 11; На віленскім скверы; Каго мне ўзяць за кума?: [Вершы] // Там жа. № 12; Дзяльба сенакосу: [Верш]; Вол і авадзень: [Байка] // Там жа. № 13; У вагоне: [Верш] // Там жа. № 14; У сушні; Каб церці, дык да смерці (з лячэбнай практыкі на вёсцы): [Байкі] // Там жа. № 15; Плеткары: [Верш] // Там жа. № 16; Калядная размова; Муза падвяла: [Вершы] // Там жа. № 17; Шчыры поп: Байка // Чырв. сейбіт. № 1; Пра цыгана і кабылу: [Байка] // Там жа. № 2; Каштан: Байка // Там жа. № 3; Падарожнае: [Апавяданне]; Стары й малады: Байка // Там жа. № 5; «Далікатныя» парасяты: Байка // Бел. вёска. 5 лют.; «Апаска»: [Верш] // Там жа. 9 лют.; Я шаную: [Верш] // Там жа. 21 сак.; Біблія (вольны пераклад) // Там жа. 6, 9, 11, 13, 16, 18, 21, 23, 27 крас.; 1, 9 мая; Здаў «акзамінт»: (Апавяданне) // Камуніст. 21 сак.; Як ён стаў бязбожнікам // Там жа. 31 сак.; Цёткам навука: З велікодных здарэнняў // Там жа. 1 мая; Кляса: [Апавяданне] // Там жа. 14 мая; Рагуліна прамова да свайго гаспадара: [Верш] // Там жа. 22 вер.; Чырв. змена. 16 вер.; Споведзь: [Апавяданне] // Камуніст. 26 вер.; Вараны: Байка // Сав. Бел. 28 сак.; Маца: [Верш] // Сав. Бел. 4 крас.; На пасёлкі: [Апавяданне] // Чырв. змена. 13, 17, 18 чэрв.; Польскаму пану: [Верш] // Там жа. 11 ліп.; Лявоніха: [Верш] // Там жа. 9 вер.

1927. Як трэба жыць — каб здаровым быць: [Верш] // Бел. піянер. № 17; Бел. вёска. 14 жн.; Бацька і сын; Нянька; Стары і малады: Байкі // Бел. піянер. № 22; Ці то здольны пясняр, Ці то — модны пляткар?: [Верш] // Маланка. № 2, 3; Ратуйце!: [Верш] // Там жа. № 7; Валакіта: (З кааператыўнай практыкі ў адным польскім банку): [Байка] // Там жа. № 8; Дзядзька Хвядос і малакасос: [Байка] // Там жа. № 9; Маланцы: [Верш]; Ганарысты парсюк: [Байка] // Там жа. № 10; Ганарысты парсюк; Сарамлівы; Сава, асёл ды сонца: [Байкі] // Узвышша. № 11; Мой сусед; Аднае раніцы; Спет ідзе: [Апавяданні] // Там жа. № 2; Вайна; Пальчык: Апавяданні; Чорт; Самадзейны конь: Байкі // Там жа. № 3; Ідэі: [Апавяданне]; Фіга на талерцы: [Верш] // Там жа. № 4; Доўг; Певень: [Апавяданні]; Жаба ў каляіне; Зубы: Байкі; Не губі сябе, дзеўчына: [Верш] // Там жа. № 5; Беларускія прыказкі / Пад сваім прозв.; Сваяўство: [Верш] // Там жа. № 6; Смерць: [Апавяданне] // Чырв. сейбіт. № 6—7; Чырвоная мятла добра мяла // Бел. вёска. 20 ліст.; «Стральба» ў каапературе і на ляднiку: [Нарыс] // Сав. Бел. 20 ліп.; Бывайце здаровы: (Адрывак з Бібліі) // Чырв. змена. 1 студз.; Рагуліна прамова да гаспадара: [Байка] // Там жа. 9 сак.; Дабяромся і да неба; Гані мешалкай: [Вершы] // Там жа. 28 снеж.

1928. Чырвоная мятла добра мяла; Самагоначка; Дабяромся і да неба; Кармлю ўсё словам божым; На перавыбарах у Цёмнай; Сава, асёл ды сонца; Сялянскія; Мандат; Мачаха; Вось такія дактары; Стары і малады; Мы не паклонімся богу; Гімн бязбожніка: [Вершы]; Ты ня лайся дзядзя; Кулак; Буду спекулянтам; Сука ў збане; Рак; Плеткары; Тварам да вёскі; Валакіта; Дзяльба сенакосу; Малітвы па-беларуску; Рашыў памерці; Дзве кумы; Рагуліна прамова да гаспадара; Шчыры поп; Будуйце лазні: [Вершы, байкі] // Дэкламатар. Мн.; Рагуліна прамова да свайго гаспадара: [Верш] // Бел. работніца і сялянка. № 10; Пальчык: Апавяданне // Бел. піянер. № 12; Сава, асёл ды сонца: Байка // Там жа. № 23; Маланка. № 7; Жаба ў каляіне: [Байка] // Бел. піянер. № 24; Трэба заглянуць // За калектыў. № 6—7; Нэпія (З радавога быту): [Байка] // Маланка. № 5; Аб «буры і націску». (К сучасным спрэчкам): [Верш] //Там жа. № 6; Класавыя ворагі: [Верш] // Там жа. № 8; Дыпламаваны баран: [Байка] // Там жа. № 13; Хвост: Апвяданне // Узвышша. № 1; Шкірута; Вершаваная навела; Махальнік Іваноў: Байка; «Спыталіся ў мяне аднойчы юнакі...»; «Чаго так гучна б'юць літаўры»: Эпіграмы // Там жа. № 2; Вось тут і пішы!: Апавяданне; Дэкрэт: [Верш]; Думкі пра сатыру // Там жа. № 3; На алкагольным фронце: Гумарэска; У папа ды быў сабака...: [Верш] // Там жа. № 4; Вясковы фельетон: Барыш // Бел. вёска. 3 лют.; Крапівіна біблія: [Апавяданні]; У бога трывога: [Верш] // Там жа. 5 крас.; Царкоўная расколіна: [Верш] // Пякучая маланка. 22 кастр.

1929. Дзядзька Хвядос і малакасос: [Байка] // Моладзь — за новы быт. Мн.; Саманадзейны конь: [Верш] // Бел. піянер. № 2; Кувада; Рахітык; Свядомасць: [Байкі]; Слова — чытачу // Узвышша. № 1; Пажар: Байка; Курортны верш // Там жа. № 7; «Наш»: [Верш] // Там жа. № 9—10.

1930. Як трэба жыць — каб здаровым быць: [Верш] // Настольны каляндар. Мн.; Ці я над яслямі сумую... (Конская элегія); Вагон табакі; Так жыла між імі згода; Два каханкі: [Вершы] // Там жа. № 1; Плач абываценя: [Верш] // Там жа. № 2; Хвядос — чырвоны нос: Паэма—казка // Там жа. № 6—10; Здань мінулага ня ўстане: [Верш] // Бел. вёска. 1 мая; Кляса: [Апавяданне] // Наша доля. 26 студз.

1931. Хто там рухаецца?: [Верш] // Другая бальшавіцкая. Мн.; Бел. вёска. 21 лют.; Калгаснік Бел. 21 лют.; «Узвышша» на новым шляху // Узвышша. № 1; Захара-дырэктар: [Верш] // Там жа. № 5; Дзе ж яна, галоўная самая?: [Верш] // Звязда. 19 мая; Дарогу сустрэчнаму плану! // Там жа. 28 чэрв.

1932. Ты не лайся, дзядзя, пры Савецкай ўладзе; Цёткам навука; Дзве кумы: [Вершы] // Партыя, слухай. Мн.; З фашыстоўскай падваротні: [Верш] // Барацьба (Берлін). № 3; Звязда. 28 ліст.; «Як Антэк стрэў «Вельканоц» // Іскры Ільіча. № 6; Што рабіць, каб здаровым быць: [Верш] // Там жа. № 9; Калядная размова; Цёткам навука: [Вершы] // Там жа. № 23; Мядзведзічы: Раман // Полымя рэвалюцыі. № 1—4; 1933. № 1—3; Ціт заводзіць новы быт: [Верш] // Бел.

**1980.** На парозе вялікіх пераўтварэнняў // Леў Талстой і Беларусь. Мн.; Апошні раман Івана Мележа // Полымя. № 8; Пра майго сучасніка // ЛіМ. 27 чэрв.

**1981.** О прозе Леонида Андреева // Андреев Л. Красный смех. Мн.; Художник-гуманист // Куприн А. Избранное. Мн.

**1982.** Мир бунинской прозы // Бунин А. Избранное. Мн.

**1983.** [Рэц. на кн.: Основин В. Драматургия Л.Н.Толстого. М., 1982] // Веснік БДУ. Сер. 4. № 2 / Сааўт. К.Кіпко; Плённы метад аналізу: [Рэц. на кн.: Федюкова Н. Концепция человека в русской литературе начала XX в. Мн., 1982] // Нар. асвета. № 9.

**1984.** Мятежный талант // Короленко В. Избранное. Мн. Сила памяти — сила правды: [Рэц. на кн.: Карпов В. Признание в ненависти и любви. М., 1982] // Неман. № 10; Ён належыць чалавецтву // Полымя. № 4.

**1985.** Прекрасный талант // Куприн А. Избранное. М.; Иван Мележ: Встречи и переписка // Неман. № 6.

**1.5.**

**На балгарскую мову.** Писателят и неговите книги // Садкович М. Мадам любов. София. 1976.

**На малдаўскую мову.** Иневитабилитатя алтернативей морале // Чигринов И. Жалник кынтэ питпалакул. Кишинэу. 1981.

**На мовах б. Югаславіі.** Aleksander Ivanovic Kuprin // Objave univerze v Ljublani. 1969/70.

**1.6.**

Чехов А. О литературе и искусстве. Мн., 1954 / Сост., вступ. статья и коммент.

Вопросы литературы и языка: Сб. статей молодых ученых и аспирантов. Мн., 1968 / Отв. ред.

Рубцов А. Драматургия Александра Блока. Мн., 1968 / Ред.

А.И.Куприн о литературе. Мн., 1969 / Сост. Рэц.: Бараноўскі П. Да стагоддзя А.І.Купрына // Вяч. Мінск. 1969. 23 жн.; Гордицкий А. Пополнение серии // Кн. обозрение. 1969. 19 дек.; Козлов Т. Искусство, жизнь, художник // Русская литература. 1970. № 3; Питляр И. «Ты — репортер жизни...» // Новый мир. 1971. № 9; Семенякова В. А.И.Куприн о литературе // Веснік БДУ. Сер. 4. 1971. № 1.

Антон Павлович Чехов. Сборник статей. Сахалинск, 1959 / Рэд.

Метод и мастерство. Вологда, 1970. / Рэд.

Куприн А. Собр. соч.: В 9 т. М., 1970—73 / Рэд.

Нехай М. Русский демократический очерк 60-х годов Мн., 1971 / Рэд.

Вантенков И. Бунин-повествователь. Мн., 1974 / Рэд.

Букчин С. Судьба фельетониста: Жизнь и творчество Власа Дорошевича. Мн., 1975 / Рэд.

Повести о любви: В 2 т. Мн., 1975 / Сост. примеч., послесл.

Станюта А. Постижения человека. Мн., 1976. / Рэд.

Андреев Л. Красный смех: Избр. рассказы и повести. Мн., 1981 / Сост., вступ. статья, примеч.

Куприн А. Избранное. Мн., 1981 / Сост., вступ. статья, примеч.

Бунин И. Избранное. Мн., 1982 / Сост., вступ. статья, примеч. (Б-ка отеч. и зарубеж. классики).

Короленко В. Избранное. Мн., 1984 / Сост., вступ. статья, примеч. (Б-ка отеч. и зарубеж. классики).

Куприн А. Избранное: Повести. Рассказы. Роман. Мн., 1985 / Сост., вступ. статья.

Повести о любви: В 2 т. Мн., 1988 / Сост., прим.

Вѐресаев В.В. К жизни: Повести, роман, рассказы. Мн., 1989 / Сост.

**2.3.**

**На беларускай мове.** Букчын С. Фёдару Куляшову — 60 // ЛіМ. 1973. 15 чэрв.; Ванковіч Л. Даследчык, педагог // Там жа. 1985. 17 чэрв.; Лынькоў М. [Ліст] // Лынькоў М. Зб. тв.: У 8 т. Мн., 1985. Т. 8. С. 345; Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 40-я — першая палавіна 60-х гадоў. Мн., 1985. С. 305—306; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Фёдару Куляшову — 60 // ЛіМ. 1973. 15 чэрв.; Фёдару Куляшову — 70 // Там жа. 1983. 17 чэрв.; Шуляўскі А. Вучоны, педагог, пісьменнік // Наст. газ. 1983. 25 чэрв.

**На рускай мове.** Лойко О. Судьба исследователя // Знамя юности. 1983. 21 июня; Суприн А. Федор Иванович Кулешов // Веснік БДУ. Сер. 4. 1983. № 1.

*В.У.Смольская.*

# КУНІЦКІ СЫМОН



*Куніцкі Сымон Фаміч (крыпт. С.К.; 28.2.1902, в. Гарані Мінскага пав., цяпер Мінскага р-на — 14.10.1940), крытык, літаратуразнавец.*

З сялянскай сям'і. Вучыўся на рабфаку БДУ (1925—28). Скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне яго педфака (1931). Працаваў вучоным сакратаром Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР (1931—36). Як малады крытык у 1931 быў залічаны ў Беларускую АПП ад Мінскай філіі. Стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. 26.11.1936 арыштаваны і асуджаны на 10 год зняволення. Верагодна, загінуў у лагеры на Калыме (дата смерці можа быць недакладнай). Рэабілітаваны ў 1954 пасмяротна, узноўлены ў правах члена СП БССР.

З першай публікацыяй (апавяданнем «У той жа дзень») С.Куніцкі выступіў у 1928 у газеце «Чырвоная змена». Першай яго крытычнай працай была рэцэнзія на паэтычную кнігу А.Салагуба «Лукішкі», змешчаная ў 1929 у часопісе «Маладняк». З таго часу С.Куніцкі рэгулярна выступаў у друку як крытык: пісаў пра творчасць Я.Скрыгана, А.Александровіча, В.Каваля, С.Баранавых, М.Лынькова, Т.Кляшторнага, А.Салагуба, І.Шапавалава і інш. Іх мастацкую творчасць аналізаваў з эстэтычных пазіцый, хоць часта яго скоўвалі каноны белаппаўскага разумення ідэалагічна «чыстай пралетарскай» літаратуры. З гэтых пазіцый ён не прыняў аповесць С.Баранавых «Чужая зямля» — лічыў яе аўтара няздольным стаць сапраўдным «пралетарскім пісьменнікам». З другога боку, С.Куніцкі празмерна захапляўся творчасцю так званых рабочых-ударнікаў, якая нібыта сведчыла пра небывалы росквіт пралетарскай культуры. Слабыя ў мастацкіх адносінах творы, асноўнай тэмай якіх было паспяховае выкананне пяцігадовых планаў, часта падаваліся за ўзоры новай пралетарскай літаратуры. Творчасць жа такіх адметных паэтаў як У.Хадыка, В.Маракоў, В.Казлоўскі ён аналізаваў з пункту гледжання так званых «нацдэмаўскіх уплываў», лічыў яе бесперспектыўнай. У памылковых поглядах С.Куніцкага адбілася рэгламентаванасць тагачаснага жыцця, якое ставіла мастацкую творчасць у прамую залежнасць ад палітыкі. Вульгарны сацыялагізм С.Куніцкага не быў ваяўнічы, але ён не даў магчымасці здольнаму крытыку больш грунтоўна засяродзіцца на эстэтычным аналізе тагачасных твораў.

*І.Э.Багдановіч.*

## Бібліяграфія


I.3.

**1928.** У той-жа дзень: [Апавяданне] // Чырв. змена. 27 мая.

**1929.** [Рэц. на кн.: Салагуб А. Лукішкі. Мн., 1929] // Маладняк. № 7.

**1930.** [Рэц. на кн.: Скрыган Я. Затока ў барах. Мн., 1929 г.] // Маладняк. № 2 / Пад крыпт. С.К.; [Рэц. на кн.: Александровіч А. Цень на сонцы. Мн., 1930] // Там жа. № 6—7; [Рэц. на кн.: Кляшторны Т. Ветразі. Мн., 1930] // Там жа. № 8—9; [Рэц. на кн.: Хведаровіч М. Баявыя песні. Мн., 1930] // Там жа. № 10; [Рэц. на кн.: Броўка П. Прамова фактамі. Мн., 1930] // Там жа. № 11; [Рэц. на кн.: Каваль В. Крыніца. Мн., 1929] // Полымя. № 4; [Рэц. на кн.: Баранавых С. Злосць. Мн., 1930] // Там жа. № 7; [Рэц. на кн.: Цанкар Я. Праўда батрака. Мн., 1930] // Там жа. № 8; [Рэц. на кн.: Лынькоў М. Андрэй Лятун. Мн., 1930] // Узвышша. № 4—5; Дайце добрую кніжку пра калектывізацыю // Сав. Бел. 9 лют. / Пад. крыпт. С.К.; [Рэц. на: Маладняк. № 11—12 за 1929 год] // Там жа. 2 сак. / Пад крыпт. С.К.

**1931.** Прадмова // Ударнікі. Мн.; [Рэц. на кн.: Баранавых С. Чужая зямля. Мн., 1930; Сташэўскі В. Гаворыць Асінстан імя Сталіна. Мн., 1930] // Маладняк. № 1; [Рэц. на кн.: Скрыган Я. Шугае сонца. Мн., 1930; Астапенка З. Краіне. Мн., 1931] // Там жа. № 4; За ідэйна-мастацкі рост рабочых-ударнікаў // Там жа. № 11; Крытычныя артыкулы Антона Адамавіча як адлюстраванне буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі // Полымя. № 2; [Рэц. на кн.: Звонак А. Каршун. Мн., 1930] // Там жа. № 3.

**1932.** Прадмова да 2-га зборніка творачасці рабочых-

ударнікаў // Ударнікі. Мн.; Пра творчасць Крапівы // Беларусь калгасная. № 1; Дзесяцігадовы творчы шлях паэта // Там жа. № 2; Пра другі зборнік творчасці рабочых-ударнікаў // Маладняк. № 5—6; П'еса «Напор» Андрэя Александровіча ў БДТ-2 // Мастацтва і рэвалюцыя. № 2; [Рэц. на кн.: Ліхадзіеўскі С. Мы маладая гвардыя. Мн., 1932] // Напагатове. № 1; Выданне гісторыі беларускай літаратуры — ганаровая задача ін-ту ЛіМ // За пралет. н. 6 ліст.; Мяшчанскае аплёўванне сацыялістычнага будаўніцтва // ЛіМ. 6 сак.; Супроць самацёку за чынны ўдзел // Там жа. 28 сак. / Пад крыпт. С.К.; Вучобу з ударнікамі на вышэйшую ступень // Там жа. 21 крас. / Пад крыпт. С.К.; Ці ўсё спакойна на бібліяграфічным фронце? // Там жа. 30 крас.; Мастацкая проза другога зборніку рабочых-ударнікаў // Там жа. 15 чэрв.; Паэзія другога зборніка рабочых-ударнікаў // Там жа. 5 жн.; Пра зборнік вершаў І.Шапавалава «Товарищ» // Там жа. 24 кастр.; Масавы літаратурны рух // Там жа. 6 ліст.; М.Горкі і масавы літаратурны рух // Сав. Бел. 25 вер.

1933. Падрыхтоўка да выдання гісторыі беларускай літаратуры // ЛіМ. 18 студз. / Пад крыпт. С.К.; Пісьменнікі і крытыкі ў 1933 г. // Там жа. 28 студз.; Пра творчы шлях Міхася Лынькова // Там жа. 15 ліп.; Паэма-аповесць «Ян Рэндя» Шапавалава // Там жа. 18 вер.

1934. П'еса радасці і перамог // Драматургія. Мн.; Даволі «шыпдзёліць» і «скогліць» // Пісьменнік і мова. Мн.; Інстытут літаратуры і мастацтва // Звязда. 21 ліст.; [Рэц. на кн.: Лынькоў М. На чырвоных лядах. Мн., 1934] // ЛіМ. 12 сак.; Змагацца за якасць кожнага слова мастацкай літаратуры // Там жа. 6 крас.; Пра цікавасць і займальнасць нашай літаратуры // Там жа. 8 чэрв.; Канферэнцыя чытачоў «Паднятай цаліны» // Там жа. 15 ліст. / Пад крыпт. С.К.; Пісьменнікі і журналісты абмяркоўваюць справаздачу горсавета // Там жа. 30 ліст. / Пад крыпт. С.К.

1935. [Рэц. на кн.: Цэлеш М. Курылка. Мн., 1935] // Полымя рэвалюцыі. № 9; [Рэц. на кн.: Лынькоў М. На вялікай хвалі. Мн., 1934] // Там жа. № 11; Інстытут «ЛіМ» да з'езда Саветаў // ЛіМ. 14 студз.; Вобраз Леніна ў паэзіі народаў СССР // Там жа. 26 студз.; Крытычная дзейнасць І.Плашчынскага // Там жа. 20 крас.; Пераверзіянцы на службе ў нацыянал-дэмакратаў // Там жа. 6 ліп.; Творчасць Я.Купалы ў ацэнцы крытыкі // Там жа. 11 ліп. / Сааўт. Э.Галубок; Абяцаючы пачатак // Там жа. 31 жн.; Пра праект праграмы па беларускай літаратуры // Там жа. 6 кастр.; С.М.Кіраў у песнях вялікага народа // Там жа. 1 снеж.

1936. [Рэц. на кн.: Шынклер Х. Петрык-завадатар. Мн., 1935] // Полымя рэвалюцыі. № 2; [Рэц. на кн.: Мікуліч Б. Дружба. Мн., 1936] // Там жа. № 3; [Рэц. на кн.: Каваль В. Санька-сігналіст. Мн., 1936] // Там жа. № 4; [Рэц. на кн.: Колас Я. Міхасёвы прыгоды. Мн., 1935] // Там жа. № 6; Міхась Лынькоў // Звязда. 11 студз.; Тарас Шаўчэнка // Там жа. 11 сак.; Вобраз Леніна ў мастацкай літаратуры // ЛіМ. 22 студз.; Аналізаваць творчы метад пісьменніка: З прамовы на сходах пісьменнікаў г. Мінска // Там жа. 28 сак.; Супраць пошласці і абывацельшчыны: [Рэц. на кн.: Даўгапольскі Ц. Агітпоезд. Мн., 1936] // Там жа. 6 кастр.; «Солнце и песня» [Рэц. на кн.: Александрович А. Солнце и песня. М., 1936] // Там жа. 30 кастр.; Сталін у беларускай паэзіі // Там жа. 7 ліст.

1.4.

1934. Залка М. Сяло за туманамі: Нарыс-аповесць / З венг. Мн.

2.3.

**На беларускай мове.** Браншттэйн Я. Барацьба на два франты працягваецца // ЛіМ. 1932. 19 ліст.; Карабан С. Нарысы гісторыі беларускай савецкай крытыкі 20—30-х гадоў. Мн., 1971. С. 53—54, 93, 112; Меяровіч М. Апалагетыка «пляханаўска-пераверзеўскага» меншавізму // ЛіМ. 1932. 21 крас.; Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік. Мн., 1981; Скрыган Я. На вячэры // Скрыган Я. Ранішнія росы. Мн., 1965; Яго ж. Незабыўныя рысы друга // ЛіМ. 1962. 11 снеж.; Ушакоў А. Рэплікі некаторым крытыкам // Там жа. 1934. 26 ліп.

*В.М.Грышкевіч.*



*Купала Янка [інш. псеўд. **Адзін з «парнаснікаў»**, **Вайдэльота**, **Здарэнец**, **Левы**, **Марка Бяздольны**, **Ня-Гутнік**, **Стары Мінчук**, **Янук з-пад Мінска**, **Янук Купала**; крыпт. К., І.К., Я.К., К-а, Л., І.Л., Л.І.; (творы паэта, падпісаныя псеўданімамі Цімох Каруза, Я.Купальскі, Янка Луцэўчык, К-А-А, Я.К.-ла, пакуль не ўдалося адшукаць); сапр. **Луцэвіч** Іван Дамінікавіч; 25.6(7.7).1882, былы фальварак Вязынка Мінскага пав., цяпер в.Вязынка Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. — 28.6.1942, Масква; пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску], паэт, драматург, публіцыст, перакладчык. Член СП Беларусі з 1934. Першы ўдастоены звання Народны паэт Беларусі (1925). Акадэмік АН Беларусі (1928) і АН Украіны (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941; за зб. вершаў «Ад сэрца»). Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах.*

Нарадзіўся ў сям'і беззямельнага арандатара. Бацька, Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч (1846—1902), паходзіў з беззямельнай засцянковай шляхты, родавае гняздо якой было ў засценку Лазараўшчына (Пяскі, Луцэвічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер тэрыторыя Уздзенскага раёна). Адукацыю меў невялікую, чытаў па-польску. Маці Бянігна Іванаўна (дзявочае — Валасевіч, 1857—1942) паходзіла з сям'і дробнага шляхціца; нарадзілася ў фальварку Няшота Мінскага пав. (цяпер в.Ручын Стаўбцоўскага р-на). Продкі Я.Купалы належалі да беларускага шляхецкага, а потым (з 1869) мяшчанскага роду (паводле тагачаснай саслоўнай тэрміналогіі), роданачальнікам якога лічыўся Станіслаў Луцэвіч (17 ст.). У 19 ст. Луцэвічы — тыповая чыншавая земляробчая шляхта, блізкая па эканамічнаму становішчу і спосабу жыцця да сялян, але са сваімі адметнымі саслоўнымі рысамі. Яны былі выселены з засценка Пяскі, калі той апынуўся ва ўладанні князя Вітгенштэйна, і з таго часу арандавалі зямлю «на запашках», г. зн. апрацоўвалі зямлю ўладальніка фальварка, аддаючы звычайна палову ўраджаю. У пошуках зямлі і працы бацькі Я.Купалы вымушаны былі пераязджаць з месца на месца. Вандроўнае жыццё перашкаджала будучаму паэту атрымаць сістэматычную адукацыю. У вандроўных настаўнікаў спачатку вучыўся па-польску, а рускую азбуку вывучыў з дапамогай няні. Адну зіму наведваў Сенніцкае двухкласнае народнае вучылішча, у Мінску каля пяці месяцаў вучыўся ў прыватнай падрыхтоўчай школе. Скончыў Бяларуцкае двухкласнае народнае вучылішча (1898).

Калі Луцэвічы жылі ў Селішчы, будучы паэт пазнаёміўся з уладальнікам суседняга маёнтка З. Чаховічам, паплечнікам К.Каліноўскага, які быў асуджаны за ўдзел у паўстанні на 12 гадоў катаргі, а з 1870 жыў на паўлегальным становішчы ў сваім маёнтку Малыя Бесяды. Я.Купала карыстаўся яго багатай бібліятэкай, дзе ўпершыню пазнаёміўся з нелегальнай літаратурай, пераважна пра паўстанне 1863 года. Знаёмства з З.Чаховічам як прадстаўніком вызваленчага беларускага руху аказала дабратворны ўплыў на фарміраванне асобы будучага паэта, было штуршком для развіцця яго нацыянальнай самасвядомасці, абудзіла яго цікавасць да мінулага Беларусі.

У Селішчы ў 1902 памёр бацька Я.Купалы, і, як старэйшы з семярых дзяцей, Ясь застаўся за гаспадара. Праз паўгода ад шкарлятыны памёр малодшы брат Казік, а яшчэ праз тыдзень — сёстры Гэля і Сабіна. У пошуках заробкаў будучы паэт пайшоў «у людзі»: у 1903 пачаў працаваць вандроўным настаўнікам, затым пісарам у судовага следчага ў Радашковічах. Служыў у канторы маёнтка Беліца Сенненскага пав. Магілёўскай губ. У сувязі з хваробай маці пакінуў службу і вярнуўся ў Селішча, дзе зноў працаваў на гаспадарцы. У 1905 паступіў практыкантам на бровар Сёмкава Мінскага пав., дзе фактычна быў чорнарабочым. У 1906—07 працаваў памочнікам вінакура на заводзе ў Яхімаўшчыне Віленскага пав., затым у маёнтку Дольны Сноў Навагрудскага пав. Мінскай губ.

Пасля трохгадовай катаржнай работы на вінакурных заводах восенню 1908 Я.Купала паехаў у Вільню, дзе працаваў бібліятэкарам у прыватнай бібліятэцы «Веды» Б.Даніловіча і супрацоўнічаў у беларускай газеце «Наша ніва». Гэта быў перыяд самаадукацыі і творчага станаўлення паэта, пошуку

духоўных арыенціраў, выпрацоўкі эстэтычных прынцыпаў і выспявання нацыянальна-адраджэнцкага светапогляду. Як заўсёды Я.Купала вельмі многа чытаў польскіх (У.Сыракомля, М.Канапніцкая, Э.Ажэшка) і рускіх (М.Някрасаў, А.Кальцоў) аўтараў. Знаёмства з творамі беларускіх пісьменнікаў Ф.Багушэвіча, В.Дуніна-Марцінкевіча, Цёткі, а таксама багаты беларускі фальклор, да якога Купала быў далучаны з дзяцінства, выхавалі у ім любоў і павагу да беларускага мастацтва слова.

Віленскі перыяд жыцця і дзейнасці Я.Купалы (1908—09) скончыўся тым, што неспрыяльныя ўмовы, якія склаліся для яго ў рэдакцыі «Нашай нівы», прымусілі яго пакінуць гэтае месца работы. Я.Купала прагнуў вучыцца далей і ў пачатку снежня 1909 з рэкамендацыйным лістом У.Самойлы да Б.Эпімах-Шыпілы паехаў у Пецярбург. З 1909 на працягу 4 гадоў, выязджаючы ўлетку да маці ў Акопы, Купала жыў у Пецярбургу, вучыўся там на агульнаадукацыйных курсах А.Чарняева, адчуваючы заўсёдную маральную і матэрыяльную апеку Б.Эпімах-Шыпілы. Вучоба на курсах дапамагла сістэматызаваць і папоўніць веды, атрыманыя шляхам самаадукацыі. Сваёй творчасцю пецярбургскага перыяду (1910—13) Я.Купала ўводзіў беларускую літаратуру ў еўрапейскі культурны кантэкст. У Пецярбургу ён прымаў удзел у рабоце навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Пецярбургскага універсітэта. У 1911 ён пазнаёміўся са стваральнікам першага беларускага тэатра І.Буйніцкім, з рускім пісьменнікам У.Караленкам. Гэтыя гады былі для паэта часам напружанай вучобы і работы над сабой, часам, калі ён асабліва шмат і плённа тварыў, адчуваючы найбольш абвострана на адлегласці сваю крэўную прыналежнасць да беларускага народа і гарачую любоў да Бацькаўшчыны.

Пасля заканчэння вучобы ў Пецярубргу (1913) Я.Купала вярнуўся ў Вільню і пачаў працаваць сакратаром ў «Беларускім выдавецкім таварыстве», затым перайшоў у рэдакцыю газеты «Наша ніва». З сакавіка 1914 газета пачала выходзіць за подпісам Янкі Купалы, як адказнага рэдактара (фактычна абавязкі рэдактара ён пачаў выконваць значна раней). У студзені 1915 камітэт па справах друку ў Вільні ўзбудзіў супраць яго, як рэдактара «Нашай нівы», судовую справу за надрукаванне артыкула «Думкі». У сувязі з набліжэннем лініі фронта Першай сусветнай вайны 8 жніўня 1915 Я.Купала эвакуіраваўся з Вільні. Ён наведаў у Акопах маці, па запрашэнні свайго знаёмага С.Жывапісцава выехаў ў Арол, а потым у Маскву, дзе паступіў ў народны універсітэт імя А.Шаняўскага на гісторыка-філасофскі факультэт. 23 студзеня 1916 у Маскве Я.Купала ажаніўся з Уладзіслаunion Францаўнай Станкевіч. Неўзабаве яго прызвалі ў армію: некалькі месяцаў служыў у Мінску старшым рабочым у дарожна-будаўнічым атрадзе Варшаўскай акругі шляхоў зносін, а затым у Полацку і Смаленску. З ліпеня 1918 Купала працаваў агентам па забеспячэнні харчамі Заходняй вобласці, часта выязджаў у камандзіроўкі ў Смаленскую і Курскую губерніі. Разам з М.Гарэцкім паэт быў слухачом факультэта гісторыі мастацтваў Смаленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута. У Смаленску ён сустракаўся з Ц.Гартным, Ф.Туруком, А.Чарвяковым, Я.Дылам і інш. Шмат часу прысвячаў вывучэнню славянскай міфалогіі дзеля працы над перакладам «Слова аб паходзе Ігаравым».

У 1919, пасля абвяшчэння БССР, Я.Купала пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. Тут ён працаваў загадчыкам бібліятэкі пры Беларускай хатцы, рэдагаваў часопісы «Рунь» (1920) і «Вольны сцяг» (1920—22). У гэты час 1920—22 цяжка хварэў, аднак, акрыяўшы, зноў вярнуўся да актыўнай грамадскай і літаратурнай дзейнасці. З пачатку 1921 Я. Купала працаваў намеснікам загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела Народнага камісарыята асветы БССР, уваходзіў у склад Акадэмічнай камісіі Акадэмічнага цэнтра Наркамасветы БССР па ўкладанню і апрацоўцы беларускай тэрміналогіі. З'яўляўся членам навукова-літаратурнай (а пасля навукова-рэдакцыйнай) калегіі Наркамасветы БССР, якая разглядала прадстаўленыя да друку творы (пазней яна стала называцца камісіяй, а яе старшынёй быў прызначаны Я.Купала). У 1921 адбыўся інцыдэнт з уладамі: на паэта быў накладзены хатні арышт і канфіскаваны рукапісы. Я.Купала быў сярод ініцыятараў стварэння Беларускага драматычнага тэатра (1920), Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1921), Інстытута беларускай культуры (1922, абраны яго правадзейным членам). Прымаў удзел у Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926). Разам з Я.Коласам, Ц.Гартным, А.Гурло, М.Чаротам і іншымі пісьменнікамі быў адным з ініцыятараў стварэння літаратурнага аб'яднання беларускіх пісьменнікаў «Полымя», актыўна удзельнічаў у рабоце гэтага аб'яднання (1927—32).

Аднак ужо набліжаліся злавесныя 30-я гады, калі ўсё нацыянальна значнае ў мастацтве абвяшчалася класава варожым і шкодным. Творы Я.Купалы (зборнікі «Жалейка», «Гусляр») падвяргаліся значнай цэнзурнай праўцы. Летам 1930 у друку з'явіўся артыкул Л.Бэндэ «Шлях паэта», у якім паэт абвяшчаўся «ідэолагам буржуазнага нацыянал-адраджанізму». У 1930 у Акопах былі раскулачаны маці і сястра паэта і прызначаны да высылкі ў Котлас. Актывізацыя сталінскага тэрору, барацьба з так званай «нацдэмаўшчынай» прывяла ўлетку 1930 да шматлікіх арыштаў сярод пісьменнікаў, дзеячаў навукі, асветы, культуры. Я.Купалы тады не трапіў за краты, але яго рэгулярна выклікалі на допыты ў ДПУ, дзе патрабавалі паказанняў аб «контррэвалюцыйнай» арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі», лідэрам якой ён нібыта быў. Узвесці такі паклёп на сябе і на іншых паэт не мог, на допытах праяўляў мужнасць і высакароднасць, што было адзначана і ягонымі следчымі. 27 лістапада 1930 Я.Купала зрабіў спробу самагубства. Аднак яго жыццё ўдалося выратаваць. У снежні 1930 у «Звяздзе» быў апублікаваны так званы «пакаянны» ліст Я.Купалы, напісаны фактычна пад дыктоўку Л.Бэндэ, у якім паэт вымушаны быў прызнавацца ў «памылках» і «шкодных поглядах», абяцаў парваць з «кулацкім нацыяналістычным адраджанізмам» і «аддаць усе свае сілы сацыялістычнаму будаўніцтву». Вонкава стварылася ўражанне, нібыта Купала сапраўды быў у гушчы літаратурнага і грамадскага жыцця: ён удзельнічаў у розных камітэтах і камісіях па ўшанаванні памяці і правядзенні юбілеяў класікаў рускай і нацыянальных літаратур, быў дэлегатам тагачасных урачыстых літаратурных форумаў і з'ездаў. Аднак гэта ўсё было пампезным камуфляжам нечуванай палітыкі духоўнага і фізічнага тэрору, якую праводзіў сталінскі апарат. У 1934 Я.Купала, дзякуючы спецыяльным загадам М.Горкага і рэдактара «Известий» І.Гронскага, якія ратавалі яго ад рэпрэсій, ўдзельнічаў у рабоце 1-га з'езда Савецкіх пісьменнікаў БССР, выбраны членам Праўлення і дэлегатам на 1-ы з'езд ССП СССР з правам раша-

ючага голасу.

У 1937 Я.Купала зноў аказаўся ў спісе чарговых ахвяраў рэпрэсій сярод тых нешматлікіх пісьменнікаў, хто яшчэ заставаўся на свабодзе. Аднак расправу над паэтам удалося адцягнуць яшчэ на пяць гадоў. Ён быў нават выбраны ў склад новага бюро секцыі паэзіі ССП БССР (1937), у склад прэзідыума Праўлення ССП СССР (1939), дэпутатам Мінскага гарадскога Савета. У 1939 разам з брыгадай беларускіх пісьменнікаў удзельнічаў у рабоце Народнага сходу Заходняй Беларусі, які прыняў Дэкларацыю аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад БССР.

Вялікая Айчынная вайна заспела паэта ў Каўнасе, дзе ён знаходзіўся па запрашэнні літоўскіх пісьменнікаў. У першыя ж дні вайны у Мінску ад варожых бомбаў згарэла хата паэта з яго вялікім архівам і бібліятэкай. У ліпені агнём нямецкай артылерыі знішчана дача паэта ў Ляўках. 30 чэрвеня Купала выехаў з Ляўкоў у Маскву. З лістапада 1941 да сярэдзіны чэрвеня 1942 жыў каля Казані — у пасёлку Пячышчы Верхнеўслонскага р-на.

З самага пачатку Вялікай Айчыннай вайны паэт сваім словам уключыўся ў барацьбу з фашысцкімі захопнікамі: быў абраны членам прэзідыума Усеславянскага антыфашысцкага камітэта, выступаў на антыфашысцкім мітынгу, разам з А.Талстым, А.Карнейчуком, В.Васілеўскай, З.Неедлым і іншымі ўдзельнікамі мітынгу падпісаў адозву да братоўславян з заклікам узняцца на вызваленчую барацьбу супраць фашызму. Удзельнічаў у 1-м Усеславянскім мітынгу і ў навуковай сесіі АН БССР (у Казані), дзе выступіў з дакладам «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя».

18 чэрвеня 1942 Я.Купала прыехаў у Маскву, а 28 чэрвеня у гасцініцы «Масква» ён трагічна загінуў — упаў у лесвічны пралёт з 10-га паверха. Існуюць тры версіі гібелі паэта: няшчасны выпадак, самагубства, забойства. Афіцыйна доўгі час падтрымлівалася першая версія. У эміграцкім беларускім друку смерць паэта звязвалася з самагубствам. Публікацыі канца 80-х г. (Б.Сачанка, Г.Колас і інш.), у якіх супастаўляюцца факты, аналізуюцца сведчанні відавочцаў і меркаванні блізкіх людзей, даюць падставу лічыць, што Я. Купала быў забіты агентамі дзяржбяспекі. Матэрыялы камісіі, якая займалася высвятленнем абставін яго гібелі, да гэтага часу засакрэчаныя, таму дакументальнага пацвярджання пакуль што ніводная з версій не мае. 1 ліпеня 1942 пасля крэмацыі Я.Купала быў пахаваны ў Маскве. У 1962 урна з прахам Купалы перавезена ў Мінск і пахавана на Вайсковых могілках. Выбіраўся кандыдатам у члены ЦВК БССР у 1927—29, членам ЦВК БССР у 1929—31, 1935—38. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1940. Узнагароджаны ордэнам Леніна, медалём, ганаровымі граматамі Вярхоўных Саветаў Беларускай ССР і Грузінскай ССР.

Свой першы літаратурны твор Я.Купала напісаў у 1903 у в. Селішчы: гэта быў верш, прысвечаны сястры Леакадзіі ў дзень яе нараджэння. Пачынаў пісаць па-польску (некалькі вершаў былі надрукаваны ў польскім часопісе «Ziarno» («Зерне»). Па сведчанні паэта, «Дудка беларуская» Ф.Багушэвіча і «Гапон» В.Дуніна-Марцінкевіча канчаткова пераканалі яго, што менавіта родным словам, а не рускай або польскай мовай, ён зможа выказаць у вершах душу і запаветныя думкі беларускага народа. Да таго ж на самым пачатку творчай дзейнасці будучы паэт пазнаёміўся і вельмі зблізіўся ў Карпілаўцы з беларускім пісьменнікам Ядвігіным Ш. (Антонам Лявіцкім), які заахвочваў яго пісаць пабеларуску. На станаўленне Я.Купалы як паэта паўплываў таксама беларускі публіцыст і літаратурны крытык У.Самойла (адзін з рэдактараў газеты «Минский курьер»). Першы беларускі верш «Мужык» быў апублікаваны ў мінскай газеце «Северо-Западный край» 15 мая 1905. З 1907 вершы паэта сістэматычна друкаваліся ў газеце «Наша ніва». Іх тэматыка — прыгнечанае бяспраўнае жыццё беларускага селяніна, краса роднага краю, прыгажосць стваральнай працы чалавека. Аднак нацыянальны ўціск і рэчаіснасць, поўная сацыяльных супярэчнасцей, залежнасць ад абставін і жорсткіх законаў, а часцей беззаконня, стваралі мастацкую калізію паміж высокімі ідэаламі, памкненнямі творцы і тым рэальным жыццём, у якім яму даводзілася змагацца за сваё існаванне і, у рэшце рэшт, гінуць. Ужо ў ранніх творах Купалы акрэсліваецца ідэя свабоды — нацыянальнага, сацыяльнага і духоўнага раскнявольвання чалавека — як вызначальная ідэя ўсёй яго творчасці. У 1908 у Пецярбургу выйшла першая кніга паэзіі Я.Купалы «Жалейка», якая двойчы канфіскоўвалася: першы раз па распараджэнні Пецярбургскага камітэта па справах друку, другі — па прадпісанні віленскай адміністрацыі. Разумеючы вялікае значэнне выхаду першай купалаўскай кнігі для беларускай культуры, У.Самойла ў сваім крытычным водгуку пад назвай «Вялікае свята» так пісаў аб «Жалейцы» і яе аўтары: «Сонца жывой, сапраўднай паэзіі заглянула ў ваконца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народа! Няхай ён будзе для беларусаў тым, чым быў Шаўчэнка для Украіны!.. Прыдуць лепшыя часы, і за подзвіг яго родны народ заплаціць яму лепшай сваёй удзячнасцю — бессмяроццем!...». Другі зборнік вершаў Я.Купалы «Гусляр» выдадзены лацінкай (Пецярбург, 1910). У адрозненне ад «Жалейкі» з яе элегічнасцю, плачам над адвечнай нядоляй селяніна, у «Гусляры» выразна праяўляецца рамантычнае светаадчуванне аўтара, акрэсліваецца філасофская, экспрэсіяніцкая плынь яго лірыкі. Са шматлікіх вершаў «Гусляра» паўстае рамантычны вобраз паэта як «сына міра», прарока, што сам спазнаў таямніцы свету і жадае адчыніць іх людзям. Моцным акордам гучыць эсхаталагічная тэма, матыў самотнасці і разгубленасці лірычнага героя, які гатовы праклясці ўвесь свет і забыцца ў вечным сне. Менавіта ў «Гусляры» — выданні часоў, калі грамадства перажывала перыяд рэакцыі, найбольш выразна адбілася рамантычнае раздваенне душы лірычнага героя, у якой суіснуюць адчуванні далучанасці да Сусвету, пачуццё абранасці і высокай наканаванасці чалавека, а з другога боку, бяссілле і адчай пры сутыкненні з чужой і варожай рэчаіснасцю. Гэтыя матывы гучалі не толькі ў філасофскай медытацыйнай лірыцы, але і ў творах баладнага жанру («Памяці С.Палуяна»), драматычнай паэме «Адвечная песня».

Творча плённым, узлётным для Я.Купалы быў перыяд 1910—13, калі ён вучыўся ў Пецярбургу, а ўлетку жыў у Акопах, дзе напісаны буйнейшыя творы гэтай пары. Трэці паэтычны зборнік Я.Купалы «Шляхам жыцця» (1913) быў фактычна вяршынным дасягненнем тагачаснай беларускай літаратуры, а яго аўтар стаў бясспрэчным яе лідэрам. У вершах гэтага зборніка выразна адбіўся патрыятызм і глыбінны гістарызм паэта, найбольш яскрава ўвасобілася ідэя свабоды і абуджэння нацыянальнай свядомасці беларускага народа. Купала імкнуўся

абудзіць у чытача пачуццё гордасці і ўдзячнасці да продкаў, якія былі здольныя захоўваць сваю дзяржаўнасць і незалежнасць, бараніць зямлю ад ворагаў, развіваць адметную культуру («Над Нёманам», «На куццю», «На дзяды» і інш.): многія з твораў, дзе развіваліся такія матывы, былі ў пазнейшы час забароненымі, не ўваходзілі ў зборы твораў і не перадрукоўваліся да канца 80-х гадоў. Адраджэнцкі, нацыянальны характар творчасці Я.Купалы праяўляўся і ў вершах рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, у якіх паэт апяваў набліжэнне светлых перамен у жыцці, услаўляў будучыню, прадвесцем якой для яго быў створаны паэтычным уяўленнем вобраз Маладой Беларусі, абуджанай да гістарычнага самасцвярджэння. У вобразе Прарока (Званара, Гусляра), які прымаў аблічча Падарожнага, Незнаёмага, паэт прадракаў Вялікі Сход, дзе будзе вырашаны нацыянальны лёс народаў і сацыяльны лёс працоўных. У паэмах «Курган», «Бандароўна», «Магіла льва», драматычнай паэме «Сон на кургане», паэме-ідыліі «Яна і я» Купала выявіў сябе буйнейшым прадстаўніком нацыянальнага рамантызму. У сімвалічных вобразах і карцінах ён стварыў шырокае палатно нацыянальнага быцця ў яго сацыяльным зрэзе, паказаў арганічнасць выспявання ў ім рэвалюцыйнай ідэі. У 1914—15 з'яўляецца цыкл яго вершаў «Песні вайны», шэдэўры любоўнай лірыкі («Тае дагаджданай», «Сыйду», «На вуліцы», «Мусіць трэба было», «А яна...»). На працягу трох наступных гадоў Купала, перажываючы разам з народам цяжкі перыяд нацыянальнай гісторыі, вершаў не пісаў, зноў пачаў тварыць у канцы 1918. Яго вершы той пары «Званы», «Буралом», «Спадчына», «Рунь», «Першы снег», «Паязжане» і інш. — гэта роздум аб гістарычных шляхах Бацькаўшчыны, вынашаны ў трохгадовым маўчанні, прасякнуты ўласцівай паэту філасофскай глыбінёй. Гэтыя вершы ўвайшлі ў чацвертую паэтычную кнігу Купалы «Спадчына» (1922). Зборнік выклікаў пэўнае расчараванне тагачаснай крытыкі, якая чакала ад паэта новых тэм і матываў — услаўлення Кастрычніка і прынесеных ім жыццёвых перамен. Купала ж заставаўся песняром Бацькаўшчыны, палітычнае становішча якой у гэты перыяд было вельмі складаным. Мастацкі позірк паэта імкнуўся вылучыць сутнасць падзей, іх суаднесенасць з каштоўнасцю кожнага асобнага чалавека. Ён бачыў і адчуваў, як у рэвалюцыйнай віхуры нішчацца і руйнуюцца лёсы, як родныя людзі становяцца па розныя бакі барыкад, як пошукі выйсця абарочваюцца бездарожжам. Таму ў яго лірыцы па-ранейшаму гучалі драматычныя і трагічныя ноты, жаданым заставаўся ідэал свабоднай Бацькаўшчыны. Другую паслярэвалюцыйную кнігу Я.Купалы «Безназоўнае» (1925) склалі вершы, пераважна створаныя ў 1919 і 1921, а таксама аднайменная паэма, напісаная ў 1924. Многім даследчыкам у кнізе бачылася адлюстраванне ранейшых нацыянальна-адраджэнцкіх поглядаў аўтара і тлумачылася як негатыўная з'ява. Для Купалы ж вершы ў кнізе і паэма «Безназоўнае» былі арганічным, паслядоўным выяўленнем яго творчага «я». Паэт не адступаў ад сваёй канцэпцыі чалавека, апірышчам духоўнасці для якога і ў перайначаным пралетарскай рэвалюцыяй свеце заставаліся «сны аб Беларусі».

У 30-я гады, калі творчае самавыяўленне станавілася немагчымым, Купала ўсё ж імкнуўся асэнсаваць плынь жыцця, каб стварыць адэкватны мастацкі вобраз. Аднак дыктат рэчаіснасці над воляй мастака непазбежна прыводзіў да таго, што шлях творчай эвалюцыі Купалы ў гэтыя гады — гэта шлях ад адраджэнцкага рамантызму з яго культам духоўна разняволенай асобы і нацыянальнай незалежнасці да твораў рэпартажнага характару, мастацкі ракурс якіх быў прадвызначаны пануючай ідэалогіяй (паэма «Над ракой Арэсай»). Хаця ў некаторых яго вершах Ляўкоўскага цыклу («Алеся», «Лён») творчае самавыяўленне аўтара дасягнула пэўнай вышыні. У 1940 выйшла кніга паэзіі «Ад сэрца», куды былі ўключаны вершы 1937—39 і паэма «Тарасова доля».

Я.Купала стаў таксама прызнаным нацыянальным драматургам. Яго камедыя «Паўлінка» (напісана ў 1912, пастаўлена Беларускім музычна-драматычным гуртком у Вільні ў 1913) як твор класічнай беларускай драматургіі не сыходзіць са сцэны да гэтага часу і з'яўляецца візітнай карткай Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы ў Мінску. Ён аўтар драмы «Раскіданае гняздо» (напісана ў 1913, пастаўлена Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі ў Мінску ў 1917), сцэнічнага жарту «Прымакі (напісаны ў 1913, пастаўлены БДТ—2 у 1936 у Бабруйску), сатырычнай камедыі «Тутэйшыя» (напісана ў 1922, пастаўлена БДТ—1 у 1926). Як і ў лірыцы, у персанажах сваёй драматургіі (Паўлінка і Якім Сарока, Сымон Зяблік, Алена Гарошка і Янка Здольнік) Я.Купала ўвасобіў высокія духоўныя памкненні чалавека, далучанага да перадавых ідэй свайго часу, яго высокія маральныя якасці, яго права кіравацца ў сваіх учынках уласным выбарам, жаданне знайсці справядлівасць. Ім створаны каларытныя, драматургічна насычаныя тыпажы камічнага і сатырычнага плану (Адольф Быкоўскі, Крыніцкія і Пустарэвічы ў «Паўлінцы», Мікіта Зносак у «Тутэйшых»), якія давалі прастору для іх рэжысёрскага прачытання і акцёрскага ўвасаблення. Сатырычная камедыя «Тутэйшыя», у якой гучала ідэя нацыянальнай незалежнасці Беларусі як ад Захаду, так і Усходу, доўгі час была ў ліку забароненых твораў. Цэнтральным персанажам гэтага твора, па сутнасці, з'яўляецца сама Беларусь — як адзіная непадзельная каштоўнасць, якой усёй душой імкнуцца служыць Аленка і Янка Здольнік, якую гатовы выгадна прадаць Мікіта Зносак і якую імкнуцца падзяліць ці падпарадкаваць сабе кожныя новыя ўлады ў пераломны час. Купалаўскія п'есы складаюць залаты фонд беларускай драматургіі.

Я.Купала стаяў таксама ля вытокаў нацыянальнай публіцыстыкі і журналістыкі як самастойнай галіны літаратурнай дзейнасці. Яго дарэвалюцыйныя публіцыстычныя творы заклікалі да паляпшэння сацыяльнага становішча шырокіх народных мас Беларусі («Думкі з пабыцця ў Фінляндыі на Іматры», «З гуты Залессе»), закранаў праблемы нацыянальнай самасвядомасці («Ці маем мы права выракацца роднай мовы», «Святкаванне Купалы ў Вільні», «Вера і нацыянальнасць» і інш.). У 1913 пад псеўданімам Адзін з «парнаснікаў» Купала артыкулам «Чаму плача песня наша» прыняў удзел у вядомай дыскусіі з В.Ластоўскім (Юркам Верашчакам), у ходзе якой фактычна выпрацоўваліся і сцвярджаліся эстэтычныя прынцыпы тагачаснай беларускай літаратуры (не толькі ўстаноўка яе на народнасць і дэмакратызм, але і арыентацыя на высокі мастацкі ўзровень еўрапейскай літаратуры). У публіцыстыцы перыяду рэвалюцыі і грамадзянскай вайны паэт пісаў аб шляхах беларускага народа да нацыянальнага самавызначэння, закранаў праблемы нацыянальнай палітыкі Савецкай улады пасля

Кастрычніцкай рэвалюцыі. Як прадстаўнік нацыянальнай гуманістычна настроенай інтэлігенцыі, ён прапаведваў ідэал нацыянальнай рэвалюцыі, якая дазволіла б кожнаму народу стаць гаспадаром свайго лёсу, і супрацьпастаўляў яе рэвалюцыі сацыяльнай (пралетарскай) з яе дыктатурай, тэрорам і жаданнем падпарадкаваць сваім ідэям увесь свет («Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год»). Погляды Купалы вызначаліся дэмакратызмам, адмаўленнем насілля, сцвярджэннем прыярытэту агульначалавечых духоўных каштоўнасцей над класавымі. У гады Вялікай Айчыннай вайны публіцыстычным словам Купала заклікаў да змагання супраць фашызму. Артыкулы з яго подпісам змяшчаліся ў газетах «Правда», «Известия», «Красная звезда» і інш.

Шмат і плённа, на працягу ўсёй творчай дзейнасці, Я.Купала займаўся перакладам. Ён перакладаў творы А.Кальцова, М.Някрасава, А.Міцкевіча, М.Канапніцкай, У.Сыракомлі, драму «Эрас і Псіха» Е.Жулаўскага. Ён зрабіў мастацкі пераклад «Слова аб палку Ігаравым» (празаічны ў 1919, паэтычны ў 1920), пераклаў «Інтэрнацыянал» Э.Пацье (1921). Шмат часу аддаваў мастацкаму перакладу ў 30-я гады (паэма «Медны коннік» А.Пушкіна, творы Т.Шаўчэнкі). Творы Купалы (пераважна паэтычных жанраў) перакладзены на многія мовы свету.

Творчасць Я.Купалы — невычэрпная крыніца эстэтычнага натхнення, мастацкай дасканаласці, якая жывіць сучасны літаратурна-мастацкі працэс. Традыцыі пісьменніка ўплывалі на беларускіх паэтаў розных пакаленняў. Асаблівае значэнне спадчына Купалы набыла ў канцы 80-х гадоў, калі былі надрукаваны шматлікія раней забароненыя яго творы. Імя Я.Купалы стала ў гэты час сімвалам новай хвалі нацыянальнага адраджэння і духоўным арыенцірам для маладога пакалення беларускіх літаратараў. Янка Купала — класік беларускай літаратуры, вялікі славянскі паэт і гуманіст. Яго творчасць заслужыла сусветнае прызнанне: у 1982 на Беларусі і, па рашэнні ЮНЕСКА, ва ўсім свеце урачыста святкавалася 100-годдзе з дня нараджэння народнага песняра.

Памяць пра Янку Купалу свята ўшаноўваецца беларускім народам. Яго імя прысвоена Беларускаму Дзяржаўнаму акадэмічнаму тэатру ў Мінску, Інстытуту літаратуры АН Беларусі, Гродзенскаму дзяржаўнаму ўніверсітэту. У Мінску створаны Літаратурны музей Янкі Купалы, арганізатарам і першым дырэктарам якога была ўдава паэта У.Ф.Луцэвіч (1891—1960). На радзіме Я.Купалы, у Вязынцы, адкрыты філіял Літаратурнага музея, створаны Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Вязынка», дзе штогод у 1-ю дэкаду ліпеня праводзяцца купалаўскія святы паэзіі. Ва ўрочышчы Ляўкі Аршанскага р-на Віцебскай вобл. адбудавана спаленая ў час вайны дача паэта, у будынку былой канторы Копыскага лясніцтва адкрыты філіял Літаратурнага музея Янкі Купалы, створаны Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Ляўкі». Мемарыялам увекавечана памяць паэта ў Акопах. Яго музейкватэра адкрыта ў сяле Пячышчы Верхнеўслонскага р-на Татарстана (у 13 км ад Казані).

Помнікі Янку Купалу ўзвышаюцца ў Мінску — у парку імя Янкі Купалы (скульптары А.Анікейчык, Л.Гумілеўскі, А.Заспіцкі, Дзяржаўная прэмія БССР 1974) і на Вайсковых могілках на магіле паэта (скульптары А.Анікейчык, Л.Заспіцкі); у Купалаўскім мемарыяльным запаведніку «Ляўкі» (скульптар А.Анікейчык, створаны на аснове кампазіцыі «Восень паэта»). Помнікі-бюсты ўстаноўлены ў Купалаўскім мемарыяльным запаведніку «Вязынка» у Радашковічах (скульптар А.Глебаў), у Араў-парку ў ЗША (скульптар А.Анікейчык). Устаноўлены мемарыяльныя дошкі на дамах, дзе ў розныя часы жыў Я.Купала: У Вязынцы, Ляўках, в. Яхімаўшчына Маладзечанскага р-на, в. Сенніца Мінскага р-на, в. Бяларучы, в. Старая Беліца Сенненскага р-на, в. Косіна Лагойскага р-на, у г. Мар'іна Горка, Барысаве, Маладзечне, Капылі. Пастановай Савета Міністраў БССР у 1959 устаноўлена Літаратурная прэмія імя Янкі Купалы (з 1965 Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы).

На Беларусі імем Янкі Купалы названы 4 калгасы — у Стаўбцоўскім, Пухавіцкім, Аршанскім і Клімавіцкім р-нах, саўгасы — у Маладзечанскім і Воранаўскім р-нах; пасёлак у Глускім, вёска ў Пухавіцкім р-нах. Яго імем названа 10 бібліятэк: гарадскія — Лідская, Мінская цэнтральная, Брэсцкая, Полацкая, Магілёўская, Віцебская і 6-я Гомельская, раённыя — Ляхавіцкая, Крупская, Вялікакракоцкая сельская; 8 сярэдніх школ: № 3 г. Мазыра, № 19 г. Мінска, № 1 г. Маладзечна, № 5 г. Бабруйска, Бяларуцкая Лагойскага, Копыская Аршанскага, Камунараўская 8-гадовая Любанскага і Сенніцкая Мінскага раёнаў. Імем паэта названа больш за 60 вуліц і завулкаў у гарадах і вёсках Беларусі: у Мінску, ва ўсіх абласных цэнтрах, у гарадах Ашмяны, Бабруйск, Барысаў, Баранавічы, Быхаў, Ваўкавыск, Жлобін, Лагойск, Ліда, Мазыр, Маладзечна, Навагрудак, Орша, Пінск, Полацк і інш., гарадскіх пасёлках Глуск, Івянец, Радашковічы, Ружаны, Свіслач і інш., вёсках Сноў Нясвіжскага р-на і Лебедзева Маладзечанскага р-на. Пра ўсенароднае ўшанаванне памяці паэта сведчаць купалаўскія найменні за межамі Беларусі: сярэдняя школа № 53 г. Душанбе, 40-я масавая бібліятэка г. Харкава, вуліцы ў Кіеве, Ташкенце, Тбілісі, Рызе, Ніжнім Ноўгарадзе, Душанбе, Запарожжы, Беластоку і інш. Імем Янкі Купалы названы цеплаход Дунайскага і параход Волжскага параходстваў. Устаноўлены мемарыяльныя дошкі, прысвечаныя песняру: у пас. Пячышчы, Вільнюсе, Санкт-Пецярбургу, Смаленску, Кіславодску, пас. Гаспра Ялцінскага гарсавета, в. Соф'іна Раменскага р-на Маскоўскай вобл. У г. Порту-Алегра (Бразілія) у 1932 імя Я.Купалы прысвоена бібліятэцы-чытальні пры аб'яднанні «Асвета». У 1992 у гонар паэта была выпушчана манета вартасцю ў 1 рубель.

Вобраз Янкі Купалы заняў годнае месца ў літаратуры і мастацтве. Яму прысвечаны вершы і п'есы, музычныя і кінематаграфічныя, жывапісныя і графічныя творы. Кампазітарам В.Помазавым напісаны вакальна-сімфанічны твор «Янка Купала». Жыццю і творчасці паэта прысвечаны хранікальна-дакументальны фільм «А зязюля кукавала» (1972), тэлефільмы «Паклон мой народу за песні» (1982), «Ніколі я не паміраў» (1992), «Імша па Купалу» (1993). Да юбілеяў Я.Купалы былі прыўрочаны мастацкія выстаўкі (1972, 1982, 1992). Творы паэта сталі крыніцай натхнення многіх кампазітараў. На сюжэт «Кургана» Я.Глебаў напісаў аднайменны балет, а І.Лучанок паэму-легенду «Гусляр», паводле «Паўлінкі» Ю.Семяняка стварыў аднайменную музычную камедыю. Г.Гарэлава напісала сімфанічную паэму «Бандароўна», А.Мдзівані стварыў цыкл хораў, Л.Шлег — харавую паэму «Вяснянка» паводле паэмы «Яна і я». Оперу-прытчу «Песня пра долю» на словы Купалы выконвае ансамбль «Пес-

няры». Вершы паэта паклалі на музыку М.Аладаў, М.Анцаў, А.Багатыроў, К.Галкоўскі, А.Грыневіч, М.Мацісон, С.Палонскі, А.Пашчанка, Р.Пукст, Л.Рагоўскі, А.Сакалоўскі, А.Туранкоў, У.Тэраўскі, Я.Цікоцкі, М.Чуркін, Л.Ямпольскі і інш. На кінастудыі «Беларусьфільм» паводле п'ес Я.Купалы «Паўлінка», «Раскіданае гняздо» і паэмы «Магіла льва» былі створаны фільмы.

Складаны лёс напаткаў архіў Я.Купалы. Вялікая частка напісанага ім прапала: паэт успамінаў, што калі жыў на вёсцы, шмат напісанага перадаваў У.Самойлу, — пры вобысках ці іншых абставінах частка рукапісаў была страчана; дасылаў у Вільню ў рэдакцыю «Нашай нівы» рэвалюцыйныя вершы, якія па тагачасных умовах не былі надрукаваныя і недзе згубіліся. Частка матэрыялаў разам з бібліятэкай паэта знікла з Мінска ў час нямецкай акупацыі (1918). Пазней частка матэрыялаў знайшлася ў архіве Б.Эпімах-Шыпілы. У 1919—20 архіў Купалы быў канфіскаваны польскай дэфензівай, у 1921 — савецкай «надзвычайкай». У гады Вялікай Айчыннай вайны многія рукапісы паэта згарэлі разам з яго домам у Мінску і дачай у Ляўках. Аўтографы Купалы, што захоўваліся ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, былі вывезены ў Германію. Пасля смерці паэта былі прыняты захады, каб сабраць і зберагчы яго рукапісную спадчыну. Пастановай СНК БССР і Бюро ЦК КП(б)Б ад 2.7.1942 усе кнігі, рукапісы, лісты, фатаграфіі і інш. матэрыялы, якія адносяцца да жыцця і дзейнасці паэта, былі абвешчаны дзяржаўнай уласнасцю. У Літаратурным музеі Янкі Купалы сабраны і зберагаецца яго асноўны рукапісны фонд — больш за 500 рукапісаў. Сярод іх уласна аўтографы займаюць 1154 старонкі, аўтарызаваны машынапіс на правах рукапісу 107 старонак, друкаваны тэкст на правах рукапісу 827 старонак. Яго аўтографы зберагаюцца таксама ў многіх сховішчах краіны: Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскім доме) Расійскай АН (фонд Л.Клейнбарта), Архіве Расійскай АН (фонд Я.Карскага), Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва (фонд І.Белавусава), Інстытуце сусветнай літаратуры імя М.Горкага Расійскай АН (фонд К.Накаракава), Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу (фонд Галоўнага ўпраўлення па справах друку), Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве г. Масквы (фонд універсітэта імя А.Шаняўскага), Беларускім дзяржаўным архіве (фонд Наркамасветы, ЦВК БССР), Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Беларусі і інш. Ёсць аўтографы Купалы ў прыватных калекцыях, а таксама за мяжой (зб. «Гусляр» з дарчым надпісам кампазітару Л.Рагоўскаму — ў бібліятэцы імя Асалінскіх у Вроцлаве, Польшча; рукапісы паэта — ў бібліятэцы і музеі імя Ф.Скарыны ў Лондане).

*І.Э.Багдановіч, Ж.К.Дапкюнас.*

## Бібліяграфія


1.1.

Зб. тв.: [У 6 т.]. Мн., 1925—[1932]. Т. 1. Жалейка; Гусляр. Мн., 1925. Рэц.: У л і д з е [Дзяржынскі У.] // Полымя. 1925. № 6. Т. 2. Шляхам жыцця. Мн., 1926. Т. 3. Раскіданае гняздо; Тутэйшыя; Паўлінка; Прымакі. Мн., 1927. Т. 4. Сон на кургане; Адвечная песня; На папасе; Песня аб паходзе Ігара; Галька (пераклад). Мн., 1928. Рэц.: В е р к і н А. // Маладняк. 1928. № 9; П л а ш ч ы н с к і Я. // Узвышша. 1928. № 3; Ц в я т к о ў Л. // Літ. дад. да газ. «Сав. Бел». 1928. № 17; Т. 5. Спадчына. Мн., 1928. Т. 6. [Вершы і пераклады дакастрычніцкага і савецкага перыяду]. Мн., 1932.

Зб. тв. Т. 1—3. Мн., 1928—32. Т. 1. Жалейка. Гусляр. (Вершы). Мн., 1928. Рэц.: П л а ш ч ы н с к і Я. // Узвышша. 1929. № 2; Т. 2. Шляхам жыцця: (Вершы). Мн., 1929. Т. 3. Раскіданае гняздо; Паўлінка; Прымакі. Мн., 1932 [На вокл. 1933].

Зб. тв. Мн., 1951—54. Т. 1. Вершы (1904—1907). Мн., 1951, 1954. Рэц.: Б у р н о с о в В. // За высокую требовательность в издании произведений классиков // Сов. Бел. 1951. 14 окт.; К л е ш ч а н к а В. // Чырв. змена. 1951. 20 вер.; Новыя кнігі // Віцеб. рабочы. 1951. 19 мая; Т. 2. Вершы: (1908—1910). // Мн., 1952. Т. 3. Вершы: (1911—1917). Мн., 1953. Т. 4. Вершы: (1918—1942). Мн., 1953. Т. 5. Паэмы; Пераклады. Мн., Т. 6. Драматычныя творы. Мн., 1954. Рэц.: Б у р н о с а ў В. Думы вялікага песняра // Полымя. 1955. № 5; І в а ш ы н В. Важная падзея ў культурным жыцці рэспублікі // Камуніст Бел. 1955. № 11; Я г о ж. Неўміручая паэзія // Звязда. 1954. 28 ліст.; К а з е к а Я. Неўміручая спадчына: (Да выхаду Збору твораў Я.Купалы) // ЛіМ. 1955. 8 студз.; К а м і н с к і Н. Аб заўвагах да «Збору твораў Янкі Купалы» // Там жа. 1957. 9 студз.; К о в а л ь ч у к И. Значительное событие в культурной жизни республики: К выходу в свет Собрания сочинений Я.Купалы // Сов. Бел. 1954. 31 окт.; Я г о ж. Событие в культурной жизни Белоруссии: К выходу в свет собрания сочинений Я.Купалы // Русский Голос (Нью-Йорк). 1954. 24 нояб.

Зб. тв.: У 6 т. Мн., 1961—63. Т. 1. Вершы і паэмы. (1904—1907). Мн., 1961. Т. 2. Вершы і паэмы: (1908—1910). Мн., 1961. Т. 3. Вершы і паэмы: (1911—1917). Мн., 1961. Т. 4. Драматычныя творы; Паэмы і п'есы. Мн., 1962. Т. 5. Вершы і паэмы: (1918—1932). Мн., 1962. Т. 6. Вершы і паэмы: (1933—1942); Публіцыстыка; Лісты. Мн., 1963. Рэц.: Б у р н о с а ў В. Здабыткі і страты // Полымя. 1965. № 12.

Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1972—76. Т. 1. Вершы; Пераклады (1904—1907). Мн., 1972. Т. 2. Вершы; Пераклады: (1908—1910). Мн., 1973. Т. 3. Вершы; Пераклады: (1911—1917). Мн., 1973. Т. 4. Вершы; Пераклады: (1918—1942). Мн., 1974. Т. 5. Паэмы; Пераклады. Мн., 1974. Т. 6. Драматычныя творы; Паэмы; П'есы. Мн., 1975. Т. 7. Пераклады п'ес; Публіцыстыка; Пісьмы; Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1976.

Выбр. тв. Мн., 1935. (Школьн. серыя).

Выбр. тв.: [У 4 т.]. Мн., 1935—40. Т. 1. 1905—1916: Вершы. Мн., 1935. Т. 2. 1905—1916: Паэмы і апавяданні вершамі. Мн., 1936. Т. 3. Вершы і паэмы савецкага перыяду. Мн., 1937. Т. 4 [Пад назв. Збор твораў. Т. 4]. 1905—1912: Вершы. Мн., 1940.

Выбр. тв. Мн., 1946. Рэц.: Н о в ы я кнігі // Сав. селянін. 1946. 28 ліп.

Выбр. тв. Мн., 1947. Рэц.: К л и м к о в и ч М. Бессмертное слово поэта // Сов. Бел. 1948. 28 июля.

Выбр. вершы. Мн., 1948. (Б-ка школьніка).

Выбр. тв. Мн., 1952. Рэц.: К а р п а ч о ў М. Аднатомнік твораў Янкі Купалы // Гомел. праўда. 1953. 25 студз.

Выбр. лірыка. Мн., 1967.

Вершы. Мн., 1970. (Б-ка бел. паэзіі).

Выбранае. Мн., 1980. Рэц.: Б а г д а н о в і ч І. Вышыня купалаўскага сонца // ЛіМ. 1980. 21 ліст.

Выйдзі з сэрцам, як з паходняй!..: Выбранае. Мн., 1982. (Паэтыч. б-ка). Рэц.: М і х а й л а ў А. // ЛіМ. 1983. 21 студз.

1.2.

Жалейка: [Вершы]. Пб., 1908. Рэц.: Я д в и г и н Ш. «Жалейка» Янки Купалы // Мин. эхо. 1908. 9 июля; J.U. [Урбан І.] Żalejka J.Kupały // Przegl. Powsz. 1910.

